# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ДРУГАЯ*









МЕНСК—1939



**В. І. ЛЕНІН, І. В. СТАЛІН і К. Е. ВАРАШЫЛАЎ *за картай.***

Рысунак мастака П. Васільева

*Якуб Колас*

## КЛЯТВА

Прад народам і радзімай
Клятвай вернай, нерушымай
Паклянуся я.

Сцерагчы маю краіну,
Як мой скарб святы, адзіны,
Паклянуся я.

Вартаваць яе граніцы,
Як вачэй сваіх зяніцы,
Паклянуся я.

Для яе спакою, волі
Не жалець сябе ніколі
Паклянуся я.

Для яе красы і славы
Чэсна ў бой ісці крывавы
Паклянуся я.

Хто-б і дзе-б ні быў злы вораг,
Біць яго на сушы, моры
Паклянуся я.

І захоўваць тайну свята
Ад людзей ліхіх, зацятых
Паклянуся я.

Быць заўсёды беззаганным,
Доўг свой помніць пастаянна
Паклянуся я.

Клятву споўніць нерушыма
Перад Сталіным, радзімай
Прысягаю я.

21.II-39 г.

*Мікола Жук*

# НАРКОМ

Ён гаварыў з высокага балкона.
І мне, стаяўшаму паміж людзей,
Здавалася, што стройныя калоны
Нарком у бой сягоння павядзе.
Ды ясны дзень не навяваў трывогі,
Бяздоннем ціхім небасхіл сінеў;
Дзяцей, жанчын было навокал многа—
Нішто не гаварыла аб вайне.
І сам ён ўсміхаўся ветла, шчыра
(У баю, напэўна, ён зусім другі).
Вакол яго стаялі камандзіры,
Нарком вітаў усіх—знаёмы, дарагі.
І як заўсёды—дужы, каранасты,
З-пад шапкі ледзь іскрыць сняжок віска,
І ў час прамовы узлятала часта
Яго магутная і цвёрдая рука.
Ён гаварыў: „Магчыма не сягоння,
То цераз тыдзень, можа цераз год
Заржуць, уміг асёдланыя, коні,
Учуўшы дальні баявы паход.
Закрыюць неба самалёты нашы
І грозным будзе гэты іх маршрут,
За рубяжом радзімы светлай нашай
Ўздрыгне зямля, каб ціха было тут,—
Дзе збудавалі мы свае палацы,
Дзе узрасцілі мы свае сады;
Дзе дружная кіпіць усюды праца,
Дзе смех гучыць задорны, малады.
Агнём, жалезам ворага прымусім
Праліць за ўсе зладзействы сваю кроў...
Народ ордэнаноснай Беларусі
Да гэтых дзён павінен быць гатоў!"
Прамова скончана. У шалясценні сцягаў,
У воплесках і у людзей ўваччу,
Кіпеўшую народную адвагу
Я сэрцам усхвалёваным адчуў.
Я быў упэўнены: ў рашучую гадзіну
Няхай-то ўночы, ці у бляску дня
Народ нястрымнаю, знішчальнаю лавінай
Устане родны край абараняць.
І за наркомам, скрозь агонь і буры
Мы пойдзем з імем Сталіна у бой
Пад сцягам пролетарскай дыктатуры,
Радзіму засланяючы сабой.

*Ільля Элькінд*

# ЗОРКА

Я чуў у маленстве гаворку:
Над хатаю, супраць акна
У кожнага ёсць свая зорка,
Аб шчасці прарочыць яна.

А я нарадзіўся,—
Памрокай
Чарнела за тынам сяло.
Мая не ўзыходзіла зорка,
Шчасця майго не было.

Адны толькі матчыны вочы
Глядзелі напоўнены слёз.
Іх позірк самотны прарочыў
Батрацкі нязведаны лёс.

Здавалася зоркі, як зерні,
Раскідала ў небе рука.
Я рос.
І ў цемры вячэрняй
Зорку сваю шукаў...

Быў жнівень. Шурпатая цемень
Драмала над стрэхамі хат.
З маленькаю зоркай на шлеме
Вяртаўся дадому мой брат.

І часта прыходзілі к брату
Суседзі ў хаціну да нас.
Зорку армейца-салдата
Я сніў вечарамі не раз:

То скіне яна самабранку,
То ўспыхне над вёскай маёй—
І з'явіцца дом з новым ганкам
Заместа хаціны старой.

Развяжуцца лапцяў аборкі,
Апусцяцца боты да ног,—
Чырвонаармейская зорка
Ка мне зазірне ў акно.

... І ў небе, у дымцы туманнай
Зардзелася зорка мая.
Гарыць яна позна і рана—
Сястра самацветаў Крэмля.

І шчасцю да нашае хаты
Шляхі асвятляе кругом
Зорка армейца-салдата,
Уцеха дзяцінства майго.

---

*Мікола Аўрамчык*

# За Радзіму

Ну, чаму-ж ты цяпер, як закончыўся бой,
Свой атрад да сябе не завеш?..
Куст шуміць над табою з цяжкою журбой
І ты мёртвы ляжыш на траве...

Куст шуміць над табой, нібы хоча сказаць:
«Камандзір, паглядзі навакол:
Самураяў няма, твае сябры стаяць,
Яны ўслалі японцамі дол».

А байцы падышлі і стаяць над табой...
Яны кажуць над целам тваім:
«Паглядзі, камандзір,—мы закончылі бой,
За цябе мы адпомсцілі ім!»

Ну, чаго-ж ты маўчыш, наш арол малады?..
Паглядзі на азёрную гладзь,
Стань на ногі ізноў, паглядзі ты туды,
Дзе хасанскія воды шумяць.

... Не, не ўстаць табе зноў... У гарачым баю
Не паклічаш ты нас за сабой...
Ты героем памёр за Радзіму сваю!..
Мы клянёмся цяпер над табой.

Мы клянёмся табе: не адной галавой
Нам паплацяцца каты ў баях!
Будзе мужнасць твая заклікаць нас у бой...
І вінтовачны залп пакаціўся ў прасцяг.

1938 г. Менск.



*Народны паэт БССР ЯНКА КУПАЛА,*
*узнагароджаны ордэнам Леніна.*



*Народны паэт БССР ЯКУБ КОЛАС,*
*узнагароджаны ордэнам Леніна.*



**ЗМІТРОК БЯДУЛЯ,**
*узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага сцяга.*



**МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ,**
*узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага сцяга.*



ЭДУАРД САМУЙЛЁНАК,
*узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага сцяга.*



**ПЯТРУСЬ БРОЎКА,**
*узнагароджаны ордэнам „Знак почета“.*



**ПЯТРО ГЛЕБКА,**
*узнагароджаны ордэнам „Знак почета“.*




*М. Клімковіч*

# ПІСЬМЕННІКІ-ОРДЭНАНОСЦЫ

Совецкая беларуская літаратура за апошнія годы дасягнула небывалых поспехаў: нарадзіліся новыя таленавітыя кадры, набылі сталасць і майстэрства маладыя пісьменнікі, разгарнулася і расцвіла творчасць старэйшага пакалення пісьменнікаў. Партыя і ўрад высока ацанілі рост нашай літаратуры, узнагародзіўшы сем лепшых пісьменнікаў БССР ордэнамі. Гэта высокая ўзнагарода ўспрынята нашай літаратурнай грамадскасцю ў першую чаргу як стымул да ўпартай працы над новымі творамі, над актуальнай тэматыкай, да працы над вобразам, над мастацкім словам. У гэтым сэнсе работа зараз узнагароджаных пісьменнікаў з'яўляецца прыкладам для ўсіх пісьменнікаў БССР. Кожны з іх у сваёй галіне, сваімі мастацкімі сродкамі, у меру сваіх сіл многа і ўпарта працаваў над уздымам беларускай літаратуры на новую, больш высокую ступень.

Хто не зачытваўся дарэволюцыйнымі творамі Купалы і Коласа? Адны з заснавальнікаў сучаснай нам беларускай літаратуры, Янка Купала і Якуб Колас вось ужо трыццаць чатыры годы з непахіснай энергіяй працуюць на літаратурнай ніве. Яны прышлі ў літаратуру тады, калі не было яшчэ ўстанавіўшайся літаратурнай мовы, не было сталай граматыкі беларускай мовы, калі літаратуру заядала бытаўшчына, калі народная творчасць не была асвоена беларускімі пісьменнікамі.

Янка Купала і Якуб Колас першымі паказалі прыклад таго, як трэба скарыстоўваць народную творчасць у літаратурным творы. Яны адбіралі з народнай творчасці яе найбольш дэмакратычныя, найбольш рэволюцыйныя элементы: сюжэты, вобразы, пагаворкі і казкі, накіраваныя супроць папоў-цемрашалаў. Яны творча скарыстоўвалі гэтыя элементы народнай творчасці, вучачыся на прыкладах рускай і украінскай паэзіі, паэзіі Пушкіна, Некрасава, Лермантава, Шэўчэнка, прыбліжаючы гэтым самым літаратуру к шырокім масам, робячы яе сваёй, роднай, зразумелай. Барацьба за рэволюцыйна-дэмакратычныя патрабаванні сялянства была зместам творчасці Купалы і Коласа.

Мова мас—вось тая форма, якая можа хутчэй за ўсё і лягчэй за ўсё данесці гэтыя ідэі ў народ. І Купала, і Колас авалодваюць гэтай формай, арганічна зліваюць яе з рэволюцыйным зместам сваіх твораў. Гэтым яны цярэбяць шляхі для далейшага развіцця

беларускай літаратуры і ў гэтым іх вялікая заслуга перад сучаснай беларускай літаратурай.

Добра ведаючы народную мову, яе законы, яе багацце, Купала і Колас павярнулі літаратуру на шлях адзінай літаратурнай мовы замест разнабою дыялектаў, на якіх пісаліся літаратурныя творы да таго часу. Іх творчасць стала фундаментам у стварэнні літаратурнай мовы. У гэтым іх другая заслуга перад літаратурай, перад народам.

Уводзячы новыя рознастайнейшыя формы вершаскладання, шырока карыстаючыся вопытам рускай і украінскай літаратур, Янка Купала і Якуб Колас узбагацілі беларускую літаратуру з мастацка-тэхнічнага боку. Яркі вобраз беззямельнага селяніна, які вымушан штогод вандраваць ад пана да пана ў пошуках работы, у пошуках магчымасці прыкласці сваю крывавую працу, свае рукі, лірычна-цёплы, абаяльны вобраз вясковай дзяўчыны, сялянкі-мацеры, вясковай моладзі, а поруч з гэтым вобраз сіраты, жабрака, бедняка з раскіданага панамі гнязда, вобразы сялян—плытагонаў, вобраз рэволюцыянера, якому не страшны царскія турмы і астрогі—усе гэтыя вобразы ўвайшлі ў нашу літаратуру з творчасцю Янкі Купалы і Якуба Коласа. Імі нашы народныя паэты кляймілі спарахнеўшы палітычны лад і будзілі абурэнне працоўных мас супроць царскіх парадкаў. Гусляр, які не баіцца смерці і ў вочы князю-ўладару кажа народную праўду, сялянка Бандароўна, якая ідзе на смерць, але не здавальняе прыхаці польскага пана-драпежніка, бацька яе, Бандарэнка, які ўзнімае народнае паўстанне супроць Патоцкіх, вобраз бедняка селяніна, які ненавідзеў царскую паліцыю і самога цара і з ахвотай абдурваў жандарма, каб дапамагчы сапраўднаму соцыялісту,—вось якімі вобразамі ўзбагацілася беларуская літаратура ўжо ў першыя годы літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы і Якуба Коласа.

„Адвечная песня“ гаротнага селяніна, які капіталістычным ладам быў асуджан з пакалення ў пакаленне цягнуць лямку катаржнага жыцця і толькі ў „Сне на кургане“ мог марыць знайсці клад шчасця і бязбеднага жыцця—так можна было назваць асноўную тэму большасці твораў Янкі Купалы перадкастрычніцкага перыяду. Але і ў гэты час прыходзіў у творах Купалы „Невядомы“ ў „раскіданыя гнезды“ беднаты, каб клікаць сялян на вялікі ўсенародны сход, які павінен расправіцца з панамі і царом і заваяваць новае жыццё. Якуб Колас у гэты час пісаў сваю вялікую эпохіяльную паэму „Новая зямля“, у якой з высокім майстэрствам класічнай літаратуры шырока і поўна адлюстроўваў жыццё селяніна ад яго нараджэння да смерці, мастацкі абагуліваў яго лёс, яго цягу да зямлі, да роднага кутка і паказваў што пры існуючым ладзе гэтая думка толькі незбытачная мара. Але і ён заклікаў не аддавацца смутку, што хмары засланілі сонца і верыць, што надыйдуць лепшыя часы, што народ уздымецца на барацьбу супроць сваіх прыгнятальнікаў і, перавешаўшы паноў і „апошняга Міколу“,—вырве ў іх і зямлю і свабоду. Арганічна незвязаныя з нашай партыяй, з пролетарыятам, якія паслядоўна і да канца вялі барацьбу супроць капіталізма, Купала і Колас, не маглі, разумеецца, поўнасцю стаць

на пазіцыі пролетарскай барацьбы, аднак іх рэволюцыйныя творы дапамагалі гэтай барацьбе, будзілі веру ў перамогу. І гэта перамога прышла.

Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя змяніла аблічча Беларусі, знішчыла векавечны соцыяльны і нацыянальны гнёт. Вялікая комуністычная партыя пад кіраўніцтвам мудрых правадыроў Леніна і Сталіна вывела народы Совецкага Саюза праз агні грамадзянскай вайны, праз свяшчэнную вайну супроць інтэрвентаў да мірнай працы. Аповесцю „Дрыгва“, паэмай „На шляхах волі“, п'есай „У пушчах Палесся“, шматлікімі вершамі і апавяданнямі адгукнуўся Якуб Колас на падзеі грамадзянскай вайны і барацьбы з інтэрвентамі. Паэмай „Барысаў“, вершам „Партызаны“, вершамі, прысвечанымі Чырвонай Арміі і таварышу Варашылаву, вершамі-песнямі, услаўляючымі гераічныя паходы Чырвонай Арміі, адазваўся Янка Купала.

Яны адлюстравалі ўсенародную, навечна нерушымую нянавісць беларускага народа да белапольскіх і нямецкіх акупантаў, да белага і чорнага арла, якія сваімі кіпцюрамі рвалі народнае цела, якія пілі яго кроў і нішчылі яго дабро. Яны ўславілі ў вяках гераічную барацьбу беларускага народа за сваю дзяржаўную незалежнасць ад капіталістычных прахадзімцаў і іх лакеяў, за саюз з братнімі народамі ўсіх Совецкіх Рэспублік, аказаўшых беларускаму народу незабываемую дапамогу ў цяжкія годы барацьбы з інтэрвенцыяй і пазней у годы барацьбы з разрухаю, у годы аднаўлення гаспадаркі і яе росквіту.

У галіне распрацоўкі сучаснай совецкай тэматыкі Янка Купала і Якуб Колас таксама стаяць у першых радах нашай літаратуры. Годы вялікага пералому—годы калектывізацыі—адлюстраваны ў аповесці „Адшчапенец“, у вершы „Калгаснае“—Якуба Коласа, у такіх надзвычайнай сілы вершах як „Сыходзіш, вёска, з яснай явы“, „Песня калгасніцы“ і іншых—Янкі Купалы.

Янка Купала і Якуб Колас у высокамастацкіх творах адлюстравалі ўсенародную любоў працоўных нашай краіны да таварыша Сталіна, вялікага кормчага сусветнай пролетарскай рэволюцыі. Непарыўная сувязь з народам была асноўнай рысай творчасці нашых народных паэтаў. Яны чэрпалі свае сілы, сваё натхненне, свае вобразы ў жыцці і творчасці народа, у яго гераічнай барацьбе за шчасце ўсіх працоўных. Таму так горача любіць іх наш народ і ўсе народы Совецкага Саюза, таму іх вершы-песні так блізкі і рускаму, і украінскаму, і грузінскаму, і казахскаму народу. Таму украінскія калгаснікіператвараюць іх у народныя песні, а мудрэйшы і арыгінальнейшы паэт з жывучых зараз на свеце—казахскі акын Джамбул Джабаеў шле сваё прывітанне „акыну беларускіх палёў“ Янку Купалу. Таму вобраз дзеда Талаша з аповесці „Дрыгва“ пераходзіць у народныя казкі і легенды і варочаецца ў літаратуру, як вобраз народнага героя.

Народ, партыя Леніна—Сталіна і совецкі ўрад высока ацанілі творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа і дастойна ўзнагародзілі нашых народных паэтаў найвышэйшай узнагародай—ордэнамі Леніна.

Моцную сувязь з народам мы адчуваем і ў творчасці трэцяга пісьменніка-ордэнаносца, Змітрака Бядулі, аднаго з старэйшых нашых пісьменнікаў. Ён прышоў у літаратуру ў 1910 годзе, калі пасля гадоў разгулу царскай рэакцыі пачынаўся зноў рэвалюцыйны ўздым. Гэта адбілася нават на першым зборніку вершаў у прозе Змітрака Бядулі „Абразкі“, які мае рад рэалістычных, яркіх замалёвак цяжкага жыцця селяніна. Ускладняючы свой верш, свой паэтычны радок, даючы напружаны сюжэт для сваіх апавяданняў (успомніце хоць-бы „Пяць лыжак заціркі“ ці „Ашчаслівіла“) Змітрок Бядуля, як і нашы народныя паэты, узнімаў літаратуру на новую, больш высокую ступень, аддаляў яе ад бытаапісальніцтва, набліжаў да ўзроўню рускай літаратуры. Глыбокае веданне народнай творчасці, народнага эпасу, народных казак, лаканічнасць мовы рабіла творы Змітрака Бядулі блізкімі народу і зразумелымі яму.

У часы Совецкай улады Змітрок Бядуля ўзбагаціў беларускую літаратуру першай гістарычнай аповесцю „Салавей“.

Змітрок Бядуля, ярка і маляўніча апісаў жыццё прыфрантавога мястэчка ў імперыялістычнай вайне (аповесць „Набліжэнне“). Вобраз інтэлігента—пацыфіста Левіна, які жыццём пераконваецца ў няправільнасці пацыфісцкіх пазіцый і становіцца староннікам рэволюцыйнай вайны вайне, незабываемая карціна ворыва на трох жанчынах селянінам, у якога вайна адабрала ўсе сродкі існавання, сцэна, у якой сялянская сям'я, не гледзячы на смяротную пагрозу, захоўвае яўрэйскую сям'ю ад казацкага пагрома—назаўсёды застануцца ў памяці чытача.

У апошні час Змітрок Бядуля працуе над надзвычай цікавай аповесцю з жыцця нямецкага рабочага, які праз фронт італа-германскіх інтэрвентаў перабіраецца ў рэволюцыйную Іспанію, каб разам з гераічным іспанскім народам змагацца супроць крыважэрнага фашызма, супроць ізвергаў рода чалавечага.

Пісьменнікам шырокага размаху і глыбокіх літаратурных абагульненняў, праўдзіва адлюстроўваючым рэчаіснасць—такім знаюць Змітрака Бядулю працоўныя Совецкай Беларусі. І яны вітаюць яго з вялікай і заслужанай узнагародай—ордэнам Чырвонага Працоўнага Сцягу.

Міхась Лынькоў—адзін з таленавітых пісьменнікаў паслякастрычніцкага перыяду. Пісьменнік-комуніст, ён прышоў у літаратуру ў часе засілля нацыянал-фашыстаў на літаратурным фронце... Ён адразу-ж уключыўся ў ачыстку літаратуры ад нацыянал-фашысцкай погані. Яго творчую думку прыкавала да сябе адно з асноўных пытанняў нашай рэчаіснасці—рост новага совецкага чалавека. Уважліва прыглядаецца Міхась Лынькоў да таго новага, што ўнесла рэволюцыя ў думкі, у псіхалогію чалавека, адбірае самае тыповае, самае яскравае, звязвае цікавым сюжэтам, апранае ў глыбока-народнае цёплае слова, па-мастацку, з любоўю малюючы і лірычны вобраз дзяўчыны Валі, загубленай белагвардзейцам Граеўскім, які прыкрываў свой твар шакала ўкрадзеным у расстралянага чырвонаармейца партбілетам, і вобраз местачковай дзяўчыны Рывы, якая ламае руціну сярэдневякоўя, ахоўваемую кагалам, і вобраз совецкага лётчыка Мядз-

ведкі, прымаючага ад шэфаў самалёт, і вобраз ордэнаносца Андрэя Лятуна—старога чыгуначніка.

Міхась Лынькоў падводзіць беларускую літаратуру шчыльна к пытанням рабочай тэматыкі, паказваючы, як многа гераізму ўклаў рабочы клас Беларусі ў абарону сваёй краіны і ў яе соцыялістычнае будаўніцтва. Поруч з гэтым Міхась Лынькоў надзвычай трапна разблытвае тыя змяіныя ходы, якімі прабіраецца вораг на наша соцыялістычнае прадпрыемства („Апошні зверыядавец“), у нашу партыю („Выпадак на чыстцы“), у нашу армію („Сінія галіфэ“). Гэтым самым Лынькоў дапамагае партыі і народу ачышчаць нашу свяшчэнную совецкую зямлю ад ворагаў і іх ахвосця.

Гэтай тэматыцы прысвечана творчасць і другога празаіка-ордэнаносца Эдуарда Самуйлёнка, так бязлітасна вырванага заўчаснай смерцю з нашых радоў—12 лютага г. г. Чалавек вялікай культуры, вялікай працаздольнасці і глыбокай назіральнасці—Эдуард Самуйлёнак напісаў шмат апавяданняў, дзве п‘есы, аповесць „Тэорыя Каленбрун“ і раман „Будучыня“. Ва ўсіх гэтых творах ён паказаў сябе высокім майстрам мастацкага слова, майстрам займальнага цікавага сюжэта. Яго творы з вялікай ахвотай і карысцю чыталіся многімі тысячамі чытачоў. У сваіх апавяданнях ён расказваў пра барацьбу рабочага класа з царызмам, пра грамадзянскую вайну, пра барацьбу з кулацтвам, пра стварэнне новай калгаснай вёскі. Яго, як і Лынькова, цікавіў новы чалавек, цікавіў працэс разбурэння і знішчэння старога свету, капіталістычных класаў і перажыткаў, якія перашкаджалі росту новага свету, новага чалавека. Пісьменнік сам асабіста ўдзельнічаў у самых абвойстраных класавых схватках з ворагам і сваё мастацкае слова накіроўваў на дапамогу пролетарыяту ў гэтай барацьбе. З вялікай любоўю адзначаў ён нараджэнне новых адносін паміж людзьмі, новых адносін да працы („Паляўнічае шчасце“, „Дзве цагліны“ і інш.), з вялікай ненавісцю гаварыў пра адыходзячы свет („Дачка эскадрона“, „Русалчыны сцежкі“). Зоркім вокам пісьменніка ён разглядзеў варожыя махінацыі суседняй з намі фашысцкай дзяржавы, якая засылала к нам сваіх агентаў і шпіёнаў пад відам ганімых на радзіме рэволюцыянераў. На аснове гэтага матэрыяла ён стварыў аповесць „Тэорыю Каленбрун“ і п‘есу „Сержант Дроб“, якая з вялікім поспехам ішла ў тэатры.

Але найбольш спелым творам Самуйлёнка з‘яўляецца яго раман „Будучыня“, напісаны на матэрыялах барацьбы грузінскага народа супроць меншавіцкага ўрада Ноя Жорданія і яго англійскіх гаспадароў. Гэтым раманам Самуйлёнак расшырыў рамкі беларускай літаратуры, практычна паказаў, што высокамастацкія, вялікія палотны могуць быць створаны беларускімі пісьменнікамі на любым матэрыяле, цікавым і блізкім любому з народаў Совецкага Саюза.

Дзякуючы глыбокай назіральнасці Самуйлёнка, яго ўпартай працы над матэрыялам, вобразы грузінскіх сялян-паўстанцаў, як жывыя ўсталі перад нашым чытачом, усталі жывымі і тыя падзеі, якія адбываліся каля 20 год назад у далёкай Грузіі, яшчэ і яшчэ раз падкрэсліваючы адзінства лёсу працоўных усіх нацый, адзін-

ства іх задач і барацьбы за выкананне гэтых задач. Духам баявога пралетарскага інтэрнацыяналізма, духам сталінскай дружбы народаў прасякнут гэты твор.

За апошні год Эдуард Самуйлёнак напісаў надзвычай цікавую п'есу „Пагібель воўка" на матэрыялах нашага беларускага пагранічча. У „Пагібелі воўка" ён вывеў прадстаўнікоў нашага шчаслівага калгаснага сялянства, паказаў іх патрыятызм, іх непахісную волю—зрабіць заходнюю мяжу Саюза ССР абсалютна непраніцаемай для ворага.

Вялікі жаль агортвае душу, калі падумаеш, што гэтага таленавітага пісьменніка-ордэнаносца ўжо няма сярод нас, што неўмольная смерць вырвала яго з нашых радоў у самым росквіце яго жыцця, яго творчасці. Як многа высокамастацкіх твораў ён мог-бы даць сваёй радзіме, якую ён горача любіў і якой аддаў усё сваё жыццё да апошняй хвіліны. І радзіма, узнагарадзіўшая яго ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцягу, ніколі не забудзе свайго пісьменніка, ніколі не забудзе яго таленавітых твораў.

Пятрусь Броўка і Пятро Глебка належаць да найбольш таленавітых паэтаў БССР паслякастрычніцкага пакалення. Абодва яны вызначаюцца актуальнай савецкай тэматыкай, аратарскім голасам сваёй паэзіі, дасканаласцю свайго майстэрства. Пятрусь Броўка напісаў адну з лепшых паэм пра грамадзянскую вайну—„Праз горы і стэп". Сіла класа, які ўзняўся на змаганне супроць сваіх адвечных ворагаў з адзіным рашэннем альбо перамагчы, альбо памерці, адчуваецца ў кожным радку гэтага твора. Паэма „1914" у мастацка пададзеных вобразах паказвае, чым была вайна 1914 года для працоўных. Надзвычай яркім і жыццёвым з'яўляецца вобраз селяніна Перагуда, які прышоў з вайны ў роднае сяло без рук і без ног, і, разабраўшыся ў тым, у імя чаго вялася вайна, „аскабалкамі рук" зрывае з грудзей крыжы і медалі. Таксама хвалюе вобраз сялянкі Кацярыны з аднайменнай паэмы „Кацярына". Цяжкае маленства і юнацтва на службе ў кулака, лёс, які рыхтавала Кацярыне жыццё пры старым ладзе, былі поўны гора, пакут і слёз. Але Савецкая ўлада вывела яе на іншую дарогу, зрабіла гаспадаром жыцця, яго творцам. І Кацярына быццам зноў нарадзілася на свет, яна стала новым чалавекам. Працуючы на калгаснай ферме, чэсна адносячыся да працы, яна стала знатным чалавекам краіны.

Пятрусь Броўка—аўтар лібрэта першай савецкай беларускай оперы „Міхась Падгорны", якая пойдзе ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета.

Пятро Глебка—адзін з паэтаў, якія найбольш упарта працуюць над удасканаленнем мастацкага слова. У яго ёсць рад вельмі высокіх па сваіх мастацкіх якасцях вершаў. Але найбольшую каштоўнасць прадстаўляюць дзве яго апошнія паэмы—„Мужнасць" і „У тыя дні", у якіх апяваюцца рэволюцыйныя падзеі 1917 года і паказана ўсенароднае гора з прычыны смерці Уладзіміра Ільіча Леніна. Вялікая тэма, суровая прастата мовы, глыбокае разуменне адзінства народа, партыі і яе правадыроў—робяць гэтыя паэмы аднымі з лепшых у беларускай літаратуры. Трэба асабліва вітаць

спробу тав. Глебкі паказаць вобраз Серго Орджанікідзе ў новай сваёй п'есе „Над Бярозай-ракой".

Трэба адзначыць таксама вялікую работу, якую прарабілі нашы ордэнаносцы па перакладу Пушкіна, Некрасава, Шота Руставелі, Шэўчэнка, у напісанні калектыўных твораў, у тым ліку вядомых усім „Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну" і „Дванаццаці песень".

Узнагароджанне лепшых пісьменнікаў Беларусі разам з пісьменнікамі ўсіх братніх народаў СССР радуе сэрца кожнага працоўнага. Яно адлюстроўвае нашы поспехі на адным з найбольш адказных участкаў соцыялістычнага будаўніцтва—на ідэалагічным фронце. Гэты ўчастак набывае зараз, у трэцяй сталінскай пяцігодцы, выключнае значэнне. Савецкая літаратура з'яўляецца магутным сродкам комуністычнага выхавання людзей.

Пісьменнікі Совецкай Беларусі разумеюць, якія вялікія задачы ставяць перад імі народ і партыя, і прыкладуць усе сілы, каб справіцца з гэтымі задачамі.

# ЭДУАРД САМУЙЛЁНАК

Цяжкую ўтрату панесла савецкая літаратура. У росквіце творчых сіл, зломлены цяжкай хваробай, памёр таленавіты пісьменнік БССР ордэнаносец Эдуард Людвігавіч Самуйлёнак.

Прышоўшы юнаком у беларускую савецкую літаратуру, Эдуард аддаў ёй усё сваё кароткае жыццё. Чалавек вялікага таленту і выключнай працаздольнасці, ён здолеў у параўнаўча кароткі час абагаціць беларускую савецкую літаратуру творамі, якія горача палюбіў наш чытач, якія сталі славай і гордасцю нашай літаратуры.

Горача любячы нашу радзіму, верны сын яе, выхаваны і выведзены на дарогу тварца-мастака комсамолам, большэвіцкай партыяй, Эдуард Самуйлёнак усе свае сілы і здольнасці аддаў на карысць савецкага народа, на карысць вялікай справы Леніна—Сталіна.

Скаваны цяжкай хваробай, Эдуард ні на мінуту не спыняў творчай работы. Яго працаздольнасць, безупынная прага творчасці—прыклад самаадданага служэння мастацтву. За невялікі час, будучы ўжо хворым, Эдуард напісаў выдатны раман „Будучыня" і п'есу „Пагібель воўка". Ён першым у беларускай літаратуры напісаў твор аб брацкім грузінскім народзе, увасабляючы дружбу народаў нашай радзімы. У рамане „Будучыня" пісьменнік з выключнай мастацкай яркасцю і праўдзівасцю паказаў барацьбу брацкага нам грузінскага народа супроць здраднікаў-меншавікоў. Ён паказаў ролю вялікага Сталіна ў барацьбе за перамогу соцыялістычнай рэволюцыі.

П'еса „Пагібель воўка", якую хутка ўбачыць глядач са сцэны нашых тэатраў, служыць узорам твора большэвіцкага мастацтва.

Прыкаваны да пасцелі, Самуйлёнак пісаў аб гераізме і бясстрашнасці смелых чэсных людзей, аб радасным жыцці. Усе яго творы—аповесць „Тэорыя Каленбрун", кнігі апавяданняў, раман „Будучыня", п'еса „Пагібель воўка"—поўны гарачага пачуцця інтэрнацыяналізма.

Сваёй творчасцю Эдуард Самуйлёнак славіў веліч нашай соцыялістычнай рэчаіснасці, гераічны шлях комуністычнай партыі, гераічную барацьбу савецкага народа супроць заклятых ворагаў—подлых здраднікаў, наймітаў фашызма.

Савецкі ўрад высока ацаніў заслугі пісьменніка. У ліку лепшых майстраў мастацкага слова Саюза ССР Эдуард Самуйлёнак узнагароджан ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Да самай апошняй мінуты свайго жыцця хворы Эдуард мужна супраціўляўся смерці. Ён любіў жыццё, імкнуўся зрабіць як мага больш, лепш, марыў напісаць яшчэ многа твораў пра наша сонеч-

нае сёння, аб велічы сталінскай эпохі. Ён быў поўны смелых творчых замыслаў. Ён натхнёна гаварыў аб новых творах, якія пакажуць ва ўсёй гераічнай велічы справы комуністычнай партыі і вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна.

Вось чаму так цяжка адчуваць вялікую ўтрату, якую панесла наша совецкая літаратура.

Бывай, Эдуард. Бывай наш блізкі, дарагі таварыш. Твой светлы вобраз, вобраз жыццерадаснага, палкага мастака, крышталльна чэснага сына нашай радзімы, мы захаваем у сваёй памяці, у сваіх сэрцах. Твае творы будуць жыць у совецкай літаратуры, радаваць і натхняць наш народ.

*Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, М. Клімковіч, К. Крапіва, І. Гурскі, А. Куляшоў, З. Аксельрод, Г. Камянецкі, І. Шапавалаў, Э. Агняцвет, М. Паслядовіч, Р. Мурашка, М. Ліўшыц, Хв. Шынклер, А. Рамановіч, А. Кучар, М. Модэль, В. Вольскі, У. Фінкель, А. Якімовіч, А. Стаховіч, Э. Каган, Х. Мальцінскі, П. Панчэнка, С. Каган, А. Жаўрук, М. Ларчанка, А. Ушакоў, В. Краўчанка, В. Глазырын, Ю. Віцьбіч, А. Міровіч, Я. Майр, Г. Шведзік, Ю. Дворкіна, А. Есакоў, В. Кандраценя.*

---

*Янка Купала*

## ПАМЯЦІ ЭДУАРДА САМУЙЛЁНКА

Дружа мой, сокале ясны, крылаты,
Крыллі навекі апалі твае,—
Ты ўжо не прыдзеш на нашыя святы,
Голас твой песень для нас не спяе.

Слёзамі дожджык пальецца на грудзі,
Насып-магілку абсыпе расой,—
Слёзы высушываць сонейка будзе,
Сонейка будзе заўсёды з табой.

Восенню кветкі завянуць у полі,—
Кветцы, засохшай, ізноў не цвісці,
Думкі твае не завянуць ніколі,—
Думкі аб нашым прыгожым жыцці.

Менск,
12 лютага.

*Уладзімір Шахавец*

## ЭДУАРДУ САМУЙЛЁНКУ

Не забуду дзень,
у які быў горды
Я—малодшы сын
пісьменніцкай сям'і,
Прачытаўшы,
што зазззяе ордэн
На грудзях таварышоў сямі.
Не забуду дзень,
ў які быў горды,
Як ніколі ў жыцці сваім
быў рад,
Што цябе адзначыў
нагародай
Ад імя народа
наш урад...
А сягоння...
у жалобе сэрцы,
У жалобе
схілены сцягі—
Вырваны з жыцця
заўчаснай смерцю
Ты—крыштальна чысты,
дарагі.
Перанесці цяжка
гэта гора:
Колькі-б напісаць ты
твораў мог!
У сэрцы—боль
і падкаціўся к горлу
Горам вызваных,
гарачых
слёз камок.
Мы у сэрцы
незабыўны створым помнік—
Будзеш жыць,
хоць голас твой замоўк.

Аб табе, любімы,
                будзем помніць
Ї тады, калі апошні
                згіне воўк.
Мы будуем будучыню,
                творым,
Каб было жыццё—
                суцэльны дзень.
Будзеш жыць і ты
                ў старонках твораў,
Будзеш жыць
                у памяці людзей.

Мешек.

---

*Ванда Васілеўская*

# ЗЯМЛЯ Ў ЯРМЕ*)

## I

Калі вестка разнеслася па вёсках, спачатку ніхто не хацеў верыць. Але ўжо апоўдні пацягнуліся да леса вазы, і батракі пачалі трудамі раскладаць на дарозе смольнае дрэва ад граніцы Остржэня да самага маёнтку. З вёсак пазбягаліся дзеці, заўсёды да ўсяго цікавыя. Упраўляючы Колісяк выйшаў за вароты і паклікаў старэйшых. Кожнаму вызначыў месца і растлумачыў, што і як.

Народ натоўпам пайшоў з Остржэня, з Калінаў, з Грабаўкі, з Мацькова, з далёкіх вёсак, нават з-за Буга.

Было ўжо цёмна, калі на дарозе ад станцыі тоненька заспяваў ражок і следам за тым конна праскакаў ляснічы. Хлапцы, што дзяжурылі ля складзенага грудамі дрэва, пачалі таропка разбіваць бутэлькі з карасінаю і падпальваць ламачча. Шуганулі ўгору слупы полымя—адзін, другі, дзесяты. Загарэлася заравам неба, і ўся дарога ад станцыі да Остржэня выступіла з цемрадзі белым роўным накатам. Тады на дарогу выехала калясніца. Высока-высока—вышэй за хаты, вышэй за зялёныя яліны—стаяла на калясніцы труна. Багранцам зіхацела яна ў бляску полымя.

— Глядзі, глядзі...

— Высока як...

— З жордак збудавалі, крамнік казаў...

— Так і вязуць ад самай Варшавы?

— Глупства гаворыш! Прывезлі па чыгунцы, а цяпер вязуць са станцыі.—Хіба не бачыш—коні панскія.

Мужыкі расступіліся, скінулі шапкі, бабы хрысціліся. Труна праязджала міма іх, плыла ў вышыні, накіроўваючыся да палацу, схаванага ў купінах чорных дрэў. Кастры згасалі. На дарозе зноў настала ноч.

З вялікай пышлівасцю хавалі маладога графа Остржэньскага. Два дні стаяла труна ў сенях палаца, агарожаная зялёнымі раслінамі ў кадках. Людзі тоўпіліся на пасыпаных жоўтым пяском прысадах,—упершыню было, што кожны мог вольна ўвайсці ў замкнуты заўсёды пад'езд палаца, узыйсці па белых шырокіх усходцах у змрочныя сені, што вялі ў пакоі. Труна маладога графа Остржэньскага стаяла пасярэдзіне. Яна была не з дрэва, як мужыцкія труны. Здавалася срэбранай, яе выкавалі з металічных

---

*) Аповесць польскай пісьменніцы Ванды Васілеўскай адлюстроўвае паднявольнае жыццё сялянства Заходняй Беларусі, прыгнечанага фашысцкай Польшчай. Пераклад аповесці друкуецца намі ў скарочаным выглядзе.

бляшак не тутэйшыя майстры—мастакі з Варшавы. Гарэлі хісткімі агеньчыкамі і чадзілі свечы. На крышцы труны ляжалі кветкі—белыя ружы, што цвілі на клумбе перад вокнамі.

Усе чакалі, што труну адкрыюць і можна будзе ўбачыць знаёмы, хударлявы, па-панску надзьмуты твар з цёмнымі кучаравымі над ілбом валасамі. Але з чорнага ходу прабіліся чуткі, што крышка труны запаяна, што пад ёю няма ўжо на што глядзець: малады граф Остржэньскі трапна папаў сабе проста ў рот.

На пахаванне сабраўся народ з усіх вёсак. Не кожны дзень бывае пахаванне графоў. Ды яшчэ якое. Казалі, што невядома яшчэ, ці дазволіць ксёндз хаваць маладога графа на могілках у фамільным склепе Остржэньскіх: граф сам, па сваёй волі, адышоў з жыцця. Але навошта-ж, у такім выпадку, везлі труну з Варшавы ў асобным вагоне, як расказваў кухар Мацвей дзяўчатам на кухні? Відаць, загадзя ўжо было ўсё дамоўлена з ксяндзом.

Прыехалі каляскі з Вількова, з Падаленцаў, з Грабаўкі. Прыстойна, без адзінага слова, выходзілі з іх паны...

Узварухнуўся натоўп ля ўвахода: выносілі труну. У касцёле зазванілі званы стогнучым, працяглым звонам, разносячы вестку па ўсяму Остржэню, да цёмных лясоў, што замыкалі шчыльным колам гарызонт.

Высока гайдалася на плечах срабрыстая труна. Неслі ўшасцярых, і прыходзілася зменьвацца, хоць да касцёла было не так далёка. Не дзіва: труна—з метала, ды і малады граф Остржэньскі не быў недаростак.

Бабы ўсхліпвалі, як і належала. Граф вёў жонку пад руку—даўно ўжо ніхто не бачыў іх побач. Грузлі ў пяску, асабліва калі павярнулі ў бакавыя прысады, а потым на тропкі могільніка.

Склеп Остржэньскіх стаяў ля задняй сцяны касцёла, вялікі як дом. Залатымі літарамі шмат разоў паўтаралася на ім адно і тое-ж прозвішча, пераплятаючыся з дзявочымі прозвішчамі жонак графоў Остржэньскіх і мужавымі прозвішчамі выданых замуж паненак Остржэньскіх.

Апусцілі труну на зямлю. Яе не было відаць у шчыльным коле натоўпа. Ксёндз спяваў прыдушаным, замагільным голасам.

З грукатам, са скрогатам уз'язджала труна ў чорную адтуліну ў сцяне склепа. Не як мужыцкія труны, якія апускаюць проста ў зямлю. Праўду сказаць, так і трэба: апусціць труну ў зямлю і засыпаць зямлёю. Але гэта не быў мужык з Мацькова, ці з Бржэгаў ці з Калінаў, ці з другой якой вёскі, а малады граф Остржэньскі, і яму належала іншая пашана, чым мужыкам.

Мала-па-малу разыходзіўся народ. Павярнулі па тропках у лес да Мацькова, да Бржэгаў, да Калінаў, куды каму ляжала дарога.

Граф зараз-жа пайшоў да сябе на гару. З бакавой вежы палаца ён мог глядзець на тры бакі света, бачыць усе свае уладанні—што падыходзілі да Остржэня, і больш аддаленыя. Але не бачыў нічога. Стаяў ля акна з вялікімі люстранымі шыбамі, што з такімі цяжкасцямі прывезлі калісьці ў маёнтак, утаропіўшыся вачыма ў нейкую нябачную кропку.

Але калі-б нават ён глядзеў уважліва, дык не мог-бы разгля-

дзець там далёка, за сцяною лесу, за плямкаю Калінаў жанчыну на пескаватай дарозе. З далёкага свету, што патануў у блакітнай прасторы, ішла яна ў гэты бок, да Калінаў, значыць набліжалася і да Остржэня, да люстраных шыбаў вежы. Але граф Остржэньскі не ведаў аб яе існаванні. Адтуль, з вакна, яна не была нават плямкай на дарозе, не была нават булавачнай галоўкай.

Анна ледзьве цягнула ногі. Вочы яе гарэлі, азноб мурашкамі прабягаў па спіне. І горш за ўсё было, што ў нагах, у бёдрах, яна адчувала рэжучы, неадступны боль.

— Гэта ад хады... Яшчэ не прышоў час...—цвярдзіла яна сабе перасохлымі губамі, але ў глыбіні душы ведала, у глыбіні ахапіўшага яе жаху знаходзіла неабвяргальную ўпэўненасць, што ўжо—прышоў.

Нясцерпна хацелася піць. Ногі гразлі ў пяску. Часам Анне здавалася, што яна зусім не пасоўваецца наперад, а тупае на месцы ў гэтым коўзкім, зыбучым, смерцяносным пяску.

Яна аблізвала перасохлыя губы. Направа і налева цягнуўся папар, убогія палоскі зялёнага жыта, грады бульбы, што ледзь узнялася над зямлёю, але вёскі не было відаць. Сям-там кашмаціўся на бясплодным пяску сасновы гаёк, павяваючы душным араматам смалы. А дарога, асляпляюча белая, цягнулася ў бясконцасць.

Ля ўзбочыны зазелянела конскае шчаўё, што раскінула шырокае лісце па канаве. Анна сышла на ўскрай дарогі і ўбачыла высыхаючую цёмную лужыну,—яна канчала сваё жыццё ў праменнях спякотнага сонца, што пранікала цераз слабую завесу пыльнага лісця. Анна насілу апусцілася на калені, адчуваючы пад імі гарачыню пяска. Асцярожна нахілілася да вады. У ноздры ўдарыў агідны гнілы пах. Вада была цёплая, і, як толькі Анна пацягнула яе ротам, са дна ўзнялася мута, смурод балота. Анна адчула на вуснах смак зямлі, у зубах заскрыпелі пясчынкі. Яна мацней абаперлася на рукі, адчуваючы, як кроў ударае ёй у галаву. Цемра захісталася перад вачыма. Яна са стогнам паднялася і стаяла колькі часу як сляпая, на краю дарогі, бачучы толькі мігценне чорных ашмоткаў, што засланялі святло. Хісталася як п'яная.

Але праз хвіліну зноў выступіў з цемры распалены сонцам дзень, вынырнула са змроку дарога. Анна пабрыла наперад, змагаючыся са слабасцю, што скоўвала яе ногі. Ішла нібы ў гушчы водарасцей, нібы ў слізкіх сцяблах вадзяных лілій, што аблытвалі з неперамажнай сілай тонучага чалавека.

Зноў сасновы гаёк. На хвіліну Анну ахапіла спакуса—сесці ў цяньку, выпрастацца, перачакаць, пакуль пройдзе гэта знясіляючая стома. Але яна ведала, што больш не ўстане. І лес-жа таксама не даваў цяню. Скрозь тонкія галіны падала сонца на сухую, пакрытую іглічай, зямлю. Анна пабрыла далей, стараючыся не глядзець на дарогу. Яна была згубная—роўная, простая, без паваротаў. Здавалася бясконцай,—наперадзе нельга было чакаць нічога новага. Беспярапынку, без літасці бегла дарога невядома куды, нібы ёй суджана было ні скончыцца, ні змяніць сваё аблічча.

Раптам Анна адчула боль—іншы, не такі, як сударгавыя, зацяглыя схваткі ў бёдрах. Спалохалася.

— Не, не, яшчэ не час! Гэта ад вады!

Яна з усяе сілы старалася выклікаць смак прыдарожнага балота на перасохлыя губы. Гніль лужыны—гэта было адзінае выратаванне ад думкі, што тое ўжо прышло, што яно адбудзецца тут, на распаленай бязлюднай дарозе, у спякотным бляску сонца, у зыбучым пяску.

Раптам у шорах яе крокаў уварваўся нейкі гук. Яна спынілася. Так, брахаў сабака. Гэта не магло быць нішто іншае. Сухія губы заварушыліся. Яна прыскорыла хаду.

Сасновы гаёк скончыўся. Цяпер направа і налева разамкнулася кола лясоў—далёкіх, сініх. У іхным цёмным коле плавіліся на сонцы ўбогія палі, узбоч дарогі заблісцела перад стомленымі вачыма вада.

— Рака...—шапнула Анна, і вочы яе засцілі слёзы. На хвіліну яна затрымала позірк на гэтай срабрыстай палосцы, на бачнай зводдалі дробнай зыбавіцы, на жывой, сапраўднай, не выпітай пяском вадзе.

Потым вочы адшукалі вёску, што прытаілася ля дарогі. Шэрыя, пачарнелыя стрэхі. Высока тырчаў вочап студні. Флюгер на адной са стрэх.

Ужо блізка. Анна змерыла позіркам адлегласць.

— Дайду?—пыталася ў сябе, у сваіх збалелых, падгінаўшыхся ног і ў гэтага болю, што ўсё нарастаў, рабіўся больш пакутлівым, прыліваў нібы хвалі—нязменна, аднастайна, неадхільна.

Усё выразлівей выступалі крывыя, пагорбленыя слівы, нізкарослыя раскідзістыя яблыні. Забрахаў сабака, праз хвіліну яму адказаў другі, і, нарэшце, усе двары адгукнуліся пахмурным басовым брэхам, жаласлівым працяглым візгатам і нібы ваўчыным завываннем.

Анна не глядзела пад ногі. Палаючымі вачыма ўтаропілася ў вёску—у вёску, дзе былі людзі, хаты, усё тое, чаго яна дарэмна шукала на працягу доўгіх часоў пакутлівага свайго вандравання.

Несвядома спішыла хаду. Кожны рух выклікаў цяпер боль. Старалася існі шпарчэй у кароткія прамежкі, калі на хвіліну расціскаліся бязлітасныя клешчы, калі можна было перадыхнуць. Але гэтыя прамежкі выпадалі ўсё больш рэдка. Боль узмацняўся, мучыў усё больш бязлітасна, усё больш драпежна. Заставалася толькі кінуцца на распалены пясок і крычаць, выць, каб не думаць аб тым, што адбудзецца, заглушыць гэты дзікі жах, утаймаваць раз'юшаную фурыю, што здзекваецца з чалавека.

Вёска ўжо побач. Яшчэ дзесяць крокаў, яшчэ пяць—і Анна апынулася пасярод будоўляў, на вясковай вуліцы, агароджанай з двух бакоў хатамі. Вось, нарэшце, канец! Вось канец! Вось мэта, да якой яна так упарта імкнулася! За пахілым парканам першай сядзібы прыгіналіся да зямлі карлікавыя, пакрытыя мохам пладовыя дрэўцы. З хаціны выйшла дзяўчына. Паламаным грэбнем лянівa расчосвала валасы, рэдкія і масляністыя. Пільна, абыякавымі, чужымі вачыма глядзела на Анну. І ў Анны не хапіла смеласці зайсці за пахілы паркан. Марудна-марудна прайшла яна міма

хаціны, праведзеная поглядам незнаёмай дзяўчыны. Ведала, добра ведала, на што так упарта глядзела тая.

Рэшта энергіі, якую Анна магла яшчэ выціснуць з сябе, калі імкнулася да нябачнай вёскі, цяпер пакінула яе. Не было ўжо ніякай апоры, не было ўжо чаго чакаць, а боль усё ўзмацняўся. Яна сашчамляла зубы. Нібы выцягваючы за валасы, падымаючы з усяе сілы, з глыбіні, здабывала яна з сябе кожны крок. Густы пот прабіўся на ілбу.

З-за вугла выбег сабачка і з прарэзлівым брэхам перасек ёй дарогу.

Анна ўздрыгнула. Спужалася больш за ўсё гэтага сабачкі, амаль шчанюка, кастлявага ўблюдка, фантастычнага мяшанца нейкіх нябачаных парод. З хаты выглянула жанчына, і зноў Анна ўбачыла абыякавы чужы позірк незнаёмага чалавека.

Цяпер яна не думала ўжо ні аб чым. Ішла як пашкоджаны, рыплівы, але ўсё яшчэ дзейнічаючы аўтамат. Нібы скрозь туман разглядзела гуляўшых на ўскраю дарогі дзяцей. Навошта, дзеля чаго спяшалася яна сюды? Цяпер у яе было толькі адно жаданне: пайсці адсюль, выбрацца, нарэшце, з гэтага раду хацінак, падалей ад шэрых парканоў, шэрых стрэх, шэрых людзей, выйсці зноў на пясок, на палі, да сасновых гайкоў, упасці там і памерці, каб ніхто не бачыў, ніхто не ведаў, ніхто не глядзеў чужым позіркам.

Блукаючымі вачыма яна заўважыла срабрыстыя кроны велізарных высокіх дрэваў, поўкруг ракі, якая шырокай дугой агінала вёску. Яшчэ толькі некалькі крокаў, яшчэ некалькі крокаў...

Аступілася. Гэты штуршок адгукнуўся ў глыбіні цела, як яшчэ адзін нічым незаслужаны ўдар, які перавышаў меру цярпення. Аступілася зноў—у пяску дарогі траплялісе камні. Сухія губы перакарэжыліся, як у малога дзіцяці. Вочы засцілі слёзы. І Анна міжвольна заплакала—ціхенька, жаласліва, па-дзіцячаму. Адчувала, як льюцца па твары салёныя слёзы. Аступілася яшчэ раз. І не хапіла больш сілы, каб зрушыцца з месца, вярнуць целу страчаную роўнавагу. Ля апошняй хаціны яна апусцілася пасярод дарогі на калені. Цяпер яна ўжо ведала, што час прышоў. Упала нічком.

Паціху, недаверліва пачалі падыходзіць, невядома адкуль узяўшыся, дзеці. Двое, чацвёра, пяцёра. Хлапчукі ў кашульках, у дзіравых штоніках стаялі ўжо за некалькі крокаў. Глядзелі.

Працяглы стогн, звярынае выццё сарвалася з вуснаў упаўшай на дарогу жанчыны. Хлапчукі адхіснуліся. Але цікаўнасць была мацней за ўсё і яна перамагла страх перад невядомым. Яны зноў апынуліся на ранейшым месцы.

Анна моцна сціснула збялелыя губы, але гэта не памагала. Стогны, не падобныя на чалавечыя, узмацняліся, раслі, пераходзілі ў крык.

Маленькі карантыш нагнуўся, падняў камень, падышоў бліжэй з каменем у руцэ:

— Ты, устань!

Анна павяла налітымі крывёю вачыма. Камень вырваўся з маленькай рукі і папаў у нагу. Анна ўскрыкнула. Следам за гэтым адчула другі ўдар. Анну ахапіў шалёны жах. Яна намагалася пад-

няцца, але зараз-жа ўпала. Адчувала, што спадніца на ёй прамокла наскрозь, што нават пясок пад ёю павільгатнеў. Што яшчэ хвіліна—і гэта адбудзецца. Тут, на дарозе, пад ударамі камняў, падаючых з дзіцячых рук.

— Людзі!

Толькі цяпер яна заўважыла ля агарожы старую жанчыну. Тая стаяла і абыякавымі вачыма глядзела на тое, што адбываецца.

— Людзі... злітуйцеся...

Заварушыліся нейкія цені. Анна бачыла нібы скрозь туман, што да яе ідуць. Чула, не разбіраючы слоў, што нехта ўціхамірвае хлапчукоў.

За некалькі крокаў стаялі жанчыны: іх было пяць. Нейкі мужык плюнуў і адышоў у бок.

— Валацужка...

— У такі час выправілася ў дарогу...

— Абавязкова родзіць...

— Прагнаць да чортавай матары...

— Цяпер ужо не прагоніш...

— Ці не з Даманавіц яна?

— Здаецца, не...

Анна рассунула ногі. Вось так. Цяпер няма чаго стрымліваць боль. Аддаляць час. Хай будзе што будзе.

— Любыя мае, што толькі дзеецца на свеце,—спачувала Баніха, ківаючы растрапанай галавой.

— Ты—павітуха, вось і пасабі,—павучальна сказала адна з жанчын.

Хлапчукі, што на хвіліну разбегліся, зноў падышлі.

— Грэх і кара божая,—скрывіла губы Баніха.

— У свіран яе занесці, ці што...

— Добры які! Цягні ў свой!

— У Салінякаў пустуе, можна было-б туды...

Усе ўзрадаваліся. Ад салінякоўскага двара ўцалеў пасля пажару толькі свіран, мужык перабраўся ў горад. Страха была дзіравая, дзверы выбітыя, але для валацужкі і гэта будзе добра.

— Казімір, прынясі посцілку!

Стары паклыпаў да хаты. Доўга корпаўся ў сенях. Нарэшце, прынёс пярэстую посцілку, якой пакрываў сядзенне на вазку. Агульнымі сіламі бабы паклалі на яе Анну. Свіран быў недалёка.

— Пасцяліць хіба саломы... Вунь там яна, у кутку.

Анна дрыжала ад страху, што яе пакінуць адну. У ёй не было нічога, акрамя сляпога інстынкту самазахавання. І ў гэтую хвіліну яна баялася ўжо—за дваіх.

— Цяпер кладзіце!

Анна з палёгкай адчула халадок свірна і шорхат саломы пад дзіравай посцілкай. Зноў пачаліся схваткі, яна закрычала. Намагалася стрымацца, але гэта было звыш яе сіл. Яна выла. Высокі стогнучы гук ударыўся аб балкі столі, тануў у падгніўшай саломе страхі. Па гэтай саломе глуха забарабанілі камні.

— Ды прагані́це-ж вы хлапцоў!

Адна з баб выскачыла з крыкам. У хляве Баніха завіхалася каля парадзіхі.

— Прынясіце вады! Ройечыха, у цябе топіцца печ, можа ёсць вада?

— Зараз збегаю.

— Трэба было-б і анучак... А вы, бабанькі, вымятайцеся адсюль. Толькі замінаеце тут у мяне пад нагамі.

Бабы выйшлі. Некаторыя ляніва пабрылі дахаты шукаць анучак.

Вераб'і шархацелі ў саломе страхі. На іржавых завесах рыпелі дзверы.

— Хлопчык...—сказала Баніха і выпрасталася над распасцертай Аннай.

Анна паварушыла празрыстымі пальцамі. Не магла выціснуць з сябе голасу. Абыякава было, ці то хлопчык, ці то дзяўчынка. Важна было толькі тое, што ўжо не трэбаісці па знесіляючай дарозе, што можна ляжаць—спакойна ляжаць, без скурчваючага ў клубок болю, адчуваць, як цякуць па нагах тоненькія цёплыя струменьчыкі крыві, і піць ваду з бляшанага кубка, які падае ёй гэта чужая бабуля. Непераможная санлівасць туманіла галаву. Недзе там, за дрэвамі, надыходзіў, відаць, змрок, таму што ў хляве паступова цямнела. Заплакала дзіцё,—Анна не паварушылася. Нішто не цікавіла яе—нішто на свеце. Ляжала, выпрастаўшыся, на спіне. Скрозь дзіру ў саломе заўважыла кволы, трапяткі бляск,—мігцела зорка. Усміхнулася зорцы далёкай, кволай усмешкай. Зашархацела салома,—Баніха разглядвала дзіцёнка:

— Спраўны хлопчык, не ўрокам кажучы...

Анна не чула. Баніха злосна пхнула нагой край посцілкі:

— Такім шанцуе! Хлопчык—лепш не трэба!

Вераб'і сціхлі. Відаць, іхныя гнёзды былі ў саломе пад паветкаю, часам было чутна, як яны капашыліся там. Светлая ноч зазірала ў прабоіну дзвярэй. Зноў пачалі сыходзіцца бабы. Стоўпіліся ля ўваходу.

— Пасярод дарогі нарадзіла, гэта-ж трэба...

— Можа, не разлічыла...

— А як-жа. Не разлічыла... Дзіцёнак даношаны?

— Даношаны, даношаны. Хлопчык як карцінка,—пахваліла Баніха.

Хударлявая Ігнаціха адтапырыла губы:

— Безбацькаўшчына...

— А можа і не?

— А як-жа! Калі-б не, сядзела-б у хаце, а не валачылася-б па дарогах...

Затупалі шпаркія крокі.

— Старшыніха ідзе!

Бабы расступіліся, з непрыязню гледзячы на маладую жанчыну.

— Я была ў мацеры, у Расохах, а тут мне кажуць... дзе яна?

— Ды вунь ляжыць...

— У хляву? Ці ёсць у вас сумленне?

— А што-ж, у хату трэба было ўзяць?—агрызнулася Ігнаціха.

Але злосць іхная ўжо астывала.

— Малака ёй прынесці, ці што...—раздумліва сказала Плыціна.

— І вы трымалі яе дагэтуль, як сабаку?—хруснула пальцамі старшыніха і, шастаючы спадніцамі, увайшла ў хлеў.

— Цёмна, нічога не відаць... Эй, Сташэк, дзе ты? Збегай па старшыню. Каб зараз-жа ішоў сюды.

— Не інакш, як табе, Баніха, у хату пасадзяць,—мармытала адна з баб.

Яна не памылілася. Неўзабаве з'явіўся старшыня, і ўсё адразу пайшло па-інакшаму, пакацілася шпарка і так, як належала. Хворую перанеслі да Баніхі.

— Ты—павітуха, а парадзісе патрэбна дапамога,—сказаў старшыня, ссунуўшы бровы, і нават не пачаў пытацца згоды ў Баніхі.

— Пагляджу вось я, хто будзе карміць і даглядаць дзіцё,—прабурчала Баніха скрозь зубы.

Але старшыня пачуў:

— Не твой клопат. Воласць заплоціць, калі не знойдзецца хто другі...

— Які шчодры на валасную казну...—шапталіся бабы, але ніхто не супярэчыў.

Знайшоўся і ложак, і малако, хутка, спраўна пайшла справа. Бабы зазіралі да Баніхі ў ваконца. Парадзіха ляжала з заплюшчанымі вачыма, як труп. Не варушыліся выцягнутыя на посцілцы вузкія худыя пальцы.

— Памрэ, не інакш,—рашыла адна з баб, расплюснуўшы твар на шыбе.

Але Баніха прыступіла ўжо да выканання сваіх абавязкаў. Прагнала ўсіх:

— Чаго вочы лупіце? Нічога тут цікавага няма! Ішлі-б лепш у свае хаты. Ройечыха, нават тут чутна, як крычыць твой сынок!

Бабы адышлі ад вакна, але не спяшаліся разыходзіцца па хатах. Вельмі ўжо багата было здарэнняў у Калінах у той дзень. Пахаванне маладога графа Остржэньскага, а потым гэтая чужая жанчына і роды пасярод дарогі... Бабы збіраліся ля парканоў і пляткарылі.

## II

Вінцэнт ішоў да халупы каваля. Кожны дзень, калі трэба было брацца за работу, ім нязменна апаноўвала немая злосць.

У адчыненыя маленькія аконцы было чутна, як гудзеў клас, нібы вулей. Шархалі босыя ногі па масніцынах, хлапчукі ля сцяны тузалі адзін аднаго кулакамі. Як рыпнулі дзверы, усё сціхнула.

Вінцэнт сеў за клышаногі стол. Ну, вядома, ён хістаўся па-ранейшаму, як учора, як кожны дзень. Настаўнік абапёрся рукамі аб стол і зазірнуў пад дошку. Так і ёсць: сасновы клін не дапамог—падлога была пакарабачаная.

Нехта з хлапчукоў захіхікаў. Вінцэнт грозна выпрастаўся. Ён ніяк не мог стрымацца, каб не праверыць, хістаецца стол ці не... Ведаў, што некалькі дзесяткаў вачэй пільнуюць гэтай хвіліны, чакаюць яе, як немінучага, штодзённага абрада. І, тым не менш, заўсёды машынальна правяраў.

Манатонным хорам, глытаючы канчаткі, дзеці чыталі малітву. Вінцэнт глядзеў на шэры натоўп вучняў і вучаніц і адчуваў, як ахоплівае яго неператожная ліпкая нуда. Раскрыў класны журнал.

— Ёсць.

— Ёсць.

— Няма.

— Няма.

— Стасяка зноў няма?

— Няньчыць дзіцё, мамка пайшла палоць!—завішчала з апошняй лаўкі дачка Заржэвяка.

— Антоняк?

— Пасе жывёлу.

— Захарчук.

— Паехаў з бацькам лавіць рыбу.

Вінцэнт пацісnуў плячыма. Заўсёды адно і тое-ж. Нібы наўмыснае, пасіўнае, упартае супроцьдзеянне.

— Заплоцяць штраф!—сказаў суха, выпісваючы на паперку прозвішчы.

— Стасякі не заплоцяць.

— Дзіва што. Хутчэй, чым Захарчукі!

— Не размаўляць!

Дзеці сціхнулі. Настаўнік з помстлівай настойлівасцю адзначаў адсутнічаўшых. І няхай, няхай будзе, як ёсць. Хлеб рэжуць, крошкі сыплюцца. Існуюць правілы—і справе канец.

У класе было ціха. Толькі заўсёды прастуджаная Анелька хлюпала носам.

— Чытай.

Зашмальцаваны хлапчук бубніў па складах няўмела, недарэчна водзячы па кніжцы брудным пальцам. Гнеў закіпаў у Вінцэнта. Уздымаўся хваляй усё вышэй, калыхаўся злоснай цемрай перад вачыма. Настаўнік пайшоў між лавак і спыніўся ля чытаўшага.

— Учора ты зноў не быў у класе.

Хлопчык глядзеў круглымі, без выразу, вачыма і маўчаў.

— А чытаць не ўмееш. Трэці год.

Каротка астрыжаная круглая галава пацвердзіла кіўком.

— Чаму не ходзіш?

— Па ягады я... вядома...

— Усе вы так. На пашу, па ягады і з дзецьмі, што каму ў галаву ўзбрыдзе! Толькі ў школу няма часу прысці! І што карысці? Навучыўся хто чаму-небудзь? Нічога. Дарэмна толькі я пакутую тут з вамі, жылы з сябе выцягваю!

Спахапіўся. Навошта ўсё гэта? У яго вочы глядзелі—блакітныя, шэрыя, чорныя, зеленаватыя вочы, глядзелі абыякавыя вочы з чужых, варожых твараў, можа з насмешкай, што ён так «дзівачыць», можа—толькі варожа...

— Да дошкі.

Нязграбныя маленькія пальцы, чырвоныя ад зімовых адмарожванняў, не могуць справіцца з крэйдай. Крэйда таксама нікуды не вартая: крышыцца і сыплецца, як вапна са сцяны кавалёвай хаты.

Вырастаюць белым радам лічбы. Навошта ўсё гэта? Бадай, па-

пячыцель не прыедзе, не захоча турбаваць сябе. Скора ўжо канец года, канікулы... Ну, а ўвосень, калі ўсё будзе добра, калі недабудаваная школа, што сляпымі зрэнкамі забітых вокнаў глядзіць на дарогу, будзе гатова і, можа, удасца перабрацца з гэтай хаціны, з гэтага разбуранага хлява? Што тады?

Заскрыгатала крэйда на гладкай паверхні дошкі, і адначасова ў сенях роспачна завішчала парасё. Каваліха з крыкам выганяла яго на двор. І ўсе твары адразу змяніліся. Так, на гэта яны ўмелі жвава адгукацца. На тое, што курыца ўзляцела на падваконне, што каваліха пасварылася з кавалём, што праходзіўшая міма карова зараўла проста ў акно. Тады на хвіліну трацілася варожая насцярожанасць, і шырокія ўсмешкі з'яўляліся на бледных губах. У астатні час тупая абыякавасць, што неператожнай сцяной стаяла між дзецьмі і настаўнікам, замаражвала самыя лепшыя намеры.

— А калі папячыцель прыедзе?

Вінцэнт адчуў, як непрыемны халадок прабег па яго спіне. З неператожнай відавочнасцю, з войстрай дакладнасцю ён убачыў доўгія рады адсутнічаючых у класным журнале, патрапаныя, зашмальцаваныя сшыткі, з неахайна выпраўленымі работамі школьнікаў, што чытаюць па складах на трэцім годзе навучання, заняткі, што праводзяцца без усякіх «наглядных дапаможнікаў», калі ў сапраўднасці так лёгка было набыць усе гэтыя дапаможнікі, калі-б пастарацца,—імі поўны быў лес, і вада, і луг за Калінамі.

Так, калі-б пастарацца! Але, па-праўдзе, навошта? Хіба гэта зменіць што-небудзь, пераробіць, разбурыць сцяну абыякавасці?

З суседняга памяшкання пранікаў цераз шчыліны даўкі пах капусты. Змешваўся са смуродам потных, даўно нямытых целаў. Не памагалі расчыненыя вокны, маленькія, у пагнілых рамах. За вокнамі стаяў зялёны, блакітны, лазоравы дзень, але тут было цёмна, і ад задушлівага смуроду пачынала мутарыць. У соснах насупроць спявала івалга. Лёгкадумна выкрыквала свае вясёлыя клічы, але то быў нібы іншы свет, зданнёвы свет казкі, што рассыпаўся і знікаў у тую хвіліну, калі раніцою трэба было ўвайсці ў хаціну каваля, каб не выходзіць з яе на працягу доўгіх гадзін.

Настаўнік з шумам захлопнуў журнал. Дзеці сарваліся з месц, стараючыся выперадзіць адзін другога. Стрымгалоў, навыперадкі прачыталі малітву і рынулі ў дзверы як ашалелае стада, паімчалі ў зялёны, залаты, лазоравы дзень, толькі худыя лыткі мільгалі на дарозе і на тропках.

Вінцэнт выйшаў за парог і, не спяшаючыся, выкурыў папяросу. Тымчасам падбягала ўжо наступная група. І зноў паўтарылася тое-ж: класны журнал, адсутнічаючыя—з кожным днём усё больш адсутнічаючых. Хаця, гэта амаль што не залежала ад часу года. Спачатку паша і ягады, потым, калі восень сівой імглою засцілала палі,—капанне бульбы, потым маразы, потым пасадка гародніны, ягады, паша,—і так наўкруг. Не гэта Вінцэнт лічыў самым важным. Школа стаяла ў баку ад жыцця. Ад гэтай пашы, капання бульбы, догляду за дзецьмі, ягад, грыбоў. Белыя лісткі са спагнаннямі сяктак утрымлівалі гэту кучку, прыцягвалі кожнага хоць раз за некалькі дзён у хаціну каваля: без іх тут, пэўна, нікога-б не ўбачылі,

акрамя маленькай Петранелькі, якую цётка акуратна прысылала кожны дзень на працягу цэлага года.

А зрэшты, што было-б, калі-б прышлі ўсе адразу? Калі-б настаў дзень, у які не спатрэбілася-бы ставіць у класным журнале ні адной рысачкі, што азначае чыю-небудзь адсутнасць? Тады прышлося-б падзяліць дзяцей не на тры групы, як цяпер, а на пяць—шэсць, і сядзець у хаціне каваля за клышаногім сталом не восем гадзін у дзень, а дванаццаць, пятнаццаць і больш...

Ён нервова пазяхнуў. Зноў выклікаў школьніка і загадаў яму пісаць лічбы, белыя лічбы на чорнай, глянцавай паверхні лакіраванай дошкі. З цяжкасцю, насілу праштурхваў хвіліны адну за другой. Яны праходзілі марудна, расцякаліся ліпкай смалой, распаўзаліся рэдкім цестам, амаль не збывалі. Вінцэнт пазіраў крадком на гадзіннік. Але стрэлкі пасоўваліся ўсё павольней. За сцяной гаспадары селі абедаць; было чутна як каваль, хлюпаючы, сёрбае з лыжкі кіслы боршч. Анелька сварылася з братам, а потым пачала шопатам расказваць нейкую смешную гісторыю—смешную, таму што нават каваліха пырснула.

«Пэўна, пра мяне»,—падумаў Вінцэнт і ўжо не чуў, што чытае Казімерчук. Стараўся разабраць аб чым гавораць за спярэшчанай шчылінамі сцяной. Але акрамя гулу галасоў не даходзіла нічога, ён не мог улавіць ні аднаго слова.

Мухі назольна гудзелі, роем кружыліся ля адчыненых вокнаў, дзеці санліва глядзелі ў твар настаўніка. Скрозь смурод капусты прарываўся ў вокны смалісты, салодкі, моцны арамат разагрэтых соснаў.

Канец.

Вінцэнт пачакаў пакуль усе выйдуць, разбрыдуцца па дарозе і па тропках. Не любіў праходзіць міма дзяцей. Яму здавалася, што за ім сочаць непрыязныя вочы, і ён лічыў за лепшае бачыць іх перад сабою ў класе, а не на вуліцы, дзе і не гледзячы ведаў, што яны варожыя.

Сухі пясок сцежкі рыпеў пад нагамі. Трэба было-б пайсці дахаты, дзе яго чакаў абед. Але яму не хацелася павяртаць у вёску, ён пайшоў да лесу.

Моцна, салодка, даўка пахлі сосны. Уверсе шарасцелі галіны, іглістыя веяры, зялёныя кроны высокіх, чырвонаствольных дрэваў. На галіне загайдалася залатая івалга. Вінцэнт падняў стомленыя вочы. На ўсе грудзі ўдыхнуў араматнае паветра лесу, пах іглiцы, водар сцякаўшай па кары смалы, сухога моху і рыжай хвоі.

Тропка выбегла на луг. Праз хвіліну Вінцэнт прабіраўся скрозь гушчар зарасніку. Па нагах білі сцяблінЫ балдыр'яну і зоры рамонка, што глядзелі ў неба залатымі вачыма. Мясцовасць паступова зніжалася. Цяпер прыходзілася асцярожна ступаць па грузкай, што ўходзіла з-пад ног, дрыгве. І праз хвіліну зноў цвёрдая глеба, невысокі насып, які акружаў возера. Вінцэнт рассунуў кусты арэшніка. Запахла вадой, аірам, зялёнай вільгаццю. У аблямоўцы кустоў і дрэваў, у зарасніку трысніка, у перыстых сцяблінах чароту ўстала перад вачыма нерухомая цёмная вада. Гладка ляжала на ёй разлапістае лісце лілій, зорамі бялелі іхныя кветкі. Настаўнік ухапіўся за

галіну арэшыны і саскочыў уніз, на вільготны коўзкі пясок, у які ўваткнуўся нос рыбацкага чаўна. Гнілым чарпаком выбраў ваду, што набралася на дне, і сеў у човен. Цёмная завадзь загайдалася і супакоілася. Ён веславаў павольна, ледзь-ледзь. Вясло апускалася ў ваду, без шолаху пасоўваўся наперад шырокі нос чаўна. Маленькія хвалі разбягаліся ў бакі, слаліся па вадзе. У цёмнай глыбіні адлюстроўвалася неба, трапяталі лябярэжныя вольхі.

Вясло ўваткнулася ў звілістыя сцяблы лілій. Настаўнік наддаў і праштурхнуў човен.

Возера, даўнейшы рэчны заліў, цягнулася доўгай і вузкай паласой. З аднаго боку памалу спускаліся да вады зялёныя, пярэсціўшыя кветкамі лугі, з другога—на крута спадаўшым насыпу клубіліся зараснікі. Па ствoлах вольхаў узбіраліся гібкія сцяблы хмеля, чапляючыся войстрым лісцем за шыпы нізкарослай ежавікі. Маленькія, залацісta-карычневыя жучкі мірыядамі ўсеялі кусты палявой ружы. Ліловыя кветачкі паслена звесіліся да вады, змешваючыся з жоўтымі агеньчыкамі касача. У гэтым зялёным свеце гудзелі, роіліся мушкі, авадні ў несціханым звінячым хоры.

Лябярэжны аір, чарот і трыснік урасталі глыбока ў ваду, захоплівалі ўсё больш месца, смела ішлі па мелях у самую глыбіню, стварaючы зялёную цясніну, па якой з цяжкасцю пасоўваўся човен. На вадзе распасцерліся шырокія кусты асакі, са здрадлівым перыстым лісцем, акружаным войстрымі шыпамі. Тонкі іх карэньчык свабодна вісеў у вадзе, а ружа лісця распускалася на паверхні, стварaючы непраходны гушчар. Кожны ўзмах вясла патрабаваў цяпер немалых намаганняў. Ззаду чаўна паласа вады заставалася толькі на адзін міг: рассунутыя кусты зараз-жа станавіліся на ранейшае месца, сыходзіліся, змыкаліся над тайнай вады, набываючы выгляд зялёнага луга.

Човен ледзь не натыкнуўся на тырчаўшыя з вады колікі, пастаўленага венцера. Вінцэнт нахіліўся, але нічога не разглядзеў у здрадніцкай сеці. Узмахнуў некалькі разоў вяслом і выплыў на шырокую ваду. Ля берагоў на цёмнай вадзе некранутай белізной слалісія ліліі. Але пасярэдзіне раскінулася чыстая прастора, глыбіня маўклівай цёмназялёнай вады. Вінцэнт паклаў вясло. Апусціў пальцы ў ваду. На паверхні яна была цёплая, але крыху глыбей было прахалодна, струменіў свежачы холад, які ішоў са дна.

Вада жыла. У зялёным поўзмроку, нібы ў празрыстым хрусталі, выступалі фантастычныя джунглі возера. Там раслі цуда-дзівы, казачны лес, як кветкі мароза на шкле. З дна ўздымалася асака, дзівосны кактус, пакрыты рыжым налётам твані. Гайдалася падводнае лісце лілій—гнуткія, буйныя, светла-зялёныя лопасці—непранікальны гушчар. Ад іх узбіраліся ўгору слізкія вужакі сцяблін, карычневыя, гладкія, расцвітаючыя на паверхні сэрцавідным лісцем. Вінцэнт ужо навучыўся адрозніваць кругла абрысаванае лісце белых і вострaканечнае зграбнае лісце жоўтых лілій, якія раслі вялікімі групамі.

Пад лістом ліліі нерухома стаяў маленькі шчупак.

Вінцэнт ясна бачыў у празрыстай вадзе войстры контур яго

пашчы і па-разбойнічаму бегаўшыя вочы, уперaныя ў водную прастору. Ён не варушыўся, калі човен праплываў міма, павольна коўзаючы па вадзе сілай подыху, які не адчуваўся. Трымаўся на паверхні, нібы кавалак бервяна, нерухомы, мёртвы, але ўвесь напружаны, як цеціва лука, якая гатова вось зараз пусціць трапную стралу. Тут-жа, ля паверхні, насіліся маленькія рыбкі, ртутна паблiскваючы на раптоўных паваротах і скачках.

Дно паніжалася, і знікаў чароўны лес. Ужо толькі апошнія ўпартыя лілії пасылалі на паверхню свае белыя і жоўтыя кветкі. Усё астатняе паглынула глыбіня. Тванню, пяском, войстрым жвірам з ранейшага рэчышча ракі, што працякала тут да таго, як прыйшлі на зялёныя лугі ля Буга першыя людзі, змяніўся падводны лес.

Човен гойдаўся на бяздоннай гладзі вады. Вінцэнт выпрастаўся на мокрых дошках і глядзеў у бясхмарнае неба. Закрычала чайка над лугамі, ёй адказалі краканнем качкі ў лябярэжным трысніку. Шумелі, уздыхалі, спявалі таямнічы спеў трыснікі. Над мізэрнымі кветкамі вадзяной стрэлкі гудзеў вялікі жук. Вазёрная цішыня была поўна галасоў, пахаў, музыкі. Недзе ля берага плёскалася рыба.

Вачам стала балюча глядзець у напоенае бляскам неба. Човен сонна пагойдваўся на месцы. Абязвольвала цішыня, у дзівосным блакіце тануў дзень. Усё расплылося ў лянівай бяздумнасці, у фарбах, у бляску, у лябярэжнай музыцы. Не было ні школы, ні вёскі, ні Вінцэнта,—быў толькі блакітны свет, які ціха, плаўна, лёгка пагойдваўся.

Моцна плесканула вада. Пачуліся галасы. Вінцэнт ачнуўся. Дрымота падкралася так нечакана, што ён і не заўважыў і цяпер дрыжаў ад азнобу. Адзенне было мокрае—на дне чаўна сабралася вада. Сонца кідала з-пад дрэваў касыя праменні. Набліжаўся вечар. Першыя цені ляглі на ваду, хоць лугі ляжалі яшчэ ў святле.

— Цягні!

Голас разлягаўся далёка па вадзе. У чаўне стаяла двое людзей. Яны выцягвалі ўваткнутыя ў твань недалёка ад берага венцяры. Павольна ўсплыў на паверхню вады доўгі, умела расцягнуты на абручах мяшок—сетчатая пастка на донных падарожнікаў. Вінцэнт глядзеў з чаўна, памалу варушачы вяслом. Адчуў голад, успомніў, што нічога не еў з самае раніцы. Але хацелася ўбачыць, што спаймалі рыбакі.

У вочках сеці вясёлкамі зазіхацела вада—на міг мільгануўшыя люстэркі. Потым замігацела цёмнае, буйнае адкормленае цела чорнага ліня. Здабычу кінулі ў човен.

Цяпер Вінцэнт пазнаў рыбакоў: Захарчук з сынам. Сціснуў губы. Яны заўважылі яго. Стары скінуў шапку. Вінцэнт нехаця кіўнуў галавой, але не сказаў ні слова. Не варта яшчэ і тут псаваць сабе кроў...

Відаць, яны былі тут ужо даўно. На беразе бранзавела некалькі венцяроў, расцягнутых на коліках для прасушкі. Вінцэнт глядзеў, як выцягваюць другі, пусты венцер, як з трэцяга вымаюць шчупака. І перахапіў скасавураны падазроны позірк Захарчука. Паціснуў плячыма і павярнуў човен. Паціху паплыў назад. Цені ўсё шырэй

слаліся над вадой, а неба было ахоплена залатым бляскам. Мёртвацiхімі былі берагі. Ні гуку,—зачаравана маўчала вада. У ёй таіўся халодны змрок, дно спадала, пад чаўном рассцілалася невядомая бездань. Хлюпала вясло—гэта быў адзіны гук.

Паступова з цёмна-зялёнай гладзі вады пачала падымацца імгла. Звілістымі струменьчыкамі, сівай парай дыхала возера.

Ззаду чаўна ўставала белая шчытная сцяна, наперадзе ўсё вышэй уздымаўся белы вал. Але гэта было далей: там, дзе вясло апускалася ў ваду, клубіўся толькі празрысты туман, ляніва сцелячыся па паверхні—дыханне вады, вільготнае і халоднае.

Ад лугоў павяваў лёгкі ветрык. На павароце, там, дзе ў лясны вал уразаўся забалочаны луг, туман ішоў далей, адыходзіў ад вады, расплываўся над плоскімі прасторамі мокрай травы, абкладаў раўніну малочнай ватай. І другая частка возера, больш вузкая, стаяла без імглы—вецер падразаў белую сцяну войстрым крылом, подыхам нябачных губ, халодным сваім дыханнем з другога, спадзістага, лугавога боку.

Човен прычаліў да балоцістага берага. Вінцэнт умацаваў ланцуг, абкруціў яго вакол пахілага, крывога ствола вольхі. Скрыгануў замок.

Уверсе зашархалі кусты. Вінцэнт узняў галаву. У арэшніку стаяла Анна. Ён замяшаўся.

— Вы не прыходзілі абедаць...

— Захацелася пакатацца на чаўне.

— Так доўга...

Ён не адказаў. Хапаючыся за гнуткае галлё арэшніка, узабраўся на насып і падышоў да яе.

— А я зграбала тут сена Баніхі.

— Усё скасілі?

— Усё. Не так ужо яго багата.

Ішлі павольна. Дзень згасаў. І тут ужо гусцелі цені. Высока на небе палымнела зара, чырвоны водбліск нібы далёкага пажара.

— Нявесела нешта...—нечакана сказала Анна.

Ён выказаў здзіўленне, не разумеючы чаго:

— Чаму так?

Сум ішоў ад лугоў, вячэрняя журба, незразумелая і беспрычынная. У кустах зашастала птушка. Анна ўздрыгнула і засмяялася:

— Увечары палохаешся кожнай драбязы...

І зноў—каторы ўжо раз!—Вінцэнт заўважыў меладычнасць яе голасу. Паціснуў плячыма. У гэтым не было ніякага сэнсу.

— А вось і Каліны...

У змроку святлелі белыя зонцікі—зманлівая кветка, якая вяночкамі чатырох пялёсткаў над пустой сэрцавінай прыманьвала насякомых.

— Тут прыгожа, а ўдзень яшчэ лепей. Але і тады нявесела.

Ён зірнуў крадком на яе кволы профіль.

— Вам заўсёды чамусьці сумна. Суседзі назаляюць?

Яна нахілілася і сарвала галоўку скабіёзы.

— Эх, што ўжо тут... Нікому не лёгка. Вось паслухайце, як у нас спяваюць:

Каліна ў лесе нахілілася,
Маё сэрцайка занудзілася...
Яснае сонейка поле залоціць,
Маё сэрцайка, што цябе томіць?
Не маё сонца, не маё поле,
Адно маё толькі: злая нядоля...

На сцежцы ззаду іх зашлёпалі крокі. Міма прайшоў Захарчук, акінуўшы іх падазроным позіркам. Анна спынілася:

— Вы ўжо ідзіце, а я прабягу стараною, па лугу.

— Там вільготна, балота...

— Нічога. Ёсць тропкі.

Знікла. Растала ў цемры. Вінцэнт пайшоў далей. Цяпер сум вечара наваліўся на яго ўсім цяжарам. Падобна да тумана плыў сум ад чорных дрэваў, ахутаных цемрай лугоў. І ў суме вечара журботным водгаласам зазвінеў удалячыні голас Анны:

Не маё сонца, не маё поле,
Адно маё толькі: злая нядоля...

Вінцэнт дайшоў да хаціны Ройекаў. Прайшоў міма гаспадыні, што стаяла на парозе, і адчыніў дзверы свайго пакоя. Патыхнула затхлым смуродам, які не ўдавалася вывесці ніякім праветрываннем: відаць, зруб хаціны раз'ядала цвіль. Знайшоў запалкі і запаліў лямпу. Яна асвятліла невялікі круг—стол, крэсла, частку падлогі. Рэшта патанула ў змроку. Сеў і тупым позіркам утаропіўся ў сучкі на паверхні пагабляваных дошак стала.

Вечары заўсёды былі горш за ўсё. Што рабіць? Выпраўляць спісаныя каракулямі, ускалмачаныя аслінымі вушамі сшыткі? Пісаць справаздачу? Падрыхтоўваць пасведчанні для канца навучальнага года?

Не было ахвоты. Апошнія заданыя ўрокі па справядлівасці могуць застацца нявыпраўленымі. Недарэчныя каракулі, каравыя сказы, страшэнныя арфаграфічныя памылкі, аб якіх столькі гаварыў папячыцель апошні раз... І, па сутнасці, якая карысць?

Так, вечары былі горш за ўсё. За вокнамі плыў цёплы вечар, ціхі і ў той-жа час напоены гукамі. Што рабіць, чым запоўніць яго? Патрапаныя кніжкі ён ведаў ужо напамяць. Гэты неразумны раман, узяты ў Сташкі, таксама даўно прачытаны. Заваліцца хіба спаць, хоць спаць не хацелася?

Зараз на лузе ля Буга збіраюцца хлопцы. Кураць папяросы, гавораць аб сваіх справах. Ці, перагнуўшыся цераз паркан, заігрываюць з дзяўчатамі. Для яго ўсё гэта недаступна.

Успомнілася, як, прыехаўшы сюды, увосень, ён выйшаў увечары пагуляць. Сады пахлі свежым араматам яблыкаў. Вузенькі ільдзяны поўмесяц стаяў у цёмным небе. У змрочным праходзе паміж будынкаў ля хаты Плазяка ён натыкнуўся на двух хлапцоў. І сёння не ведаў, хто гэта быў, і не хацеў ведаць. Перад ім выраслі два цені, без імёнаў, без твараў. Сказалі яму будзёна і проста, каб не хадзіў дзе не след. Яму няма чаго тут рабіць. У простых словах тоілася

пагроза. Толькі потым ён даведаўся, што дачка Плазяка лічылася першай прыгажуняй на вёсцы і бацька даваў у пасаг вялікі кавалак зямлі і грошы. Убачыў яе ўпершыню праз тыдзень. Не падабалася яму: круглы, румяны твар, кірпаты нос між тоўстых шчок.

Цяпер, успамінаючы гэты асенні вечар, ён пацісnуў плячыма. Спадзяваўся, што зменіцца што-небудзь. Нічога не змянілася. Калі ён набліжаўся да размаўляючых на дарозе, тыя сціхалі. Ён быў з чужога краю, з іншага свету. Яму сапраўды не было чаго тут рабіць. Старшыня часам гаварыў з ім доўга і ветліва, але толькі так, як належала: афіцыйна і асцярожна.

Ён не быў свой. З ім віталіся, калі ён ішоў па дарозе, бабы памыкаліся нават цалаваць яму руку, калі прыходзілі параіцца аб спагнаннях, але ён заўсёды адчуваў несакрушальную сцяну, што аддзяляла яго ад усіх. Баніха грызлася з Руслякамі, Захарчук сварыўся з Мыдляржам—але яны былі свае. Ён быў чужы.

Папросту і вольна ён мог гаварыць толькі з Аннай. Яна таксама была для ўсіх чужая. Але падысці да яе было не так лёгка—гэтаму перашкаджала багата старонніх акалічнасцей. Яго хвалявалі шэрыя вочы Анны, яе бледныя вусны, высокія грудзі. Калі яна прыносіла абед, калі прыбірала яго пакой, ён заўсёды адчуваў на сабе пільны позірк маленькіх бурых вачэй Ройечыхі, адчуваў за перагародкай яе насцярожаны слых. Яна сачыла за ім—прыходзіла ў пакой нібы па вядро, нібы па запалкі, якраз тады, калі была Анна. У яго не хапала адвагі пасварыцца на бабу, і ўрэшце рэшт усё гэта да таго апрыкрыла яму, што ён выходзіў з дому і вяртаўся тады, калі Анна, паставіўшы пасуду з абедам на стол, ішла назад да Баніхі.

Горш за ўсё было тое, што прыдзецца застацца тут на ўсё лета, калі нават занятая ўрокамі частка дня будзе вольнай. Што рабіць на працягу двух доўгіх месяцаў?

Зімой ён марыў, што летам паедзе адсюль. Але чым бліжэй падыходзілі канікулы, тым больш гэтыя мары былі неажыццёўнымі. Кватэра, утрыманне і ўсе гэтыя зборы на лігу паветранай абароны дзяржавы, у фонд морскай абароны, у фонд нацыянальнай абароны паглыналі ўвесь заработак. На сабраныя з цяжкасцю грошы ён мог толькі купіць сабе адзенне—і гэта было ўсё. І, праўдзе, куды і чаго ехаць?

Успомнілася раптам пустая, халодная, далёкая кватэра на Электоральнай. Усё было гэтак-жа пуста, халодна і далёка. І навошта, які сэнс?

Можна было-б ездзіць па нядзелях да Сташкі. Але Сташка, пэўна, паедзе на канікулы да сястры... Так, яна не была чужой у Бучынах. Умела знайсці агульную мову, умела зжыцца з вясковымі людзьмі—сама была з вёскі... А ўсё-ж тыя пацалункі на чаўне былі недарэчнымі. Яна зусім не падабалася яму. Масляністая скура, грубыя, парэпаныя рукі. Гучна смяялася, і ўсё здавалася ёй лёгкім і простым. Да таго-ж яна была не з падатных. Дык што-ж? Ажаніцца? На якія кукішы? Ён насілу мог пражыць адзін.

Вінцэнт устаў і пачаў хадзіць з кута ў кут па пакоі. Падлога,

пакарабачаная і крывая, рыпела пры кожным кроку. За сцяной дзеці Ройекаў мармыталі малітвы. Пры гэтым страшэнна пазяхалі.

— Ойча наш...

— Як ты гаворыш! Не спі, Юзек, не спі, калі чытаеш малітву, а то прысніцца д'явал. Ну, Сташэк, чытай далей.

— Багародзіца дзева...

— Чыстая кара божая з гэтымі дзецьмі. Лётаюць, лётаюць, як ашалелыя, да хаты не загоніш, а потым нават малітвы не выгаварадзь. Ангел заступнік...

— Ангел заступнік...—сонна мармыталі два хлапечых галасы.

— Гэта што такое? На ложак лезеш, а «З мірам адпушчаешы» хто прачытае за цябе, хто?

— Ды кінь ты іх мучыць,—уступіўся Ройек.

— Вось як! І ты туды-ж! Табе што—хай дзеці неслухамі растуць? Зноў сёння каровы ў кавалёву віку палезлі.

Ройек прабурчаў нешта, чаго Вінцэнт не дачуў. За сцяною сціхла. Рыпнуў ложак—Ройек клаўся спаць. Ройечыха выйшла, відаць, даць корму свінням. Грымела карыта ў сенях, вылаялася, аступіўшыся на парозе.

Вінцэнт павольна раздзяваўся. Прыходзілася класціся рана: толькі развіднее—зноў уварвуцца штодзённыя водгаласы чужога жыцця, не заглушаныя тонкімі, дрэнна прыладжанымі дошкамі ў сценах. Праснецца Ройечыха і пачне з крыкам будзіць дзяцей, каб выганялі кароў, будзе замешваць у вядры корм свінням, прарэзліва клікаць курэй і качак.

«Добра было-б жыць пры школе»,—марыў Вінцэнт.

Але школа стаяла на хваёвым узгорку, сляпымі зрэнкамі забітых вокнаў гледзячы на дарогу. Некалькі год назад было праведзена агульнае самаабкладанне на пабудову школы,—старшыня горача клапаціўся аб гэтым. Пасля доўгіх перагавораў, клопатаў, увільванняў, скаргаў мужыкі далі па злотаму ці па паўтара з морга. Збудавалі сцены, паставілі страху. На большае не хапіла. Увосень павінен быў прыехаць староста. Мужыкі хітра абмазгоўвалі, як бы павесці справу, каб улада дала рэшту. Па просьбе старшыні Вінцэнт тры дні сядзеў над вершамі—першымі і апошнімі ў жыцці. Вымучыў чатыры страфы, якія насілу ўбіў у тупую галаву Зосі Мыдлярж. Староста прыбыў—аўтамабіль ледзьве не застраў у пяску дарогі. Сустракалі яго на плошчы ля школы. Спрытна гаварыў старшыня, удала звёўшы прамову на школу. Зося прачытала дрэўляным голасам вершыкі, некалькі разоў збілася, але настаўнік падказаў. Параўнаўчы ўдала дабралася да канца: «І скажу толькі ад сэрца і проста: прывітанне вам, пан староста!» Староста пагладзіў Зосю па галаве, даў ёй мяшочак з цукеркам, сказаў некалькі фраз, у якіх былі прыгожыя словы, але ні наймалага намёка на школу,—і пачаў развітвацца. Выявілася, што дарэмна гатавалі абед (смажаных качак і вялікага шчупака, якога спаймаў Захарчук), бо да поўдня старасту трэба было папасці ў Руду. Мужыкі са збянтэжанымі тварамі стаялі ля недабудаванай школы і глядзелі, як падскоквае на выбоінах дарогі кузаў вялікага чорнага аўтамабіля. А школа засталася такой, як была: чатырохграннай каробкай пад

страхой. Быў ужо не той час, як тады, калі праводзілі самаабкладанне з морга,—нават старшыня не падманваў сябе надзеяй, што можна будзе што-небудзь зрабіць уласнымі сіламі. Дарэмна толькі загубілі здабытыя з такой цяжкасцю грошы на будынак, які ніколі не будзе служыць сваім мэтам і ўсе прымірыліся з тым, што школа і надалей будзе змяшчацца ў хаціне каваля, а настаўнік—жыць у Ройекаў.

Ён ляжаў і глядзеў у цемры на вузенькую палоску месяцавага святла, што паволі пасоўвалася па падлозе. За сцяной магутна хроп Ройек і тоненька пасвіствала носам Ройечыха. На дарозе застукалі чыесьці крокі—лёгкія, шпаркія. Камусьці трэба было кудысьці спяшацца, у кагосьці былі нейкія справы ў гэтую познюю пару. Пачуліся галасы, мабыць рыбакі ішлі да ракі. Спачатку Вінцэнта цікавіла рыбная лоўля. У срэбраным святле Буг—зачараваная ноччу рака, дробны плёск рассечаных вяслом хваляў, брэх сабак з лябяражных вёсак, што разлягаецца ў чыстым паветры, дзівоснае спляценне шнуроў і сяцей, глыбокія цені, таямнічае цурчанне вады, ночны свет, не падобны на дзённы, асаблівы, новы.

Але і тут, на вадзе, ён адчуваў сябе няпрошаным госцем. Ведаў, што, калі яго няма, мужыкі гавораць між сабой па інакшаму; ведаў, што замінае ім. «Гэта мне здаецца»,—прыходзіла часам думка. Але досыць ужо было аднаго самаадчування, і ён яўна адчуваў поўную сваю непатрэбнасць. І ён адстаў ад рыбакоў. Няхай едуць, няхай ловяць, няхай чорны човен пагружаецца ў цякучае срэбра ночы—яму няма да гэтага ніякай справы. Ён—чужы.

Добра было-б пагаварыць у гэту хвіліну з Аннай—пачуць яе меладычны голас. Але Анна спіць, і, акрамя таго, досыць было-б сустрэцца з ёй у гэту пору, каб назаўтра вёска загаварыла плёткамі. Сх, і сачылі за ім бабы! І па сутнасці—які сэнс!

Шэры сум жыцця, імгла безнадзейнасці асядала на сэрцы. Навошта ўсё гэта? Мацек зарабіў, Мацек з'еў... Ён зарабляў, каб есці; еў, каб зарабляць. І так можа ісці без канца, без канца...

У гэты-ж час Анну разбудзіў стук у акно. Яна ўскочыла ў спалоху, з трывожна б'ючымся сэрцам. Хаціна стаяла ў месяцавым святле. Акно здавалася пліткай ільду, і чорны цень доўгім прывідам клаўся на дошкі падлогі. Затоіўшы дыханне, Анна сядзела на ложку. Дзіцё спакойна спала ў калысцы—падарунку старшыніхі, яна чула яго роўнае дыханне.

І зноў нехта ірвануў ваконную раму. Першым жаданнем Анны было закрычаць. Пабегчы цераз сені на другую палавіну, разбудзіць Баніху. Але то не быў злодзей. Стукаючы зубамі, яна адкінула коўдру і асцярожна падышла да акна. За вакном стаяў мужчына—яна пазнала сына ўдавы з Ружанкі, таго, што прыходзіў у карчму Стэфановіча піць гарэлку. Прыплюснуўшы твар на шыбе, ён пільна глядзеў у хату. Убачыў яе—як стаіць у адной кашулі і прыціскае рукі да сэрца, што ашалела білася.

— Адчыні!

Голас глухі, але празмеру нават выразны. Яна чакала. Прыслухоўвалася. Ці не варушыцца хто на другой палавіне, дзе спала Баніха з дзецьмі.

— Адчыні зараз-жа, чуеш? А то ўзніму галас.

Гнілая рама затрэслася, бразнуў нямоцна прыладжаны кручок. Закрычаць? Але каго перакане яна, каму растлумачыць, хто паверыць ёй, валацужцы, якая нарадзіла на дарозе незаконнага сына?

Пахаладзелымі пальцамі адчыніла. Ціхае рыпенне ўплыло ў срэбраную, маўклівую, бархатную ноч.

У галаве гудзела, стучалі зубы. І толькі адно: ці не чутна там, на другім баку сяней? Што, калі раптам з крыкам уварвецца Баніха і прагоніць яе, вышвырне з калыскі дзіцёнка, загадае ісці ў срэбраную, маўклівую бархатную ноч?

І толькі адно: хутчэй, хутчэй. Каб усё ўжо кончылася, каб зачыніць акно, пачуць аддаленыя крокі і ведаць, што зноў усё ціха, што Баніха спіць і нічога не ведае.

Патыхнула перагарам гарэлкі, пахнула потам, гучна рыпеў ложак. Божа літаслівы, што, калі прачнуцца там, на другім баку сяней! Яна не адчувала нічога, акрамя смяртэльнага жаху, што гэта цягнецца так доўга, што ложак рыпіць, што вось-вось зашлёпаюць крокі ў сенях, увойдзе Баніха, убачыць, а потым...

— Калі прыду яшчэ, пастучу два разы, чуеш? Зараз-жа адчыняй. Шмат ходзяць да цябе сюды?

Акасцянелая, аледзянелая, Анна сядзела на ложку. Ні адно слова не выходзіла са сціснутага горла. Ах, хутчэй, хутчэй, хутчэй. Няхай ён ужо ідзе, няхай ідзе. Яна гатова была гаварыць самыя пяшчотныя словы, калі-б толькі можна было сказаць што-небудзь, гатова была пакорна ўпрашаць, абы толькі ён пайшоў перш, чым адбудзецца самае страшнае, перш чым праснецца Баніха.

Рыпнула акно. Чорны цень знікнуў у чорнай цемры ночы, выразна аддзеленай ад срэбра месяцавага святла. Чорныя цені ляжалі на срэбранай траве, срабрылася белена ў чорнай канаве, стаялі чорныя дрэвы на шкляным срэбраным небе. Зашастала трава пад ботамі і больш нічога. Нібы нічога не было, нібы нічога не адбылося...

Толькі цяпер зразумела Анна з жахлівай выразнасцю, што падпісала сабе прыгавор. Цяпер ужо прыдзецца адчыняць кожнаму, хто пастукае ў акно. Цяпер ужо яна ў іхных руках—у тых, што ходзяць да Стэфановіча і ў пакоі за крамай цішком п'юць гарэлку, у тых, што бадзяюцца ўначы на дарозе і па вёсцы. Яны ўжо будуць ведаць—ужо няма выйсця з зачараванага кола. Праўдай стала тое, што расказвалі бабы, аб чым шапталіся паміж сабой, што бачыла яна ў іх пагардных позірках, у пацісканні плячэй, у недамоўках, кінутых мімаходам...

Цяпер ужо няма для яе паратунку. Як магла яна, як магла! Трэба было крычаць, клікаць Баніху, запаліць агонь, нацкаваць сабаку, выбегчы на дарогу, паклікаць у сведкі ўсю вёску...

Толькі хто паверыў-бы, што было іменна так, а не інакш, што без усякага права прышоў пад акно сын удавы з Ружанкі?.. Яму, яму паверылі-б людзі,—яму, п'яніцу і злодзею, а не ёй, Анне, валацужцы, якая нарадзіла на дарозе незаконнага сына...

Яна ўпала тварам у набітую саломай падушку. З горла вырва-

лася глухое рыданне, звярынае выццё, роспачны стогн. Выйсці ў срэбраную ноч, па апырсканай расою траве бегчы ў гаёк над ракою, з высокага берага саскочыць у срэбраную ваду, у чорную глыбіню— няхай усяму будзе канец.

Дзіцёнак заварушыўся ў калысцы. Анна ўстала і падышла. Маленькі тварык, асветлены месяцам, нездаволена моршчыўся. Анна адсунула калыску з паласы святла. Ніцямі, больш моцнымі за ўсё астатняе, неразрыўным ланцугом прыкоўваў яе гэты маленькі тварык да хаціны Баніхі, да паўсядзённага жыцця, загароджваў дарогу да вады. Трэба кідацца ў зачараваным коле, нельга выбрацца з яго, нельга пераступіць яго. Кожную ноч яна будзе цяпер прыслухоўвацца да крокаў—і страх узмацніцца, узрасце ў сто разоў, дасягне страшэнных памераў, атруціць кожную гадзіну, кожную хвіліну, і ўрэшце рэшт усе даведаюцца, упэўняцца, што былі ўправах, гледзячы на яе з пагардай, паціскаючы плячыма, кідаючы ядавітае слова мімаходзь. Усё загінула. Раз назаўсёды. Даведаецца і ён, настаўнік. І ўжо не прамовіць да яе добрага слова. Што яна для яго цяпер?

Прыдзецца ісці адсюль. Куды? Куды вочы глядзяць: па занесеных пяском дарогах, па сасновых лясах, па гэтай зямлі—квітнеючай, араматнай, сонечнай, дзе беленой квітнее ў канавах атрута, палыном кусціцца на ўзгорках гаркота, рэп'ем множыцца ў ільне галеча, дзе з чорнай цемры і срэбра ночы, з шолаху асіны ў празрыстым паветры прыходзіць да чалавека самая страшная бяда.

Месяцавая паласа перасунулася, згасла ў хаціне месяцавае чараўніцтва. За акном стаяла светлая ноч, але ў хаціне стала раптам цёмна. Ціха дышаў дзіцёнак—народжаны ў пяску дарогі, спавіты ў чужыя анучы, спаўшы ў чужой калысцы. Месяц зойдзе і прачнуцца птушкі, узнімецца з цемры досвітку ружова-залатая зара, заварушыцца вёска, зарыпяць вочапы студняў, настане дзень—як учора, як звычайна, як заўсёды. Але для яе гэта будзе ўжо іншы дзень—з раніцы да вечара яна будзе хадзіць пад гнётам усведамлення, што надыходзячая ноч прынясе не адпачынак і сон, а гнятучы страх, пакутлівае чаканне крокаў за акном, прыслухоўванне да шорхату травы ў садзе і, нарэшце,—кашмарны прывід...

Яна зноў устала з ложка. Падышла да акна. Так, калі хто глядзеў з дарогі, то бачыў... Калі хто глядзеў ад Ігнаціхі, то бачыў... Як той стукаў у акно, як яна адчыніла, як без пярэчання пусціла сына ўдавы з Ружанкі, як ён потым ішоў ад яе...

Раніцой усе ўжо будуць ведаць. Ужо разнясецца шпаркая вестка, меркаванні ўжо стануць сапраўднасцю. Будуць мянціць языкі, што бабы былі ўправах, управах, управах...

Анна вярнулася на ложак. Стукалі зубы, з вачэй ліліся слёзы, сухія вусны шапталі няўцешныя словы. Як даўно гэта было—тропка сярод лугоў, калінавы гаёк і настаўнік!.. Ён усміхаўся ёй ветлай, ласкавай усмешкай... Адкуль узялося тое нечаканае шчасце ў грудзях і радасць, узнікшая з суму, і жаданне заспяваць на ўвесь голас, ад паўнаты сэрца кінуць песню, каб зазвінеў ёю калінавы гаёк і сасновы лес, як раней, даўно, калі ўсё было па-інакшаму?..

III

Па зялёнаму лугу, накіроўваючыся да сажалак, ішоў Стэфан Зелінскі з шляхецкага Мацькова. Ішоў, весела пасвістваў. Сажалкі гладка ляжалі ў аблямоўцы лугоў, як люстэркі—вялікая і маленькая, злучаныя вузкай пратокай. Стэфан шпарка раздзеўся і ўвайшоў у халодную стаячую ваду. Дрыжыкі прабеглі па ім з ног да галавы.

— Брр...

Зашорхалі крокі. Хлапец азірнуўся. Ішоў ляснічы Валер з сабакам. Аўчарка трымала галаву нізка да зямлі, прынюхвалася. Стэфан спакойна пакратаў рукамі ваду, не адважваючыся акунуцца: ільдзяным абручом яна сціскала яго пад сэрца.

— Ты што, купацца сюды прыцягнуўся?

— А хоць-бы і так. Замінаю вам? Не забаронена-ж.

— І так і не. Калі я скажу—нельга, значыць—нельга.

— А вы пастаўце дошчачку з надпісам, каб кожны ведаў.

— Ты мяне не навучай.

— А вы не чапляйцеся дарэмна.

— Вылазь з вады! Чуеш?

— Чую, я не глухі, пан Валер.

— Зараз-жа вылазь!

— Пакупаюся і вылезу.

Ляснічы падскочыў да хлапца, і бізун са свістам раздзёр паветра. На гладкім белым плячы купальшчыка ўдар зазіхацеў чырвоным пісягом. Твар хлапца заліўся цёмнай хваляй крыві.

— Вады табе шкада, хам? Дык лезь і выжлукці ўсю!

Валер пасінеў ад злосці. Таропка схапіў у бярэма адзежу, што ляжала на беразе.

— Не чапай адзежы!

— Заткні ляпу, чуеш?

— А ты не задзірайся! Калі народ прыпільнаваў цябе ля Буга, ты на каленках прасіў літасці, а цяпер фанабэрышся?

Па тропцы бег сабака. Вялікі, буры, воўчай пароды. Спыніўся і чакаў гаспадара. На выручку спяшаўся ляснічы Совяк.

— Па мордзе яго, Алоіз, па мордзе. Навучы хама.

— Ад хама чую.

Зелінскі кінуўся да іх з вады,—голы, пасінелы ад холаду. Сабакі глуха забурчэлі.

— Аддайце адзежу!

— А гэта—як мы захочам.

Хлапец сціснуў кулакі. У гэтую хвіліну на галаву яго, на агаленыя плечы, на грудзі пасыпаўся град udaраў.

— Гэта табе навука, хам! Слухайся, калі ляснічы гаворыць. Рэкс, бяры яго!

Аўчарка падхапілася і адным прыжком апынулася ля хлопца. Белыя войстрыя зубы сашчаміліся на лытцы.

— О-о-ох!

— Ага, бачыш? Сойка, бяры яго!

Хлапец зацкавана азіраўся. Нізкарослая, сагнутая ў крук ака-

цыя стаяла недалёка ад вады. Стэфан вырваў нагу з сабачых клыкоў і вялікімі прыжкамі паімчаў да дрэва.

— Рэкс, Сойка, ату яго!

Ён чуў ззаду перарыўнае дыханне сабак, адчуваў цяпло, што біла з іхных пашчаў. Імпэтна ўскінуў цела, схапіўся за галіну. Адчуў на целе царапіны войстрых шыпоў, шурпатасць кары, па твары сцёбнулі зялёныя калючыя галіны. Падагнуў пад сябе босыя ногі, бо псы падскаквалі высока, ссоўваючыся назад па стволу.

— Рэкс, Сойка, бярыце яго!

— Не дзярыце дарэмна глотку, пан Валер. Сабакі па дрэвах яшчэ не лазяць.

У паветры свіснуў камень і з размаху ўдарыў хлапца ў грудзі.

— О-о-ох!

— Бачыш? Мы дабярэмся да цябе і там, не спадзявайся дарэмна.

Акруглымі ад страху вачыма хлапец глядзеў на ляснічых. Яны кідаліся як ашалелыя. З ляснíцтва, што знаходзілася паблізу, прыбегла двое хлапчукоў Совяка.

— Геня, Юзек, збірайце камні! Давайце сюды! Грабарчук, ідзі паглядзі, што за птушка сядзіць на дрэве.

Аб'езчык зірнуў угору і засмяяўся:

— Адама ў раю разыгрывае? Па трыбуху яго, хама, па трыбуху! Павучыце трошкі!

Зноў засвісцелі камні, пасыпалася на зямлю лісце акацыі.

— Злітуйцеся, людзі, што вы робіце?

— А-а, цяпер вось як? Раней ты размаўляў па-інакшаму. Юзек, Геня, цягніце хутчэй камні! Там, пад галлём, іх больш.

— Лю-дзі!

— Дзяры горла, дзяры. Так цябе хто-небудзь і пачуе.

Сабакі з лютым брэхам прыгалі на пакручаны ствол. Совяк падышоў бліжэй:

— Злазь!

Залітымі крывёй вачыма хлапец глянуў уніз, на раз'юшаных псоў.

— Сабакі...

— Сабак баішся? Злазь, чуеш? А то...

Кінуты спрытнай рукой, камень папаў трапна. Прарэзлівы стогн вырваўся з грудзей Зелінскага.

— Злазь!

І зноў камень. Маленькі Юзек бег ад вады, несучы іх цэлую груду. Цёмная пелена заслала вочы Стэфана. Кроў залівала рот, дзікі нясцерпны боль разрываў цела. Сабакі скакалі ўсё вышэй. Хлапец у роспачы адчуваў, што пальцы яго слабнуць, што шурпатая кара акацыі выслізгвае з рук, што ўсё гайдаецца перад ім у бакі, нібы акацыю хістаў магутны віхор, нагінаючы вершаліну да самай зямлі. Ён хацеў нешта сказаць, але з акрываўленых вуснаў вырвалася толькі незразумелае мармытанне, булькаючыя нечалавечыя гукі. Разняліся анямелыя пальцы, з шорхатам узляцелі ўгору галіны акацыі. Хлапец упаў пасярод сабак, нібы мех з камнямі.

— Уставай! Рэкс, Сойка, на месца!
— Ды ён не варушыцца.
— Зараз заварушыцца. Падбадзёр яго бізуном, Валер, як мае быць.
Ляснічы падышоў, але ўзняты бізун павіс у паветры: з залітага крывёй твара ўпрост на яго глядзелі шырока раскрытыя, шкляныя, невідучыя вочы трупа.
— Паслухай, Грабарчук...
Сабакі прыселі, шэрсць уздыбілася ў іх на хрыбце. Валер выцер далоняй, раптам намоклы ад поту лоб.
— Акачурыўся?
— Ды не. Хама не так лёгка забіць, каб і хацеў. Ачухаецца.
Грабарчук узяў нерухомую руку хлапца, але не мог намацаць пульс. Прыўзняў павекі.
— Падобна, што памёр... Адубянеў...—пацвердзіў ён не сваім голасам.
— А ўсё ты, Грабарчук... Ты падцкоўваў нас: «па трыбуху яго, хама, па трыбуху»,—заікаючыся, візгатліва, няўпэўнена сказаў Валер.
— Я? А хто біў яго, калі мяне яшчэ не было тут? Хто загадваў дзецям збіраць камні? Я, можа? Ты спайманы за руку, Валер.
— Совяк таксама. Совяк...
— Ты не выкручвайся, Грабарчук,—цвёрда сказаў Совяк.— Трое нас тут арудвала.
— Я не выкручваюся. Трое—дык трое. Адным хамам менш, бяда невялікая. Бачыў хто? Ніхто!
Яны міжвольна аглянуліся. Залатое сонца стаяла над бязлюднымі лугамі, з коміна ляснiцтва віўся вузкі струменьчык дыму, далёка ля дарогі цямнела вёска. Нідзе ні душы.
— Што-ж цяпер рабіць?
— Швырнуць у ваду...
— Знойдуць.
— І хай сабе знаходзяць. Ніхто не бачыў. Утапіўся—і ўсё.
— Увесь у крыві...
— Памыецца ў вадзе. Ну, Совяк, бяры за ногі.
Ляснічы нехаця, з агідай узяўся за лыткі хударлявых ног. Рукі з абодвух бакоў валачыліся па зямлі.
— Раз, два—кідай!
Разгойданае цела цяжка бултыхнулася ў ваду. Пайшлі кругі, усё шырэй, усё выразней, ля берага плесканула вада.
— Толькі і ўсяго. А ты, Совяк, заткні хлапчукам глоткі, каб не часалі языкоў. Марш у лес, да вечара назад! Ніхто не бачыў, ніхто не чуў,—канцы ў ваду.
Геня і Юзек стаялі, прытуліўшыся адзін да другога, ліхаманкава трасучыся, і з жахам глядзелі на тое месца ў вадзе, куды ўпала цела.
— Чулі, што сказаў пан аб'ездчык? А ні пікнуць! Ні мацеры, нікому іншаму, а то дух вышыбу. Клянуся богам, вышыбу! Марш дадому, і не было вас тут зусім, так і ведайце. Разумееш, Юзек?
— Ра-зу-мею...

— То-та-ж... Мацеры скажы, што да вечара вярнуся.

Дзеці пабеглі да ляснiцтва, а ляснікі пайшлі да лесу. Валер пайшоў у Цёмныя Раўчакі, Совяк з Грабарчуком—у Вільчнікоў.

Толькі тады маленькі Франек Стакоўскі адважыўся паварушыцца ў лубіне. Ад лубіну ішоў дурманячы пах, балела галава, пацямнела ў вачах, ад страху нямелі рукі і ногі. Трэба было спачатку, з самага пачатку, як толькі пачалі нацкоўваць сабак, бегчы ў вёску, клікаць людзей, сказаць, што б'юць Зелінскага. Ён не адважыўся. Больш за ўсё на свеце ён баяўся аўчарак, іхных страшэнных морд, іхных велізарных зубоў, бялейшых за сыр, доўгіх чырвоных языкоў, звісаючых з пашчаў. Потым ужо было позна. Ён калаціўся ад страху, што яго заўважаць, і тады возьмуць за рукі і за ногі, разгайдаюць, як разгайдалі Стэфана, і кінуць у воду, каб з'елі рыбы. Нездарма пужала яго маці ляснічымі, калі ён не хацеў пасвіць кароў, або калыхаць маленькую Зосю, калі ўцякаў з хлапчукамі на выган і там біўся на кулачкі з Казімірам з крамы... Цяпер ён убачыў на свае вочы.

Ён паціханьку выбраўся з жоўтых, пахучых, бархатных хваляў лубіна і стрымгалоў пабег да вёскі. Маці не паверыць, калі ён скажа; трэба—бацьку. Божа літаслівы, што толькі пасля гэтага будзе, што толькі будзе!

Але чым бліжэй была вёска, чым выразней выступалі абрысы хацін, тым больш авалодваў ім страх. Прыдуць ляснікі—і адразу даведаюцца, што расказаў ён. Нацкуюць на яго сабак, або застрэляць, як застрэлілі Пашука з Гаеў. Яны маглі забіваць людзей колькі хацелі, за гэта ім нічога не было...

У яго пацяжэлі ногі. Ён ледзь цягнуўся па мяжы на горку. Успомніў прарэзлівы свісцячы голас Совяка: «А ні пікнуць, а то дух вышыбу, клянуся богам, вышыбу». Так страшыў ён Юзека і Геньку. Што-ж зробяць яны з ім? Можа заб'юць, можа пасадзяць у турму, ляснічым усё дазволена.

Па дарозе ішла маці Зелінскага. Ён пазнаў яе адразу, але ў яго захапіла дыханне, і ён не здагадаўся шмыгнуць убок, за зады старшынёвага двара.

— Франек, ты не бачыў Стэфана? Пайшоў, нічога не сказаў, а тут трэба ехаць у горад, па тавар для крамніка.

Ён збялеў, і ногі ў яго затрэсліся.

— Н-не.

Абышоў старую моўчкі, не гледзячы. Яго нудзіла, па целу прабягаў ледзяны азноб.Ціханька пракраўся пад вокнамі сваёй хаціны і ўвайшоў у свіран. Ускарабкаўся на самую гару, да вакенца, і зарыўся ў сена.

— Фране-е-ек! Фране-е-ек!

Ён затоіў дыханне, хоць маці і не магла пачуць.

Пэўна, кліча выганяць кароў. Чуў, як маці мармыча нешта і лаецца, але пакляўся што не выйдзе адсюль пакуль не будзе ўсё пакончана са Стэфанам. Знойдзе-ж урэшце рэшт хто-небудзь. А калі даведаюцца, ніхто не будзе ўжо ні аб чым пытацца ў яго... І зноў пачуў галасы—Зелінская гутарыла з яго маткай:

— Пайшоў з самае раніцы, і дагэтуль няма. А крамнік патрабуе—падай сюды зараз-жа. Кара божая! Зарабіў-бы трохі...

У Франека заскакалі зубы. Трэслі дробныя, несціханыя, ні на хвіліну не пакідаючыя дрыжыкі, якіх ён не мог суняць. Хвалі жары і азнобу ўперамежку прабягалі па целу. Няхай ужо ідуць, няхай знаходзяць. Да той пары ён не вылезе адсюль ні за што на свеце.

— Пайду спытаюся ў Лесякоў, ён часта забягае туды пачытаць з іхным Владкам газеткі, можа засядзеўся.

— Владка я бачыла: паехаў па сена.

— Можа ён ведае.

Голас аддаляўся і сціхнуў. Затарахцеў воз на дарозе, закракалі качкі. У Куляўцаў гучна сварыліся: Куляўчыха выкрыквала нявестцы сваю крыўду. На дарозе размаўлялі мужыкі. Вузкая палоска святла, што пранікала ў шчыліну, перасоўвалася па сцяне ўсё далей. Маці разоў пяць яшчэ выходзіла і клікала:

— Фране-е-ек! Фране-е-ек!

Ён курчыўся ўсё больш і ўсё глыбей правальваўся ў свежае, не зляжалае яшчэ сена. Сашчэмліваў зубы. Не выйдзе ні за што на свеце. Зараз-жа ўбачылі-б па ім, што ён ведае нешта, пачалі-б дапытвацца, і ён, чаго добрага, сказаў-бы...

Паступова цямнела. Франек трывожна задрамаў. Яму сніліся шырока разяўленыя чырвоныя пашчы сабак, твары ляснічых і падаючае ў ваду голае цела забітага. Ляснічы Совяк карабкаўся па дрэву і цягнуў за руку яго, Франека. Хлопчык зароў на ўсё горла.

— Чаго глотку дзярэш? Чаму не пайшоў з каровамі, а заваліўся спаць?

Апаленымі вачыма Франек азіраўся ў цёмным свірну. Гэта быў не Совяк, а сястра Віхта.

— Злазь зараз-жа! Дасць ужо маці табе як мае быць!

Ён ледзь не скінуўся з драбін, не паспеў яшчэ прыйсці ў сябе.

— Пайшла я ў свіран за кашолкай, слухаю, слухаю—да таго спалохалася, аж прысела. Лапоча нехта, стогне. Думала—валацуга які забраўся ў сена. Палезла на гару, гляджу—а гэта Франек. Зарыўся з галавой, а калі я разбудзіла яго, ён як закрычыць...— расказвала Віхта матцы.

Стакоўская строга глянула на сына.

— Я гукала цябе, гукала, а ты хоць-бы што! Для спання ёсць ноч...—пачала сурова, але зараз-жа асеклася.—Ты, што, захварэў?

Франек, хістаючыся, падышоў да палка, цяжка плюхнуўся і заплакаў. Рыдаў гучна, нястрымна, растраўляючы сябе ўсё больш, слёзы ручаём ліліся па бруднаму твару.

— Што з табой? Пакрыўдзіў хто?

— Н-н-не... Ліхаманка трасе... холад і жара... і холад...

— Не інакш, як на рыбалцы ўчора застыў. Віхта, сагрэй яму малака ў гаршочку, у тым, блакітным. Выпі і засні, да раніцы ўсё пройдзе.

Стукаючы зубамі аб край бляшанага гаршочка, Франек пацягнуў некалькі глыткоў гарачай вадкасці, больш не ішло яму ў горла.

— Пі, пі! Сагрэешся!

— Запарыць хіба ліпавага цвету...

— Засне і палегчае. О, як твар закумачыўся!

Франек адхіліў гаршочак, таропка накрыўся коўдрай і адвярнуўся да сцяны. Не мог заснуць, але ўпарта прыкідаўся што спіць. Не паварушыўся нават, калі прышоў бацька. Цяпер, калі ён сказаў Зелінскай, што не бачыў Стэфана, самае цяжкае мінавала, ён ужо ведаў, што ніхто не даб'ецца ад яго праўды. Але небяспечней за ўсё было прыкідацца спячым, хворым, ні з кім не размаўляць. Каб бацька не здагадаўся...

Ён падхапіўся: зноў прыкінуліся шырока раззяўленыя сабачыя пашчы. І так кідаўся ўсю ноч.

Зелінская таксама спала неспакойна. Не разумела, што магло здарыцца. З той пары, як Стэфан вярнуўся з вайсковай службы, ён ахвотней за ўсё сядзеў дома, нікуды не хадзіў, акрамя Лесякоў. А ў Лесякоў не бачылі яго з раніцы.

— Затрымаўся дзе-небудзь, можа на вечарынку пайшоў з хлапцамі. Да раніцы вернецца...—ціхім, неўпэўненым голасам угаварваў жонку стары Зелінскі.

Яна намагалася верыць, хоць гэта зусім не здавалася ёй пераканаўчым.

Але і раніцай Стэфан не прышоў. Ніхто нідзе не бачыў яго. У Зелінскай усё валілася з рук.

— Стасік, збегай паглядзі, ці не відаць яго на дарозе...

— Не відаць...

— Зося, папільнуй куранят. Ідзе ляснічы, пабягу спытаюся...

Валер ішоў па вёсцы з дубальтоўкай за плячыма. Зелінская перасекла яму дарогу:

— Пан Валер, ці не бачылі дзе майго Стэфана? З учарашняга дня няма хлапца... Пайшоў з раніцы...

— Калі пайшоў, дык прыдзе. Я не бачыў яго,—суха адказаў ляснічы і азірнуўся на сабаку, які вельмі зацікавіўся гусямі каваліхі.—Рэкс, на месца! Куды сунешся?

Зелінская ўздыхнула і вярнулася дадому. У поўдзень не сцярпела і пабегла да старшыні.

— Няма і няма хлапца! І ніхто не бачыў...

— Не шпілька,—знойдзецца. Дзіцё ён малое, ці што?

У яе задрыжалі губы.

— Для мяне дзіцё...

— Ды ты не плач! Можа ў хлапца свае якія справы завяліся, можа з красуняй дзе бавіцца... Хто гэта бачыў, каб загінуў чалавек? Дзікіх звяроў у нас няма, каб маглі парваць яго. Грабіць таксама няма каму, ды і няма чаго. Шапку, ці што, сцягнуць з яго, або нагавіцы?

Яна пайшла, крыху супакоеная, але пад вечар зноў апанаваў яе страх, паступова ўзмацняўся, ахапіў усю. Рукі дрыжалі, млявая слабасць падымалася з сярэдзіны, у галаве гудзела.

На трэці дзень з раніцы пачула раптам крыкі, што даносіліся з нізу, з боку лугоў, спынілася і схапілася рукамі за сэрца.

— Што з вамі?

— Нічога, Стасік, нічога... Адчыні дзверы.

Як сляпая, хапаючыся рукамі за сцены, выйшла ў сені. Па дарозе беглі людзі, нехта ўголас крычаў. Владэк Лесяк паімчаў вялікімі прыжкамі напралом, па старшынёваму просу ўніз, нібы гэта была дарога, Зелінская падаткнула спадніцу і пабегла па мяжы. Нехта шпарка праімчаў міма. Яна не спыталася ні аб чым. Ужо ведала.

Да сажалак было не больш за кілометр. Яна насілу лавіла вуснамі паветра, натыкалася на кусцікі травы, на камні. Упала на калені і зараз-жа паднялася. Адчувала, што нехта ідзе і ўперадзе і побач з ёю, што людзі крычаць, але не разумела і не бачыла нічога. Молатамі стучала ў віскі кроў.

Дабегла. Ля сажалкі было ўжо чорна ад народа. Усе расступіліся. Яна кінулася міма стаяўшых шпалерам людзей проста да вады.

За грудай ссечанага галля, недалёка ад акацыі, на беразе невялікай завадзі ляжаў на траве голы труп. Зелінская пахіснулася і са стогнам рухнула на зямлю. Адчула рукамі ільдзяны холад мёртвых ног. Як сляпая, абмацала гэтыя ногі—і шырока раскінутыя рукі, і знявечаны твар, і вялікія згусткі крыві ў мокрых, поўных твані, валасах. Ведала, што гэта Стэфан. З самага пачатку—з вечара першага дня—ведала, што здарылася няшчасце. Імгла разышлася, і яна ўбачыла твар сына. Шырока раскрытыя шкляныя вочы, і чорны як чыгун жывот, і сінія пісягі на грудзях, і запёклую кроў на галаве.

— Павярнуў я каня—я ўжо даўно збіраўся забраць гэтае галлё,—гляджу, плыве... Божа літаслівы,—думаю,—цялё ўтапілася... Прыглядзеўся... і ледзь тут-жа на месцы сам не памёр...—расказваў мужык з Лішак.

— Утапіўся ён, ці што?

— Дзе там—утапіўся... Адразу відаць—забіты.

На ўсіх павеяла холадам. Нехта падышоў да воза, узяў посцілку і прыкрыў труп. Зелінская сядзела на траве і мёртвым шкляным позіркам глядзела на сінія, тырчаўшыя з-пад посцілкі пальцы.

— Збегайце па старшыню...

— Ужо ведае. Зараз прыдзе...

— Трэба паведаміць у паліцыю...

— Гэта ўжо справа старшыні...

Старшыня, запыхаўшыся, белы, як палатно, ішоў па лугу. Прыўзняў посцілку і паглядзеў.

— Хто знайшоў?

— Мартын. Па галлё прыехаў...

— Павярнуў я каня,—я даўно ўжо збіраўся забраць гэта галлё,—гляджу плыве...

Старшыня не слухаў.

— Два дні ўжо, мабыць, ляжыць у вадзе...

— Як гэта раней ніхто не ўбачыў...

— А хто сюды ходзіць? Хлапчукі рыбу лавіць, або пакупацца...

— З якога часу не было яго дома?—спытаўся старшыня ў Зелінскай, але яна не чула. Ні яго, ні каго другога. Чула толькі

несціханы жахлівы гуд у галаве, стук велізарных молатаў, якія разламвалі віскі. З тлумачэннямі падаспелі другія:

— Правільна, правільна, да мяне яна таксама прыходзіла ў сераду...

— Акурат у аўторак гэта было... Але што з ім здарылася?

— Не бачыш хіба? Увесь пабіты.

— Галава чорная ад крыві.

— Вось напасць... Малады такі хлапец...—спачувалі бабы.—Што будзе цяпер з гаспадаркай.

— Стары працаваць не можа.

— А рэшта—дзеці. Мал мала меншы.

— Забярыце, бабы, Зелінскую...

— Я ўжо казала ёй... Яна сябе не памятае...

— Знепрытомнела зусім...

Усё больш народа падыходзіла з вёскі. Соты раз расказваў Мартын, як была справа, і соты раз усе слухалі яго, нібы яшчэ не чулі.

— Ды хто-ж гэта зрабіў такое, скажыце на ласку, людзі добрыя?

— Меў хто злосць на яго?

— Наўрад. Хлапец быў спакойны, за дзеўкамі не валачыўся, не п'яніца, не забіяка, да курава не ахвочы...

— Канец свету надыходзіць.

Владэк Лесяк падняў край посцілкі. Пільна паглядзеў на ступні памёршага.

— Паглядзіце, якія ў яго пальцы.

— Рыбы аб'елі, ці што?

— Якія рыбы... Парваныя на шматкі...

— Хто-ж, калі не рыбы?

— Сабакі...—не сваім, дзіўным голасам сказаў Владэк Лесяк.

Усе раптам сціхнулі, ледзяны подых прабег па натоўпу.

— І праўда—сабакі...—пацвердзіў стары Цапля.—Са здаравеннымі зубамі сабакі...

Людзі глядзелі адзін аднаму ў вочы, унікалі сустракацца позіркам. Гэта ўжо быў доказ—і казаў шмат чаго. Быць можа—усё.

— Трэба паведаміць паліцыі.

— Ясек, запрагай, паедзем на пост!—сказаў старшыня.

— А яго занясем у вёску.

— Нельга чапаць пакуль не прыедзе паліцыя. Няхай ляжыць, як ляжаў. Салінскі, папільнуй тут.—Хоць да раніцы, а сядзець трэба. Каб ніхто нічога не чапаў. Усё павінна быць, як было. Ты, Мартын, застанься ў вёсцы. Спатрэбіцца зноў допыт.

— Правільна! Ён-жа знайшоў...

— Кожны бачыў тое, што і я,—пярэчыў Мартын.—Плыве і плыве, якраз такі, як і цяпер ляжыць...

Старшыня ўзлаваў:

— Хто-б не бачыў, а ты першы знайшоў! Усё павінна быць у парадку, табе лягчэй пачакаць тут, чым заўтра пасылаць па цябе ў Лішкі і зноў валачы сюды...

Старшыня пайшоў, і за ім мала-па-малу пачалі разыходзіцца ўсе. Салінскі сеў пад акацыяй.

— Што за ліха,—колькі тут камней!..

— Накідаў нехта...

— Камні таксама не трэба чапаць. Невядома, як была справа.

— Адразу відаць, што так, а не інакш...

— А ты ляпу не разяўляй, калі не ведаеш! Бачыў ты? Нічога не бачыў! Пойдуць чуткі, і яшчэ з табою так зробяць!..—накінулася на мужа тоўстая крамніца.

— Хіба я сказаў што? Бач, нагаварыла! Нічога я не сказаў!

— Не хапала яшчэ, каб ты сказаў. Прыедзе паліцыя—і няхай дазнаецца. Табе што да гэтага!

— А можа, і ёсць што...

Зелінская сядзела, скурчыўшыся, глухая і сляпая да ўсяго, што адбывалася. Несвядома, як аўтамат, хісталася ўзад і ўперад. Людзі прыходзілі і адыходзілі, у жаху шапталіся, спрабавалі падняць посцілку, але Салінскі строга забараняў.

— Не чапай! Старшыня загадаў, каб усё засталося так, як было!

— Ніхто не чапае, чаго ты ўз'ядаешся!

— Старшыня загадаў, не я...

— Вялікая справа—старшыня...

На вёсцы цэлы дзень ішла бударага. Міжвольна ўсе пазіралі ў два бакі: на лясніцтва, што віднелася, як на далоні, белай плямай у гайку за лугамі, і ў другі бок, туды, дзе стаяў Остржэньскі замак.

— Калі няма сведкаў, нікому нічога не будзе...

— А сведкаў і няма. Адкуль узяцца?

— Эх-х, бывалі і сведкі, а зрабілі ім што хоць калі? Як было, так ёсць, і так будзе...

— Ну, заўсёды так не будзе...

— Бадай, яны дужэйшыя за цябе...

— Гэта мы яшчэ паглядзім...

Маленькі Франек Стакоўскі, пачуўшы крыкі, убачыўшы людзей, што беглі да вады, у першую хвіліну адчуў палёгку, а потым новы страх. Сточкавы хлапчукі клікалі яго, каб ішоў з імі паглядзець,—ён не адважыўся. Хадзіў як звар'яцелы, а ўначы зноў мучылі яго страшныя сны. Бацька насілу разбудзіў яго. У хаціне гарэла лямпа.

— Ну, Франек, апрытомнеў ты?

— Апрытомнеў.

— Слухай, таму справа гэта не малая. Адказвай мне, кажы толькі праўду, як на споведзі. Чуеш?

— Чую.

— Ды не чапляйся ты да хлапчука!—уступілася за сына Стакоўская.—Нічога ён не ведае.

— Сціхні! Слухай, Франек... Дзе ты быў у аўторак?

Хлопчык увесь затросся. Моцная бацькаўская рука сціскала яго дрыжачыя пальцы.

— Дзе ты быў?

— У лу-бі-не...

— У якім лубіне?
— Яшаковым.
— Вышэй сажалак?
— Т-т-а-ак...
— Стэфана бачыў?
— Ба-чыў...
У хаціне стала да жудасці ціха. Вікта глядзела на брата ашалелымі вачыма.
— Божа літаслівы! Божа літаслівы!..—цяжка дыхала Стакоўская.
— Хто там быў яшчэ?
Франек маўчаў.
— Аглух ты, ці што? Я пытаюся ў цябе, хто там быў яшчэ?
— Ляснічыя.
— Якія?
— Валер, Совяк і трэці... не наш.
— Што яны рабілі?
— Білі...
— Стэфана?
— Та-ак.
— А ты чаму не сказаў раней?
— Сабакі...
— Божа, божа...—прычытвала Стакоўская.—І панесла цябе на гэтую сажалку... За што пакараў нас бог?
— Прытрымай язык!—сурова абарваў яе Стакоўскі.—Разумееш ты, што значыць, калі ёсць сведка? Усё было-б інакш, калі-б хлопчык сказаў адразу. Але сумленне не давала яму спакою... Ён прызнаўся ў сне.
— Напалохалася дзіцё...
— Чаму ты не клікаў людзей? Абаранілі-б.
— А ты не крычы на яго, яшчэ ў хваробу ўгоніш! З аўторка ледзь жывы ходзіць... Не дзіва, дзіцё яшчэ, а тут гэтакае... Божа, божа, так забіць чалавека...
Стакоўскі спешкава апранаўся, за акном цьмяна світала.
— Уставай, Франек. Пойдзем да старшыні. Сташэк, бяжы на вёску. Няхай збіраецца народ.
— Што ты надумаў. Мікола, Мікола, каб не павярнулася гэта на нас бядою!
— Маўчы! Бяжы лепш па хатах, каб ішоў народ да старшыні.
Рыпнулі дзверы. Зоры танулі ўжо ў пасвятлеўшым небе, цёмна-чырвоная палоска досвітку працягнулася на ўсходзе запёклай крывёй. Загагаталі прачнуўшыся гусі.
Старшыня сам адчыніў ім. Выслухаў.
— Пачакаем паліцыю. Прыедзе сёння раніцай.
— Няма чаго чакаць. Паліцыя паліцыяй, а людзі хай даведаюцца.
— Узбаламуціцца народ.
— Ну, дык што-ж! Не кожны дзень забівае чалавека камнямі графская чэлядзь...
Старшыня дрыжачымі рукамі зашпільваў пояс штаноў. У яго

мутнела ў галаве. Не было сілы пратэставаць, калі Стакоўскі выйшаў уперад і ўдарыў у вісеўшы ля ганка металічны круг. Пачулася гучнае гудзенне, нібы пры пажары. Далёка разышлося па спаўшай вёсцы. Стакоўскі ўдарыў яшчэ раз і яшчэ. Заскрыгіталі дзверныя завесы, пачуліся галасы. Напоўадзетыя, з саломай у растрапаных валасах, спяшаліся людзі да двара старшыні, збіраліся ў кучкі, гутарылі прыглушанымі галасамі: ад Віктьі, ад Стакоўскай панеслася ўжо чутка і ўсе ведалі, што рыхтуецца.

Стакоўскі, трымаючы за руку збялелага ад страху Франека, і старшыня стаялі на ганку, узвышаючыся над натоўпам.

— Людзі добрыя,—загаварыў Стакоўскі і ўсё сціхла.—Людзі добрыя, усе вы ведаеце, што рабілася. Ляснічыя застрэлілі Пашука з Гаеў,—ім нічога не было. Зацкавалі сабакамі Катаіху, і яна скінула,—ім нічога не было. Падстрэлілі Зосю Граніцкую,—ім нічога не было. На іх лягло нямала нашай крыві і нашых слёз,—і нічога ім не было.

— А хто майго ўпёк пад арышт?—выкрыкнула нейкая баба.

— Не яны хіба забілі карову ў Лінаў, хоць не сашчыкнула яна і сцяблінкі з панскага хлеба?

— А хто збіў да поўсмерці баб у лесе, і яны ледзьве прывалакліся да хаты з Цёмных Раўчакоў?

Натоўп ускалыхнуўся, загудзелі галасы, крычалі ўсе разам. Стакоўскі перачакаў крыху і падняў руку:

— Цішэй, народ, слухай да канца, што трэба высказаць!

— Заткніце глоткі, бабы!

— Ці-і-шэй!

— Учора раніцай Мартын знайшоў у вадзе Стэфана Зелінскага. Я пытаюся: утапіўся Зелінскі ў сажалцы, дзе вада глыбінёй у метр ці хаця нават у паўтара?

— Не!—крыкнуў нехта.

— Я пытаюся: разбіта ў яго галава? Чорны жывот як чыгун? Пагрызены зубамі пальцы на нагах? Вада гэтага не зрабіла! І я пытаюся ў вас усіх, людзі добрыя, суседзі: хто кінуў у ваду Стэфана Зелінскага, а перад гэтым размазджэрыў галаву, пакалечыў, зуродаваў, забіў на смерць?

Голас Стакоўскага ўзляцеў высока над дваром і спыніўся ў чаканні. Людзі пераглядваліся. Што адбылося, чаму Стакоўскі адкрыта пытаецца аб тым, аб чым да ўчарашняй раніцы з найвялікшым страхам шапталіся на вёсцы? Чаго хоча Стакоўскі? Каб уголас сказалі тое, што ў кожнага было на языку? Нерашуча глядзелі адзін на другога.

Стакоўскі пацягнуў сына за руку.

— Ідзі сюды, Франек! Раскажы, што і як было. Уся вёска слухае цябе, усе людзі. Няхай бароніць бог ад таго, каб ты схлусіў ці недагаварыў чаго! Не бойся: мы з табою—і я, і старшыня, і ўся вёска.

— У аўторак я ішоў да сажалак лавіць рыбу...—заікаючыся, пачаў Франек.

Усе слухалі моўчкі. Глядзелі канчаткова прабуджанымі ад сна

вачыма на маленькую фігурку. Нейкая баба заплакала. Нехта ўздыхнуў.

— Вось як было. Сведка ёсць, і ўсё ясна як на далоні. Я пытаюся ў вас цяпер, людзі добрыя: што нам рабіць?

Старшыня таропка ўставіў:

— Зараз прыедзе паліцыя з Ржэпак.

Натоўп захваляваўся:

— Няма чаго чакаць паліцыю! Са ўчарашняга дня ведае, пара ўжо прыехаць! Хадзем у лясніцтва!

Загудзелі галасы. І натоўп разам хлынуў са двара на дарогу. Паркан затрашчаў і паваліўся.

— У ляс-ні-цтва!

Старшыня кінуўся ўслед:

— Людзі, што вы робіце? Бяду хочаце наклікаць?

Ён хапаўся за іх дрыжачымі рукамі, загароджваў дарогу, але яго адцерлі, адкінулі, як непатрэбную перашкоду і ішлі па роснай траве ўніз, да лугоў, да сажалак, на другі бок, дзе ў зялёным гайку тулілася нябачнае цяпер у досвітным тумане лясніцтва.

— Вілы захапі, хлопцы...

— Вацэк, збегай па сякеру.

— Вазьмі добрую ламачыну...

— Глянь, Халас качалку цягне...

— Навошта гэта! Голымі рукамі ўсё зробім!

Валілі шчытным натоўпам. Беглі бабы, наўздагон сыпаліся хлапчукі.

— Пакладзем канец іхнаму ўладарству...

— На патопленым Стэфане яно кончыцца...

— Гулялі, гулялі—і дагуляліся...

— Дзе стары Зелінскі? Збегайце па яго!

Праз хвіліну з імі ішоў ужо Зелінскі. Неспакойна азіраўся цераз вялікія сінія акуляры.

— Прапусціце, хлопцы, Зелінскі пойдзе наперадзе ўсіх!

— Так і след, бацька-ж!

Стары пакорна даў выштурхнуць сябе наперад і ішоў, не зусім разумеючы, што адбываецца.

— А адтуль—у графскі маёнтак...

На хвіліну сціхлі, потым загутарылі зноў.

— Правільна! Графскія яны людзі...

— Не сваё аберагаюць...

— Граф плоціць ім...

— За нашу кроў, за забойства нашых дзяцей...

Шмат хто пазіраў у бок, на тропкі да Остржэня. Яны ахвотна кінуліся-б туды адразу, абмінуўшы лясніцтва. Натоўп рос, і гуд рабіўся ўсё больш грозным.

— У маёнтак паспеем, перш трэба пакончыць з чэлядзю...

— Вядомая справа...

— Граф устае позна, але мы яго яшчэ застанем!—пажартаваў нехта, і злавесны смех прабег па натоўпу.

Світала. У досвітным змроку ўзляцеў угору жаўранак. Павіс у вышыні на трапяткіх, раскінутых крыллях і заспяваў звонка, ра-

дасна, заліўчата. Вершаліны лесу пазалаціла ўжо ранішняя зара, ружовым барвянцам ахапіўшы поўнеба. Цяпер выразна выступілі сярод зелені белыя сцены лясніцтва. Забалочаны луг захлюпаў пад нагамі схаванай мелкай вадой. У лясніцтве забрахалі сабакі.

— Моўчкі, хлопцы, ды шпарчэй!

Стары Зелінскі ледзь пераводзіў дыханне, яго схапілі за рукі і павалаклі за сабой. У маўклівасці, вялікімі прыжкамі імчалі па нізкаму асінніку-самасейцы, уварваліся ў бярэзнік і ўміг вынесліся на адкрытую палянку. У лясніцтве было ціха, нібы ўсе вымерлі.

— Бухай у дзверы!

Загрукалі ўдары. Раптам нехта крыкнуў:

— У хляве яны! У хляве.

На другім канцы палянкі, за домам, крыху ўбок, стаяў хлеў— паспелі заўважыць, як хутка замкнуліся яго вароты.

— У хляве схаваліся!

— За імі!

— Хлопцы! Уцякуць у лес другім ходам!

Натоўп умомант абкружыў хлеў. У сярэдзіне завішчалі сабакі.

— Выходзьце!

За дзвярыма было ціха.

— Выходзьце, а то паламаем вароты!

— Страляць будзем!

— Страляйце! Мы не баімся!

— Зелінскі, выходзь наперад!

На міг замарудзілі. Як-бы ні было, але там, за драўлянай загарожай варот, былі дзве заражаныя дубальтоўкі. А можа і тры, калі Грабарчук застаўся ў лясніцтве нанач.

— Разбівай вароты...

— Стойце, мужыкі! Нашто вароты разбіваць? Падпалім і ўсё.

Натоўп радасна загудзеў:

— Вядомая справа—падпалім! У каго ёсць запалкі?

Запалкі знайшліся. Уміг знайшлася і вязка саломы.

— Сунь пад ніз! За варотамі ляжыць сена! Зелінскі, падпальвай!

Стары бездапаможна замахаў рукамі:

— Людзі, што вы робіце? Прыедзе паліцыя, іх аддадуць пад суд...

— Няма чаго чакаць! Падпальвай! Ты—бацька! Тваё права!

— Не аднеквайся, Канстанцін,—падбіваў стары Цапля.—Табе трэба пачынаць.

— Ты—бацька. Толькі пачні, а ўжо мы потым давядзем справу да канца—і тут і там, у Остржэні!

— Чаго ты баішся? Не ганьба гэта, калі-б нават дваццаць год табе ўпаялі!

— Вось дык сказаў: дваццаць год!

— Няхай і так, затое раз і назаўсёды кончыцца ўсё!

— Перадыхне вольна народ!

— Па ўсяму свету пойдуць чуткі, які парадак мы ў сябе наладзілі!

— Людзі добрыя... я... што-ж я... На гэта ёсць суд... Згараць яны... таксама-ж людзі.

— Яны не раздумвалі, калі забівалі камнямі твайго Стэфана! Таксама чалавек быў, а не жывёліна!

— Няма чаго са старым хрычам раздабарваць! Падкладай агонь! Усё адно, хто!

— Ці-шэй! Нешта чуваць...

Сціхнулі. У чыстым паветры сонечнай раніцы далёка разносіўся шум. Гудзела на дарозе. Натоўп на хвіліну забыў аб тых, што сядзелі замкнутыя ў хляве.

— Што гэта?

— Здаецца, аўтамабілі...

— Ды не-ж...

Але ўжо было відаць: па вузкай пясчанай дарозе імчалі да лесу два аўтамабілі.

— Паліцыя!

— Ну, хлопцы, спяшайся, пакуль даедуць!

Натоўп ускалыхнуўся, але ніхто не спяшаўся падпальваць: у аўтамабілях высока зіхацелі на сонцы дулы вінтовак.

Расступіліся, прапускаючы машыны. У другой, побач з камендантам паста, сядзеў старшыня.

— Гляньце! Ён і паведаміў...

— Спалохаўся, нягоднік!

— Трэба было-б прытрымаць яго!

— Хто аб ім думаў у такую мінуту.

— Ра-зый-дзі-ся! Што за зборня?

— Ды вось ляснічыя...—бязладна загаварылі з натоўпу.

— Мы самі разбярэмся з імі!—суха адрэзаў камендант, уважліва аглядаючы мясцовасць.—Гаеўскі, пад'язджай з таго боку! Раньяк застанецца тут. Вызваліць праход для арыштаваных!

Народ шчыльна стаў у круг вакол спыненага аўтамабіля.

— Што-ж гэта такое? Так і дадзім уехаць жывадзёрам?

— Як паны паедуць?

— Выпусцім іх ні з чым?

— Мужыкі, што-ж гэта такое? Калі іх павязуць, граф будзе ведаць, дзе закінуць за іх слоўца! І зноў нічога не выйдзе!

— Не дадзім везці!

— Няхай толькі вывядуць з хлява...

— Паліцэйскія пайшлі па іх...

— Трымайцеся разам, хлопцы! Сюды!

Зарыпелі вароты. Натоўп ускалыхнуўся, але ніхто не выходзіў. Раптам загудзеў матор і аўтамабіль нечакана выскачыў з-за хлява на бакавую дарогу да лесу. Усе ўбачылі сярод сініх мундзіраў паліцэйскіх зялёныя мундзіры ляснічых.

— Хлопцы, паглядзіце што робіцца!

— У другія вароты вывелі!

— Дагнаць іх!

Рынулі напрасцяк па маладых саджанцах, па пнях выкарчаваных дрэваў на лясную дарогу. Шофер другога аўтамабіля скарыстаў замяшанне і пагнаў машыну па выбаінах дарогі ніжэй вёскі. Пыл

хмарай узняўся над пясчанымі каляінамі. Больш напорныя ўсё яшчэ беглі, але ўжо ведалі, што не здагоніш. Вярталіся павольна, распаленыя і злыя.

— Што-ж гэта выйшла?

— Ды нічога. Далі дзёру—і ўсё! Цяпер ужо ніхто ім нічога не зробіць.

— Не трэба было так доўга раздабарваць з Зелінскім, а самім падпальваць!

— Яму належала, ён бацька!

— Шляхціч, сукін сын!

— Калі-б так сялянскае дзіцё забілі, хоць дваццаць год адсядзець—я ўзяў-бы на сябе! А цяпер бацька павінен быў пачаць.

Панурыўшыся, вярталіся ў вёску. Зелінскі—у самым хвасце, з нізка апушчанай галавой. Ішоў павольней за ўсіх, хоць ісці яму было далей за ўсіх—на самы край, ва ўбогі пасёлак з дзесяці—дванаццаці хат, былы шляхецкі гарадок. Тут жылі яны усе—Зелінскія, Козерадскія, Граніцкія, Стакоўскія, у хатах больш убогіх, чым сялянскія, на такіх-жа неўрадлівых моргах, але ўсё-ж гэта была шляхта. Нейкая нябачная, ледзь прыкметная грань аддзяляла іх ад сялян Лесякоў, Мартынаў, Загайчукоў і іншых, тых, што спакон веку былі сялянскімі дзецьмі.

— Са шляхтай заўсёды так...

— Калі-б гэта здарылася з нашым мацькоўскім...

— О, божа літаслівы, тады ўжо да поўдня не было-б ні лясніцтва, ні маёнтка...

— Праўда!

Ішлі, пазіраючы ў бок сажалак, дзе дзяжурыў яшчэ ля цела забітага Салінскі і сядзела, апаўшы як груда брудныхануч, Зелінская.

— Вернуцца яшчэ...

— Напэўна. Ні пратакола не напісалі, ні допыту не знялі.

— І нябожчыку таксама не гожа ляжаць так вось на траве.

— Нясе ад яго, як ад падалі...

— Дзіва што нясе... Столькі дзён прайшло, а тут спякота стаіць.

Камісія, сапраўды, прыехала. У хляве старшыні доктар аглядаў і рэзаў нябожчыка.

— Кажуць, нібы для гэтага следства нябожчыка ашпарваюць варам, як кабана...

— Вось дурная галава! Рэжа доктар—і ўсё.

— І ўбачыць, як была справа...

— Зверху, бадай, таксама відаць: галава расшчэплена, жывот увесь пабіты...

— Трэба, як след даведацца, што ў яго пашкоджана ў сярэдзіне, а што не...

— У ляснічых пакапацца-б так у чэраве...

— Пападзіся яны нам, мы-б ім хутка кішкі перабралі...

— Языком мяньціць вы ўмееце, а калі ляснічыя былі ў нашых руках, мы далі павезці іх з-пад носу...

— Хто-ж ведаў, што старшыня паскакаў па паліцыю...

— Яшчэ з вечара ён казаў, што паліцыя прыедзе раніцай.

— Казаць, то казаў...

Ніхто ў гэты дзень не пайшоў у поле. Да позняй ночы гамаміла вёска.

Толькі ў Зелінскіх было ціха. Зелінскую прывялі да дому зараз-жа, як забралі труп з берага. Доктар не дазволіў ёй застацца пры ўскрыцці.

— Будзе бацька—і досыць. А вы ідзіце дахаты,—сказаў ласкава і даў ёй нейкі парашок.

Яна паслухмяна праглынула, запіла вадой і пабрыла дахаты. Доўга сядзела на лаўцы, шкляным позіркам гледзячы перад сабой. Ачнулася толькі, калі вярнуўся стары.

— Ну, што?

— Усё тое-ж... Галава расшчэплена і ў сярэдзіне ўсё парвана... У ваду кінулі пасля смерці, кажа доктар... Як і казаў Франек...

Яна сціснула вузкія, бледныя губы.

— Хадзіце сюды, дзеці!

Дзеці сабраліся ў кучку. Іх было пяцёра.

— Ведаеце, што графскія ляснічыя забілі вашага брата... Камнямі забілі, пасля смерці кінулі ў сажалку, ён ніколі больш не прыдзе дадому...

Дзесяцігадовая Элюся заплакала.

— Так, так, ён ніколі больш не прыдзе сюды, ніколі не паедзе на вазку, не пабяжыць па ваду, не выйдзе ў поле з плугам! Стась!

Хлопчык падняў на маці ясныя, блакітныя вочы:

— Што, мама?

— Колькі табе год?

— Трынаццаць, самі ведаеце...

— Трынаццаць, божа літаслівы, трынаццаць...

Яна паднялася з лаўкі і ўзяла хлопчыка за руку:

— Цяпер ты тут гаспадар, Стась! Цяпер ты будзеш араць і сеяць, ездзіць у лес па дровы, пасвіць каня: цяпер усё пала на тваю галаву... Божа літаслівы!

— Годзе, Казя, кінь...

— Што мне кідаць? Што мне кідаць? Няпраўду я кажу? Хто будзе гаспадарыць? Ты можа? Бачаць што-небудзь твае вочы? Ёсць у цябе сіла ў руках? Не баліць у цябе вантроба, калі падымеш кубак з вадою? А я на што варта? Высахла, як трэска, кожная жылка ва мне дрыжыць, хіба я магу працаваць? Быў, быў у нас гаспадар дарагі, хлопчык мой мілы, і яго забілі, забілі, забілі! І за што, божа, за што? За якія грахі? Не быў ён хіба ласкавы, паслухмяны, не любіў работы? Божухна! Што цяпер рабіць з гэтымі дзецьмі? Загінем мы, жабракамі станем, старцаваць пойдзем...

Яна кінулася на лаўку і плакала гучна, наўзрыд. У рыданнях торгаліся худыя лапаткі, курчылася высахлае цела. Стары падышоў і нерашуча гладзіў яе па плечах, прыкрытых вылінялым, парыжэлым шалем:

— Годзе, Казя, годзе...

— О, божухна, для таго я насіла яго пад сэрцам, для таго нарадзіла, для таго выгадавала, каб забілі яго камнямі, як шалёнага сабаку... Каб швырнулі ў ваду, як дохлае кацянё... О, няхай цяжка

пакарае іх бог, няхай навекі пашле іх у пекла, няхай камня на камні не застанецца ад усяго іх дабра...

— Годзе, Казя, годзе... Яны сядзяць ужо за кратамі, іх прысудзяць да таго, што яны заслужылі...

Яна ўскочыла з распаленым, распухлым ад слёз тварам, з раскудлачанымі валасамі:

— Да чаго іх прысудзяць? Да чаго? Устане Стэфан з труны, калі іх пасадзяць у турму? І ў іх хіба справа? Там, там, на ўзгорку наша пагібель, наша нядоля, зараза ўсёй вёскі, кат і забойца майго сына! А хіба яму робяць што?

Стары з жахам азірнуўся на дзверы.

— Цішэй, Казя... Замаўчы... Ад гора ў цябе розум замуціла. Яшчэ пачуе хто...

— І няхай чуе, няхай ведае! Няхай усё выгарыць у яго на полі, няхай загіне ўся яго жывёла, няхай згноіць яго зараза, няхай бог пакарае яго на тым, што для яго даражэй за ўсё, за маю крыўду, за маё гора, за маё дзіцё, маё дзіцё, дзі-цятка...

Элюся расплакалася на ўвесь голас, хлопчыкі таксама. Адзін Стась стаяў моўчкі, гледзячы на маці акруглымі блакітнымі вачыма.

— Казя...

— А ты які мужчына, які бацька? Толькі і ведаеш: цішэй ды цішэй... Даўно пара табе быць не тут, а там! Чуеш?

— Дзе?

— Там, у палацы! Ты павінен проста сказаць яму, што і як! Кінуць яму ў вочы нашу крыўду!

Ён паціху выслізнуў з хаціны і пабрыў па дарозе.

Людзі праходзілі міма яго, глядзелі з цікаўнасцю.

— Калі хаваць будзеш?

— Мабыць, заўтра. Трэба ісці да ксяндза.

— А ты не быў яшчэ?

— Не... Калі-ж? Салінскі яшчэ не зрабіў труны.

— Божа літасьлівы, божа літасьлівы!..—уздыхалі бабы, гледзячы, як ішоў ён, згорблены, няпэўна ставячы ногі ў прыдарожны пясок.

— Папрасіў-бы ты, каб падвёз хто... Не дабярэшся ў такую спякоту.

— Можа і падвязе... Можа і падвязе...—мямліў стары, намагаючыся разглядзець субяседніка цераз сінія акуляры.

Нарэшце, крамнік Скуржак пашкадаваў яго:

— Я даўно збіраюся да зяця па кабана... Паеду сёння. Хадзем, запрагу каня.

— Барані цябе бог... Цяжка мне хадзіць, а цяпер і зусім не пад сілу...

— Вядома. Хутка зробім справу!

Здалёк залацілася над Остржэнем званіца касцёла. Стары не глядзеў у бок палаца. Жалезны яго дах зіхацеў за высокай каменнай сцяною, якой граф агарадзіў сваю сядзібу некалькі год назад. З вуглавых вежаў глядзелі вузкія байніцы; моцныя краты, умураваныя ў цэглу, ахоўвалі праходы, пакінутыя сям-там у сцяне. Над сцяною клубілася зеляніна дрэваў.

Арганіст, кульгаючы, пабег у дом ксяндза, і той не прымусіў сябе доўга чакаць. Спешкава затрусіў міма клумб з агніста пылаўшымі настурцыямі.

— Зелінскі, кажаш... Бацька?

— Так.

— Брыдкая гісторыя, брыдкая. Ну, як ён, па-твойму?

— Наконт чаго, бацюшка?

— Гм, гм... Ну, скажам, які з сябе?

— Ды нічога... Зусім стары, амаль што сляпы.

— Ведаю, ведаю—нецярпліва перапыніў ксёндз.—Гаварыў ён што?

— Як быццам нічога не гаварыў.

— Нічога? Гэта добра, добра... Спадзяюся, ты правёў яго ў рызніцу?

— Не здагадаўся...—схамянуўся арганіст.—Ён чакае ля касцёла.

— Заўсёды ты быў дурнем, такім і застаўся, разумееш? У рызніцу трэба было прывесці, у рызніцу!

Ён замаўчаў, бо ўбачыў у гэту хвіліну мужыка, які стаяў у ценю вялікіх ліп. Адкашляўся, шырока раскінуў рукі і заспяшаўся яму насустрач:

— Сын мой, цяжка пакараў цябе бог, цяжка!

— Стэфана майго, Стэфана...—мармытаў стары, схіляючыся да ног ксяндза.

Той клапатліва падняў яго:

— Ведаю, усё ведаю, дзіцё маё, і смуткую аб тваім горы... Але каго палюбіць бог, на таго накладае крыж... Бог пасылае нам выпрабаванні, бог і суцяшае нас... Ён—літасцівец наш і абаронец. Хадзем разам памолімся, пакладзем на алтар госпада-бога твой смутак.

У касцёле было пуста і змрочна, шматколернымі плямамі клаліся водсветы распісных шыб на каменную падлогу. Зелінскі бязвольна ішоў па доўгай чырвонай дарожцы, яго цягнуў моцнай рукой ксёндз.

— Тут, перад маткай божай смуткуючай, сям'ю мечамі пранзеннай, схілім калены, дзіця маё. Яна таксама страціла сына, які разам з тым і быў сынам божым. У цяжкіх муках ён памёр на крыжы, і маці вымушана была глядзець на гэта сваімі вачыма. Яна прысвяціла госпаду-богу свой смутак, пакарылася яго волі і цяпер бароніць нас перад богам... Даверся ёй, адкрыйся ёй, яна суцешыць цябе, падтрымае цябе, прыме ў святыя свае рукі твой боль...

Ксёндз расхваляваўся і захлюпаў вялікім носам. З-пад сініх акуляраў Зелінскага нястрымным струменем паліліся слёзы.

— Плач, сын мой, плач і маліся суцяшальніцы смуткуючых, заступніцы нашай, маццеры нашай...

За вокнамі шарасцелі ліпы. Ксёндз гучным шопатам чытаў малітву. Зелінскі хрысціўся і біў сябе ў грудзі.

— А цяпер пойдзем пагаворым аб пахаванні.

Прышлося доўга ўпрашаць Зелінскага, каб ён адважыўся сесці. Ксёндз запісваў нешта ў тоўстую кнігу.

— Пахаванне, так, і паніхіда... Паніхіду адслужу ў нядзелю.
Зелінскі неспакойна намацаў на грудзях мяшочак з грашыма. Ксёндз зразумеў гэты жэст і пратэстуюча падняў рукі:
— Не, не! Ні граша. Ні грошыка не вазьму! І не гавары!
Як ад назольнай мухі, адмахваўся ад падзякі:
— Не—і ўсё тут! І не дзякуй, сын мой, не дзякуй! Пакарыся волі божай, думай пра бога... Даручы сябе святой багародзіцы. Я не забуду пра цябе, памалюся і я, каб знайшоў ты ўцеху ў горы сваім...
Зелінскі выйшаў з рызніцы ў сонечнае ззянне дня, зусім асляплены спагаднасцю, ашаломлены незвычайнай ласкавасцю ксяндза. Крамнік ужо чакаў яго на возе:
— Ну, я гатоў. А ты доўга нешта прасядзеў.
— Сказаў, не возьме нічога.
— Гэта-ж як?—не зразумеў Скуржак.
— Ні грошыка, сказаў, ні за пахаванне, ні за паніхіду...
Скуржак сцёбнуў каня. Колькі часу ехалі моўчкі.
— Ведаеш, што я скажу табе, Зелінскі?
— Што?
— Граф павінен поўнасцю ўзяць на сябе ўтрыманне касцёла і ксяндза.
— Не зразумела мне нешта...
— Так, каб ні ад урада не ішлі на гэта грошы, ні вясковыя не плацілі.
— Чаму-ж гэта?
— Таму...
Яны не зразумелі адзін другога. Конь бег рыссю, ведаючы, што вяртаюцца дадому, што яго чакае кармушка і стайня. Кабан час-ад-часу рохкаў у мяшку.
У той-жа дзень па вёсках ужо ведалі, калі будуць хаваць Зелінскага. Не толькі ў Мацькове і ў Остржэні, але і ў Гаях, у Бржэгах, у Калінах—усюды. Ва ўсіх вёсках, над якімі ўзвышаўся Остржэнь, ва ўсіх вёсках, з якімі межавалі землі, сажалкі і лясы графа Остржэньскага.
— Вось народу прываліць... багата...
— Як на багамолле...
— Больш, чым на багамолле...
— Чаго добрага, не змесцяць усіх могілкі...
— А можа і змесцяць...
— Бадай, пахаванне Зелінскага будзе пышнейшым, чым пахаванне маладога графа...
— Глупства гаворыш! Таго ў срэбранай труне хавалі, а агнёў колькі гарэла...
— Агню загарэцца не цяжка...—з нявінным выглядам уставіў Скуржак.
— Ні да чаго балабоніш...
— Можа ні да чаго, а можа—і да чаго. Хто ведае, што можа здарыцца там, куды збярэцца столькі народу.
— А збярэцца нямала...

— Дзіва што...

Збіраліся людзі на пахаванне Зелінскага ва ўсіх вёсках. Збіраліся да позняй ночы і ў Калінах, мазалі калёсы, склікаліся хлапчукі, здавалася—не застанецца на вёсцы ні душы.

Але ў наступны дзень на дарогах, што вялі да Остржэня, сталі паліцэйскія ў сініх мундзірах і загадвалі ўсім павяртаць назад.

*(Канец у наступным нумары.)*

*Алесь Стаховіч*

# СЯМ'Я САМУІЛА

*(Апавяданне)*

У гэты дзень Гдалік прышоў з школы раней звычайнага.

З яго старэнькага пінжачка, над якім яшчэ толькі ўчора бацька карпеў да поўначы, латаючы прадзіраўленыя рукаўчыкі,—сёння тырчэлі клочча жаўтлявай ваты, з плячэй звісалі чорныя шматкі, а на худых шчаках рэзка выдзяляліся багровыя крывяпадцёкі...

Маленькая Міра, з каштанавымі, кучаравымі валасамі, спалохана зірнула на ўвайшоўшага Гдаліка і вочы яе зрабіліся круглымі, нібы арэшыкі, а раскрыты роцік стаў падобны на літару «о».

— Што з табой, Гдалік?—здзіўлена запытала дзяўчынка і, падышоўшы да брата, пачала накручваць на пальчык адарваны гузік, які вісеў у Гдаліка на кавалку ваты...

Губы Гдаліка пачалі нервова дзёргацца, крывіцца, а з пачырванеўшых вачэй, на Мірыну руку пасыпаліся буйныя нявыплаканыя слёзы. Маленькае, пакрыўджанае сэрца хлопчыка нястрымна шчаміла, білася ў грудзёх, нібы яму там было цесна і яно ўсёроўна, як тая птушка, запёртая ў клетцы,—імкліва вырывалася на волю.

— Не плач, Гдалік! Я татку скажу!..—суцяшала Міра хлопчыка, пяшчотна пагладжваючы яго падрапаную руку.

Бацькі не было дома. Ужо каторы тыдзень ён дарэмна блукаў па шумных вуліцах Берліна ў бясплодных пошуках работы. Змучаны няўдачаю ён позна вяртаўся дадому і старанна дзяліў прынесеную лусту хлеба на роўныя кавалкі і гаварыў дзецям:

— Гэта на вячэру, а гэта на заўтра...

Дзеці садзіліся за стол, Міра расстаўляла чашкі, а Гдалік з выглядам гаспадара прыносіў з кухні стары, увагнуты з аднаго боку кіпяшчы чайнік.

Гэтыя мінуты здаваліся дзецям самымі светлымі і радаснымі ў нудным і шэрым жыцці сям'і Самуіла.

Адно толькі месца за сталом было нікім не занята. Гэта было старое абшарпанае крэсла, на якім заўсёды любіла сядзець пакойная Гдалікава маці. Зараз на гэтым крэсле сядзеў карнавухі шэранькі коцік, якога Самуіл аднойчы ў марозную ноч, вяртаючыся да дому, зусім замярзаючага падабраў на вуліцы.

— Давай, Гдалік, вып'ем чаю,—думаючы гэтым супакоіць Гдаліка, прапанавала Міра.—У нас яшчэ ёсць кавалачак хлеба, а тым часам і татка прыдзе...

Ад самага ранку ў Гдаліка яшчэ нічога не было ў роце, але зараз яму было не да яды. Ён глянуў на стол, дзе ляжаў кавала-

чак чорнага хлеба і, выціраючы рукавом непаслухмяныя слёзы, усхліпваючы, адказаў:

— Я не хачу, Міра, выпі сама...

Гдалік сеў ля стала, заплюшчыў вочы і, абхапіўшы рукамі галаву, пачаў успамінаць пра тое, што здарылася сёння ў школе...

У яго вачах яшчэ мітусіліся азвярэлыя грамілы, якія з стальнымі пруццямі ў руках уварваліся ў школу і пачалі збіваць яўрэйскіх дзяцей. У вушах стаялі прарэзлівыя жудасныя крыкі збіваемых вучняў...

— Уцякай, Гдалік!—крыкнуў хтосьці з хлапчукоў—і Гдалік кінуўся да выхаду. Ля самых дзвярэй, трымаючыся за бок, ляжала і плакала дзяўчынка. Гдалік хацеў дапамагчы ёй устаць з падлогі, але раптам з суседняга пакоя наляцелі пагромшчыкі і нешта гарачае, нібы калёнае жалеза ўпілося ў твар Гдаліка...

* * *

Самуілу Клейнеру яшчэ трэба было зайсці да свайго знаёмага праведаць, ці не знайшоў той сабе якую-небудзь работу і ці не параіў-бы ён Самуілу хоць невялічкі заработак. Але ў яго кішэні ляжаў дзесятак падмёрзшых бульбін і ён спяшаўся дадому, каб хутчэй зварыць дзецям вячэру. Думка пра тое, што заўтра раніцой Гдаліку трэба ісці ў школу, а сёння ён ляжа спаць галодным—непакоіла Самуіла і ён прыбавіў шагу.

Маленькай Міры было толькі пяць гадкоў і адзіная надзея ў Самуіла была на сына. Ён лічыў, што калі Гдалік падрасце і стане адукаваным чалавекам, дык і Самуілу на старасці год будзе нейкае палягчэнне.

Гдалік быў вельмі здольны хлопчык і сваёй таленавітасцю хутка вызначыўся сярод сваіх таварышоў.

Нават настаўнік захапляўся здольнасцямі Гдаліка і аднойчы сказаў у класе:

— Гэты хлопчык будзе выдатным матэматыкам.

Гдалік у момант рашаў самыя складаныя задачы. Пакуль таварышы яшчэ толькі збіраліся думаць над задачай, ён паднімаў руку і заяўляў:

— Гатова, рашыў!

Вучні паважалі Гдаліка і ў часы перапынку заўсёды звярталіся да яго:

— Гдалік, дапамажы нам!

Гдалік садзіўся ля значна большых па ўзросту хлапчукоў і нібы настаўнік растлумачваў ход рашэння задачы.

Самуіл увесь час намагаўся хутчэй рушыць свае непаслухмяныя ад стомы ногі, але яны не слухаліся яго, нібы падэшвы яго камашаў прыліпалі да абмёрзлага тратуару.

Самуіл пераступіў парог свайго пакоя, глянуў на сядзеўшага ля стала Гдаліка і яго запалыя вочы нібы застылі пад заінеўшымі расніцамі.

— Што з табой?—ціха сарвалася з яго збялелых губ.

Сабраўшыся з сіламі, Самуіл падышоў да сына.

— Хто цябе так?..

Худыя плечыкі Гдаліка пачалі ўздрыгваць і, з плачам кінуўшыся да бацькі, прарывістым ад хвалявання голасам ён пачаў расказваць пра тое жудаснае, што адбылося сёння ў школе...

— Да нас у школу ўварваліся гітлераўцы,—сказаў хлопчык,—яны набілі і выгналі мяне...

— Ух, гады!—вырвалася з грудзей Самуіла.

Ён прытуліў да сябе хлопчыка, пяшчотна гладзіў яго густыя, зблытаныя валасы, нібы хацеў гэтай ласкай змякчыць крыўду свайго сына.

Міра з коцікам на каленях панурая сядзела на крэсле, з крана капала, булькала ў ракавіне вада, а за акном сумна гудзелі правады...

* * *

Ноч, чорная, як крумкачовыя крыллі, павісла над Берлінам.

Снежаньская сцюжа свістала, выла на вуліцы і нібы шротам секла па вокнах.

У пакоі Самуіла Клейнера было ціха.

Скруціўшыся ў камячок, спала Міра. Побач на ложку раскінуўшыся ляжаў Гдалік. Ля яго—бацька. Ён то апускаў невялічкую хустачку ў талерку з вадой, то прыкладваў яе да пылаючага твару Гдаліка і нешта ціха гаварыў...

— Татка, кладзіся ўжо спаць,—паварачваючыся на бок, сказаў Гдалік,—мне лепей стала...

Самуіл яшчэ крыху пасядзеў ля сына, паправіў павязку, і дачакаўшыся, пакуль Гдалік заснуў,—прыкрыў яму коўдраю плечы і лёг у пасцель.

У куце пад ложкам чулася настойлівае шкрабаценне мышы. Самуіл нацягнуў на галаву коўдру, каб не чуць гэтага нуднага шкробату.

Але не паспеў Самуіл заснуць, як нешта раптам грымнула ў дзверы. З акон пасыпалася шкло. Здавалася, што ўвесь будынак дрыжыць, трасецца ў нейкай незразумелай ліхаманцы...

— Вон адсюль!—грамыхаючы прыкладамі, закрычалі ўскочыўшыя ў пакой пагромшчыкі...

— Тата!—пачуўся спалоханы голас Міры, якая апынулася пад перавернутым ложкам...

— Змоўкні, шчанё!—ударыўшы ботам Міру, прыгразіў фашыст.

— Не чапайце, не чапайце яе!..—заступіўся Гдалік.

— А ты яшчэ чаго тут?!—ашчэрыўся азвярэўшы граміла і злосна штурхануў хлопчыка.

Падаючы, Гдалік моцна ўдарыўся тварам аб стол і з яго носа хлынула кроў.

Самуіл глянуў на акрываўленага Гдаліка, схапіў крэсла і, размахнуўшыся, ляснуў па галаве танклявага пагромшчыка і той, кракнуўшы, пачаў марудна асядаць на падлогу.

Нібы зграя раз'юшаных шакалаў кінуліся фашысты на Самуіла.

Адбіваючыся, Самуіл учапіўся аднаму за горла, але халодны

штых упіўся ў яго жывот. З ціхім стогнам Самуіл апусціўся на падлогу.

Спалоханыя дзеці, прытуліўшыся адзін да другога, з шырока раскрытымі вачамі стаялі ў кутку пакоя і, трасучыся ад жаху, глядзелі на паміраючага бацьку.

— Міра... Дзеці... Дзе вы?—пачулася са збялелых вуснаў Самуіла.

Гдалік і Міра падскочылі да бацькі, і, заліваючыся слязьмі, пачалі цалаваць халадзеючы твар, вочы, якія ўжо не бачылі дзіцячых галовак, схіліўшыхся над ім.

— Прэч адгэтуль, шчанкі!—груба схапіўшы дзяцей за плечы, крыкнуў каржакаваты пагромшчык і вышвырнуў абодвых за дзверы.

— Пусціце, пусціце...—прасіліся дзеці,—мы больш не ўбачым таткі, пусціце!..

— Прэч, юдэ!—вымаючы з кабуры рэвальвер, прыгразіў фашыст, а то зараз!..

Гдалік і Міра засталіся на вуліцы.

Раптам з разбітага акна к нагам Гдаліка ўпаў яго старэнькі пінжак і Мірына хустачка.

— Бярыце свае лахманы і змывайцеся адгэтуль!—пачуўся з пакоя ахрыплы ад крыку голас.

Гдалік надзеў пінжак Міры на плечыкі і, узяўшыся за рукі, яны пайшлі па бясконца доўгай, заснежанай вуліцы Берліна. Снег пёк босыя ногі дзяцей, біў па іх тварах, лез у вочы...

Міра плакала. Сеўшы ля ліхтара, яна адмовілася ісці далей.

— Гдалік, мілы, я не магу больш! Снег так балюча кусаецца...

— Не плач, Міра, нам толькі мінуць гэтую вуліцу, а там на ўскраіне бацькаў знаёмы, я ведаю яго, мы папросімся, ён пусціць нас...

Гдалік узяў Міру на рукі і, прайшоўшы некалькі крокаў, адчуў, як апошнія сілы пакідаюць яго маленькае змучанае цельца.

Прытуліўшыся да гдалікавых грудзей, Міра пачала засынаць.

— Міра, Міра, не спі, зараз прыдзем... Чуеш?—тармашыў Гдалік замярзаючую дзяўчынку.

Але Міра маўчала...

Адзервянеўшыя ногі Гдаліка падкасіліся і ён цяжка апусціўся на тратуар.

Гдалік паспрабаваў разняць свае рукі, у абдымках якіх была Міра, але рукі ўжо не слухаліся яго.

———

*В. Мірановіч*

# ТРЫ НАВЕЛЫ

## Ноч на Палессі

Пасля кароткай нарады ў райкоме партыі я асядлаў каня і выехаў у калгас. Цёмны змрок толькі пачынаў апускацца і закрываць сабою тонкую плёнку снегу, пабагравеўшага ад надзьмутага ветрамі пяску. Хоць снег і не закрываў зямлі, але сэрцы калгаснікаў і ад гэтага цешыліся, бо можна было ў санях вазіць лесаматэрыял і сена, якое знаходзілася далёка за Прыпяццю.

Я ехаў не спяшаючыся, нават стрымліваў каня—калгас быў недалёка.

Вось ужо зусім цёмна. Толькі нястрымная, крыху жаласлівая песня правадоў тэлефона дае мне напрамак. Нейк нечакана перада мной вырастае нешта вялізнае і неабдымнае. Я напрагаюся распазнаць, што гэта, але цёмны вечар скрадвае ўсё і толькі скупа пасылае кволы пучок святла. «Значыцца тут нейкае паселішча»,—думаю я, і паварачваю каня ўправа. З цемры выраслі будынкі. Нарэшце, я выехаў на вуліцу. Відаць, вялікая вёска, а людзей—ні душы. Вось зноў бліснуў аганёк, я адразу пакіраваў туды і праз некалькі хвілін быў у прасторнай, крыху накуранай канцылярыі калгаса.

Малады хлапец адарваўся ад свайго пісання, заклапочана паглядзеў на мяне і зноў нагнуўся над сталом.

— Хутка старшыня калгаса прыдзе?

— Яна вось тут у сваім пакоі,—не падымаючы галавы адказаў мне рахункавод. Я пастукаў у дзверы і з глыбіні памяшкання пачуў мяккі голас.

— Заходзьце!

У невялікім пакоі за сталом сядзела жанчына. З-пад цёмных расніц роўна глядзелі блакітныя вочы. Твар пры святле здаваўся празрыста белым. З хвіліну я стаяў у нейкай нерашучасці, пакуль яна першая не загаварыла. Мы проста пазнаёміліся і я спытаў пра справу:

— А як з лесавывазкай?

Яна падняла галаву, папрапавіла рукой апаўшыя на твар пасмы валасоў і з сур'ёзнасцю адказала:

— Каб усё было добра, дык і вы не прыехалі-б сюды.

— У такім разе патрэбна склікаць сход.

— Схода сёння збіраць не будзем.

— Чаму?—са здзіўленнем спытаў я.

— Так...

— Значыцца ў вас прарыў і вы пра гэта хочаце маўчаць? Добра...

— Справа не ў сходзе.

Усё гэта мяне вывела з цярплівасці і тады я больш афіцыйным тонам спытаў:

— Дзяржаўныя абавязкі вы павінны выконваць, ці не?

— Гэта зразумела,—крыху задумлівым, спакойным голасам адказала яна.—Калі вы так настойваеце, дык сход зробім заўтра раніцай.

— Людзей з работы сарваць,—гарачыўся я.—Гэтага нельга рабіць.

Але ніякая мая настойлівасць не дзейнічала. Голас яе быў спакойны і мяккі, але разам з тым хаваў у сабе нейкую цвёрдую стальную волю.

Мы шмат яшчэ гаварылі і нарэшце я ўпэўніўся, што якія-б я ні прыкладаў намаганні, а сходу сабраць не ўдасца, бо вакол ні душы і ні ў адной хаце не было агню. Сам-жа не пойдзеш загадваць.

— Пойдзем павячэраем,—сказала Наста—так звалі старшыню калгаса.

Муж яе, здаровы малады мужчына з невялікімі бойкімі карымі вачыма, быў вясёлы і гаваркі. Ён шмат жартаваў, усміхаючыся свежай добрадушнай усмешкай. Ад яго несакрушымай сілы і ўнутранай цеплыні мне рабілася лепш, нават я забыўся аб нядаўняй прыкрасці, якую меў праз яго жонку.

З вечара я доўга не спаў, перабіраючы ў думках сёнешнія здарэнні. Аднак, сон перамог мае жыццёвыя клопаты. Я не памятаю колькі я праспаў, але прачнуўся ад ціхіх крокаў чалавека, які ступэў, як мне здавалася, босымі нагамі па падлозе. Цёмны сілуэт постаці прайшоў каля мяне і накіраваўся да акна. Адхінуўшы занавеску, ён доўга і пільна ўглядаўся ў акно, потым вярнуўся і ўсё зноў зрабілася ціха. Напэўна не прайшло і гадзіны, як зноў нейкая постаць прайшла каля мяне. Тут ужо я не вытрымаў і спытаў:

— Хто тут?

— А вы спіце, не зважайце,—пачуў я ўчарашні мяккі голас і ён расплыўся ў змроку разам з постаццю жанчыны.

Мне зноў прыпомнілася ўсё ўчарашняе. Я не ведаў, што гэта адбываецца тут. Падобныя прыгоды могуць быць хіба ў казках, а тут-жа, здаецца, усё зусім проста.

Але, якое-б ні было чалавечае становішча, а сон бярэ сваё: я зноў заснуў. Калі, нарэшце, прачнуўся, у хаце нікога не было. Толькі ранішні змрок зеленаватай дымкай вісеў у прасторным і чыстым пакоі. Праз некалькі хвілін з двара ўвайшла ў хату Наста. Яна ўсміхнулася бязвіннай, падобнай на дзіцячую, жартаўлівай усмешкай.

— Праспалі вы ўсё... Сход быў сабраны, усе чакалі і разышліся. Мабыць прыемны сон бачылі?

«Якая асаблівасць гэтых жанчын. І ў самы адказны момант яны гатовы жартаваць, весяліцца»,—думаў я.

— Жарты жартамі, а як са зборам на сход?—сур'ёзна спытаў я.

— Зусім не жартую, кажу, што ўсе разышліся.

— Дык чаму-ж вы не разбудзілі мяне?—з горкай крыўдай на свой сон, спытаў я ў Насты.

— Шкада было.

— Ну, досыць жартаваць.

— Вы вельмі смачна спалі.

— Слухайце, таварыш Наста, калі вы яшчэ добра не зразумелі вынікаў такой справы, дык я магу напомніць іх вам.

— Сход збярэм вечарам...

— А дзе цяпер людзі?

— Раз'ехаліся.

— Дык што мне, месяц сядзець у вас, чакаючы схода?

— А мы з вамі пойдзем аглядаць гаспадарку, дзень і праляціць непрыкметна. А можа вы знойдзеце ў нас недахопы і паможаце направіць іх...

«Дзіўная жанчына»—ціха прашаптаў я і, паснедаўшы, пайшоў з Настай аглядаць фермы, дзіцячыя яслі, клуб. Усе мае супярэчанні і прыкрасці былі адразу падначалены гэтаму спакойнаму голасу жанчыны, якая валодала нейкай сілай, што прымушала падпарадкавацца, як мне здавалася, яе капрызам.

Схода так і не склікалі. Вечарам я паехаў дамоў. Перад гэтым мне Наста адкрыла ўсю «тайну». Учора ўсе калгаснікі ляглі рана спаць. Ноччу яна ўставала некалькі разоў паглядзець—можа падкінула крыху снегу, каб у лес выехаць у санях. Яно так і вышла, з вечара было хмарна і снег за ноч тоўстым слоем пакрыў мёрзлую зямлю. Калгаснікі ў лес выехалі рана. За дзень яны ў шмат разоў перавыканалі нормы вывазкі. Выкананне плана падыходзіла к канцу.

Едучы назад, я чамусьці адчуваў вясну. Ці гэта ад блакітных вачэй Насты, ці ад цудоўнай палескай ночы?

---

## Нечаканы ўрок

Старшыні калгаса Вярбіцкаму пазванілі.

— Я слухаю. Што? У сельсовет? Па якой справе? Нельга гаварыць?..

Вярбіцкі павесіў тэлефонную трубку і вышаў з канцылярыі калгаса. На дварэ пачынала ўжо змяркацца. На небасхіле стаялі два велізарныя чырвоныя слупы—прызнак пагоды і марозу. З хаты насупроць канцылярыі калгаса вышаў невялікі хлопчык.

— Збегай хуценька, Васілёк, на канюшню. Няхай мне запрагуць каня. Скажы—у сельсовет паеду.

— А якога запрэгчы—«Мішку» ці «Пятушка»?

— Які хутчэй бяжыць.

Ужо далёка адбегшыся, Васілёк аглянуўся і крыкнуў:

— Я скажу, каб «Бягунца» запрэглі!

Але Вярбіцкі не чуў хлапчука. У яго думкі падкралася нейкае незразумелае хваляванне. Яно павялічвалася напэўна і тым, што малады старшыня яшчэ не звыкся добра з калгаснай работай,—ён не так даўно прыехаў у калгас з завода.

Абарваўшы свае думкі, Вярбіцкі вярнуўся ў канцылярыю. Ён браў са шкафа нейкія паперы. Чуваць было як на двор уз'ехала падвода. Вярбіцкі вышаў і сеў у сані. Хваляванне яго патроху пачало раставаць.

Выбегшы з калгаснай вуліцы, конь паскорыў сваю рысь. І ў рытм гэтага бегу ў маладога старшыні птушыным узлётам ткуцца думкі і мары.

... «Трэба скончыць будаўніцтва электрастанцыі. Настане вясна—пачнем праводзіць новыя дарогі і абсажваць іх пладовымі дрэвамі. Толькі шкада, што яны яшчэ не будуць цвісці, засыпаць дарогу снегам белых лепясткоў... Каля клуба прыдзецца разбіць палісаднік, засадзіць клумбы кветак. У кожнай хаце загарыцца святло і загаворыць радыё... Шчаслівыя людзі ўсё гэта зробяць сваімі рукамі. Людское шчасце расцвіце на сагрэтай сонцам калгаснай зямлі»...

Белая марозная ноч. Празрыста, ярка.

Вярбіцкі глянуў на гадзіннік і злёгку махнуў лейцамі. Конь шпарчэй паімчаўся па цвёрдай дарозе. Справа ў адваротным кірунку ўцякалі лахматыя, аснежаныя елкі, злева па роўнай лагчыне беглі насустрач аголеныя, пакрытыя лёгкім інеем бярозы.

... Раптам у Вярбіцкага тузануліся з рук лейцы, сані яшчэ ехалі, але прыцішалі ход. Ён усхапіўся і ўбачыў, што «Бягунец» выскачыў з аглабель і пабег. Пачуўшы лёгкасць, конь спыніўся. Вярбіцкі падышоў да яго і, узяўшы за лейцы, правёў назад да саней. Аглядзеўшы вупраж, Вярбіцкі ўпэўніўся, што яна была цэлая. Тады ён увёў каня ў аглоблі, падняў дугу і пачаў запрагаць. Вярбіцкі ўсміхаўся, закладваючы гуж, ніто радуючыся магчымасці праверыць, наколькі добра можа запрагаць каня, ніто нечаканаму выпадку. Але гэта лёгкая вясёласць пачала паступова саступаць месца заклапочанасці, нават хваляванню,—у яго нічога не выходзіла: пакуль зложыць і змацуе аглоблю з дугой адным канцом гужа, другі бок раскідаецца.

Конь трэцца галавой аб паліто старшыні, фыркае, дыхае цёплай парай на рукі. На яго шоўкавай грыве з'явіліся перламутравыя зорачкі інея.

Нібы ўсё на свеце абрушылася на Вярбіцкага, каб пасмяяцца з яго ў такі адказны момант. Хто ведае па якіх справах выклікаюць у сельсовет, а тут—на табе...

Вярбіцкі кінуў усё і пачаў церці замёрзшыя рукі. Навакол—нікога. Да сельсовета ўжо недалёка. Віднеліся нават агні. Вярбіцкі пачаў прыслухоўвацца—можа хто едзе, але толькі з боку сельсовета данеслася некалькі галасоў і зноў усё было ціха, нібы ноч знарок схавала ўсе жывыя істоты. Вярбіцкі зноў зірнуў на гадзіннік і, нервуючыся, пачаў тупаць, стукаючы нагой аб нагу. Конь таксама замёрз і не хацеў стаяць.

Што рабіць?

Вярбіцкі на момант задумаўся, пастаяў з хвіліну, потым падышоў да каня, узяў яго за повад і, вывеўшы з аглабель, прывязаў ззаду за сані. Тады паклаў на сані дугу і, узяўшыся за аглоблі, пацягнуў іх.

Толькі адно цешыла Вярбіцкага—сані з узгорка лёгка было цягнуць. Да сельсовета ён пацягнуў іх, нават не замарыўшыся. Галоўнае было—паставіць каня, каб ніхто не бачыў. І ён ціха, пры кожным шораху прыкусваючы губы, крадучыся, падышоў да паветкі. Уздоўж сцяны, што выходзіла на двор сельсовета, стаяла многа коней. Людзей нікога не было і гэта акалічнасць яшчэ больш непакоіла Вярбіцкага. Можна было спадзявацца, што ў сельсовеце адбываецца нешта сур'ёзнае. Вярбіцкі знайшоў незанятае месца і толькі рушыў туды, як дзверы з сельсовета раптам скрыпнулі і адтуль данеслася шмат людскіх галасоў. Вярбіцкі з санямі шмыгнуў між коней і апынуўся ў сярэдзіне паветкі. Яшчэ не аддыхаўшыся, ён убачыў, як нехта вышаў на двор, прайшоўся каля коней і пачаў прыбліжацца да яго. Вярбіцкі на хвіліну затаіў дыханне і не ведаў што рабіць. Незнаёмы падышоў да яго і спытаў:

— Па кані відаць—з «Авангарда»?

— Вось толькі прыехаў, каня распрагаю. З калгаса «Авангард»,—паспешна адказаў Вярбіцкі.

— Распрагайце ды спяшайцеся на пасяджэнне.

«Ці не смяецца ён?—думаў Вярбіцкі.—Бачыў ён, ці можа хто сказаў?» І ўголас прамовіў:

— А вы з якога калгаса будзеце?

— Мы з вамі ўжо знаёмы. Не пазнаеце свайго старшыні сельсовета? Пойдзем, таварыш Вярбіцкі, а то і так спазніліся.

Праз некалькі хвілін старшыня сельсовета рабіў пленуму даклад.

— ... Яшчэ раз напамінаю вам, таварышы, вучыцеся ў маладога старшыні калгаса «Авангард» таварыша Вярбіцкага. Чалавек яшчэ нядаўна прыехаў, а бачыце як усё робіць па-гаспадарску. Прыехаў вось сюды, адпрог каня, накрыў яго і паставіў пад паветкай. А вы як зрабілі? Нават сена коням не падкінулі. Наконт падрыхтоўкі да веснавой сяўбы таксама вучыцеся ў Вярбіцкага. Калгас «Авангард» можа выходзіць у поле хоць заўтра. За гэта сельсовет прэміруе старшыню калгаса Вярбіцкага...

Вярбіцкі толькі цяпер выпусціў паветра з грудзей і крыху пачырванеў,—усе погляды ўдзельнікаў пленума былі накіраваны на яго. Ён памкнуўся ўстаць, каб стрымаць разышоўшагася ў пахвалах старшыню сельсовета, але, махнуўшы рукой, сеў і падумаў: «Не чакаў я такой развязкі... Застаецца толькі каня навучыцца запрагаць»...

---

## Спрошчаная формула

Чуткі аб спыненні назначанага на сёння вяселля трактарыста Антося Рэдзькі з свінаркай Валей Макоўскай прабеглі па ўсяму соўгасу.

Толькі падрыхтаваліся да ад'езду ў сельсовет, як з канторы соў-

гаса прыбег рахункавод і сказаў шоферу не ехаць, пакуль што пачакаць.

— Кажуць, дырэктар загад піша і адмяняе назначаную прэмію,— прагаварыў адзін рабочы.

— Па твойму, загадам можна назначыць або адмяніць вяселле! І дзе ты гэта чуў?

— Я не тое кажу,—пачаў растлумачваць рабочы, перабіўшаму яго маладому хлапцу.—Я кажу, што вясельнай вечарынай мае права дырэктар распараджацца, бо гэта-ж соўгас для іх спраўляе.

— Заслужылі, дык і спраўляе.

— Я гэта і кажу. Але бачыш нейкая замінка ёсць...

Былі розныя меркаванні, а што да чаго—ніхто не ведаў. Гэтыя чуткі дайшлі і, як іх называлі, да маладых.

Антось вышаў з хаты па святочнаму апрануты. Каля ганку стаяла легкавая машына. Прамені ранішняга сонца слізгалі па блістучай паверхні і зіхацелі на нікеліраваных частках. Антось глянуў на машыну і яго ахапіла хваляванне. Яго вельмі непакоіла, што цяпер усе рабочыя глядзяць на яго, як на чалавека, які папаўся ў злачынстве. «Што я зрабіў такое,—думаў Антось, ідучы рашучай і хуткай паходкай праз парк,—я перавыконваў нормы на трактары. Эканоміў гаручае. Прэміравалі мяне... І цяпер вяселле соўгас спраўляе».

І раптам падумалася: «А можа ўсё гэта з-за Валі?» З гэтай думкай ён падышоў да канторы. Там стаяла некалькі рабочых, ціха размаўляючы паміж сабою. І яму здалося, што гэта пра яго.

У калідоры ён сустрэў Валю. Яна, перасцерагаючы, паківала да яго пальцамі і, прыблізіўшыся, прагаварыла:

— У кабінеце дырэктара замкнуты дзверы. Але там чуваць гоман.

Яна, нічога больш не сказаўшы, узяла Антося пад руку і яны вышлі на фізкультурную пляцоўку. Антосю хацелася спытацца ў Валі, можа яна ў чым вінавата, можа ўсё гэта з-за яе, але баяўся пакрыўдзіць. Ён нясмела глянуў на яе. Мяккія кудры яе чорных валасоў краналіся каўнера паліто. У зграбных высокіх туфлях яна здавалася амаль роўнай з Антосем.

Крыху памаўчаўшы, Валя сказала:

— Я чула... Яны там пра трактарнае ворыва гаварылі, толькі не разабрала добра...

Гэты сказ выклікаў мільёны ўспамінаў у Антося і, не затрымаўшыся ні на адным моманце, які-б сведчыў аб нядобрасумленнасці ў працы, ён спытаўся ў Валі:

— А можа ты чаго нарабіла?

— За сябе я ручаюся, хіба другія нашкодзілі...

— Можа адыход свіней у тваёй брыгадзе ёсць і гэта высвятлілася толькі цяпер?

Яна выхвaціла руку з-пад рукі Антося і адышла ад яго. На твары яе можна было прачытаць хваляванне і крыўду. Вочы спачатку бліснулі нездаволенасцю, нават пагардай, але потым яна апусціла іх уніз. Відаць, нешта вельмі сур'ёзнае абдумвала. Антосю не хацелася парушаць гэты супакой. Наском камаша ён нагортваў у

кучу афарбаванае восенню лісце, яно шапацела і не прылягала шчыльна. Тады ён моцна прыціснуў нагой і гэты шорах яму быў вельмі прыемны, бо ён напамінаў вясну гэтага года, калі ён з брыгадзірам ішоў праз лес глядзець, ці прасохла зямля, ці пара пачынаць ворыва. Валя здалёк махала хустачкай і смяялася. Тады пад нагамі шапацела лісце. Але яно было не такое тоўстае, з васковым слоем на паверхні. Зіма злізала з яго сокі, а вясенняе сонца высушыла сітаватыя оставы, якія прыпаднімала маладая сакаўная трава...

Ён толькі збіраўся прапанаваць Валі пайсці праз лес, каб яна сама ўбачыла, калі ў яе ёсць сумненні наконт якасці яго работы. Там цяпер ляжалі бугрыстыя палеткі пульхнай раллі, асвечаныя далёкім асеннім сонцам. Але ў гэты час яна хутка падняла апушчаную галаву і, парывіста працягнуўшы Антосю руку, сказала:

— Калі ты ручаешся за сябе—я таксама. Але каб у рабочых не было ніякага сумнення, то давай лепш сёння не паедзем у сельсовет... Ты разумееш...

Антосю здалося, што ўсе ранейшыя ўгаворы разбурыліся, іх зруйнавала адна хвіліна Валінага роздуму, выклікanaга нечым нерастлумачаным.

«Значыць яна мяне не любіла»...—думаў Антось.

Ён схапіў яе рукі і, гледзячы роспачнымі вачыма, прагаварыў:

— Прашчай, Валя, не я вінават...

Але яна на гэта адказала, нібы насміхаючыся над Антосем:

— Прашчай,—і дадала,—а ты правер сябе...

І ў самы рашучы момант, калі рукі трымаліся толькі за кончыкі пальцаў, нехта крыкнуў:

— Чакайце!

Яны павярнулі галовы. Да іх набліжаўся дырэктар. Ён паспешна падышоў і абняў іх.

Некалькі секунд ён маўчаў, а тады загаварыў заклапочаным тонам:

— Памылка вышла. А ўсё праз гэтых мудрацоў, якія стараюцца спрашчаць формулы,—і на яго засыпаным дробнымі маршчынкамі твары разлілася вясёлая ўсмешка.

— Ідзем збірацца ехаць у сельсовет, а вечарам будзем гуляць вяселле.

Яны ішлі да машыны не ўтраіх: з усіх канцоў далучаліся рабочыя. Дырэктар то смяючыся, то прымаючы сур'ёзны выгляд, казаў пра памылку: вучотчык, абмераўшы ўзоратае Антосем поле, замест таго, каб колькасць сажняў (у кожным сажні 2 метры) спачатку звярнуць у метры, а потым вылічыць плошчу, памнажаў колькасць сажняў шырыні ўзоратага ўчастка на колькасць сажняў даўжыні, а потым павялічваў у два разы. Ад гэтага і атрымалася норма выпрацоўкі на палавіну меншай. Такія лічбы зачытваць у час урачыстасці было немагчыма.

Твар Валі адразу расцвіў. Яна схапіла за руку Антося і ўжо на хаду зачыніла дзверцы машыны.

———

*Міх. Дзеружынскі*

# ПІСЬМО

*Апавяданне*

У вольную часіну ля праўлення калгаса, у садку, што абкружаў будынак, збіраліся людзі, абмяркоўвалі навіны дня.

Між дзелавых размоў умешваліся жарты. Асабліва смяяліся з вярзілы Ціхона, самага дужага чалавека ў вёсцы. Учора ён разламаў плот, а сёння сеў на тое самае месца. Нейкі весялун добрадушна параіў яму:

— Глядзі, браце Ціхон, чаго добрага, зноў плот сагнецца. Злез бы ты лепш.

Ціхон скоса пазірае на весялуна і пад агульны рогат злазіць з плоту.

Багата вёска жартамі! Чаго толькі не пачуеш. Здаецца, сядзеў-бы там з імі, слухаў-бы, слухаў і ніколі-б не надакучыла.

— Глядзіце, комсамолія наша шпарыць.

І сапраўды ў садок спяшаўся белавалосы юнак, абкружаны гаварлівымі хлапцамі. У руцэ ён урачыста трымаў сіні канверт, усміхаўся.

— Відаць, з Усходу. Ад Андрэя—запэўніў адзін з хлапцоў і дадаў:—Мы ўжо разглядалі—пячатка адтуль.

Максім, каржакаваты, з шырокай барадой дзед, які дагэтуль размаўляў з старшынёй і не звяртаў аніякай увагі на жарты маладзейшых, павярнуўся да белавалосага пісьманосца. Пісьмо было ад яго сына.

— Зачытай-тка, Міколка.

Міколка сеў у самы круг калгаснікаў, запхнуў свае непаслухмяныя белыя віхры пад кепку, разарваў канверт.

Гаворка змоўкла.

Максім падсунуўся бліжэй. Хлопцы з нецярплівасцю чакалі, бо вестка-ж ад іхняга сябра, далёкаўсходняга пагранічніка.

Яшчэ год таму назад яны танцавалі пад заліхвацкія гукі свайго гарманіста; разам хадзілі на вячоркі ў другія вёскі; у маленстве разам спусташалі ваколічныя сады і агароды. А зараз ён ім піша з далёкіх, але родных сопак. Ён—удзельнік Хасанскіх баёў. Кожны з гэтых хлапцоў з радасцю пайшоў-бы і заняў разам з ім месца на суровай таежнай граніцы з вінтоўкай у руках, на варце сваёй зямлі.

Міколка расправіў вялікі белы аркуш. Ён зірнуў на прысутных,

якіх сабралася яшчэ больш: дзеці маланкай разнеслі вестку аб лісце, і ўсе прышлі паслухаць, што піша іх зямляк, якому выпаў гонар пастаяць за радзіму, за іх мірную працу.

— Пісьмо з заставы,—гаворыць Міколка.

Усе абкружаюць чытача: сядзяць, стаяць, абапершыся аб дрэвы, чакаюць. Бабы грэюць рукі пад фартухамі. Над галовамі шапоча сваім пазалочаным лісцем клянок. Паветра не па-восеньску цёплае. Бліснула сонца, кінула свае праменні ў паржавелае, чорнае іржышча, замігацела ў шыбах вясковых хат.

«Мы, байцы N-скай пагранічнай заставы,—празвінеў Міколкаў голас,—пасылаем вам, Максім Кірылавіч, Наста Лукінічна і ўсім калгаснікам далёкаўсходняе чырвонаармейскае прывітанне.

Мы, вашы сыны, храбра пастаялі за нашу радзіму, за вольнае жыццё, за калгаснае багацце.

І тут, як бы ў пацвярджэнне выступілі за садком новыя гумны, свірны.

«Максім Кірылавіч, ваш сын ранены ў ліку храбрых...»

Сінявокая дзяўчына, якая стаяла з Настай Лукінічнай і лавіла кожнае слова, уздрыгнула, збялеў твар. Прыпомнілася густая ліпеньская ноч,—пах бэзу, рэчка... Андруша ад'язджаў, а кругом ціха... ціха...

Яна ўбачыла слёзы ў Насты Лукінічны і адчула, што ў самой гарачыя кроплі пакаціліся па твары. Яна адвярнулася, каб не бачылі вяскоўцы яе слёз, але яны ўсе бачылі, толькі ніхто яе не папракнуў, не засмяяўся—усе спачувалі ёй. Спахмурнелі твары, сціснуліся мазолістыя кулакі.

«Зараз папраўляецца. Цяпер ён разам з намі піша гэтае пісьмо».

«Выздараўлівае!»—сэрца дзяўчыны радасна затрапятала.

«Нашай заставе выпаў гонар «прыняць» самураеў, і мы іх «прынялі».

Далей расказвалася, як байцы ў няроўнай схватцы разбівалі японскія ланцугі, як меткі агонь Андрэевага кулямёта з дапамогаю гранат асаджваў іх наступ.

... Клянок шапаціць ліствою. Вісіць-вісіць пажоўклы лісцік, адарвецца, закружыцца на ветры, палётае над галовамі, над хусткамі жанчын і ўпадзе каму-небудзь пад ногі, непрыкметны нікім.

А Міколка чытаў:

«Японцы пачалі нас акружаць. Упецярых краліся з-за сопкі. Малады баец кінуўся на іх. Японцы пачалі ўцякаць, але выстрал афіцэра падкасіў байца.

— Таварышы!—крыкнуў ён.—Я паміраю комсамольцам»,—і сціх з гэтым баявым словам...»

Жанчыны заплакалі. Мужчыны знялі шапкі, і на галовах вецярок шавяльнуў пасмы выпаленых летнім сонцам валасоў.

— Адвечная яму памяць... Ведаў, сокал, за што паміраў. Так і смерці не страшна,—сказаў дзед Нупрэй і пагразіў кастлявым кулаком. І людзі ведалі, каму ён грозіць.

«Японцы лезлі на сопку, але кулямёт рваў іх ланцугі. Андрэй трымаў нас, і ўсё залежала ад кулямёта. Мы пакляліся біцца, пакуль жыў будзе хоць адзін з нас».

— Так і трэба,—сказаў пацíху старшыня, і чырвоны рубец на шчацэ—след паляцкай саблі—пачырванеў.—Мы білі, і вы, сынкі, біце гадаў.

«Куля прабіла Андрэю грудзі,—чытаў Міколка,—кулямёт заціх...»

Усе зноў прыціхлі, услухоўваліся ў кожнае слова. У пісьме апавядалася, як маленькая жменька храбрацоў з крыкамі: «За Сталіна!», «За радзіму!» кінулася на дзікае стада самураеў, як падаспела дапамога.

«Мінулі тыя дні. Зноў у нас нармальнае жыццё. Максім Кірылавіч, мы ўсёй заставай просім вас прыехаць к нам у госці. Не адмоўце ў нашай просьбе, а таксама ў просьбе Андрэя.

Жадаем вашаму калгасу ўсяго найлепшага ў жыцці і гаспадарцы.

Байцы і камандзіры №-скай заставы».

Міколка адарваўся ад пісьма.

— Усё,—сказаў ён ціха.

І многа пар вачэй светлых і ласкавых глядзяць на Максіма, і ў кожнай пары іх адсвечвае іскрынкамі ўпэўненасць у саміх сабе, у сваю моц.

Максім не ведаў, што яму рабіць і разгублена падышоў да Насты Лукінічны.

— Ну, маці, добрага сына нарадзіла! І нам радасць, і суседзям нашым!..

— Брава, дзед!.. Брава!!

Старшыня гаварыў Максіму:

— З нашага, брат, калгасу людзі хоць куды! Дык качай-жа, братва, дзеда!.. І першым падхапіў Максіма.

Сэрца Максіма стукала: тук-тук. Яму было цесна: вось-вось выляціць, паляціць над палеткамі.

Сцямнела. Засвяцілася вокнамі вуліца: запалілі ў хатах агні. І здаецца, што ў гэты змрок вёска выглядае святочней.

Сёння толькі і чуваць пра пісьмо, пра Хасан, пра храбрасць.

---

Назаўтра цэлы дзень к Максіму прыходзілі чытаць пісьмо. Чыталі, радаваліся разам з ім, як сваёй радасцю.

— Віншуем цябе,—гаварылі.—Маеш добрага сына! Максім Кірылыч з'ездзі, а то глядзі і пакрыўдзяцца, вядома-ж маладыя. Кацí, Кірылыч! А мы пра гасцінцы падумаем. Аддзякуем чым можам. Ёсць чым.

Гаварылі Максіму, гаварылі Насці Лукінічне.

Ніколі не адчуваў Максім такой руплівасці ад другіх. Вось яны ўсе, вяскоўцы, прыходзяць да яго, радуюцца.

Многа Максім на сваім вяку бачыў злосці між людзьмі, але такой шчырасці між імі яшчэ не бачыў. І Максім згадзіўся ехаць. Ды і як не згадзіцца: яго запрашае сын такі любімы і родны, яго запрашаюць такія блізкія яму байцы.

А выпраўляў Максіма ўвесь калгас.

Ды як выпраўляў! Ды з чым выправіў! Гасцінцаў тых з падарункамі ніхто столькі і ў сне не бачыў. На тое-ж ад усяго калгасу, ды не каму, а пагранічнікам. Чаго толькі там не было! Праўда, нельга ўтаіць і тое, што Манька ўклала вышываную хустачку для любага Андрушы. Ды гэта ўжо іхняя справа...

І едзе Максім у цягніку. А за акном вагона ляцяць, плывуць лясы, палі, калгасы, заводы радзімы.

Вагон пагойдваецца. Стукочуць колы, гудуць аб рэйкі. І думае Максім: «Буду ехаць праз Маскву, праз горы Уральскія, праз Сібір, тайгу лясістую, праз палі багатыя, праз усю дзяржаву, дзе чалавек убачыў свет, шчасце,—праз вялікую зямлю рускую,—і ўголас дадаў:—непераможную!

Крычаў, 1938 г.

---

*Міх. Дзеружынскі*

# МАКАТРЫ

*Юмарэска*

Стары Міхал жыў са сваёй Хадорай. Калі сказаць, што ў іх няма дзяцей, то гэта будзе няправільна. У іх ёсць сын—інжынер і замужняя дачка.

Міхал меў ужо каля шасці дзесяткаў год, але-ж адчуваў сябе легкавата і быў вартаўнікам калгаснага свірна. Адносіўся ён да свайго абавязку сумленна: ахоўваць калгаснае дабро—справа адказная і ганаровая.

Жылося Міхалу добра, усяго хапала. У маладосці, калі ён выселяўся на сваім спустошаным шнурку, не было такога дастатку, як цяпер—на старасці.

Ён спрабаваў у вольныя часы прыкідваць мінулае з сучасным і бачыў вялікую розніцу. «Хоць на старасці пажыву, як трэба»—гаварыў ён.

Але-ж не ўсё было добра ў Міхала. Зараз, седзячы на ганку, ён заклапочана аглядаў свой двор. «Праклятыя макатры! Куды-б іх збайсаць?»—думаў Міхал, чэшучы сваю лысіну.

Надыходзіць вялікдзень. Цэлая бяда на міхалаву галаву! Кожны год Хадора пячэ пірагі, і яму тады няма як выйсці на вуліцу. Праўда, Міхала паважаюць усе калгаснікі, але-ж гэта не пашкодзіць якому-небудзь шалуну папракнуць яго:

— Міхаліха яшчэ пірагі пячэ!

Ды і сам Міхал не жадаў-бы, каб Хадора святкавала вялікдзень—гэта-ж зусім непатрэбная папоўская выдумка!

Ён і летась яшчэ думаў штосьці зрабіць, але неяк прайшло так, хаця Міхал—на зло Хадоры!—не ўзяў і ў рот пірага, пад тою прычынаю, што ў яго баліць зуб, а калі пшанічнае цеста трапіць у трэшчыну, дык тады не дасі рады. Так ён змагаўся летась, але сёлета рашыў дзейнічаць інакш.

Да вялікадня засталося тры дні, а калі ўлічыць, што пірагі пякуць у суботу, то і ўсяго толькі два. І за гэты кароткі час Міхалу трэба нешта надумаць. А ўсё ліха ад макатроў! Калі-б не было іх—чорт-бы іх забраў!—і ўсё ў парадку, пірагі пячы нельга.

Таму Міхал парашыў не траціць дарэмна часу і схаваць макатры. А куды? Ён аблазіў увесь двор, усе закуткі, а такога месца, каб і

Хадора не ведала, не знайшоў. Біць іх,—думаў Міхал,—нязручна, на што небудзь спатрэбяцца, а потым—багата чарапкоў, і Хадора лёгка раскрые Міхалава злачынства, а тады—чакай ліха! Макатроў сапраўды было многа, кожны-ж год купляў новыя, як сам святкаваў вялікдзень. «Дурань-жа быў! Купляў!..»—папракнуў сябе Міхал.

Аглядзеўшы ўвесь двор, ён хацеў ужо перакінуць разведку на агарод, як тут заўважыў, што пад яго свіран можна напіхаць макатроў дvароў з дзесяці. Міхал абрадаваўся і з усёй спрытнасцю, якая ў яго была, прыступіў да выканання свайго плана, каб да прыходу Хадоры і канцы ў ваду.

Але якая гэта была цяжкая праца! З кожным макатром трэба было згінацца, чаго не вельмі дазвалялі міхалавы косці, падлазіць пад свіран і ў далёкі цёмны куток запіхаць гэтую рэч, а потым праз увесь двор ісці па другую, трэцюю...

Заваложшы пад свіран шэсць макатроў, Міхал задаволена выпраставу зацвярдзеўшую колам спіну. З яго лысіны клубілася дымам пара, буйныя кроплі поту сцякалі па твару, пакідаючы за сабою дарожкі, сарочка была як пасля дажджу, а вочы свяціліся перавагай.

— Зараз, Хадорка, ты піражкоў ужо не спячэш,—сказаў сабе Міхал, пайшоў у хату і сеў каля акна. Адгэтуль было відаць усю мясцовасць па той бок рэчкі. Рэчка толькі што ўвайшла ў берагі, але вазярыны яшчэ блішчэлі на чорным лузе. І здавалася, што гэтыя бліскучыя лапіны ўсміхаюцца разам з Міхалам.

Міхал закурыў люльку і патануў у дрымотны адпачынак. Прышла Хадора,—яна была ў сваёй дачкі. Наспех раздзела свой кажушок—старыя не скора скідаюць іх пасля зімы—і вышла з хаты.

Да Міхала даносіўся стук, шорханне, звон бутэлек, разгублены шопат Хадоры. Яна зноў увайшла ў хату, абрыла ўсю судню, усе закуцці, дзе маглі быць яе гаспадарчыя рэчы і, упэўніўшыся, што няма таго, чаго яна шукае, разгублена паціснула плячыма.

— Што такое?—бубніла яна, поўзаючы па кутках.—Дзе яны падзеліся?.. Ні аднаго, як расталі... Матачкі! Што за ліха на маю галаву...

Абшукаўшы ўсю хату, яна зноў вышла ў сені.

— Не, дудкі знойдзеш!—Міхал самаздаволена ўсміхаўся.—Не дабярэшся ты туды—не табе!

Ён вышаў з хаты і высокім ганарлівым позіркам глядзеў на поўзаючую па сенях Хадору.

— Што ты шукаеш?—спытаў Міхал абыякавым голасам.

— Макатроў... Іх-жа у нас было столькі!—яна глядзела на Міхала, шукаючы ў яго дапамогі:—а то ніводнага, як расталі...

— Не ведаю я тваіх макатроў... Я ў твае бабскія справы не ўмешваюся!—адчаканіў Міхал не зморгнуўшы вокам.

— Я і не кажу... А можа ты бачыў?

— Я-ж табе сказаў раз. Разварушылася, аж хата трасецца. Рана задумала. Яшчэ тры дні, а яна ўжо за пірагі. Бач ты!

— Ды я сёлета іх і пячы не буду.

Міхалу здалося, што ён не дачуў. Ён памацаў сябе за вуха, каб упэўніцца ў яго спраўнасці, паглядзеў на Хадору, але яе твар быў строгі і Міхал ціха спытаўся:

— А навошта-ж табе макатры, як не на гэта?

— Унучцы на кветкі. Ну і разумніца! «Бабачка,—кажа,—дай мне макатроў, кветкі перасадзіць». Я ёй і паабяцала... А тут прыходжу—ні аднаго. Яна-ж зараз збыту не дасць... Што мне ёй казаць?

— І праўду ты гаворыш?

— Во, чорт стары! Што я, хлусіць буду?

— Ну, калі так, дык хадзі. Я табе іх аддам. Дарэмна, відаць, хаваў...

в. Дамамерычы.

———

*Аляксандр Міронаў*

# ПАЧАТАК ДРУЖБЫ

*Апавяданне*

Толькі к першаму снегу скончыў Нікалай Бязрукаў абсталяванне зімоўкі. Снег выпаў сінявата-белы, пушысты, агарнуўшы схілы недалёкіх гор і камяністы бераг. Сабакі навыперадкі насіліся па берагу, брахалі на свінцовае хмурае мора, заводзілі вясёлыя патасоўкі.

Снег узрадваў Нікалая. „Якая-ж Арктыка без снегу?—думаў ён.—Канец верасня, а горы голыя“.

Раніцай Нікалай яшчэ раз прайшоўся па зімовішчу. Хацінка, зрубленая з тоўстых сасновых бярвенняў, цёмнай плямай вылучалася на чыстым снегу. Побач з ёй цямнела маленькая нізкая клець з цяжкімі дзвярыма.

Нікалай увайшоў у клець, і, прысеўшы на абрубак плаўніка, насвістваючы, стаў разбіраць капканы. Ля дзвярэй тоўпіліся сабакі, яны ўнюхваліся ў пах падвешанага пад столлю мяса. Нечакана, устрывожаныя далёкім брэхам, яны рвануліся адсюль і паімчаліся ўздоўж берага. Нікалай выскачыў услед за сабакамі і, прыкрываючы вочы далонню, паглядзеў у далечыню.

— Куды вас чорт!—крыкнуў ён.

Далёка наперадзе, ад падножжа прыбярэжнага мыса, рухалася чорная кропка. Нікалай узіраўся, пакуль кропка не выцягнулася ў доўгую вузкую палоску, у якой ён угадаў чужую запражку. „Госць едзе“,—зразумеў Бязрукаў.

Збегаўшы ў хацінку, ён падкінуў у камялёк сухога плаўніка, і кацёл падліў вады. Ён абрадваўся госцю і хацеў, каб зімовішча спадабалася яму. Хутка ля дзвярэй пачулася гырканне сабак і супакойваючая варкатня чалавека. Нікалай вышаў з ахапкай ласенняга мяса і, убачыўшы шырокую спіну прыезджага, які схіліўся над нартай, паклікаў:

— Праходзь у хату, грэйся. Я пакармлю сабак.

Чалавек павольна павярнуўся і некалькі секунд моўчкі разглядаў Нікалая.

— Здароў,—вымавіў, нарэшце ён.—Сусед буду. Тайбарэям завуць.

— Здароў,—адказаў Бязрукаў.

У хацінцы, зняўшы з камелька ўскіпеўшы чайнік, паставіў яго на стол.

— Еш,—сказаў ён, падсоўваючы госцю талерку з халодным вараным мясам.

Госць не спадабаўся Нікалаю. Маленькі, смуглявы, хударлявы, са скуластым тварам, з бліскучымі вузенькімі, амаль нерухомымі вачамі, ён ствараў уражанне хілага, нядэшлага чалавека. „Самаед“— здагадаўся Бязрукаў і адразу-ж паправіўся: „Ненец“.

— Даўно жывеш тут?—спытаўся ён.

Госць, адпіваючы чай са сподачка, і, захапіўшы зубамі кавалак мяса, хуткім рыўком нажа абрэзаў яго ля самых губ.

— Даўно,—сказаў ён.—Шмат год. Заўсёды тут жыў.

Тайбарэй адкінуўся ад стала, выцер далонню рот і, выцягнуўшы з-за пазухі тонкую металічную трубку, набіў яе махоркай. Густы шызы дымок паплыў па хацінцы.

— Ехаў—ехаў,—загаварыў ён,—а пастак тваіх не бачыў. Чаму так?

Нікалай здзівіўся.

— А калі-ж было іх ставіць. Снегу чакаў. Без снегу які промысел. Цяпер і пастаўлю.

— Аднак дрэнна так,—паківаў Тайбарэй галавою.—Пасткі раней ставіць трэба. Перад самым снегам. Тады пясец у іх лепш пойдзе.

Нікалай недаверліва ўсміхнуўся:

— А калі лінялых пясцоў пасткі браць будуць.

— Пясец даўно ліняў. Цяпер да берага ідзе. Пастка павінна быць гатовай. Ты шмат дзён марна страціў. На, пагляндзі.

Ён дастаў з-за пазухі, з незлічоных складак вопраткі вялікага, пушыстага пясца і кінуў яго на стол. Нікалаю здалося, быццам перад ім мякка плюхнуўся камячок снегу. Ён пяшчотна пагладзіў шкурку, падзьмухаў на яе, памацаў, ці не лезе ворс. „Першасортны“— падумаў ён.

— Дзе ўзяў?

— У пастцы,—усміхнуўся Тайбарэй.

Нікалай пачырванеў. „Вось табе і заморыш,—мільганула думка,—а якога звера ўзяў“. Ён хацеў было распытаць ненца, як лепш расстаўляць пасткі, але, падумаўшы, што Тайбарэй пасмяецца над яго нявопытнасцю, устрымаўся.

... Усе свае дваццаць сем год Нікалай Бязрукаў пражыў у сібірскай прыбайкальскай тайзе. Там ён лічыўся зусім нядрэнным прамыслоўцам. Ваверка, собаль, лісіца, нават воўк—усё гэта былі знаёмыя з маленства звяры. Ваверку ён біў з вінтоўкі—малапулькі, шрацінкай, і абавязкова ў вока, каб не псаваць шкурку. Собаля па сутках высочваў з лайкай і, загнаўшы на дрэва, здымаў адным выстралам. Ваўка браў на прыманку. Некалькі разоў, дзеля рызыкі, ён адзін узнімаў зімой з бярлогі мядзведзя і браў яго без выстрала, на рагаціну. Там усё было прывычным, знаёмым да дробязей. А тут...

Ен згадзіўся паехаць на Новую Зямлю, прываблены выгоднымі

ўмовамі промысла і жаданнем паглядзець небачаную далёкую поўнач. Ехаў і марыў: ён пакажа там сапраўдны промысел.

Маленькае маторна-парусное судзёнышка „Нерпа“, высадзіўшы Нікалая на камяністы бераг, ля пахілай хацінкі, адышло на поўдзень. Бязрукаў упершыню астаўся адзін, зусім адзін у незнаёмай палярнай абстаноўцы. Ён часта ўспамінаў родную, вечна-зялёную тайгу з яе цішынёй, заўсёды напоўненай шорахамі жыцця, з яе звярынымі сцяжынкамі, бураломамі, замыславатымі ўзорамі звярыных слядоў на россыпах снегу. Ён сумаваў па людзях, і нават шкадаваў, што згадзіўся ехаць на непрыветлівы і пустынны востраў.

Хацінку ён праканапаціў мохам. Страху таксама заваліў тоўстым слоем моху, а поверх яго расцягнуў кавалак брэзенту. Ён упрагаў запражку ў бярвенні плаўніка, што валяліся на беразе, і сабакі сцягвалі лес да хацінкі. З бярвенняў зрубіў невялікую клець для прадуктаў. У рабоце забыліся сум і туга, адчуванне адзіноты. Нікалай любіў работу, працавітыя, дужыя рукі заўсёды шукалі яе. Ён канчаў работу позна ўвечары, і стомлены, але задаволены, перакусіўшы, лажыўся на старой мядзвежай скуры ля камелька пакурыць.

Пра звяроў Нікалай не думаў. Усё было гатова да промысла, а ў тайзе паляваць пачынаюць толькі з першым снегам. Ён бачыў пясца—бруднага, нікчэмнага, напалоханага сабакамі. Калі сабакі прыдавілі звярка, ён не хацеў верыць, што худая гэтая штука, падобная на лінялую кошку, можа стаць калі-небудзь каштоўнай пушнінай. Аднойчы ўранні ён пайшоў па беразе, углядаючыся ў далеч. Убачыўшы на прыбярэжнай гальцы чараду цюленяў, ён зайшоў к ім з падветранага боку і падкрадаўся асцярожна, паўзком. Цюлені грэліся на апошнім асеннім сонцы. Нікалай хацеў забіць абавязкова самага большага. Выстрал здаўся аглушальным, ён раскалоў цішыню і рэха ў гарах доўга паўтарала прыглушанае бабаханне. Цюлень мякка асеў на зямлю. Выглянуўшы з-за каменя, Нікалай са здзіўленнем убачыў, як звяры, спалохана падняўшы галоўкі, азіраліся па баках, а потым, супакоіўшыся, зноў разлегліся на гальцы. Ён выстраліў яшчэ—і другі цюлень сударгава выцягнуўся, раскінуўшы кароткія ласты.

Так, адну за другой, ён доўга пасылаў пулі ў чараду цюленяў. Цюлені падняліся ўсе адразу, і нязграбна перавальваючыся з боку на бок, кінуліся к вадзе. Нікалай ускочыў і ўбачыў на месцы чарады велізарнага, брудна-жоўтага мядзведзя. Мядзведзь абнюхваў забітага цюленя і ружовым языком злізваў кроў з галавы. „Вось ён які, белы“—падумаў Бязрукаў. і адчуў, як разам са знаёмым трэпетам, ахапіўшым яго пры сустрэчы з дужым зверам, ахапляе і другое, не менш знаёмае адчуванне рызыкі.

— Гэй, давай пазнаёмімся, белы!—крыкнуў ён.

Мядзведзь узняў галаву і ўставіўся на Нікалая бліскучымі кропкамі вачэй. Нікалай выразна бачыў яго: жоўты, велізарны, з маленькімі вушамі, з чорным трыкутнікам носа і вачэй. Павольна, але рашуча Нікалай пайшоў на мядзведзя, пранозліва насвістваючы і сціскаючы ў руках вінтоўку, быццам рагаціну. Так, сам-на-сам,

з рагацінай, ён хадзіў на таёжных мядзведзяў. Тыя былі меншымі, але злымі...

Мядзведзь сярдзіта раўнуў і, павёўшы галавой, паставіў лапу на цюленя, выскаліўшы велізарныя, у чырвоных пражылках, клыкі.

— Не аддасі?—закрычаў Нікалай.—А я вазьму!

Ён ішоў усё яшчэ павольна, рашуча, паступова ўзмацняючы і без таго рэзкі свіст. Да мядзведзя аставалася не больш дваццаці крокаў. Нікалай бачыў ярасць, неразуменне і трывогу ў вачах звера і сачыў за кожным рухам яго. Ён ішоў, і раптам мядзведзь, не вытрымаўшы, нязграбна павярнуўся на задніх лапах і, зароўшы, труслива падаўся к недалёкім горам.

— Ого-го го-го!—закрычаў Нікалай, выстраліўшы ўгару. Мядзведзь, прыціснуўшы к галаве войстрыя вушы, паскорыў бег, і Нікалай бачыў, як матляўся яго маленькі жоўты хвосцік.

... А праз некалькі дзён, калі выпаў снег, прыехаў сусед, прывёз пушыстага белага, першасортнага пясца. „Дзеля такіх варта старацца“,—з зайздрасцю падумаў Бязрукаў. Тайбарэй схаваў пясца ў складкі вопраткі. У хацінцы наступіла няёмкае маўчанне і Нікалаю не хацелася парушаць яго. „Ехаў-бы лепш“,—падумаў ён. Але госць не спяшаўся ад'язджаць. Ён моўчкі вышаў з-за стала, пахадзіў па хацінцы, бесцэрэмонна заглядаючы ва ўсе куткі, потым надзеў доўгавухую шапку.

— Аднак, добра жывеш,—сказаў ён.—Мінулую зіму тут Вася жыў. Дрэнна жыў. Холадна было. Звера многа набіў, а вільгаць шкуры папсавала.

Пахвала ненца чамусьці абрадвала Нікалая. Ён нават пачырванеў ад прыемнасці. „Пачакай,—падумаў ён,—зімой не тое яшчэ будзе“. Тайбарэй, быццам адгадаўшы думкі Бязрукава, сказаў:

— Зімой у нас холадна, цёмна. Цяжка зімой.

Яны вышлі з хацінкі і накіраваліся да клеці. Нікалай ішоў за Тайбарэям і зноў не мог утрымацца ад усмешкі, разглядаючы маленькую, худую фігурку на тонкіх крывых нагах. „Такі вось пайшоў-бы адзін на мядзведзя“,—падумаў ён. Зараз ён асабліва адчуў сваю перавагу над Тайбарэям. Высокі, шырокаплечы Нікалай ішоў у развалку, амаль на дзве галавы ўзвышаючыся над ненцам, і кожны крок яго раўняўся тром крокам Тайбарэя.

— Клець сам зрубіў?—спытаўся госць.

— А ты думаеш, суседзі памагалі?—усміхнуўся Бязрукаў.

— Думаў, матросы рубілі,—спакойна адказаў ненец.

— Цяжка аднаму. Мне не зрубіць.

— Гэта і відаць: ты такі кволы.

Тайбарэй не адказаўшы, увайшоў у клець. „І чаго ён шарыць?“—нездаволена падумаў Бязрукаў. Ён прысеў на чурбак і моўчкі наглядаў, як ненец, задаволена прыцмокваючы, разглядаў зваленыя ў кутку цюленні тушы, зірнуў на страху, дзе ляжалі распластаныя для прасушкі шкуры цюленяў, папрабаваў замысловаты запор на дзвярах. Нарэшце госць прысеў на парог і зноў набіў трубку.

— Добра жывеш,—паўтарыў ён.—Моцна. Толькі па нашаму жыць не ўмееш.

Нікалай пакрыўджана павёў плячамі:

— А як па вашаму жыць?

— Аднак скажы: першы раз у нас зімаваць будзеш?

— „Аднак, аднак. Зааднакаў, чумічка,—сярдзіта падумаў Бязрукаў.—Якога чорта яму трэба? Вучыць хоча, ці прасіць чаго-небудзь пачне. „Ён хацеў груба адказаць Тайбарэю, але стрымаўся.

— Ну, першы,—хмура буркнуў ён.

— Бачу. Цюленя ў клець зваліў, а трэба яму капаць, у яму на зіму мяса класці. У клеці пах вялікі. Зімой мядзведзі прыдуць, клець зломяць, мяса з'едзяць, сабак парвуць. Цябе забіць могуць.

— Не заб'юць,—пагардліва ўсміхнуўся Нікалай, успомніўшы пужлівага мядзведзя ля цюленняй залежкі.

— Аднак, могуць забіць. Забівалі. Зіма прышла, а ты палазы ў нарты не абледзяніў. Сабакам цяжка будзе. Снег выпаў, а ў цябе пасткі дома. Калі паставіш? Чаму не абмазаў іх цюленнім тлушчам? Тлушч чалевечы пах адаб'е, пясец на прыманку пойдзе лепш. Дрэнна жывеш, Нікалай, зусім дрэнна...

— Ды чаго ты прыстаў?—ускочыў Бязрукаў.—Вучыць прыехаў? Без цябе граматны. То табе добра, то дрэнна. Якая табе да мяне справа?

Тайбарэй моўчкі падняўся на ногі, выбіў трубку аб касяк дзвярэй і вышаў з клеці. Падняўшы запрэжку, ён гікнуў на сабак і, сеўшы на нарту, не азіраючыся, паехаў уздоўж берага, па сваіх слядах. Нікалай ступіў услед, хацеў паклікаць, але махнуў рукой: „Паехаў, ну і чорт з ім. Парадчык знайшоўся. Без яго пражывём, не маленькія“...

* * *

Зіма ахутала зямлю глыбокім снежным пакрывалам. Дні сталі кароткія, ветраныя. Снег заваліў хацінку і клець да самых стрэх. Мора схавалася пад карой ільда. У сіня-чорным небе па начах халодным пажарам палыхалі велізныя, шматкаляровыя спалохі палярнага ззяння.

Зіма надыходзіла цяжкая—Нікалай разумеў гэта. Усё часцей успамінаў ён прыезд Тайбарэя і лаяў сябе за грубасць. Ненец прыехаў з дружбай, хацеў дапамагчы. Усе парады яго аказаліся правільнымі і, пераконваючыся ў гэтым, Бязрукаў рабіў так, як раіў Тайбарэй. Ён старанна змачваў на марозе палазы нарты, пакуль яны не пакрыліся тонкай і гладкай шкарлупінай ільда. Цяпер запрэжаная нарта нават з цяжкай паклажай лёгка ішла па снягу. Спачатку, на зло Тайбарэю, ён расставіў пасткі, не ачысціўшы іх ад іржаўчыны і не змазаўшы тлушчам.

— Звер галодны,—пераконваў сябе Нікалай,—ён пойдзе ў іх.

Але пясцы не ішлі. Нікалай штодзённа аб'язджаў пасткі, але ні ў адной не знаходзіў здабычы. Аднойчы, пасля трохдзённай непагоды, ён зноў накіраваўся ў аб'езд. Пасткі былі занесены снегам, а вакол іх рассеяны шматлікія сляды пясцоў. Дзе-ні-дзе пясцы разгрэблі снежную шкарлупіну і пагрызлі прыманку: пасткі не закрываліся.

Нікалай здаўся. З нарастаючай злосцю ён нагой разбіваў снег і, выцягваючы пасткі, кідаў у нарту. Нікалай рашыў звесці іх дадому, ачысціць, змазаць тлушчам і, зарадзіўшы прыманкай, расставіць зноў.

Так адну за другой ён зняў усе пасткі і набліжаўся да трох апошніх. Яны стаялі на беразе, ля падножжа высокіх скал. Далей цягнуліся пасткі Тайбарэя. Яшчэ далей, кілометраў за дваццаць была хацінка ненца. Нікалай хацеў з'ездзіць да яго, але не рашыўся. Як сустрэне яго Тайбарэй? Ён будзе распытваць пра промысел, а што зможа адказаць Бязрукаў? Хлусіць ён не стане, а праўду расказаць сорамна і горка.

— Не, не паеду,—гучна сказаў Бязрукаў.—Пакуль не паеду.

Ён спыніў нарту і пайшоў да пасткі. Снег быў роўны, ад бялізны яго мігцелася ў вачах. Нікалай спатыкнуўся аб заструг і, вылаяўшыся, павярнуўся, але замест заструга ўбачыў даўно замёршага, скурчанага пясца.

Нікалай адчуў, як ад радасці застукала сэрца, ён не мог вымавіць слова і толькі стаяў, шырока расставіўшы ногі, і шчасліва смяяўся, размахваючы пясцом у той бок, дзе была хацінка Тайбарэя, быццам хацеў паказаць яму сваю першую здабычу. Падбегшы да нарты, ён кінуў у яе пясца і, крыкнуўшы на сабак, побач з імі пабег да наступнай пасткі. Недалёка ад яе, ён убачыў на снягу глыбокія лункі занесеных слядоў і спалохаўся: сляды былі вельмі падобны на мядзвежыя. Калі мядзведзь ішоў да пасткі, не было чаго спадзявацца на здабычу. Але ў пастцы зноў бялеў замёршы пясец, і хаця сляды спыніліся ля самай пасткі, і тут іх было асабліва шмат, звярок аказаўся зусім цэлым. „Чаму ён не крануў пясца?"—падумаў Нікалай. Ён кінуў здабычу на нарту, і ўжо не па беразе, а проста, па мядзвежаму сляду паімчаўся да трэцяй пасткі. Пясец быў і ў ёй, хаця і тут, як і ў папярэдніх двух, Нікалай убачыў мноства мядзвежых слядоў. „Чаму-ж ён не з'еў звера?"—яшчэ раз здзівіўся прамысловец.

Назад да хацінкі галодныя сабакі беглі шпарка. Нарта лёгка ішла па снягу, і Нікалай, абмацваючы пясцоў, пеў штосьці радаснае і незразумелае. Ля хацінкі ён паспешна распрог сабак, накарміў іх. Распаліўшы камялёк, ён склаў пасткі і тушкі пясцоў і з нецярпеннем чакаў, пакуль метал і здабыча адтаюць. Калі пясцы сталі мяккімі, Нікалай асцярожна разняў сківаў першай пасткі. І раптам радасць перамогі змянілася сорамам перад Тайбарэям і злосцю на сябе, на дурную сваю ўпартасць: пастка, якая толькі што сціскала лапкі пясца, была старанна ачышчана ад іржы і густа змазана ліпкім цюленнім тлушчам. Бязрукаў успомніў шматлікія мядзвежыя сляды вакол сваіх пастак і густа пачырванеў: гэта былі не мядзвежыя сляды, а Тайбарэя, які на марозе, у снег і вецер ачышчаў пасткі, каб прымусіць яго пакончыць з дурной упартасцю і ставіць пасткі так, як патрабуе поўнач, як вучыць яго спрактыкаваны Тайбарэй.

Усю ноч прасядзеў Нікалай ля агня, над пасткамі. Здабыча не радавала: яна была дакорам, напамінаннем аб яго ўпартасці. Старанна і акуратна ён чысціў і скроб пасткі, густа змазваў

іх празрыстым, падобным на слёзы, тлушчам. А раніцой зноў падняў сабак і паехаў па беразе, расстаўляючы пасткі так, як вучыў яго Тайбарэй.

* * *

Дзевяцідзённая завея, нарэшце, аціхла. Аслабелі тугія ўдары ветра ў малюсенькія акенцы хацінкі. Скрозь снежнае месіва часцей і часцей пазірала неба. Нікалаю не цярпелася паглядзець пасткі і ён рашыў ехаць. „Пакуль даеду,—думаў ён,—завея зусім сціхне“.

Снег быў густы, рыхлы, зверху зачэрхлы моцнай густой карой. Цяжкая нарта часта правальвалася і тады Нікалай злазіў з яе, дапамагаючы запрэжцы.

Зрэдку падымаючы галаву, ён аглядаў белую пустыню, але зараз-жа зноў апускаў твар, хаваючы яго ад густога снегу. Нечакана сабакі гучна забрахалі і моцна ірванулі нарту. Нікалай скрозь снегапад убачыў штосьці чорнае, якое хутка набліжалася. Саскочыўшы на снег, ён перавярнуў нарту на бок. Сабакі сталі, стомлена дыхаючы, высунуўшы доўгія языкі. Да іх, прыцішаючы бег, набліжалася чужая запрэжка.

— Гэй, соня!—сярдзіта крыкнуў Бязрукаў.—Падарожнічак чортаў, заснуў!

Нікалай пабег да чужой запрэжкі і, наблізіўшыся да яе, пазнаў важака Тайбарэя і ўбачыў пустую нарту.

— А Тайбарэй?—спалохана спытаўся ён, быццам чакаючы адказу ад сабак.

Ён зразумеў, што з Тайбарэям здарылася няшчасце. Прывязаўшы яго запрэжку да задка сваёй нарты, ён пагнаў сабак па следу. Нікалай баяўся за ненца, і ўсё-ж ніяк не мог адагнаць назойлівую думку, што вось і Тайбарэю, выдатнаму, усёведаючаму паляўнічаму, спатрэбілася нарэшце дапамога.

„Толькі-б жывы быў“—падумаў ён.

Тайбарэя ён знайшоў на поўдарозе між сваёй і яго хацінкай. Ненец ляжаў, скурчыўшыся ў камячок, і снег ужо напалову занёс яго. Нікалай хутка падняў ненца і здзівіўся, адчуўшы які ён легкі. Хваляванне чалавека перадалося сабакам і тыя шпарка паімчаліся да хацінкі Тайбарэя.

... Увечары, адцёршы Тайбарэя снегам і напаіўшы яго гарачым чаем, Бязрукаў не змог больш стрымліваць сваю дапытлівасць. Ненец ляжаў на мядзвежай шкуры, ля аганька, задумліва смокчучы трубку. Нікалай, сеўшы побач, спытаўся:

— Ехаў ты куды? У такую пагоду можна хіба ездзіць?

Тайбарэй усміхнуўся і паківаў галавой:

— К табе ехаў. Баяўся. Дзесяць дзён завея, ты адзін. Снег густы быў, сабакам цяжка. Ішоў побач, а яны ірвануліся наперад. Я астаўся.

— Хіба можна так,—паківаў Нікалай галавою,—загінуць мог.

Памаўчалі. Кожны думаў пра сваё.

— Паслухай, Тайбарэйка,—крануў Нікалай нагу ненца.—Ты не злуй на мяне за тое, памятаеш, як сустрэў цябе. Дурань я быў...

— Спаць давай,—перабіў яго Тайбарэй.—Заўтра цюленя біць будзем.

Заснуць Бязрукаў не мог. Маўклівы і маленькі гэты чалавек падабаўся яму ўсё больш і больш. Нікалай з крыўдай успомніў, як неразумна заганарыўся ён пры першай сустрэчы з ненцам. „І лепшы я. і дужэйшы я, і на мядзведзя без выстрала ішоў. Вось дурань“ —кпіў у думках ён над сабой. Тайбарэй без патрэбы не пойдзе на мядзведзя. Ён можа і адным нажом, не тое што рагацінай, возьме звера. Ён вучыць яго. Ён усё ведае...

Нікалай моцна заснуў.

* * *

Некалькі дзён пасля, у густым раннім змроку, Нікалай накіраваўся на морскі лёд да цюленняй лункі, знойдзенай незадоўга перад гэтым. Ветра не было, і ад мароза, здавалася, звінела сіняе паветра. Бязрукаў падыходзіў да лункі павольна, асцярожна, баючыся скрыпам снегу напалохаць звера. У некалькіх метрах ад лункі ён лёг на снег і паклаў перад сабой вінтоўку, падрыхтаваўшыся цярпліва, як вучыў Тайбарэй, чакаць цюленя. Над лункай, быццам лёгкі дымок, курыўся туман. Зрэдку ў лунцы чуўся ўсплеск вады і ценькі звон ільдзінак. „Замярзае,—здагадаўся Нікалай,—а ён не ідзе. Нічога, вылезеш.“ Ён ведаў цяпер усе павадкі цюленя—нездарма-ж некалькі дзён засап хадзілі яны з Тайбарэям на такое паляванне. Праўда, яно не спадабалася Нікалаю: ляжы, мерзні, нават дыхаць старайся менш, і ўсё-ж невядома, заб'еш цюленя ці не.

Дзень павольна разгортваўся над абледзянелым морам. Ззаду на беразе, выразна вырысоўваліся контуры высокіх гор. Нягледзячы на цёплую маліцу, Нікалай пачынаў мерзнуць. „Не будзе цюленя сёння“—падумаў ён. Быццам у адказ на думкі паляўнічага, вада ў лунцы булькнула, і над паверхняй ільда паказалася гладкая вусатая мордачка палахлівага звера. Нікалай замёр, прыхіляючыся да ільда. Цюлень азірнуўся, падазрона нюхаючы паветра, і, абапёршыся ластамі аб край ільда, лёгка выслізнуў на паверхню. Цюлень быў вялікім, ад яго ішла пара. Нікалай чакаў, пакуль ён адпоўз ад палонкі. Талы, асцярожна ўзняўшы вінтоўку, ён выстраліў, нацэліўшыся ў галаву звера.

У наступную секунду Бязрукаў адчуў, як нешта цяжкае, гарачае і кашлатае ўпала яму на спіну і, сапучы, задрапала маліцу, разрываючы яе. „Мядзведзь“—здагадаўся ён, намагаючыся павярнуцца на спіну і рукамі закрыць твар. Звер біўся слабей і слабей, нарэшце цяжка ўздыхнуў і мяккай, цяжкай масай асеў на прамыслоўца. Адсунуўшы тушу звера ў бок, Нікалай выскальзнуў з-пад яе і ўстаў. У некалькіх кроках ад сябе на высокім рапаку ён убачыў Тайбарэя. Ненец усміхаўся, сціскаючы ў руках вінтоўку.

Пераймаючы Тайбарэя, Нікалай павольна і спакойна сказаў:

— Аднак, добра страляў. Малайчына. Адной куляй узяў. Я і не чуў выстрала. Значыцца, у адзін час бахнулі. Ты што-ж, даўно сачыў за ім?

Тайбарэй хітра прышчурыўся і, перакрыўляючы Бязрукава, закрычаў, як крычаў у тую восень, калі ўпяршыню гутарылі яны ля хацінкі Нікалая:

— Чаго прыстаў? То табе добра, то дрэнна. Якая твая справа? Вучыць хочаш?

... Калі шэры кароткі дзень пайшоў на спад да хацінкі Бязрукава рушылі дзве нарты. На іх ляжалі груды ружовага мяса, велізарная шкура мядзведзя і чорная шкура цюленя. Сябры ішлі ззаду побач, і маленькі Тайбарэй, ледзь паспяваючы за высокім Нікалаем, расказваў яму нешта вясёлае і смешнае...

---

Вадзік паспяшыў адагнаць Ірму і папрасіў другую сарочку, «бо гэта,—ён казаў,—пахне рыбай». Можа таму і Ірма прыстае?!

Пасля мама ўзялася чысціць рыбу. Раптам яна ўспомніла, што трэба яшчэ ўзяць з кошыка на вышках яйкі на яешню. Вадзік пачаў адгаварваць маму не лазіць на вышкі.

— Яшчэ зваліШся...

— Што ты гэта кажаш, сынок?!—здзівілася мама, заглядаючы Вадзіку ў вочы.

Але хлопчык стаяў на сваім:

— Ну, дык дайце лепш я злажу!

— Ты, мілы, нічога не зробіш! Апрача яек, мне трэба яшчэ там бялізну паздымаць.

Мама хадзіла па вышках і напявала нейкую песню. А Вадзік пачаў чысціць рыбу, прыслухоўваючыся да голасу мамы. Вось яна пайшла ў адзін куток, павярнула назад, ходзіць каля ляжака. Чым усё гэта кончыцца? А можа забудзецца пра яешню?!

Прышоў бацька. Ён быў ляснічым. Павесіўшы сваю форменную шапку з двумя галінкамі дуба крыж-на-крыж, ён пераапрануўся, усунуў ногі ў мяккія пантофлі і прысеў на кортачкі каля Вадзіка.

— Ого, сёння табе пашанцавала!

— Во, колькі!—сказаў Вадзік, пакручваючы міску з акунямі.

Потым раптам спытаў:

— Тата, а чаму ў цябе сабакі няма?

— Як няма? А Ірма?

— Не, я кажу—добрага, такога, што шпіёнаў ловіць.—А Ірма—ну, што Ірма! Яна толькі курэй дзярэ!

— Ну, гэта ўжо дарэмна. Ірма курэй не дзярэ, а толькі праганяе іх. Сабака—паляўнічы і любіць чыстую дзічыну,—а што гэта за дзічына—куры!?

Раптам з вышак пачуўся крык: «ай»—і потым загрукацелі па лесвіцы абцасы маміных чаравікаў. Бацька падняўся насустрач:

— Што такое? Што такое?

— Ой, нешта мяккае, жывое!

Яна ледзь прыкметна ўсміхалася.

Вадзік і чырванеў, і не мог стрымацца ад смеху. Хуценька падняўшыся, ён пабег на вышкі. Бацька сказаў:

— Пацук? Кацянё?

— Ой, пацук!—грэбліва замахала рукамі мама.

— Ну, вось, а яшчэ варашылаўскі стралок!

Мама зірнула на тату і раптам засмяялася:

— І лепшы, чым ты!

У хату вярнуўся Вадзік.

— Ну, што там?—спытаў бацька.

— Сабачка.

— Сабачка?! Дык вось чаму ён увесь час загаварваў пра сабачку! Дзе ты яго ўзяў?

— Ад Мілкі!—сказаў весела Вадзік.—Ён шпіёнаў будзе лавіць!

І потым расказаў бацькам гісторыю сваёй знаходкі.

III

Карміць сабачку сабралася хлапцоў мабыць з дзесяць. Сядзелі кругом і кожнаму хацелася бегчы дадому па малако. Але сабачка ўжо быў сыты. Поўзаючы па дывану, якім была ўслана падлога ў хаце Вадзіка, ён тыцкаўся мокрай мордачкай у тканіну.

... Рос Буська вельмі хутка. У наступную вясну ён быў падобны ўжо на сапраўднага дарослага сабаку. Рана ў яго выявіўся добры нюх. Дзеці прыкмецілі гэта і навучылі Буську знаходзіць смачныя кавалачкі. Пасля сталі хаваць розныя рэчы. Буська навучыўся адшукваць і прыносіць іх.

Потым стала вядома, што ён добра вядзе па следу. Было так: пякло сонца і Вадзік з Лёнькам ішлі купацца. Буська бег за імі. Раптам хлопцы заўважылі, што ён нешта пачаў нюхаць на зямлі. Вадзік штурхануў Лёньку локцем і яны схаваліся за ларком для продажу фруктаў і гародніны. Што будзе рабіць Буська? Сабачка, убачыўшы, што ён адзін, мусіць вельмі спалохаўся: у яго паднялася на спіне шэрсць, ён трывожна аглядаўся, скуголіў, а потым пабег назад.

Буська прыбег на рог вуліц, дзе трэба было павярнуць налева к дому. Вадзік, які ўвесь час сачыў за сабачкам, моцна свіснуў. Бедны Буська аж прысеў да зямлі,—такі быў нечаканы і прывабны для яго гэты свіст. Сабачка шпарка кінуўся назад, да ларка, але хлапцы схаваліся. Як толькі Буська зноў апынуўся на рагу, Вадзік яшчэ свіснуў. Хлапцы жартавалі да таго часу, пакуль Буська не дагадаўся па следу знайсці іх сховішча. Як ён потым узрадаваўся! Кідаючыся на хлапчукоў, ён лізаў ім рукі, скуголіў, заглядаў у вочы і брахаў.

Праз некаторы час Лёнька, які мінут колькі ішоў у задуменні, звярнуўся да Вадзіка:

— А ён сапраўды будзе лавіць шпіёнаў?

— Ён ужо можа,—сказаў Вадзік.

Вырашылі паспрабаваць сёння увечары.

IV

Гуляць у пагранічнікаў хацелі ўсе хлапцы, але—вось бяда!— ніхто не хацеў быць за шпіёна. Дзеці з гэтай прычыны нават паспрачаліся.

Тут-жа, каля плоту, на прывязі пасвіўся стары казёл. Падымаючы ад зямлі галаву, ён спакойна жаваў траву, трэсучы сваёй рыжаватай барадой. Часамі ён хітра пазіраў зялёнымі вачыма то на хлапцоў, то на сабаку. Лазячы ў капусту, ён зазнаў ужо вострыя зубы Буські, і зараз меціў, каб як-небудзь адпомсціць. Наколькі дазваляла прывязь, ён набліжаўся да сабакі, трымаючы свае выгнутыя рогі напагатове.

Хлопцы спрачаліся...

Раптам Борык, які да гэтага часу маўчаў, бо быў самы меншы і не карыстаўся вялікім аўтарытэтам, прагаварыў тоненькім галаском:

— Браткі! Хлопцы, аб чым спрэчкі?! Ніхто не хоча быць за шпіёна?! А давайце, зробім шпіёнам казла!..

Адразу ўсе сціхлі.

Вадзік, падумаўшы, сказаў:

— А вы думаеце, што жывёлін не выкарыстоўваюць шпіёны? Я чуў, што сабак, галубоў прывучаюць да гэтага...

Лёнька заўважыў:

— Гэта наш казёл!

— Ну і што, калі ваш?

— Нічога,—адказаў мірна Лёнька.—Мы яго можам схаваць у цёмным кутку сада. Там і травы больш!

Лёнька пачаў адвязваць казла ад плоту, ласкава пагладжваючы:

— Козлік! Козлік!

Казёл любіў біцца і таму трэба было падыходзіць да яго з па-багай.

Потым Лёнька крыкнуў:

— Дайце якую-небудзь анучу!

Хлапцы знайшлі і падалі анучу. Лёнька, усё яшчэ гладзячы казла, закрыў яму вочы,—іначай не падвядзеш сабаку. Потым Вадзік падвёў Буську і той абнюхаў яго з усіх бакоў. Калі ўсё гэта было праароблена, павесілі казлу на рогі паперку. Лёнька загадаў усім выйсці на вуліцу, зачыніў у двары фортку і павёў казла ў сад. Там, у самым далёкім кутку, сярод вішань стаяў стары вулей. На вуллі ляжала дошка, якая другім сваім канцом была прыбіта да высокага плоту. Унізе была навалена груда камення, так што можна было ўзабрацца на вулей, стаць на дошку і дабрацца да самых макавак нізкарослага вішняку.

Лёнька, упэўніўшыся, што «стары брадзяга» нікуды адсюль не дзенецца, пакінуў казла, а сам вярнуўся да кампаніі.

— Ёсць—схаваў казла!—сказаў ён, бяручы пад казырок.

Усе пайшлі лавіць «шпіёна». Наперадзе Вадзік вёў разгарачанага Буську, стрымліваючы яго імпэт шворкай. Буська, нюхаючы сляды казла, кідаўся ўперад. Дзеці гужом цягнуліся за ім, прыглядаючыся да сабакі і падцкоўваючы яго:

— Тут, тут, тут!..

Каля форткі з добра выструганых і пафарбаваных брусочкаў, якая вяла ў сад, Буська раптам спыніўся, абнюхваючы зямлю. Спыніліся і ўсе дзеці. Упэўніўшыся, што след казла пайшоў далей, Буська лёгка пераскочыў цераз невысокі плот і павёў далей.

Мінулі стары, абросшы грыбком, склеп, грады з зялёнай цыбуляй, з квітнеючым гурэчнікам. Выйшлі да груш і яблынь. Між сонных дрэў стаяў густы змрок. Над галавой, стукаючыся аб пругкае лісце, гудзелі жукі. Пад нагамі шалясцела густая, халодная трава. Тут і там пападаліся прыгнутыя дадолу сукі яблынь і цяжкія спелыя плады сыпаліся на хлапцоў.

Дзеці ішлі ўсё далей.

Каля плоту было зусім цёмна. Шурпатае лісце малінніка казытала твар. Нібы копны, віднеліся ў цемры прыземістыя кудлатыя кусты агрэсту, а казла нідзе не было.

Хлопцы стаялі каля вулля і прыслухоўваліся да шораху травы,

па якой лазіў сабака. Раптам Буська скігатнуў і забрахаў. У той-жа час Борык, які стаяў бліжэй за ўсіх да парожняга вулля, адчуў, як на яго пасыпаліся вішні.

— Ой, нехта кідаецца вішнямі!—крыкнуў ён і толькі крануўся з месца, як нехта белы, з зялёнымі страшнымі вачмі і з выцягнутай уперад барадой, скокнуў зверху проста ў кучу хлапцоў. Тыя, нібы напалоханы вывадак курапатак, кінуліся ў рассыпную. Але тут злосна забрахаў Буська і пагнаўся за тым, хто скочыў з вішні. Хлапцы здагадаліся, што гэта ён самы—казёл. Калі яны апамяталіся, з малінніка было відаць толькі кончыкі казловых рогаў. Усе кінуліся наўздагон, закрычалі:

— Ту-га, лаві яго, лаві!

Казёл пабег па цёмных алеях.

Раптам пачуўся голас Лёнькі:

— Вадзік, вяроўку давай! Кідай яму на рогі!

Калі Борык падбег да малінніка, «шпіён» быў ужо злоўлены.

— Ага, дыверсант, папаўся!—гаварыў Лёнька.

Сабраўшыся гуртам каля акна хаты, праз якое роўнай паласой клалася святло ад лямпы, хлапцы кармілі казла травой. Усе былі вельмі задаволены гульнёй. А пра Буську і забыліся. Але гэта быў такі сабака, які прымушаў усіх звяртаць на сябе ўвагу. Падбегшы да Вадзіка з паперкай у зубах, ён лёг каля ног і пачаў віляць хвастом. Вадзік узяў паперку ў рукі: гэта быў той самы умоўны пакет шпіёна.

— От які разумны наш Буська!—загаварылі ўсе разам.—І пра гэта не забыўся.

— Але дзе казёл хаваўся!—заўважыў нехта.

— Ну, і хітры, зладзюга! Узабраўся на вішню, ягады сабе есць і на нас костачкамі кідае... Калі мы падышлі, як шпурне мне цэлай прыгаршняй на шапку!—расказваў Борык.

Лёнька сказаў:

— Гэта табе падзяка за тое, што прыдумаў зрабіць яго шпіёнам.

## V

Прайшла зіма.

Буська вырас, паразумнеў.

Пра яго надзвычайныя здольнасці адшукваць згубленыя рэчы ведалі ўсе ў мястэчку. Толькі дзед Банась, вартаўнік калгаснага саду і пчаляр, не хацеў верыць гэтаму.

— Не паверу, і ўсё тут,—гаварыў ён, хітра ўхмыляючыся вы-цвілымі старэчымі вачмі. Каб сабака, ды мог такія штукі?..

— А Мілка?!—пярэчылі яму.

— Ну, Мілка! Тут і раўнаць няма чаго! Мілка атрымала спецыяльную адукацыю.

Гаварыў усё гэта пра Буську дзед Банась дзеля таго, каб якнебудзь завуладаць добрым сабачкам. Хаця Лёнька і не прызнаваўся ў гэтым, але дзед Банась не раз падгаварваў яго адкупіць у Вадзіка шчанюка. Справа зрывалася, але дзядок не траціў надзеі завуладаць сабачкам.

Здарылася так, што і дзядуля Банась прымушаны быў пры ўсіх пахваліць Буську.

Быў вясновы ласкавы дзень. Дзед Банась стаяў сярод расквітнеўшага саду і, задаволена ўхмыляючыся аднымі толькі вачмі, клаў табак у піпку. Паветра поўнілася ціхім гудам. Пад яблынямі жаўцелі чысценькія вуллі. Далей, паблісквабючы на сонцы, віднеліся шкляныя рамы парнікоў. Толькі дзед выняў запалку, каб запаліць піпку і смачна зацягнуцца, як угару ўзвіўся рой. Дзед кінуўся за роем, соўгаючы капшук з піпкай у кішэню.

Калі рой быў злоўлены, дзед ніяк не мог знайсці піпкі. Абхадзіў увесь сад і не мог успомніць, у якім месцы ён пачаў запіхаць яе ў кішэню.

«Дзе яе тут знойдзеш, у такім аграмадным садзе? Усёроўна, што іголку ў саломе шукаць!»—Дзед поўзаў на каленях па траве. «А піпка такая важная! З сапраўднай, з карэльскай бярозы! Ды к таму-ж—падарунак сына!»

Раптам, за дашчанай агарожай сада, пачулася песня:

Мы едем, едем, едем
В далёкие края.
С собой ведём медведя
И дикого слона...

Хто гэта спявае? Дзед зглянуў праз агарожу. Тут былі Вадзік, Лёнька, Воўка, Борык—цэлая чарада хлапцоў. За імі, абнюхваючы купінкі, бег Буська. Дзед прасунуў сівую галаву цераз шчыліну плота і паклікаў дзяцей.

— Што здарылася, дзядуля?

Дзед пачаў махаць рукой.

— Пералазьце цераз плот! Пералазьце!

Дзеці гуртам сыпануліся на той бок. Адразу павеяла мёдавым цёплым пахам. Лісце яблынь, кранутае ціхім ветрыкам, засрабрылася на сонцы.

Дзед загаварыў:

— Ды асаблівага такога і нічога! Даўно бачыўся з вамі,—вось і паклікаў!

І потым ужо, распытаўшы, куды дзеці ідуць, што яны робяць, чаму не ў лагерах, спытаў:

— Дык, кажаце, Рудзька ваш...

— Не Рудзька, дзядуля, а Буська,—сказалі дзеці гучна, ведаючы дзедаву глухату.

— Ну, хай сабе Дуська,—пераблытаў зноў дзед. Дзеці смяяліся.—Хай Дуська! Дык, кажаце, ён дужа вялікі майстар адшукваць згубленыя рэчы?

— Уга-а! З-пад зямлі дастане!..—адказалі дзеці.—А што ў вас, дзядуля, прапала?

— Ды нічога не прапала. Так! Проста зацікавіўся! Першы раз бачу такога сабаку, як ваш Рудзька.

Дзеці вымушаны былі зноў папраўіць дзеда.

— Буська!—крыкнулі яны ў самае вуха дзеду. Рудзька—гэта які-небудзь звычайны руды сабака.

— Ага, ён самы!

— А от давайце, дзядуля, схаваем вашу шапку, далёка-далёка і ён прынясе,—сказаў Вадзік.

— Не, шапку не варта!—сказаў дзед.—Але, вось, дапусцім, я схаваў сваю піпку, і зараз не магу знайсці. Вы ведаеце маю піпку?

— Добрая піпка!—пахвалілі дзеці.

— То-та-ж, што добрая. Ну, дык хай ваш Дуська знойдзе гэту маю піпку тутака, у садзе, а я пагляджу, як гэта ён зробіць...

— Зараз, зараз!—загаварылі на ўсе галасы дзеці.

Вадзік падвёў Буську да дзеда, даў панюхаць яму кішэню, дзе заўсёды ляжала піпка, і скамандваў:

— Шукай! Тут, тут!

Буська завіляў пушыстым хвастом і пачаў пыхкаць носам, нюхаючы лісты падарожніка, дзікага шчаўя. Спачатку ён круціўся на адным месцы, а дзеці стаялі вакол яго. Потым, мусіць натрапіўшы на дзедаў след, калі ён бег лавіць рой, Буська падаўся ўперад. Дзеці гуськом пайшлі за ім. Раптам Буська брахнуў і прыпыніўся, натапырыўшыся на траву, нібы там нешта сядзела жывое. Дзед падбег і падняў піпку.

— Вось яна! Ёсць!

Дзеці глядзелі шчаслівымі вачмі на дзеда і на яго піпку і ўсміхаліся. Дзед пачаў хутчэй напакоўваць піпку табакай.

— Ну, вось!—загаварыў ён.—А я думаў, што піпка прапала ўжо. Добры сабачка ваш! Добры!

Вадзік крыкнуў на вуха дзеду:

— Гэта сын Мілкі!

— Сын Мілкі?—паўтарыў дзед здзіўлена.—Чуў пра Мілку. Добра шпіёнаў лавіць.

Вадзік пахваліўся, што яго Буська таксама можа лавіць шпіёнаў, хоць не меў ніякіх доказаў гэтаму.

— Ну, дзеці!—звярнуўся, урэшце, дзед да хлапцоў.—Вялікую вы мне паслугу зрабілі! Прыходзьце-ж на мёд да мяне.

Дзеці дружна адказалі, што абавязкова прыдуць, а Борык развітаўся з дзедам за руку...

## VI

Вадзік, Лёнька і Борык адпачывалі гэтым летам у санітарным лагеры паграНатрада. Вядома, з імі быў і Буська. Калі яны ішлі па цёмнай алеі да белай будовы лагера, якая віднелася праз прасветы старога сада, у іх было адно нявырашанае пытанне: «а што будзе з Буськам?» Рашылі спачатку пайсці без сабачкі. З боку алеі рос густы дзікі маліннік. Хлопцы зайшлі ў маліннік і загадалі Буську ляжаць, а самі пайшлі ў лагер.

Тут ім усё вельмі спадабалася. З высокіх вакон чыстага двухпавярховага белага дома даносіліся гукі раяля. Чуліся дзіцячыя песні. У ніжнім паверсе грукацелі талеркамі, і ў акне то паказваўся то знікаў тоўсты чырвоны твар повара з белым каўпаком на галаве.

Дарожкі ў садзе былі пасыпаны жоўтым пясочкам. Падстрыжаныя кусты дэкарацыйных і пладовых раслін вабілі вока сваім раскошным зялёным адзеннем. Перад фасадам дома некалькі хлапцоў

і дзяўчат гулялі ў валейбол. Другія наглядалі за гульнёй праз адчыненыя вокны дома.

Ля пад'езда трох сяброў ласкава сустрэла пажылая жанчына ў вялікіх акулярах і ў белым халаце.

— Ааа, навічкі!—сказала яна прыемным голасам, усміхаючыся ласкавай усмешкай.—А якія чорныя, у пылу! Зараз-жа ў ванну! У ванну!

Хлопцы многазначна пераглянуліся: «Бедны Буська! Доўга табе прыдзецца чакаць нас».

— Пакуль дайшлі, запыліліся,—сказалі яны.—Учора толькі былі ў лазні!

Потым у іх спыталі:

— Колькі вас—трое?

Хлопцы зноў пераглянуліся: прызнавацца ці маўчаць? Лепш адразу прызнацца.

— З намі тут чацверты...

— Дзе ён?

— У маліннiку ляжыць, у садзе.

— Што ён, хворы? Чаму-ж вы яго пакінулі аднаго?

— Не, ён здаровы.

— А дзе яго пуцёўка? Чаму ён не заходзіць? Можа саромiцца?

— Пуцёўкі ў яго няма і ён не саромiцца.

— А як-жа?

— Ды проста—так.

— Як, так?

— Ды, так...

Тры сябры ўсміхнуліся.

— Што-ж вы маўчыце?

— Ды гэта наш Буська!—сказаў Борык.—Мы ідзем у лагер, а ён ад нас не адстае. Увесь час бяжыць за намі, хоць страляй яго...

— Колькі год вашаму Буську? Як яго імя?

— Буська!—сказаў Борык.—Буська і ўсё. Другі год яму пайшоў.

У гэты час праз шыбу акна паказалася вострая шэрая морда. Хлопцы перапалохаліся. Вадзік зрабіў знак, але морда не паспела схавацца; жанчына прыкмеціла яе і паглядзела на хлапцоў суровым пранiклівым позіркам. Борык апусціў вочы і сказаў:

— Гэта ён, Буська.

— Буська?

— Буська!

Жанчына засмяялася.

— Ах, дзівакі вы такія,—сказала яна, гладзячы хлапцоў па галоўках.—Дык вы-б так даўно сказалі! Прывядзіце вашага Буську сюды.

Дзеці ўмомант паклікалі сабаку. Жанчына сказала пра яго загадчыку гаспадаркай. Буську агледзелі, прызналі дастойным таго, каб залічыць яго на самастойны парцыён і змясцілі ў будку каля складу з прадуктамі лагера.

Буська і тут заваяваў сваім розумам і паводзінамі агульную сімпатыю дзяцей і дарослых. За лагерам, глыбокімі вірамі, абросшымі чаротам затокамі, звівалася на зялёным лугу рэчка. Далей, за рэч-

кай, пачынаўся вялікі лес. Адтуль уначы несліся нейкія страшэнныя гукі: то стагнаў надзьмуты філін або крычала вушастая сава. І тады з маладых аўсоў трывожна адгукаліся зайцы...

Аднаго разу дзеці сядзелі на ўзлеску і чакалі, пакуль вернецца Буська з вадзікавай шапкай, якую яны схавалі далёка ў лесе. Было пад поўдзень. Гарачымі струменямі лілося на зямлю сонца. Дзеці сядзелі ў цяньку густой елкі і глядзелі, як адна за другой выбягаюць з лесу каровы і труцца аб кусты, зганяючы аваднёў. Раптам на ўзлеску паказаўся Сілівей. Пастух шпарка бег па полю. Убачыўшы хлапцоў, ён нібы ўзрадаваўся і пачаў іх клікаць да сябе, махаючы рукой.

— Дзе ваш сабака?—спытаў ён трывожна ў падбегшых.

Вадзік і Лёнька спалохаліся: «Ці не ваўкі яго злавілі?»

— Знайдзіце яго хутчэй і бяжыце туды ў лес!

— Чаго, дзядзька Сілівей?—спытаў Лёнька.

— Там некага ловяць,—адказаў пастух і пабег далей.

Хлопцы ўскочылі і пабеглі да лесу.

На неба ўзышла невялічкая хмарка. Падзьмуў вецер. Лес хмурыўся, шумеў.

Асцярожна ступаючы па ўсыпанай зжоўклай ігліцай зямлі, хлапцы пасоўваліся ўперад. Чарнеючыя абвіслым сухім мохам вывараці палохалі іх сваім выглядам. Гніючыя калоды—склізкія, з аблезлай карой, пакрыўленыя на бакі пні здаваліся дзецям нейкімі нябачнымі страшыдламі...

А ў лесе нікога не было. «Ці не пажартаваў пастух? Але ад чаго ў яго быў такі ўстрывожаны выгляд?»

Вось і Гнілы ручэй, куды наказаў бегчы Сілівей. Раптам Буська насташажыў вушы. Гэта не прайшло непрыкметна для хлапцоў; яны спыніліся і зацiхлі. І хутка на сцежцы, пераходзячы Гнілы ручэй, паказаўся нетутэйшы чалавек. Ён не ішоў, а бег, бег напрамік, прабіраючыся праз кусты і ельнік. Шэры пінжак на ім быў парваны і звісаў лахманамі з плячэй. Здавалася, што гэты чалавек толькі што вырваўся з цэпкіх калючак драцяной загарожы, праз якую ён прабіраўся. Твар яго быў спалоханы і скажоны страхам. Хлопцы адразу зразумелі, што гэта ён, той самы, пра каго гаварыў пастух.

Чалавек прабег міма, ламаючы сваім целам суччо і не заўважыўшы хлапцоў. Буська завурчэў і хацеў гаўкнуць, кінуцца да ўцякаючага, але Вадзік грозна тупнуў нагой.

— Вы ідзіце з Буськам за ім, а я пабягу да пагранічнікаў,—зашаптаў Лёнька.

— Чаго да пагранічнікаў бегчы,—сказаў Вадзік,—калі яны хутка і так тут будуць! Трэба не спускаць шпіёна з вачэй. Хадзем за ім!

І хлопцы пайшлі, дзе падбягаючы, а дзе зацішаючы хаду. Буська ішоў уперадзе, задраўшы нос уверх і нюхаючы паветра. Раптам ён не стрымаўся і злосна заенчыў. Чалавек, нібы паралізаваны гэтым енкам, спыніўся, як укопаны, і страшэннымі вачмі глядзеў на дзяцей. Буська ярасна забрахаў. Хлопцы паклікалі сабаку і схаваліся за дрэва. Але было позна: чалавек прыкмеціў іх і, павольна падымаючы знізу ўверх, навёў на іх чорнае дула цяжкога маўзера. Некаторы час ён трымаў іх на прыцэле. Было чуваць яго цяжкое ды-

ханне. Хлапцы, схаваўшыся за дрэвамі, чакалі стрэла. Але чалавек зноў кінуўся ўцякаць.

— Трэба даганяць!—рашуча сказаў Вадзік, спыняючыся.—Што будзе, калі ён уцячэ?

Пусціўшы Буську ўперад, ён загадаў:

— Чужы! Буська, вазьмі яго!

У Буські паднялася шэрсць на спіне. Ён прытуліў да галавы вушы, ашчэрыў зубы і, зароўшы, кінуўся за чалавекам.

... Нешта шэрае мільганула ў паветры, пахіснулася і рынулася ў траву. Яшчэ хвіліна і пачуўся сухі трэск стрэла. Потым сабака заенчыў, а пасля завурчэў і загаркаў яшчэ злосней.

Раптам з усіх бакоў ажылі кусты. Праз галлё і лісце замільгацелі людзі.

— Тут! Стой! Стой!

Трэск ламачча пад нагамі, мітусня, хрып чалавека і сабакі...

Калі падбеглі дзеці, Буська яшчэ трымаў шпіёна клыкамі за шыю.

## VII

Затрыманы аказаўся буйным шпіёнам адной суседняй дзяржавы.

Рана ў Буські была нецяжкая. Яму перавязалі лапу. У санітарны лагер да дзяцей прыехаў капітан з пагранічнага атрада. У дзяцей пыталіся, як яны вучылі Буську.

Потым капітан сказаў:

— Ну, які вы хочаце атрымаць падарунак?

Усе трое—Борык таксама быў тут—пераглянуліся. Потым апусцілі вочы на Буську. З перавязанай лапай той стаяў сярод іх. Урэшце Борык, пабліскваючы радасна вачмі, загаварыў:

— Падарыце Буську прыгожы нашыйнік!

Сярод прысутных пракаціўся рогат.

Капітан сказаў:

— Я прышлю Буську нашыйнік, а вам: што хочаце—добры радыёпрыёмнік ці веласіпед?

— А веласіпед добры?—спытаў Борык.

Зноў пачуўся рогат.

— Добры, новы,—адказаў капітан.

— Ну, тады веласіпед,—далі згоду ўсе ўтраіх.

... Падарункі былі атрыманы хутка.

У новым бліскучым нашыйніку Буська здаваўся яшчэ разумнейшым.

Веласіпед быў вельмі лёгкі на хаду. Хлапцы ўжо ўмелі добра ездзіць. Аднаго разу Вадзік, сціраючы пыл са спіц колаў мокрай анучай, нібы незнарок кінуў:

— Якая добрая машынка!

Усе трое задумаліся, не адрываючы вачэй ад цудоўнай машыны. У думках яны перажывалі яшчэ раз той хвалюючы момант, калі зрабілі такую вялікую паслугу. І зараз гэты веласіпед здаваўся ім каштоўным толькі тым, што напамінаў ім гэты ўчынак. Вадзік камячыў у руках анучу.

Раптам Борык сказаў:

— А ведаеце што, хлопцы? Што ў нас далей будзе рабіць Буська! Давайце аддадзім яго пагранічнікам!

Лёнька ўзняў галаву і глянуў на Вадзіка. Той, як і раней камячыў у руках анучу.

— Я аб гэтым ужо думаў не раз!—сказаў ён, падняўся і павёў машыну ў лагер.

Праз некаторы час хлапцы ішлі да будкі Буські. Быў пасляабедзенны час. Кожны з іх нёс у кішэні па кавалку смачнага пірага. З ласкай аддаўшы пірог сабаку, яны спусцілі яго з ланцуга і накіраваліся за вароты лагера.

У гэты раз ім давялося пабачыць і Мілку—гразу шпіёнаў. Калі баец прывёў іх да капітана і яны расказалі яму аб сваім жаданні, капітан спытаў:

— А дзе вы ўзялі гэтага сабаку?

Вадзік расказаў спачатку да канца гісторыю знаходкі Буські. Капітан сказаў:

— Дык гэта сын Мількі?—і загадаў прывесці гразу шпіёнаў.

І сапраўды, Буська быў вельмі падобны на яе. У заключэнне капітан сказаў:

— Прыдзецца вам, хлапчукі, атрымаць і той радыёпрыёмнік.

* * *

Хлапцам было цяжка расставацца з Буськам. Ды яны так падружыліся з капітанам, што не хацелася і выходзіць ад яго. Яны вышлі з кабінета сумнымі, але калі вылазілі з бліскучай машыны пагранічнага атрада, якая давезла іх да лагера, ім хацелася спяваць,—тым больш, што яны памяталі словы капітана: «калі вам захочацца пабачыць Буську—прыходзьце!»

———

*Макар Паслядовіч*

# ШАЛЁНАЯ РЫСЬ

*П'еса ў адным акце*

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

ОЛЬГА СЯМЁНАЎНА—настаўніца
ЛЁНЬКА, ВІЦЬКА, СОНЯ, МІШКА — школьнікі
МІХАЛ ГАЎРЫЛАВІЧ—калгасны вартаўнік, паляўнічы
АДНАВОКІ (абвязанае адно вока)—апрануты досыць чыста
НЕЗНАЁМЫ—ён у лапцях, у парваным адзенні
НАЧАЛЬНІК ЗАСТАВЫ
ЧЫРВОНААРМЕЕЦ
ХЛОПЦЫ, ДЗЯЎЧАТЫ,

---

Невялічкая палянка ў лесе. Веснавы сонечны поўдзень. Недзе паблізу стукае па дрэву дзяцел. Цырлікаюць птушкі. Разы са тры каркнула варона. На палянку выходзіць Ольга Сямёнаўна. З ёю Ленька, Віця, Соня.

Ольга Сямёнаўна *(азірнуўшыся)*. Здаецца, дамоўленае месца тут?

Віця *(паказвае рукою)*. Так, Ольга Сямёнаўна. Вунь і два дубы, пад якімі быў лагер. Развалiны старой зямлянкі...

Ольга Сямёнаўна. Хутка прыдзе Міхал Гаўрылавіч. Ён расскажа нам, як змагаўся партызанскі атрад з польскай шляхтай.

Лёня. Міхал Гаўрылавіч сам былы партызан. Будзь здароў!

Ольга Сямёнаўна. Гукні, Віцька, астатніх. Чаго яны затрымаліся?

Віця. Збіраюць падснежнікі. *(Гукае, прыставіўшы далоні да роту)*. Го-го-го!..

Некалькі розных галасоў здалёку. Го-го-го.

Віця *(працягла)*. Выходзьце на Воўчую граду. Хутка прыдзе Міхал Гаўрылавіч.

Соня. Воўчая града... Тут, мусіць, страшна ўночы?

Лёнька. Чаго там баяцца?! Мне вот зусім не страшна.

Соня. А калі ваўкі?

Лёнька. Звяроў я не баюся. Я мог-бы паехаць у тайгу. Страляць мядзведзяў!
Соня. А вялікі гэты лес?
Ольга Сямёнаўна. Ён цягнецца аж да самай граніцы. Да рэволюцыі лес належаў памешчыку Струсю. І нам тут хадзіць пан не дазваляў. Цяпер лес наш.
Соня. Тут мусіць ёсць і мядзведзі?
Віця. Няма. Мядзведзі вядуцца толькі ў Барысаўскім запаведніку.
Соня. А выдры? Міхал Гаўрылавіч расказваў, як ён лавіў выдраў.
Віця. Выдраў вартаўнік лавіў у другім месцы.
Соня. Выдра, мусіць, вельмі дзярэцца.
Віця. Чаму ты думаеш так?
Соня. Каб яна не дралася, яе-б і не называлі выдрай. Ты, Лёня, не баішся выдры?
Лёня. Будзь здарова, што не баюся!
Ольга Сямёнаўна. Ты ў нас самы храбры.
Віця. Няпраўда. Ён самы першы трус.
Лёнька. Гэта ты трус. Хто пабаяўся лезці на сілосную вежу? Я?
Віця. А чаго мне без патрэбы лазіць? Так робяць толькі несур'ёзныя малыя.
Лёнька. Гэта ты кажаш, што я малы?
Віця. А, думаеш, вялікі?
Лёнька. Будзь здароў! Каб я быў малы, дык-бы таварыш Папанін не агітаваў мяне...
Віця. Цябе?!
Лёнька. Няўжо-ж цябе!
Віця. Калі?
Лёнька. Калі?.. Ну, калі я быў на экскурсіі ў Маскве.
Віця. Для чаго ён цябе агітаваў?
Лёнька. Ляцець на паўднёвы полюс... «Пакацім, кажа, Лёнька, зноў дрэйфаваць».
Віця. Ну і хлус-жа ты!
Лёнька. Чаму хлус? Будзь здароў, што ён так сказаў.
Віця. Іван Дзмітрыевіч так не скажа.
Лёнька. Чаму?
Віця. Таму, што на паўднёвым полюсе не мора, а зямля.
Лёнька (*разгублена*). Зямля? Якая зямля?
Віця. Ну вот і папаўся! Цяпер будзеш ведаць, як хлусіць. Я табе, Лёнька, як старэйшы кажу: кінь хлусіць! Вучышся ты на выдатна, але хлус першай маркі. Нават паляўнічыя так не хлусяць, як ты.
Лёнька. Будзь здароў, што Іван Дзмітрыевіч мог так сказаць. Я то добра не памятаю: можа ён сказаў дрэйфаваць не на полюсе, а блізка каля яго...
Соня. Міхал Гаўрылавіч ідзе!
Ольга Сямёнаўна. Віця, гукні рэбят, каб хутчэй сюды збіраліся.
Віця (*прыставіўшы далоні да губ*). Го-го-го!

Далёкія галасы. Го-го-го.

Віця. Міхал Гаўрылавіч прышоў...

Міхал Гаўрылавіч. Ён уваходзіць спешна. За плячыма паляўнічая стрэльба. У руках сумка.

Міхал Гаўрылавіч (*махае рукамі на Віцю*). Тсс! Ціха! (*Неспакойліва аглядаецца*).

Ольга Сямёнаўна. А што такое, Міхал Гаўрылавіч? Вы нечага занепакоены. Што здарылася?

Міхал Гаўрылавіч (*зірнуўшы на дзяцей*). Нічога асаблівага. Але нашу гутарку давядзецца адкласці.

Віця. Адкласці гутарку пра барацьбу партызан?

Лёнька. Чаму адкласці?

Соня. Раскажыце, дзядзя Міша!

Міхал Гаўрылавіч. Другім разам, жэўжыкі.

Лёнька. Мы не пойдзем з лесу да таго часу, пакуль вы не раскажаце, як касілі з кулямёта акупантаў.

Віця. Лёнька, не перашкаджай.

Лёнька. Ты сам не перашкаджай! Я хачу паслухаць пра партызан. І я нікуды не пайду, пакуль Міхал Гаўрылавіч не раскажа! (*Садзіцца дэманстрацыйна на зямлю*). Будзь здароў, што я сваё слова стрымаю!

Міхал Гаўрылавіч (*непакойліва аглядаецца, паціху*). Не магу я, рэбяткі! Мне трэба неадкладна аднаго звера злавіць...

Лёнька. Якога звера?

Міхал Гаўрылавіч. Рысь.

Віцька. Рысь? Тут?

Соня. А што гэта такое—рысь?

Міхал Гаўрылавіч. О, гэта вельмі страшны звер. Ён адразу кідаецца на дзяцей, асабліва непаслухмяных.

Лёнька (*упарта*). Няпраўда! У гэтым лесе няма рысяў. Я не баюся рысі.

Міхал Гаўрылавіч. Ёсць. Завялася адна.

Лёнька (*упарта*). Няпраўда! Вы проста не хочаце расказаць нам, як вы ваявалі з панамі. Раскажыце, Міхал Гаўрылавіч, як уцякаў ад вас памешчык Струсь.

Міхал Гаўрылавіч. Лёнька! Ідзі, кажу, да хаты. Гэта рысь не звычайная, а шалёная. Яна можа выдраць табе вочы. Чуеш? Скочыць з дрэва і—каюк!

Лёнька (*ускакваючы з зямлі*). Выдраць вочы? Асляпіць?

Міхал Гаўрылавіч. І асляпіць.

Лёнька. Ольга Сямёнаўна, да хаты...

Міхал Гаўрылавіч (*да Ольгі Сямёнаўны*). Адыйдземся, Ольга Сямёнаўна, ў бок. Я хачу вам сказаць нешта па сакрэту. (*Адыходзяць*).

Ольга Сямёнаўна. У чым справа?

Міхал Гаўрылавіч. А ў тым, таварыш настаўніца, што, як кажуць, не чакай бяды, яна сама да цябе прыдзе.

Ольга Сямёнаўна. Якая бяда?

Міхал Гаўрылавіч (*азірнуўшыся, ціха*). Сёння ўночы праз граніцу хацела перайсці ўзброеная банда. Пагранічнікі забілі чатырох дыверсантаў, але адзін, пяты, прарваўся і недзе бадзяецца ў гэтым лесе. Можа ён яшчэ і не дайшоў сюды, але нам трэба пільнаваць.

Лёнька (*пaглядаючы на дрэвы*). Ольга Сямёнаўна, пойдзем да хаты...

Віця. Ну і храбрэц! А яшчэ вадаваўся, што мядзведзяў не баішся!..

Міхал Гаўрылавіч. Малых вядзіце да хаты. Комсамольцаў прышліце ка мне.

Ольга Сямёнаўна (*кіўнуўшы галавою Міхалу Гаўрылавічу, падыходзіць да вучняў*). Хадзем, рэбята. Сапраўды, тут завялася рысь. Але вы не бойцеся. Хутка выйдзем на край лесу. Там, на полі, працуюць трактарысты. Пабудзем каля іх, пакуль Міхал Гаўрылавіч рысь зловіць.

Міхал Гаўрылавіч (*ціха*). Віцька, астанься на хвілінку...

Віця. Ольга Сямёнаўна, мне можна пагутарыць з Міхалам Гаўрылавічам?

Ольга Сямёнаўна. Можна. (*Выходзіць*).

Лёнька (*баязліва азіраючыся выбягае*). Ольга Сямёнаўна, да хаты... да хаты...

Міхал Гаўрылавіч (*азірнуўшыся*). Вот што, жэўжык... Гэтага звера нам трэба злавіць сёння-ж. Пакуль не сцямнее. Інакш ён наробіць вялікай бяды.

Віця (*пaглядаючы на дрэвы*). А як яго злавіць, Міхал Гаўрылавіч?

Міхал Гаўрылавіч. Ты на дрэвы не пазірай. Сёння гэтая зяруга па зямлі ходзіць. У гэтую хвіліну можа дзе пад карчом сядзіць. (*Азіраецца, прыслухоўваецца*). Чакай. Нехта бяжыць! Схаваемся. (*Хаваюцца за яліну*).

Убягае Лёнька. Ён баязліва азіраючыся, нечага шукае.

Лёнька. Дзе-ж я мог забыцца? А можа Віцька схаваў? (*Прабягае далей за сцэну, але зараз-жа варочаецца з кніжкай*).

Віця (*з куста, грозна*). Мр-мр-мр...

Лёнька (*аж падскаквае, крычыць выбягаючы*). Тата-мама...

Міхал Гаўрылавіч (*выходзячы на сцэну*). Навошта ты яго спалохаў? Нядобра.

Віця (*вылазячы следам за ім*). А няхай не задаецца, што вельмі храбры. Дык што мы будзем рабіць, Міхал Гаўрылавіч?

Міхал Гаўрылавіч. А вот што: пільнаваць. У лесе мы не адны. За Воўчай градою стаіць Пецька—трактарыст. Старшыня калгаса пайшоў з комсамольцамі на балота. З таго боку пушчы пільнуюць калгаснікі «Чырвонага ўсходу» і рабочыя ільнозавода. Ольга Сямёнаўна прышле да мяне вучняў старэйшых класаў-комсамольцаў. А з таго боку ад самай граніцы аглядаюць кожны куст, кожнае дрэва чырвонаармейцы...

Віця (*азірнуўшыся*). Чырвонаармейцы? Пагранічнікі?

Міхал Гаўрылавіч. Ну, ясная справа. Што тут дзіўнае? Зяруга перарэзала горла аўчарцы і параніла гранатай чырвонаармейца...
Віця. Значыць, гэта не рысь! Гэта *(азіраецца)*, гэта...
Міхал Гаўрылавіч. Ну, вядома! На табе торбу з хлебам і салам. Ты цяпер пастух. Я стану *(паказвае)* вунь у той лагчыне. Калі што якое—бяжы да мяне, толькі без крыку. *(Выходзіць)*.
Віця *(азіраючыся)*. Ну і страх! *(Ходзіць узрушана туды-сюды)*. Ён напэўна з гранатамі! За поясам два маўзеры. Аўтаматычная вінтоўка за плячыма!..

Раптам, азірнуўшы ў адзін бок, хапае ламіну, дастае ножык і пачынае абразаць сучкі. Гукае на ўвесь голас: „Каралева, каралева!“ На сцэну выходзіць незнаёмы. Ён у лапцях, у парванай жакетцы. За плячыма нейкі мяшок. На вяровачцы скруткі лазовай кары.

Незнаёмы *(убачыўшы Віцьку, раптам стаў)*. Ты што, малы, тут робіш?
Віцька. Шукаю каралеву.
Незнаёмы. Якую каралеву?
Віця. Карову.
Незнаёмы. Ты што—пастух?
Віця. Падпасыч. Пастухом у нас Дзямян Пятровіч Лагуцін.
Незнаёмы *(кладзе на зямлю мех, садзіцца)*. Так-так... *(закурвае)*.
Віця. А вы адкуль, дзядуля?
Незнаёмы. Чуў пра Караеды?
Віця. Караеды? Гэта што: горад, калгас?
Незнаёмы. Калгас. Эх, ты—малыш! Не ведаеш сваіх суседніх вёсак.
Віця. А далёка гэтыя Караеды адсюль?
Незнаёмы. Ды вось там *(паказвае)* за лесам. Там трактарная станцыя і новы двухпавярховы дом з цэглы. Я адтуль. Вышаў надраць лыка на лапці.
Віця. А-а... Ды гэта-ж калгас «Чырвоны май»! І ніякія не Караеды. Гэта старая назва.
Незнаёмы. Правільна. Ты, малыш, відаць, разумны. Скажы толькі мне адну штуковіну...
Віця. Якую?
Незнаёмы. Ты не спатыкаў тут чалавека з падбітым правым вокам?
Віця. Чаму з падбітым? Хто яго падбіў?
Незнаёмы. Ну, гэта не твая справа... Будзеш многа ведаць—састарэеш рана.
Віця *(хуценька)*. Спатыкаў, спатыкаў.
Незнаёмы *(дапытліва, пазірае на Віцю, сурова)*. Не хлусіш?
Віця. Чэснае піо... *(схамянуўшыся)*. Далібог!
Незнаёмы *(усхватваецца, пагрозна набліжаецца да Віці. Рука незнаёмага ў кішэні)*. Я вот даведаюся, ці праўда. Калі хлусіш—зраблю табе канец. І крумкачы расцягаюць па лесе твае косці. *(Дастае рэвольвер, упірае ў грудзі Віці)*.

Віця. Дзядулечка... *(Адступаецца, упіраецца спіною ў ёлку—далей ісці нельга).*
Незнаёмы. Скажы, якою хусткаю абвязана яго вока?
Віця. У яго... У яго...

Раптам за сцэнаю нарастае і набліжаецца страшэнны лямант—„ая-яй-ая-яй!.. Ратуйце, людзі добрыя!“ Незнаёмы хапае з зямлі мех, імкліва, як тыгр, кідаецца ў гушчар. На сцэну выбягае, узяўшыся за галаву Лёнька.

Лёнька *(азіраючыся, крычыць).* А-я-яй! Ратуйце, людзі добрыя! *(Кідаецца на зямлю, паўзе пад яліну, дзе стаіць Віця. Віці ён не заўважае).*
Віця *(хапае яго за ногі, выцягвае).* Ты...
Лёнька *(хоча вырвацца, крычыць яшчэ мацней, нібы яго сапраўды схапіў звер).* Ая-яй-яй... Тата-мама...
Віця *(тармосіць яго).* Чаго ты крычыш? Сціхні. Гэта я, Віця.
Лёнька *(змоўк, падымае на Віцю позірк, мацае сябе, ці жывы ён. Потым усхватваецца, паказваючы рукою).* Рысі! Там! На мяне адна скочыла...
Віця. Дзе, дзе? *(Прыглядаецца).*
Лёнька *(паказвае).* Вунь, на дрэве.
Віця *(прыгледзеўшыся).* Ды гэта-ж белка! Паглядзі добра! Грызе шышку. Яна мусіць выпусціла на цябе шышку, а ты падумаў, што рысь скочыла...
Лёнька *(прыгледзеўшыся, храбрыцца).* Я то не вельмі і спалохаўся! Гэта я крычаў, каб другія ўцякалі. Фі! Падумаеш, страх такі! Я мядзведзяў і львоў не пабаюся!
Віця. Слухай, Лёнька! Сорам табе, што ты трус. Але...
Лёнька. Я—трус? Ну, брат!
Віця. ...але ты цяпер выратаваў мне жыццё. Хутчэй бяжым адсюль да Міхала Гаўрылавіча...
Лёнька. Я выратаваў?..
Віця *(хапае яго за руку, цягне).* Хутчэй!..
Лёнька *(вырваўшыся).* Не, брат! Я адсюль і не крануся! Зараз сюдою будуць ісці вучні, Ольга Сямёнаўна. Я тут іх пачакаю.
Віця *(азірнуўшыся).* Ну, чакай. *(Выбягае).*

Лёнька нервова пачынае хадзіць туды-сюды. Паглядае на дрэвы, часта спыняецца, прыслухоўваецца. Хапае вялікі сук, бярэ на спагатову, каб адбіцца ад нападу. Раптам страшэнны трэск, тупат. Лёнька аж падскаквае і кідаецца пад ялінку, хаваецца. На сцэну выбягаюць двое: незнаёмы ў лапцях і чалавек з падвязаным вокам—аднавокі.

Незнаёмы. Тут самы глухі куток... Вы чаму спазніліся? *(Развязвае мех).*
Аднавокі. За мной сталі сачыць. Цяжка было прайсці.
Незнаёмы. Цяжка? Вы думаеце нам лёгка? З пяці чалавек прарваўся толькі я адзін! Астатнія забіты. Дык то-ж граніца! А тут—тыл.
Аднавокі. Паспрабуйце цяпер выбрацца з гэтага тыла! *(Азіраецца).*
Незнаёмы. Вы—баязлівец! *(Падае аднавокаму нейкія пакеты, якія той шпарка піхае ў кішэні).*

Аднавокі. Баязлівец? Жартуеце, пане Струсь! Вы проста не ведаеце гэтых людзей! Вы там крышачку адсталі. Пра гэта сведчыць нават ваша жабрацкае ўбранне.

Незнаёмы. Убранне? *(Аглядае свае лапці, парваную жакетку)*.

Аднавокі. Так. Лапці і парваную вопратку насілі толькі вашы парабкі, калі вы былі панам *(паказвае)* у гэтым маёнтку. Цяпер там калгас. І калгаснікі ходзяць у ботах, а на плячах не носяць такога рызззя. Таму ваш касцюм выкліча падазрэнне нават у дзіцяці... Жабракоў у гэтай краіне вы не спаткаеце... Вы меркавалі напэўне па дарэволюцыйнай Расіі, або па сучаснай заходняй Еўропе...

Незнаёмы. Вы менш балбачыце. Скажыце, што вы зрабілі за гэты час?

Аднавокі. Заданні выкананы на палову.

Незнаёмы. Што я чую? Няўжо вы сапраўды сталі трусам? Атруту вы скарысталі?

Аднавокі. Усю.

Незнаёмы. Вынікі?

Аднавокі. Я ўсыпаў яе ў мяшок з крупамі ў кааперацыі.

Незнаёмы. Хто ўзяў крупы?

Аднавокі. Калгас «Новае жыццё». Для ясляў.

Незнаёмы. Колькі?

Аднавокі. Увесь мяшок.

Незнаёмы. Ідыёт! Я пытаюся, колькі атруцілі дзяцей?

Аднавокі. Усяго чатырнаццаць. У тым ліку адна нянька.

Незнаёмы. Мала! Слаба вы працуеце, пане Гамулька! Я вам зноў прынёс атруты. Але тое, што зараз пакажу, будзе самым найлепшым сродкам *(дастае некалькі прабірак)*. Бярыце.

Аднавокі. Што гэта?

Незнаёмы. Чума.

Аднавокі *(хуценька кладзе прабіркі на зямлю, выцірае рукі)*. Чума?!

Незнаёмы. Ну, чаго вы спалохаліся? Гэта выдатная навінка нашых лабараторый...

Аднавокі. Але-ж і я...

Незнаёмы. Вы не захварэеце, калі дакладна будзеце прытрымлівацца *(дастае з кішэні паперку)* гэтай інструкцыі. Чуеце? Вы павінны прабрацца на хлебныя склады. Вы павінны рассеяць яе ў пасажырскіх цягніках, на станцыях. А ўвосень, калі пачнуцца манеўры Чырвонай арміі...

Аднавокі *(раптам уздрыгвае, прыўзнімае галаву)*. Чакайце! *(Прыслухоўваецца)*.

Незнаёмы *(хапаецца за кішэню)*. Што?

Аднавокі *(устае, азіраецца)*. Мне здалося, што нехта тут уздыхнуў... *(аглядае кусты)*.

Незнаёмы *(ускаквае)*. Можа пастушок? Ён шукаў каровы.

Аднавокі *(збянтэжана)*. Пастушок? Дзе?

Незнаёмы. Я яго знайшоў. *(Прыглядаецца да мясцовасці)*. Здаецца тут. *(Падымае палку)*. Так. Тут. Гэта палка яго. Ён яе стругаў.

Аднавокі. Ён вас бачыў?
Незнаёмы. Размаўляў нават.
Аднавокі. Нават размаўляў? Слухайце! Нам трэба хутчэй адсюль уцякаць! Ён напэўна ўжо ў начальніка пагранзаставы, альбо ў сельсовеце. Якое глупства вы зрабілі! Якое глупства!
Незнаёмы. Ён дзіця! Ён можа не здагадацца.
Аднавокі. Тады вы не ведаеце гэтых дзяцей! *(Хапае прабіркі)*.
Незнаёмы. Весткі пра масты і дарогі?
Аднавокі *(дастае з кішэні, падае незнаёмаму)*. Хутчэй! На Воўчую граду! Там роў, у якім і сам чорт галаву зломіць. *(Выбягаюць)*.

Лёнька, азіраючыся, вылазіць з-пад ялінкі. Выбягаюць Віця і Міхал Гаўрылавіч.

Лёнька *(кідаючыся да іх насустрач)*. Яны пабеглі на Воўчую граду...
Міхал Гаўрылавіч. Хто яны?
Лёнька. Бандыты.
Віця. Бандыты?
Міхал Гаўрылавіч. Хіба ён не адзін?
Лёнька. Два.
Міхал Гаўрылавіч. Два? Мне начальнік заставы гаварыў пра аднаго!
Лёнька. Так. Я схаваўся во тут, калі яны размаўлялі. Аднаго я ведаю. Гэта Гамулька, кулацкі сын, якога прагналі з ільнозавода за тое, што пагнаіў трасту.
Міхал Гаўрылавіч. Яны не ўцякуць! Лес абкружаны. Пагранічнікі падыходзяць да Воўчай грады з таго боку. *(Кідаецца следам за бандытамі. Хутка чуваць адзін стрэл, другі)*.
Віця *(прыглядаецца)*. Стары жабрак бяжыць! *(Хапае даўгі сук, стойваецца каля дрэва, ціха камандуе ў бок)*. Хлопцы, падрыхтуйцеся! *(Прысядае)*.

На сцэну выскаквае незнаёмы з рэвальверам. Віця падстаўляе яму сук пад ногі, бандыт спатыкнуўся і паляцеў на зямлю. У гэты-ж момант з усіх бакоў на яго рынуліся, нібы выскачыўшы з-пад зямлі, хлопцы. Іх чалавек пяць, а можа больш. Барацьба.

Віця *(адбірае рэвальвер)*. Закручвайце рукі на спіну! Звязвайце! *(Адвязвае свой пояс, кідаецца ў кучу, дапамагае вязаць бандыта)*.
Лёнька *(які быў у кучы недзе на самым нізе, устае)*. Гатова.

Хлопцы расступаюцца. Звязаны бандыт ляжыць нерухома пасярэдзіне сцэны.

Віця. Ты, Лёня, і ты, Мішка—вартуйце! А мы пабяжым на дапамогу Міхалу Гаўрылавічу. Толькі не спускайце вачэй з гэтай шалёнай рысі. Падумае ўцякаць—біце калом па галаве. Зараз падыйдуць чырвонаармейцы. *(Выбягаюць)*.

Лёнька і Мішка стаяць некаторы час моўчкі.

Лёнька *(ціха)*. Памятаеш, як атруціліся малыя ў яслях?
Мішка *(закрывае твар рукамі)*. Не спамінай...

Лёнька. А гэта-ж падстроілі з-за мяжы. Па загаду во гэтага пана.

Мішка *(дзіка)*. Што?! *(Вырывае ў Лёнькі кій, кідаецца да бандыта, замахваецца)*.

Лёнька *(вырывае кій, адштурхоўвае Мішку)*. Ты звар'яцеў? Забіць!?

Мішка. Забіць? *(Ледзь не плачучы)*. Лёнька, дай кій! Ён атруціў майго браціка... *(Вырывае кій у Лёнькі)*.

Лёнька *(зноў адбірае кій)*. Супакойся, Міша. Будзь здароў, наш суд не мілуе такіх бандытаў. Такім у нас адзін прысуд!

Пауза. Бандыт пашавяльнуўся. Хлопцы аж падскочылі, нібы перад імі была гра мучая змяя.

Мішка. Лёнька, па галаве бі! Бі па галаве. Ён яшчэ ўцячэ!.. *(Вырывае палку)*.

Лёнька *(не даючы палкі)*. Не ўцячэ!

Мішка. Глядзі, глядзі!

Лёнька. Што?

Мішка. Барада яго...

Лёнька *(прыглядаецца да незнаёмага)*. Барада?

Мішка. Аблазіць!..

Лёнька *(схапіў за бараду, адарваў)*. Прыклееная!.. Ну, хутка прыдуць пагранічнікі. *(Прыслухоўваецца)*. Чуеш галасы?

Незнаёмы. Хлопцы... дзеці...

Мішка *(аж падскочыў, вырывае з рук Лёнькі палку)*. Маўчы!

Незнаёмы. Я дам вам шмат грошай... Тысячу рублёў!

Лёнька. Маўчы! *(Азіраецца)*. Ідуць!

Незнаёмы *(стараецца вызваліцца)*. Дзесяць тысяч!

Мішка *(зноў хапаецца за палку, ледзь не плача)*. Лёнька! Хоць раз! Каб замоўк! Ён нас яшчэ і зневажае!.. Падкупіць хоча!..

Лёнька. Піонеры радзімы не прадаюць!

Незнаёмы *(пачуўшы дальнія галасы, хрыпла)*. Дваццаць тысяч рублёў! Развяжыце!.. *(Кідаецца, напружваецца, рамяні распаўзаюцца, дыверсант ускаквае на ногі, садзіць руку ў кішэню)*.

Мішка. Лёнька! *(Кідаецца да незнаёмага, учапіўся за руку незнаёмага, аж павіс на ёй)*.

Лёнька *(хапае незнаёмага за другую руку, крычыць у лес)*. Сюды! Сюды!..

На сцэну выскаквае начальнік заставы. Ён накіроўвае рэвальвер на дыверсанта.

Нач. заставы. Рукі ўгару!

Незнаёмы падымае ўгору рукі.

Лёнька. У яго рэвальвер, таварыш Собалеў!

Нач. заставы. Абшукайце.

Лёнька спрытна дастае з кішэні рэвальвер і падае Собалеву. Потым усялякія паперы. Капсулі ад гранат.

Лёнька. У яго былі прабіркі з чумою, атрута...

Нач. заставы *(да незнаёмага)*. Дзе вы схавалі?

Незнаёмы. Нічога ў мяне не было. Гэта хлусня.
Нач. заставы. Паглядзім... А гранаты дзе?
Незнаёмы. Якія гранаты?
Нач. заставы. Тыя, для якіх падрыхтаваны гэтыя капсулі?
Незнаёмы. Нічога ў мяне не было.

Убягае чырвонаармеец.

Чырвонаармеец. Дазвольце далажыць, таварыш начальнік, што адзін бандыт на возе... Раны перавязаны...
Нач. заставы. Добра, Гапоненка. Бярыце гэтага.
Чырвонаармеец. Ёсць, таварыш начальнік. *(Бярэ вінтоўку на спагатову, да незнаёмага).* Марш наперад!

Выводзіць дыверсанта.

Нач. заставы. Ну вот, рэбяткі, справа і выканана. Смела хадзіце і гуляйце ў сваім лесе...

Віця з мяшком на плячах. За ім настаўніца, хлопцы.

Віця *(асцярожна апускае мяшок на зямлю).* Знайшлі. Яны гэты мех ў лісіную нару запхнулі...
Нач. заставы. Дзякую, рэбята, за дапамогу. А вам, Ольга Сямёнаўна, дзякую, што выхавалі такіх слаўных патрыётаў нашай мацеры-радзімы. Увечары я заеду ў ваш калгас. Храбрэйшыя будуць прадстаўлены да ўзнагароды. *(Паціскае ўсім рукі).*
Віця. Самы храбры ў нас *(паказвае)* ён, Лёнька.
Нач. заставы *(паціскаючы Лёньку руку).* Дзякую, Лёнька.

Раптам нешта шуганула ў вяршыню ёлкі. Усе насторожыліся.

Лёнька *(вельмі храбра).* Можа гэта рысь? А? *(Пазірае ў гару).*
Нач. заставы *(зірнуўшы ўгару, усміхнуўся).* Варона паляцела. У гэтым лесе няма рысяў. Праўда, было дзве, але і тых пацягнулі на заставу...

На сцэну выходзіць Міхал Гаўрылавіч.

Міхал Гаўрылавіч *(рука ў яго перавязана).* Значыць злавілі і самага галоўнага!
Нач. заставы. Злавілі, Міхал Гаўрылавіч. Рана не баліць?
Міхал Гаўрылавіч. Нічога, зажыве. Праўду кажа прыказка: не кладзі сабачку пальца ў рот—адкусіць. Зубамі, падла хапіў, калі я яго на зямлю паклаў. Куды яму трапіла?
Нач. заставы. Туды, куды вы мецілі. У нагу.
Міхал Гаўрылавіч. Трэба было біць у самае яго змяінае сэрца! Але ён тады не мог-бы сказаць, хто яшчэ ў яго ў зграі. Давялося страляць у нагу.
Нач. заставы. Правільна зрабілі, Міхал Гаўрылавіч. Дзякую.
Міхал Гаўрылавіч. Што-ж там дзякаваць. Свая справа, таварыш Собалеў. Толькі пусці гэтую сволату на нашу зямлю, дык яны зноў сядуць нам на шыю, зноў заграбуць пад сябе маёнткі... Вы ведаеце, хто такі, што перабраўся праз граніцу?
Усе. Хто? Вы яго ведаеце?

Міхал Гаўрылавіч. Як аблупленую казу. Гэта-ж сынок нашага былога пана Струся. Пры белапаляках ён быў у іх капітанам і ваяваў супроць нас, партызанаў. Я яго шкуру на азяродзе пазнаю!.. *(Вешае на плячо стрэльбу)*. Ну, бывайце здаровы. Мне час на варту. *(Выходзіць)*.

Ольга Сямёнаўна. Пайшлі, рэбята. Пачынайце песню. *(Начальнік заставы бярэ мех. Усе выходзяць з песняй «Если завтра война»)*.

Віця *(схапіўшы за руку Лёньку)*. Чакай хвілінку...

Лёнька *(імкнучыся за ўсімі)*. Чаго?

Віця *(горача)*. Мне проста сорамна за цябе. Ты разумееш? Ну, ты выратаваў мне жыццё... ты храбра змагаўся з ворагам... Але чаму ты баішся рысі?

Лёнька *(храбра)*. Хто? Я?

Віця. Ты. Аж сорам! Твой брат—капітан падводнай лодкі, ах важны чалавек. А ты—«тата-мама»...

Лёнька *(паказвае на сябе)*. Я? Я? Ды ты мне тыгра падай!.. Будзь здароў, вот скончу вучыцца. К таму часу па ўсім свеце будзе совецкая ўлада. І я палячу ў Індыю страляць львоў.

Віця. Дык чаго ты паніку падымаў?

Лёнька. Якую паніку? Я проста не хачу, каб мяне асляпіла, ну, выдрала мне вочы нейкая шалёная звярына. Як-жа я тады, сляпы, буду лавіць парушальнікаў граніцы? Як я тады буду вучыцца на лётчыка? Няўжо ты, Віцька, не разумееш гэтага?

ЗАСЛОНА.

*Уры Фінкель*

# АПАВЯДАННІ ПРА ШОЛАМ АЛЕЙХЕМА

## Госць

Саламон Рабіновіч неаднаразова звяртаў увагу сваіх блізкіх знаёмых на заметкі ў пецярбургскіх газетах аб выступленнях маладога тэнара Міхаіла Ефімавіча Мядзведзева. Ён расказваў ім, што Мядзведзеў гэта друг яго дзяцінства Мэерке, які разам з ім у Варонкаве на базары гуляў «у прадстаўленне», паказваючы разбойнікаў і жабрака.

Цяпер Мядзведзеў, дзякуючы шчасліваму выпадку, стаў студэнтам пецярбургскай кансерваторыі і артыстычныя колы сталіцы ўскладаюць на яго вялікія надзеі. Ён прыехаў цяпер на канікулы ў сваё роднае мястэчка Мядзведзева. У павятовым горадзе Пераяслаўлі ён даваў канцэрт у карысць пацярпеўшых ад пагромаў, адтуль ён прыехаў у Белацэркаў.

Летні вечар. З акон яўрэйскага казённага вучылішча, якое знаходзіцца на краю горада, на шырокім гліністым участку, заросшым палыном, падае яркае святло. Ціхая вуліца, што вядзе да вучылішча, рана пагружаецца ў сон, сёння не спіць. Навокал каменнага будынку з жоўтымі плямамі ад абваленага тынку, снавала моладзь. Некалькі пажылых яўрэяў у доўгіх капотах, праходзячы міма, застанавіліся і, пагладжваючы бароды, гутарылі паміж сабою.

— У Балце, у Кіеве б'юць яўрэяў, а тут, вось табе на—гулянка. Толькі гэта ў іх у галаве.

Дарэмна бог не карае. Народ пайшоў разбэшчаны: ні да бога ні да людзей.

— Дабрачынцы на чужую кішэню! Толькі і рабі, што давай. Ну, і свет зрабіўся цяперака... Квартальнаму дай, рабіну дай, кантару дай; толькі і ведай, што давай.—Субяседнікі кінулі дакорлівы погляд на акно вучылішча, плюнулі і пайшлі прэч.

Уходзячы, адзін з іх заўважыў другому:

— Вам добра, вы, каб не ўракчы, бяздзетны, дзед ды баба. Мне такія штукі ўлятаюць у капейку. Мае дочкі не прапусцяць такога вечара. Якая мне карысць з таго, што там бедзякі. Свой бедняк нам бліжэй, як вы думаеце, а?

Навокал двухпавярховага яўрэйскага казённага вучылішча тоўпілася ўсё больш і больш народу. Вокны другога паверху былі шырока расчынены і адтуль даносіўся шум, гучная гаворка і смех.

Моладзь штурхалася ля ўвахода, пыталі, ці не прышоў пецярбургскі спявак.

— Наглая хлусня, ён зусім не пецярбургскі спявак, інсінуацыя! Вялікі гонар, ёсць каго слухаць, сынка нейкага меламеда з Мядзведзеўкі. Знайшлі чаму радавацца!—скаліў свае вялікія зубы малады хлопец у чорным гарнітуры.

Гэта быў экстэрн, сын скнары багача, які імкнуўся пусціць у ход увесь свой лексікон толькі што нахватаных кніжных слоў і пагэтаму ён зноў паўтарыў:

— Інсінуацыя, якую свет не бачыў.

Малады кравец, які стараўся праціскацца ў школу на канцэрт, адказаў яму:

— А меламед хіба не можа мець добрых дзяцей? Па-першае яго бацька не меламед, а мядзведзеўскі рабін.

— Мядзведзеўскі рабін. Таксама рабін. Касцюм набыў—шкарпетку знайшоў. Мядзведзеўку за горад палічыў,—зноў пачаў смяяцца малады чалавек у чорным, паказваючы свае пярэднія зубы.—Вось убачыце,—сказаў ён,—яны пішуць у аб'яве, што яўрэйскі пісьменнік Спектар сёння будзе. Зноў наглая хлусня, інсінуацыя: Спектар не прыдзе. Вось яго фельетон у «Фолксблаце». Яшчэ тры дні таму назад ён праехаў Белацэркаў па дарозе ў Санкт-Пецярбург.

Пачуўся звон калакольчыка. Гэта азначала, што вечар пачынаецца. Публіка была ўжо ў зборы, месцы заняты. На эстраду ўзышлі доктар Чэрні, высокі шырокаплечы старык з сівымі кудрамі і светлавалосы малады Шолам Алейхем.

Доктар Якаў Чэрні карыстаўся добрай славай у Белацэркаўі. Ён быў славуты не толькі сваёй медыцынскай дзейнасцю сярод беднаты, але таксама сваёй любоўю да народных мас, да іх творчасці. Чэрні быў адным з нешматлікіх яўрэйскіх урачоў царскай Расіі, якія пісаў папулярныя артыкулы на даступнай народнай мове па медыцыне, санітарыі і гігіене. Друг дзяцінства славутага яўрэйскага народнага паэта і заснавальніка яўрэйскага тэатра Абрама Гольдфадэна, доктар Чэрні любіў распяваць у вольны час яўрэйскія народныя песні і песні яўрэйскіх народных паэтаў шасцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. У доктара Чэрні ў доме збіраліся лепшыя прадстаўнікі яўрэйскай белацэркоўскай інтэлігенцыі; там Шолам Алейхем чытаў свае першыя творы; там Шолам Алейхем сустрэў сваіх першых паклоннікаў яго таленту.

Сярод іх быў і Петрыкоўскі, рускі перакладчык кнігі Мендэле Мойхер Сфорыма «Такса», вядомы ў той час расійска-яўрэйскі журналіст і аўтар артыкулаў на рускай мове аб яўрэйскай народнай літаратуры. Доктар Чэрні абвясціў, што хутка выступіць малады, таленавіты спявак Мядзведзеў і прасіў публіку трымаць сябе спакойна. На эстраду вышаў Мядзведзеў. Ён быў апрануты ў студэнцкую форму.

Пакланіўшыся публіцы, ён прапеў некалькі арый з «Пікавай дамы» і «Дэмана». Яго доўгія чорныя кудры спадалі на стройныя плечы.

Выканаўшы свае арыі, ён зноў пакланіўся і хутка сышоў з эстрады. У зале раздаўся гром апладысментаў. Крыкі «брава», «біс»

не змаўкалі да таго часу, пакуль ён зноў не вышаў на эстраду і не запеў знаёмую ўсім украінскую песню Тараса Шаўчэнкі:

„Раве і стогне Днепр шырокі,
Сярдзіты вецер завывае".

Ціхі смутак гэтага матыва быў такі блізкі настрою сабраўшыхся, што некаторыя тут-жа сталі падпяваць і хутка ўся зала дружна пела з артыстам.

Мядзведзеў забыў, што ён збіраўся прапець толькі адзін куплет. Яго твар зрабіўся яшчэ блядней, чым звычайна ў час спявання, вочы загарэліся і, дырыжыруючы публікай, ён паварачваўся то направа, то налева, працягваючы наперад руку, як быццам выпрашваў адтуль новыя гукі чароўнага матыву. Спевы скончыліся, але публіка ўсё яшчэ паўтарала сама сабе матыў, а спявак у гэты час сышоў з эстрады і прыблізіўся да друга свайго дзяцінства Шолама, сына Нохіма—Шолам Алейхема.

Як у дні іх дзяцінства, у Варонкаве, на рынку, пасля прадстаўлення яны заглядвалі адзін другому ў вочы, так і сёння абодвы мастакі глядзелі адзін на другога чыстым дзіцячым поглядам, поўным такоў любові, на якую здольны толькі сапраўдныя артысты. Доктар Чэрні ўзышоў на трыбуну, папрасіў устанавіць цішыню, бо хутка павінен выступіць пісьменнік з «Фолксблата» Шолам Алейхем.

— Пан Шолам Алейхем, Саламон Наумавіч, просім, просім!

Як толькі Шолам Алейхем з'явіўся на эстрадзе, адразу ў публіцы знік мінорны настрой. Ён усміхнуўся ўласцівай Шолам Алейхему усмешкай і адразу-ж настроіў публіку на вясёлы лад.

Шолам Алейхем чытаў трэцюю з'яву першага акта «Рэвізора». Ён так умела змяняў свой голас, міміку, рухі цела, перадаючы дыялаг Добчынскага і Бобчынскага, што здавалася—гавораць два чалавекі. Публіка слухала з затоеным дыханнем, забыла зусім, што перад ёю знаёмы біржавы маклер, якога яна кожны дзень сустракае на базарнай плошчы супроць аптэкі. Ён скончыў дыялаг і перад публікай, як жывыя, усталі яшчэ тры вобразы—гараднічага, Арцемія Філіпыча і Амоса Фёдаравіча. Зноў чуліся тры розныя галасы. Громам апладысментаў публіка ўзнагародзіла чытальніка.

— У аб'яве пісалі, што прыедзе пісьменнік Спектар з Санкт-Пецярбурга. Дзе-ж ён? Гэта мана, інсінуацыя!—усклікнуў малады чалавек у чорным касцюме, сын скнары багача.

Спектар сапраўды павінен быў прыехаць на гэты вечар. Ён знаходзіўся ў сябе на радзіме ў Умані і Шолам Алейхем запрасіў яго ў Белацэркаў, але Спектар павінен быў спешна вярнуцца ў Пецярбург і на вечар не прыехаў.

Доктар Чэрні пагладзіў сваю сівую бараду і адказаў з усмешкай:

— Гэта была памылка. Спектар павінен быў ехаць, але за гэта нам другі пісьменнік з «Фолксблата»—Шолам Алейхем—прачытае сваё пісьмо да Спектара.

Шолам Алейхем пачаў чытаць гэтае пісьмо, напісанае ў жартаўлівым тоне. Увесь час па залу пракатваўся смех, суправаджаўшы

чытанне пісьма. У пісьме была апісана вячэра, якая будзе наладжана ў гонар такога жаданага госця, як Спектар, з пералічэннем усіх «яўрэйскіх страў», апісвалася, як будуць слаць яго ложак. «Дзве пуховыя коўдры, пяць падушак, апрача двух маленькіх і не проста з пер'яў, а з беласнежнага пуху, дзеля чаго белацэркаўскія яўрэйкі некалькі зім кармілі гусей, цэлы тузін жанчын усю зіму скубаў пер'я».

Пасля гэтага Шолам Алейхем выканаў на скрыпцы некалькі музычных нумараў з Гольдфадэнскага тэатру. Доктар Чэрні акампаніраваў яму на раялі. Публіка, якая некалькі мінут таму назад, пакатвалася са смеху, адразу змоўкла. Гукі скрыпкі стварылі ў зале зусім процілеглы сумны настрой. Цішыня ў зале часам прарывалася глыбокім уздыхам.

Вечар скончыўся дэкламацыяй шоламалейхемаўскага верша:

Рад веселому я смеху,
Рад смеяться больше всех
Людям и себе в утеху —
Пусть услышат все мой смех.
При веселом ликованьи
(Сам того я не пойму)
Я при всем своем желаньи
Слёз горячих не уйму.

Моладзь пачала збіраць грошы.

Шолам Алейхем ужо даўно не адчуваў сябе так добра, свабодна і лёгка, як у гэты вечар.

Радавала яго, што збор на карысць пацярпеўшых ад пагромаў ідзе паспяхова, радавала яго і сустрэча твар да твару з чытачом. Ён ужо даўно хацеў праверыць, якое ўражанне ён, Шолам Алейхем, робіць на чытача, ці будзяць яго творы ў масе добрыя і ўзвышаныя пачуцці.

## У Бердычаве на „Пясках“

Быў гарачы летні дзень. У спякотным накаленым паветры насілася смуродная пара ад памыйных ям і забруджаных звалак. Людзі ішлі потныя, вялыя, знясіленыя ад спякоты. Каля бруднай мелкай рачушкі Гнілапядзі бегала абарваная дзятва, кідаючы ў ваду каменні, кійкі і ўсё, што траплялася ім пад рукі. Нехта з іх заўважыў дохлую кошку і яна зараз-жа паляцела ў зялёную ваду, падобную на густую жыжыцу, абдаўшы пырскамі купаўшыхся пажылых яўрэяў.

Назіраўшы гэту сцэнку Шолам Алейхем падышоў да дзяцей і, узяўшы аднаго з іх за руку, пачаў з ім гутарыць.

— Чый ты будзеш, хлопчык?

— Бацькін і маткін.

— Як завуць твайго бацьку?

— Як назвалі так і завуць.

— Ён цырульнікаў сын, цырульніка Шыкі,—умяшаўся ў гу-

тарку другі хлапчук.—Вунь яны жывуць!—паказаў ён пальцам на бліжэйшы завулак.

— А яго матку,—дабавіў ён піскілівым галаском,— завуць Двосяй-цырульніцай.

— Ці не жадаеце падстрыгчыся?—запытаў бойкі хлапчук, якога Шолам Алейхем яшчэ трымаў за руку.—У вас такія доўгія валасы. Колькі год вы ўжо не стрыгліся? Пойдзем да нас, я вам пакажу дарогу.

Яўрэі, якія купаліся, чулі ўсю гэту размову і громка засмяяліся. Адзін з іх звярнуўся да хлопчыка.

— Дурацкая галава. У іх мода такая, яны з вучоных, а ў гэтых людзей зарок—не стрыгчыся.

— Выбачайце,—звярнуўся ён да Шолам Алейхема,—можа я памыляюся і вы сапраўды жадаеце падстрыгчыся, тады, калі ласка, пойдзем за мною, я вам пакажу кватэру яго бацькі. Я мігам апрануся.—Яны павярнулі налева, у вузкі брудны завулак з жабрацкімі хаткамі з землянымі патрэсканымі і абдзёртымі сценамі. Замест двароў і садоў—брудныя лужы і кучы смяцця. Сям-там на сценах развешана рыззё, не маючае назвы на мове чалавечай, але выконваючае функцыю вопраткі.

Шолам Алейхем завёў з яўрэямі гутарку аб іх жыцці і занятках. Яго гутарка, як звычайна, была перасыпана дасціпнымі пагаворкамі і жартамі.

Субяседнікі адказвалі яму ў такім-жа тоне. Раптам у час гутаркі Шолам Алейхем выняў запісную кніжку і пачаў хутка нешта запісваць. Субяседнікі адразу змоўклі і падазрона пераглянуліся. Адзін з іх шапнуў другому на вуха:

— Незразумелая асоба. Што ён там запісвае ў сваю кніжачку?

І ён тут-жа звяртаецца да Шолам Алейхема.

— Выбачайце за дапытлівасць. Можна даведацца, чым вы займаецеся?

— Я пісьменнік.

— Што вы пішаце? Заявы, паперкі, альбо даносы?

— Фельетоны, кніжкі для яўрэяў.

— Значыць, вы кнігапрадавец, пісьменнік?

— Пісьменнік.

— Што вы робіце ў нашым горадзе?

— Прыехаў паглядзець ваш Бердычаў.

— І больш нічога?

— І больш нічога.

— Так, без справы?

— Без справы.

— І траціце грошы?

— Трачу грошы.

— Якая-ж вам карысць у гэтым?

— Каб мець аб чым пісаць.

— Куды пісаць?

— У газеты.

— Якія газеты?

— Яўрэйскія газеты.

— Хто-небудзь вам плаціць за гэта, што вы пішаце?

— Вядома.

— Значыць вы пішаце ў газеты?

— Вялікая справа! Дзеля гэтага патрабуецца, як відаць, вялікі розум, га?—паківаў яўрэй галавой і пагладзіў рэдзенькую бародку.—Значыць вы апісваеце нас? Як мы жывем і маемся, га?

— Выбачайце,—умяшаўся ў размову другі яўрэй,—скажыце, вы не з «нынешніх»? Гэта відаць па вас. Хоць вы і доўгавалосы, але з нашынскіх. Наша братва,—шыла ды ігла, чалавек просты. Скажу па праўдзе, нашага брата не пашкодзіла-б апісаць, і апісаць як належыць быць.

Кажуць, ёсць недзе краіна з прыгожымі людзьмі, уладаючымі чуткім сэрцам і думаючымі аб агульным дабры. Скажу вам тое-ж самае, што я ўвесь час кажу яму,—пры гэтым ён павярнуў твар да свайго сябра,—да якой пары будзем мы гібець у нястачы і горы, ляжаць вось у гэтых магілках і называцца жывымі? Да якой пары, паўтараю я, будзеш дарэмна шукаць работу, а ў свабодны час шыць саваны для дзяцей і ўнукаў? Бог, вядома, магутны і карае, але чаму ён аднаму дае няшчасце і пакуты, а другому—шчасце і радасць? Дзе-ж тут, пытаю вас, справедлівасць? Я не з «нынешніх», але яны ўсё-ж правы... Каравул крычу я, дзе-ж справядлівасць?

Па твары Шолам Алейхема прамільгнула сумная ўсмешка. Ён убачыў перад сабою аднаго з тых людзей, з якіх ён стварыў свой вобраз Тэв'е Малочніка. Яму было ўжо даўно вядома, што назва «Глупск», якім «дзядуля» яўрэйскай літаратуры Мендэле ахрысціў Бердычаў, ужо ўстарэла; Бердычаў ужо не Глупск, бо тут, як і па ўсёй краіне абудзілася і ўстане да жыцця новая магутная сіла, Гэта сіла—«нынешнія» прыгнечаныя і праследуемыя масы, патрабуючыя справядлівасці і праўды. Гэта тая самая сіла, з якой ідзе яго любімы пісьменнік Максім Горкі. Шолам Алейхем і яго спадарожнікі накіраваліся да цырульніка Шыке. Гэтыя яўрэі жывуць з цырульнікам якраз у адной кватэры. Яны падышлі да будынка, да якога былі прыбіты наступныя шыльды:

ВОЕНСКОЙ І ГРАЖДАНСКОЙ ПОРТНОЙ

**МЕЕР ПОЛКОВОЙ,**

ОН ЖЕ ДЛЯ ДАМ.

ПАРИКМАХЕРСКАЯ ЗАВЕДЕНИЯ

**ШИКУ ЦИРУЛЬНИКОВУ**

*Стришка,*

*Бришка*

*й завишка.*

Шолам Алейхем пачаў чытаць шыльды па складах.

— Такі вучоны і чытае так марудна. Хіба вы не ведаеце рускай граматы?—не разумеючы Шолам Алейхема, запытаў яў-

рэй, які сваім характарам і выглядам нагадваў яму Тэв'е Малочніка.—Навошта вам больш? Нядаўна па нашай вуліцы прайшоў памочнік прыстава. Здаецца ён павінен ведаць рускую мову. Не горш, думаю, нас з вамі. Так вось ён застанавіўся заткнуў, як звычайна, свой чырвоны нос—яму бачыце, заўсёды смярдзіць, але варта ўсунуць яму рублёўку і смурод адразу знікае. Я гэта ўсё да таго, што вы гаворыце аб нашых шыльдах. Так вось праходзіць наш памочнік прыстава і з цяжкасцю чытае:

Меер Полковой. Он же для дам.

Чытае, а сам трымаецца за жывот і трасецца ад смеху. Як толькі ён дайшоў да слоў «стришка, бришка и завишка»—ён амаль не трэснуў ад смеху.

— Чаго-ж ён так смяецца, я вас пытаю? Вы таксама смяецеся? Цьфу! Я гэтага не чакаў... Скажыце мне, у чым справа, чаго вы смяецеся?

— Я ўяўляю, як п'яніца трымаецца за тоўстае бруха і трасецца ад смеху.

— Вы сапраўды жадаеце пастрыгчыся? Тым лепш, зайдзіце, калі ласка, няхай яўрэй заробіць.

Яны ўвайшлі ў дом. Насустрач ім вышла высокая пажылая жанчына. Яна паспешна выцерла фартухом табурэтку і запрасіла гасця сесці. Жанчына глядзела на Шолам Алейхема з цікавасцю.

У гарадах, у якіх Шолам Алейхем пабываў у апошні час, ён збіраў усялякі фальклорны матэрыял: народныя спевы, прыказкі, казкі. Шолам Алейхем ведаў, што лепшыя народныя спевы можна запісаць у жанчын з народных мас. Ён добра памятае песні, якія спявалі яго малодшыя сёстры яшчэ ў Пераяслаўлі. Ён папросіць жонку цырульніка праспяваць яму некалькі яўрэйскіх народных песень. Калі яны будуць незнаёмымі і цікавымі, ён іх запіша. Ён завёў гутарку аб бердычаўскім вясельным музыканце Стэмпеню, аб бердычаўскіх камедыянтах і спяваках і тут-жа запрасіў гаспадыню заспяваць яму якую-небудзь песню.

— Кожны прамышляе свой хлеб, як можа...

Бестурботныя людзі... Песні ім хочацца ў будні дзень. Толькі гэтага вам нехапала? У вас, хіба, няма жонкі і дзяцей? Толькі песні ды частушкі ў вас у галаве... Дзіўная прычуда!

— Вы, хіба, ніколі не пелі песень? Калі вы яшчэ былі дзяўчынай і жадалі спадабацца вашаму Шыке?—запытаў у яе Шолам Алейхем.

Жанчына стаяла супроць Шолам Алейхема, склаўшы рукі на жываце пад фартухом.

— Ну, праспявай ім што-небудзь. Ім гэта, відаць, патрэбна: гэта іх промысел. Кожнаму падабаецца сваё прызванне. Чаму не зрабіць паслугу чалавеку? Грошай вам гэта не каштуе, у мясніка не прыходзіцца купляць...—звярнуўся Меер Палкавы да жанчыны.

— Няхай гасподзь бог пашле ім лепшы занятак. І, па праўдзе кажучы, я ўжо даўно забыла ўсе песні. Можа Сара ім спяе? Нядаўна ў яе былі галадранцы з трыатра, гэтыя, як іх завуць, арфэрысткі, ці арфісткі... Людзі знаходзяць занятак граць у трыатр, больш клопатаў у іх няма.

— Сара, гэта мая дачка. Была красуняй. Спявае так шчыра іхнія сучасныя песні, аж за сэрца хапае... Але якая карысць? Бог шчасця ёй не даў. Вышла замуж за здольнага хлапца, майстра на ўсе рукі, але якая карысць... Сядзіць безвылазна недзе за трыдзевяць зямель, у Сімбіры.

Таксама з нынешніх... А яна пакутуе ў «багацці і славе» з малымі дзецьмі.

— Ведаеце што,—прапанаваў Шолам Алейхем,—давайце зойдзем да яе.

Ён расчыніў дзверы і з напоўцёмнай каморкі раптам абдала яго едкім пылам. Увесь пакой быў завалены брудным рыззём. Шолам Алейхем ступіў праз наваленыя лахманы і заўважыў жанчыну, якая сядзела на падлозе, сярод рыззя.

Яе малады твар быў пакрыты дачаснымі маршчынамі, чорныя валасы сталі шэрымі ад пылу і смецця. Яна латала мяшкі.

— Добрае раніцы!—праказаў Шолам Алейхем,—і гэтыя звычайныя словы прывітання прагучэлі ў пыльным паветры, як горкая іронія.

Жанчына ўсхамянулася, павярнула сваю галаву ў бок увайшоўшага, імкнучыся лепей разглядзець яго ў пыльным тумане.

Карціна нястачы і гора зрабіла на пісьменніка прыгнятаючае ўражанне і ўсмешка адразу-ж знікла з яго твару. Яму здавалася, што ногі яго вязнуць у кучы смецця і рыззя. І ён правальваецца ў нейкае бяздонне. З грудзей яго вырваўся цяжкі ўздых.

— Чаго вы ўздыхаеце?—запытала яго жанчына, сядзеўшая сярод рыззя.—Што мы тонем у смецці і глытаем пыл, або аб тым, што пыл нас глытае?..

Яна паднялася, страханула з сябе пыл, але пыл зноў асеў на яе сукенку.

— Сядайце,—абцёрла яна брудным мяшком табурэтку і падсунула яе Шолам Алейхему. Вы мне нешта знаёмы, я вас недзе бачыла.

— Вы, трэба думаць, апішаце нас, як мае быць. Гэта будзе прыгожа. Няхай ведае ўвесь свет... Хіба мы адны так жывем? Так жывуць усе ў нашых «Пясках», сядзяць без працы, без справы. Увесь свет—бядняк...—адазваўся Палкавой.

— Ага, я ўспомніла, чаму вы мне так знаёмы,—жанчына выпрасталася, і нечым узрадаваная, паказала на сцяну. Гэта-ж вы, Шолам Алейхем. Вось ваш партрэт.

Шолам Алейхем спачатку не хацеў прызнаць, што беспрацоўная жанчына, латаўшая мяшкі, дакладна высвятліла яго асобу, але хутка паміж ім і жыхарамі гэтай трушчобы завязалася ажыўленая сяброўская гутарка. Шолам Алейхем расказваў нейкую забаўную гісторыю і слухачы, забыўшы свае беды і пакуты, весела смяяліся. У каморку пачалі збірацца жыхары дома і двара. Кожны асабліва з моладзі з ахвотаю згадзіўся праспяваць, ці расказаць што-небудзь Шолам Алейхему.

І нават пажылая сур'ёзная і заклапочаная Двося зараз ужо сама вызвалася праспяваць песню. Пісьменнік забыўся пра свой блокнот. Хваля новых уражанняў захіснула яго. Парою ён забываў нават

назіраць і прыслухоўвацца і разам з усімі спрачаўся, жартаваў і смяяўся.

Быў ужо вечар, калі Шолам Алейхем вышаў з кватэры цырульніка. Ён ішоў побач са сваім братам і маўчаў. Ён успомніў вытрымку французскага падарожніка Цісео аб яўрэйскай беднаце ў Бердычаве.

«Яўрэйскі бедны люд скучаны ў гэтым падабенстве прадмесця (Пяскі), дзе ён тане ў брудзе і гнаі сярод усякіх нечыстот і адкідаў, якія сцякаюць сюды з горада, калі дажджу ўздумаецца яго пачысціць. Я не памятаю, каб мне здаралася бачыць месца больш агіднае, больш няшчаснае... Ні аднаго дрэва, ні адной зялёнай былінкі. Непасціжыма розуму, якім чынам чалавечыя істоты могуць жыць у гэтай атмасферы міязмаў, у гэтай жахлівай гнойнай яме. Кучы дзяцей з узлахмачанымі валасамі, без крыкаў і весялосці, блукаючымі пачырванеўшымі вачыма, з зеленаватым колерам твару, у жахлівых лахманах валяюцца ля парогаў гэтых смуродных лачуг».

— Правільна,—гаворыць Шолам Алейхем, што жабрацтва тут жахлівае. Аднак няправільна сцвярджэнне, што тут няма жыцця, што людзі, якіх я тут сустрэў, не маюць ніякага імкнення да жыцця і барацьбы за лепшае існаванне. Няверна, што гэтыя людзі міряцца з акружаючым іх брудам і жабрацтвам. Лібералы могуць толькі бачыць бруд і нечыстоты, але яны не здольны заўважыць чалавека ў гэтым брудзе.

Сапраўдныя пісьменнікі, накшталт Максіма Горкага, працягваў Шолам Алейхем,—пішуць не толькі аб жабрацкіх лахманах, у якія адзеты іх тыпы, але яны расказваюць аб іх здаровым духу, жывучым пад іх парванай вопраткай, аб іх імкненні да жыцця.

Я хачу паказаць свету гэтых людзей, якія жывуць у брудзе і цемры, але захоўваюць жывую, чыстую душу. Гэта Касрылаўка, а Касрылаўка—гэта не толькі Бердычаў, але ўсе кварталы яўрэйскай беднаты ва ўсіх гарадах і мястэчках мяжы аседласці.

---

## Леў сярод звяроў

Цёплы вясновы вечар. Неба яснае, зорнае. На Бальшой Васількоўскай у Кіеве, каля асабняка аднаго з буйнейшых цукразаводчыкаў на Украіне, доўгі рад экіпажаў.

Раскошны будынак заліты святлом. З расхінутых акон даносяцца гукі музыкі. Прахожыя мімавольна абарачваюцца і кідаюць погляд на дом, на коней, якія ў нецярплівасці стукаюць капытамі па бруку. Мільянер Леў Бродскі, ці «леў сярод звяроў», як яго назваў Шолам Алейхем, у адным з сваіх твораў, дае сёння бал для сваіх сяброў і знаёмых. Аб гэтым бале ведае ўвесь Кіеў. Кожны год у час вялікадня ён наладжвае падобныя вечары. Гэтыя балы на працягу рада месяцаў служаць тэмай для размоў. Гавораць аб іх у дамах багачоў на Васількоўскай, на Крэшчаціку, на Бібікаўскім бульвары, гавораць і беднякі на Ніжнім Падоле і Дзяміеўцы. Арыстакратычныя дамы з зайздрасцю расказваюць аб убраннях і каш-

тоўнасцях, заказаных спецыяльна для гэтых вечароў. Знатакі адзначаюць, колькі дзесяткаў год вытрымліваліся віна, што падаваліся да стала. Удзельніцы бала доўгі час успамінаюць з прыкрасцю незаслужаны фурор той ці іншай знаёмай.

— У мужчын ні малейшага густу... Знайшлі кім захапляцца... Ні твару, ні фігуры! Рот—што нашы вароты... Цярпець не магу тонкагубых!

Але тут-жа суцяшае сябе:

— Навошта прыгажосць і розум, калі маюцца грошы.

На Падоле і на Дзяміеўцы, сярод беднаты, ідуць размовы іншага парадку.

— Колькі сямействаў можна пракарміць на грошы, выдаткованыя на гэты бал?

Кожны ацэньваў па свойму. Фантазія «маленькіх» людзей малюе ім легендарныя лічбы.

— Лёгка сказаць, тры дні без перапынку разнікі толькі рабілі, што рэзалі курэй, качак, індыкоў.

Выказваюць пажаданні:

— Дай бог, каб я меў столькі, колькі абыйшлася пустая пасуда ад віна, выпітага на гэтым вечары—хапіла-б на пасаг для маіх трох дачок.

Другі падхоплівае.

— А мне дай бог мець столькі, колькі каштуюць пер'і ад забітай птушкі. На гэтыя грошы я пабудаваў-бы дом на Падоле, запісаўся ў цэх і атрымаў-бы права на жыхарства.

Сёння на балу разнесліся чуткі, што будуць выступаць славутыя артысты і літаратары. Хто іменна, нікому не было вядома. Элегантны малады чалавек, з маленькай раздвоенай бародкай, рыжы, з іспітым, заспаным тварам, з залатым пенснэ, вельмі ўважліва паведаміў дамам, з якімі ён гутарыў:

— Вы ведаеце, сёння тут будзе чытаць свае творы яўрэйскі пісьменнік Шолам Алейхем. Смешны тып. Комік!

— Цьфу! Па-жаргону, мабыць! Тут-жа не Падол, з рэспектам выражаючыся,—сказала адна з дам, памахваючы веерам.

— Але ўсё-ж яго цікава паслухаць. Ён іх так малюе, гэты дзівак, што можна трэснуць ад рогату... Не турбуйцеся, Леў Ізраілевіч не запросіць каго папала... Хоць на жаргоне, але вялікі актор. Клянуся барадой майго бяздзетнага прадзедушкі—не горш рыжага ў цырку.

— Ён выступае загрыміраваны? Не цярплю засаленых яўрэйчыкаў: ад іх нясе убоствам. Я люблю свежае паветра,—заўважыла, высокая хударлявая дама з барадаўкай на носе.

— Прашу вас, Вільгельм Паўлавіч, пастарайцеся пазбавіць нас ад такіх забаў... ад вашага коміка, з рэспектам выражаючыся,— крыўляючыся, сказала дама з веерам і какетліва зірнула маладому чалавеку ў твар.

— Пан Файфер, вы сёння зноў не выспаліся? Эх, карты, карты! Выражаючыся з рэспектам...

Файфер паморшчыўся і едка, скрозь пенснэ, зірнуў на субясед-

ніцу. Файфер ужо даўно точыць зубы на гэту арыстакратку. Яна заўсёды суецца з сваімі навучаннямі. Ён яе калі-небудзь правучыць.

Шолам Алейхем і малады кіеўскі скрыпач—віртуоз Штурман расхаджвалі па зале. Штурман ужо даўно хацеў пагутарыць з аўтарам «Стэмпеню». Ён з вялікім захапленнем прачытаў гэты раман. Яму было шкада вялікага артыста з народа, якому прыходзілася выступаць перад публікай, не разумеўшай яго. У галоўным героі рамана Шолам Алейхема ён пазнаў шмат каго з сваіх калег. Штурману здавалася, што Шолам Алейхем, стварыўшы вобраз Стэмпеню, лічыць, што ў канцы XIX стагоддзя, умовы для работы і росту артыста з народа палепшыліся. Цяпер ён на гэтую тэму гутарыў з Шолам Алейхемам. Захопленыя гутаркай, яны павольна прайшлі залу і спыніліся каля дам, якія толькі што гаварылі аб Шолам Алейхему.

Элегантны малады чалавек з раздвоенай бародкай павітаўся з Шолам Алейхемам і скрыпачом.

— Саламон Наумавіч, як вашы справы?

— Нічога, пан Файфер,—неахвотна адказаў Шолам Алейхем.

— Ах, да,—схамянуўся Файфер, і зларадны агеньчык бліснуў у яго вачах. Я вас яшчэ не пазнаёміў. Будзьце знаёмы, пан Рабіновіч,—указаў ён на жанчын, якія з цікавасцю разглядвалі маладога скрыпача і незнаёмага пана з вясёлым тварам. Праз некалькі мінут дамы ажыўлена гутарылі з новымі знаёмымі.

Дама з веерам, якая толькі што пакатвалася ад смеху ад жартаў Шолам Алейхема, звярнулася да яго: Што вы скажаце, масье Рабіновіч, як вам падабаецца Леў Ізраілевіч? Да чаго мільянер можа дадумацца... Ён, з рэспектам выражаючыся, падае нам сюрпрыз. Сёння выступіць нейкі яўрэйскі пісьменнік, комік. Што вы на гэта скажаце, з рэспектам выражаючыся?

Шолам Алейхем хітра пераглянуўся з Штурманам і адказаў:

— Я, з рэспектам выражаючыся, таксама крыху чуў аб гэтым коміку.

Шолам Алейхем спакойна прадаўжаў гутарку з дамамі. Дамы і не падазравалі, што іх ветлівы субяседнік з'яўляецца тым пісьменнікам, «комікам», аб якім яны адазваліся з такой зняважлівасцю.

Шолам Алейхем бліскуча выконваў ролю свецкага купца. Штурман рабіў непраўдападобныя намаганні, каб не рассмяяцца. Ён часта адварочваў свой бледны, у вяснянках твар, як быццам шукаў у публіцы знаёмага.

Выступленні славутасцей пачаліся. Якісьці чытальнік, хрыплым, манатонным голасам прачытаў доўгае і нуднае апавяданне. Публіка кашляла, гучна пазяхала і ўпоўголаса вяла прарваныя размовы. Шолам Алейхем і Штурман папрасілі выбачэння перад дамамі і паспешна некуды вышлі. Гэта было за некалькі мінут да выступлення Шолам Алейхема.

Шолам Алейхем заняў месца чытальніка, які толькі што скончыў сваё ўсыпляючае чытанне і загаварыў чыстай яўрэйскай мовай.

Дамы, якія нядаўна шчыра гутарылі з ім, былі здзіўлены. Дама з веерам навяла свой ларнет на чытальніка, жадаючы ўпэўніцца ці

сапраўды гэта іх знаёмы—Саламон Наумавіч. Чырвоныя плямы выступілі на яе твары.

— З рэспектам выражаючыся, гэта сапраўды ён... Абуральна!

А дама з бародаўкай на носе, з абурэннем накінулася на Файфера.

— Вільгельм Паўлавіч, чаму вы нас не папярэдзілі? Гэта-ж скандал!..

Вільгельм Паўлавіч прытварыўся, як быццам ён нічога не чуе. Ён быў вельмі задаволены, што ахоўніцы яго маралі трапілі ў нялоўкае становішча. Шолам Алейхем чытаў адзін з сваіх маналогаў, чытаў, не адрываючы вясёлых вачэй ад сканфужаных дам.

Як жывыя праходзілі перад слухачамі героі апавядання Шолам Алейхема. Па залу раз-по-разу пракатваўся гамерычны рогат. Дама з веерам і дама з бародаўкай сядзелі нядзьмуўшыся, нізка апусціўшы головы. Характэрная мова шолам-алейхемаўскіх герояў мімаволі выклікала ў іх смех, але, сустрэўшыся з поглядам чытаючага, яны зноў апускалі галовы. Дама з веерам не праставала сароміць Вільгельма Паўлавіча.

— З рэспектам выражаючыся, гэтым вам абавязаны,—яна шапнула сваёй суседцы.—Файфер застаецца Файферам.—Шолам Алейхем заявіў, што ён будзе чытаць некаторыя сцэны з яго яшчэ ненадрукаванай п'есы. На дам ён больш не глядзеў. Ён зусім ператварыўся. Не мяняючы амаль голасу, ён разам з тым ярка паказаў крыўлянні і паводзіны манернай пляткаркі.

«Мадам Пастэрнак: Вы ведаеце, хто мне шые? Мне заўсёды шые Клара. Ніхто так не адгадвае мой характар, як Клара. Яна ўжо так прызвычаілася, выражаючыся з рэспектам, да маёй фігуры, што ёй нават не прыходзіцца здымаць мерку. Яна і ў поцемках мяне бачыць. Але адзін недахоп. Яна, выражаючыся з рэспектам, вялікая зладзейка. Дайце ёй дванаццаць аршынаў матэрыі—яна сцягне трынаццаць. На вачах знікне... Частуйцеся, калі ласка, чаму вы не кушаеце? Вось арэхі, ананасы, варэнне...

Мадам Хінкіс (да астатніх дам): У яе ўкрадзеш... (да мадам Пастэрнак) чаму вы не шыеце ў мадам Падкладкінай? Усе егупецкія дамы шыюць у Падкладкінай. Яна з нашых, каменецкая.

Мадам Файнкугель: А я шыю толькі за граніцай. Калі-б мне сшылі сукенку тут, а не заграніцай, я не змагла-б яе надзець...»

Уся публіка адразу пазнала тых, у каго мецці пісьменнік і ўсе позіркі звярнуліся к дамам, якія сядзелі, як у ваду апушчаныя. Шолам Алейхем працягваў:

«... Мадам Хінкіс: Навошта вы гаворыце аб мадыстках? Паслухайце, я вам лепш раскажу навіну аб мадам Мэерцімес і яе дачцы. Мне здаецца, што іх хутка трэба будзе павіншаваць.

Усе дамы: Заручыны?

Мадам Хінкіс: Горш заручын.

Усе дамы: Вяселле?

Мадам Хінкіс: Горш вяселля.

Усе дамы (здзіўлена пераглядаючыся): Што гэта значыць? Праўда? (Усплёскваюць рукамі). Што-ж вы маўчалі да гэтага часу?

Раскажыце, нам, галубка, душачка, мілая. (Дамы абдымаюцца, цісну́ць рукі, умаляюць расказаць).

Мадам Хінкіс: Я вам раскажу, толькі з умовай, каб гэта засталося паміж намі. Ніводная душа не павінна ведаць аб гэтым. Вы памятаеце, летась, калі мы прыехалі з-за граніцы, я вас пытала куды знікла мадам Мэерцімес з дачкой? Ніхто не ведаў: адны казалі, у Вену, другія—у Берлін, а трэція прыходзілі да заключэння, што яна ў Парыжы. Я ўсё ламала галаву, як-жа аб гэтым даведацца даставерна? Праўда, я некалькі разоў сустракалася з ёю ў магазінах, але падыйсці першай і прывітацца—занадта многа гонару для яе. Яна так задрала нос, думае: ніхто не раўня ёй. А я яе памятаю яшчэ з Камянецка, каб я так жыла».

Рукою геніяльнага майстра зрываецца з буржуазных дам іх пазалочаная мішура і яны прадстаюць перад слухачамі ў сваім сапраўдным, непрыкрашаным выглядзе.

«... Мадам Хінкіс: Не спяшайцеся! Коратка і ясна. Мадам Падкладкіна пашыла жакеткі, аднесла жакеткі, пачала прымяраць жакеткі, раней мадам Мэерцімес—добра! Яна пачала прымяраць дачцы—няшчасце, гора, ганьба! Вы разумееце! (Яна нахіляецца да мадам Пастэрнак: шэпча ёй нешта на вуха).

Мадам Пастэрнак (усплёсквае рукамі): Ой, не вытрымаю! Можна лопнуць, з рэспектам выражаючыся».

Сумнення не было, усім было ясна, каго чытальнік узяў пад абстрэл. Шолам Алейхем зараз ні разу не зірнуў на даму з веерам, яе падругу з бародаўкай на носе, затое ўсе прысутнічаўшыя ўважліва разглядвалі іх з усіх бакоў.

— Вільгельм Паўлавіч,—плачучым голасам прашаптала дама з веерам,—вы з рэспе...—яна адразу запнулася, успомніўшы мадам Пастэрнак.—Вы... вы... скандаліст! Файфер застаецца Файферам!—перайшла яна на істэрычную ноту.

— Ой, мне дрэнна!..

Файфер зразумеў, што справа прымае непрыемны зварот і ўзяў даму пад руку, паспешна вывеў яе з залы.

Шолам Алейхем адчуваў вялікае здавальненне ад сёнешняга чытання: стрэлы яго сатыры трапілі ў цэль.

Уся публіка смяялася і жартавала над дамай з веерам і яе «з рэспектам выражаючыся». Файфер лічыў сябе героем дня. Ён хадзіў гогалем і расказваў усім, як ён падстроіў усю гэту гісторыю.

— Мы з Шолам Алейхемам, калі пажадаем, можам сыграць камедыю. Вы-б паслухалі, як ён з імі гаварыў. Яны смяяліся над Шолам Алейхемам перад Саламонам Рабіновічам. Мы, нават і вокам не міргнулі.—Але Файфер запамятаў расказаць, што ён сустракае Шолам Алейхема другі раз у жыцці. Файфер павінен быў спыніць свае самахвальныя апавяданні. Пачалося выступленне скрыпача віртуоза Штурмана.

Артыст узяў скрыпку ў рукі, правёў некалькі разоў смычком па струнах і адразу пераrварыўся. Мінулы сухотны юнак з вяснянкамі на твары знік, а на яго месца быццам вырас другі чалавек. Зусім іншы выгляд. Другі вобраз. Другія вочы, вялікія блакітныя, як неба, вочы. Ён грае.

Цішыня. Толькі магутныя, страсныя гукі скрыпкі льюцца па зале. Скрыпка змоўкла. Раздаўся гром апладысментаў. Перад глядачамі зноў стаяў той-жа сухотны, у вяснянках юнак з ліхаманкавым бляскам у вачах.

Горды і роўнадушны стаяў ён перад публікай. Ён холадна пакланіўся. Яго выклікалі шмат разоў, і, выходзячы на выклік, ён ішоў упэўненай, цвёрдай хадой, як чалавек, ведаючы сабе цану.

Гаспадар дома «леў сярод звяроў» быў надзвычай задаволен поспехам свайго канцэртанта. Цяпер ён ведае, што ў колах кіеўскай інтэлігенцыі ён праслыве знатаком мастацтва і літаратуры. Ён даўно уже песціць мару праслыць апякуном мастацтва і навукі. Леў Ізраілевіч успомніў, што ў часе свайго апошняга падарожжа па Еўропе, ён выпадкова купіў у Парыжы ноты, якія яму вельмі хвалілі. Гэтыя ноты ён рашыў падарыць Штурману.

Ужо некалькі год, як Шолам Алейхем вядзе з ім перагаворы аб выданні яўрэйскага журнала. Але журнал на яўрэйскай мове яму не па душы. Ён не можа адмовіць Саламону Наумавічу,—занадта войстры язык у яго, але выдаткоўваць грошы на розныя выдумкі ён таксама не хоча.

Леў Ізраілевіч паблажліва паціскаў руку скрыпачу, падзякаваў за зробленую асалоду і ў заключэнне сказаў:

— Я прыгатаваў для вас падарунак, чароўную мелодыю... Спецыяльна купіў для вас у Парыжы, заплаціў шмат грошай.

І «леў сярод звяроў» накіраваўся ў свой габінет за нотамі.

Штурман, які скардзіўся толькі што Шолам Алейхему на бяздушныя адносіны яўрэйскіх багачоў да народных талентаў, адчуў нешта накшталт раскаяння і заўважыў Шолам Алейхему:

— Золата, відаць, яшчэ не зусім папсавала мастацкі густ багача.

Але хутка Шолам Алейхем і Штурман упэўніліся, які мастацкі густ у багача.

Як толькі Штурман ускрыў паданы яму пакет, ён паблядне ў, ён убачыў банальную кафэшантанную песенку. Артыст збянтэжана паглядзеў на Шолам Алейхема і кінуў ноты на падлогу. Нотныя аркушы рассыпаліся па нацёртаму паркету ў ног «Льва».

Мільянер стаяў, вытарашчыўшы вочы, не разумеючы, што тут здарылася. Некалькі яго прыбліжоных кінуліся падбіраць рассыпаныя аркушы. Штурман плюнуў і кінуўся да выхаду. Мільянера абкружылі з усіх бакоў, угаварваючы не звяртаць увагі на выхадку «саплівага музыканта».

Шолам Алейхем скарыстаў мітусню, і паспяшыў за Штурманам.

З таго часу Шолам Алейхем больш не выступаў на вечарах кіеўскага цукразаводчыка.

Ён успамінаў аб гэтых вечарах з болем у душы.

*Пераклаў з рускай мовы Ал. СТАХОВІЧ.*

## Да 125-годдзя з дня нараджэння вялікага украінскага паэта

*Т. Г. Шэўчэнка*

### САВА

Спарадзіла маці сына
У цяні дубровы.
Дала яму вочы-зоры
І чорныя бровы.
Кітайкаю спавівала,
Святых упрашала,
Каб святыя ўсе сыночку
Шчасце-долю слалі.
«Маці божая! пашлі ты
Тое благадаці
І ўсяго, чаго матуля
Не здалее даці».
На світанні воду брала,
Ў барвінку купала,
Да поўначы калыхала,
Досвіткам спявала:
«А-а!.. лю...лі!..
Пытала зязюлі,—
Зязюля вяшчала,
Праўданьку казала:
Буду сто год жыці,
Цябе гадаваці,
Ў жупане хадзіці,
Буду панаваці.
Ой, вырасцеш, сынку,
За поўчварта годы,
Як ясень высокі,
Як княжога роду,
Гнуткі і дзябёлы,
Шчаслівы, вясёлы
І не адзінокі.
Найду табе роўню
Хоць за морам сінім,
Або крамароўну,
Або сотнікоўну,—
Такі панну, сыну.
У чырвоных чаравіках,

Ў зялёным жупане,
Па святліцы пахаджае,
Як пава, як пані,
Ды з табою размаўляе
У хаце, бы ў раю.
А я сяджу на пакуці,
Толькі паглядаю.
Ой, маё дзіцятка!
Ой, сыне мой, сыне!
Ці ёсць лепшы на ўсім свеце,
На ўсёй Украіне?
Няма лепшага й не будзе.
Дзівуйцеся, людзі.
Няма лепшага... А долю...
Долю раздабудзе».
Ой, зязюля, зязюленька!
На што кукавала?
На што ты ёй доўгіх гадоў,
Сто лет абяцала?
Хіба-ж ёсць на гэтым свеце
Паслушная доля?
Ох, каб была! Змагла-б маці
З нямецкага поля
Сваім дзетачкам заклікаць
І долю, і волю,
Дык-жа не... А зло нядолі
Сустрэнецца ўсюды—
На дарозе, без дарогі,—
Ўсюды, дзе ёсць людзі.
Цешылася маці сынам,
Як кветкаю ў гаю,
Цешылася... А тым часам
Бацька паміраe.
Засталася удавою,
Хоць і маладою,
І не адна... Ды ўсё-ж цяжка.
З горам ды з нудою
Пашла яна да суседзей
Парады прасіці...
Прысудзілі суседанькі
У наймах служыці.
Агалела і змарнела,
Кінула гасподу,
Пашла ў наймы. Не мінула
Ліхое прыгоды.
І дзень і ноч працавала,
Падаткі плаціла,
За тры копы свайму сыну
Жупанок купіла,—
Каб і яно, удовіна,

Да школы хадзіла.
Ой, талане, талане
Удовіны паганы!
Ці ты ў полі, ці ты ў гаю,
Абадраны цыгане,
З бурлакамі гуляеш.
Багатаму сама льецца
Вада ў яго хаце,
А беднаму ў яры трэба
Крыніцу капаці.
У багатых растуць дзеці—
Вербы пры даліне,
А ўдовіна адным—адно
Ды і тое гіне.
Прычакала ўдава долі,
Дарослацці сына:
І пісьменны і ўрадлівы—
Кветачка хлапчына.
Як у бога за дзвярыма
Ўдава панавала;
Зазіраліся дзяўчаты
І рушнікі дбалі.
Палюбіла багатая—
Не пацалавала;
Вышывала шоўкам хустку—
Не падаравала.
Злыдні-ж краліся з-за мора
Да ўдовінай хаты.
Падкраліся... сталі хлопцаў
Каваць у салдаты,
Ды павезлі да прыёму
Бітымі шляхамі.
Пайшла ўдава з мацяркамі
З дробнымі слязамі.
Дзе ноч начавалі,
Вартавым давалі,
Але ўдаву да абозу
І не дапускалі.
Ой, прывезлі да прыёму—
Ці-ж ёсць праўда ў свеце?
Ўсе—дробны, недаросткі—
То—багатых дзеці.
Той—калека-недарэка,
Той не ўмее стаці,
Той гарбаты, той багаты,
Тых чатыры ў хаце.
Усе не ў лад, ўсіх назад—
Ва ўсіх доля-маці.

А ва ўдавы адзін сын
Ды й то якраз пад аршын.

Пакінула ізноў хату,
Сынаву гасподу,
Пайшла ў наймы, за хлеб чорствы
Чужым насіць воду,
Бо свае і не прымаюць:
«Нядошлая стала,
Не здужае». І агрызак
Праз акно давалі,
Як убогай. Не дай божа
Такога дажыці!
Не дай божа ў багатага
І піць папрасіці.
Па капейцы зарабляла,
Копу назбірала
Ды да сына ліст пісала,
Ў войска паслала—
Палягчэла. Год праходзіць
І другі мінае;
І чацверты і дзесяты,
А чуткі не мае.
Няма чуткі. Што тут рабіць?
Трэба торбу браці
Ды йсці. Ісці сабак дражніць
У дварах, у хаце.
Ўзяла торбу, пайшла сялом,
На выгане села
І ў сяло ўжо назад не йшла,
Дзень і ноч сядзела
Каля веснічак. А лета
За летам мінае.
Змізарнела, у крук звяло
Ніхто й не пазнае
Ды й каму там цікавіцца
Калекай-убогай.
Сядзіць сабе ды ўсё глядзіць,
Сочыць за дарогай.
Рассвітае, змяркаецца
Ды і зноў світае,
А маскалік, сынок яе,
Не йдзе, не дыбае.
Па-над ставам увечары
Шуміць чарот шэры,
Маці сына ўсё чакае
Досвіта вячэраць.
Па-над ставам увечары
Шэпча штось вярбіна;
Выглядае ў цёмным гаю
Казака дзяўчына.
Па-над ставам вецер вее,
Лозы нагінае;

Плача маці адна ў хаце,
А дзяўчына ў гаю.
Паплакала чорнаброўка
Ды стала спяваці;
Паплакала горка маці
Ды й стала рыдаці.
Малілася і рыдала,
Кляла ўсё на свеце.
Ох, як цяжкі вы, без долі
У мацеры дзеці!
Кастлявыя свае рукі
Да бога ўзнімала,
Сваю долю праклінала,
Сына вымаўляла.
То ад жалю адходзіла
І ў журбе нямела,
То на шлях той, на далёкі
Скрозь слёзы глядзела.
І дзень і ноч пазірала
Ды й стала пытаці,
«Ці не чуў хто, ці не бачыў
Маскаля-дзіцяці,
Майго—сына». Ніхто не чуў
І ніхто не бачыў.
Сядзіць яна, не йдзе ў сяло,
Маўчыць і не плача.
Звар'яцела... І цагліну
Муштруе; то лае,
То калыша, як дзіцятка,
Сынам называе
Ды украдкам—ціхусенька
Скрозь слёзы спявае:
«Змяя хату запаліла,
Дзецям кашы наварыла,
Паморшчыла пасталы,
Паляцелі маскалі,
Гусі шэрыя у вырай
Па чатыры, па чатыры
Паляцелі—«гол-гол».
На магіле арол,
На магіле сярод ночы
У казака выйме вочы,
А дзяўчына ў цёмным гаю
Яго з войска выглядае».
Днём па сметніках хадзіла,
Чарапкі збірала,
Гаварыла, што сыночку
Гасцінца хавала.
А срэдзь ночы расхрыстана
І праставалоса

Сялом ходзіць—то спявае,
То страшна галосіць.
Людзі лаялі, бо, бачце,
Спаць ім не давала
Ды крапіву пад іх тынам
І бур'ян таптала.
Дзеці бегалі з драколлем
У дзень за ўдавою
Па вуліцы ды са смехам
Клікалі... САВОЮ.

Пецярбург, 1844. 6. V.

*Пераклаў* ЯКУБ КОЛАС.

---

## ЗАПАВЕТ

Як памру, дык пахавайце
Мяне на кургане,
Сярод стэпу шырокага
На Ўкраіне слаўнай,
Каб безкрайнія разлогі,
І Дняпро, і кручы
Было відна, было чутна,
Як грыміць грымучы.

Як ён змые з Украіны
У сіняе мора
Кроў ворагаў... Вось тады я
І поле і горы
Ўсё пакіну, паляту я
Да бога самога
Памаліцца... Да таго-ж я—
Не ведаю бога!
Пахавайце, ды ўставайце,
Ланцугі парвіце,
І варожай злой крывёю
Волю акрапіце!
І мяне ў сям'і вялікай,
Сям'і вольнай, новай,
Памянуць вы не забудзьце
Незлым ціхім словам.

25 снежня 1845
у Пераяславе.

*Пераклаў* З. БЯДУЛЯ.

## МАЛЕНЬКАЙ МАР'ЯНЕ

Расці, расці, мая птушка,
Макавы мой цвеце,
Развівайся, пакуль тваё
Не разбіта сэрца.
Пакуль людзі не дазналі
Ціхае даліны.
Дазнаюць—нагуляюцца,
Засушаць, ды кінуць.
Ані годы маладыя,
Спавіты красою,
Ні карыя ачаняты,
Ўмытыя слязою,
Тваё сэрца залатое,
Добрае дзявочча—
Не заступіць, не закрые
Прагныя ён вочы.
Знойдуць злыя ды й абкрадуць
Ї табе убогай
Створаць пекла... Замучышся
Ї праклянеш бога.
Не красуй-жа, цвеце новы,
Неразвіты цвеце!
Завянь ціха, пакуль тваё
Не разбіта сэрца.

20 снежня 1845
У'юнышча.

*Пераклаў З. БЯДУЛЯ.*

## У КАЗЕМАЦЕ

Маім саюзнікам прысвячаю.

I

Ой, адна я, адна,
Як быліначка ў полі,
Ды не даў жа мне бог
Ані шчасця, ні долі.
Толькі даў жа мне бог
Красу—карыя вочы,
Выплакала й тыя
У адзіноце дзявочай.
Ані брацікa я,
Ні сястрычкі не знала.
Між чужымі ўзрасла,
Ї ўзрасла—не кахала!
Дзе-ж ты, мілы дружок,

Дзе вы, добрыя людзі?
Іх няма... Я адна,
А дружка і не будзе!

II

За байракам байрак,
А там стэп ды магіла.
А з магілы казак
Ўстае сівы, пахілы.
Устае уначы,
Ідзе ў стэп, а йдучы
Песню сумна спявае:
«Нанасілі зямлі,
Ды й дадому пайшлі
І ніхто не згадае.
Нас тут трыста, як шкло,
Таварыства лягло!
І зямля не прымае.
Як запродаў гетман
У ярмо хрысціян,
Нас паслалі гнаць з хат іх.
Па сваёй па зямлі
Сваю кроў разлілі
І зарэзалі брата.
Кроў братоў мы пілі,
І вось тут паляглі
Мы ў магіле заклятай».
Сціх казак, сумаваў,
І да пікі прыпаў,
Стаў на самай магіле.
На Дняпро пазіраў,
Цяжка плакаў, рыдаў,
Сіні хвалі галасілі.
З-за Дняпра, за сяло
Рэха гаем гуло,
Трэці певні спявалі.
Праваліўся казак,
Стрэпянуўся байрак,
А магіла застагнала.

III

Мне адзінакава, ці буду
На Украіне жыць ці не.
Ці хто ўспомніць, ці забудуць
У чужой халоднай старане—
Мне ўсёадно—ўсёроўна мне.

У няволі вырас між чужымі,
І неаплаканы сваімі,
Ў няволі плачучы памру,
І ўсё з сабою забяру—
Малога следа не пакіну
На нашай слаўнай Украіне,
На нашай—не сваёй зямлі.
І не спамяне бацька з сынам,
Не скажа сыну ён: «малі,
Малі ты бога: За Ўкраіну
Яго замучылі калісь».

Мне адзінакава, ці будзе
Той сын маліціся, ці не...
Ды не ўсёроўна для мяне,
Як Украіну злыя людзі
Прысьпяць, зладзеі, і яе
Ў агні абкрадзеную збудзяць...
Ох, не ўсёроўна для мяне.

## V.

«Чаго ты ходзіш на магілу?»
Са скаргай маці гаварыла.
«Чаго ты плачаш, ідучы,
Чаму не сьпіш ты уначы,
Мая галубка сізакрыла?»
«Так, мама, так!..» І зноў хадзіла,
А маці плакала, ждучы.

Не сон-трава на магіле
Ўночы расцвітае,—
Заручоная дзяўчына
Каліну саджае,
І слязамі палівае,
І госпада просіць,
Каб дажджы паслаў уночы
І дробныя росы.
Каб каліна прынялася,
Веццё распусціла.
Можа птушкай залунае
З таго свету мілы.
Саўю яму я гняздзечка,
Сяду на галіне.
Шчабятаць мы будзем разам
З мілым на каліне.
Шчабятаці будзем, плакаць,
Ціха размаўляці,
Будзем разам раніцою
На той свет лятаці.

І каліна прынялася,
Вецце распусціла,
І тры годы на магілу
Дзеўчына хадзіла.
На чацьверты... Не сон-трава
Ўночы расцвітае,—
То дзяўчына з каліною
Плача, размаўляе:
«Шырокая, высокая
Каліна мая,
Не вадою на ўсход сонца
Паліваная!
Шырокія рэкі-слёзы
Цябе палілі;
Іх славаю лукаваю
Людзі паняслі.
Зневажаюць падружанькі
Падружку сваю,
Зневажаюць чырвоную
Каліну маю.
Спаві маю галаваньку,
Расою памый,
Галінамі шырокімі
Ад сонца закрый!
Ўранку знойдуць мяне людзі
Мяне асмяюць;
Шырокае тваё вецце
Дзеці абарвуць».
Рана ўранку на каліне
Птушка шчабятала;
Пад калінаю дзяўчына
Спала—не ўставала:
Стамілася маладое,
Навекі спачыла...
Ўстала сонца з-за магілы,
Цешыліся ўстаючы;
А маці і не задрамала,
Дачку вячэраці чакала,
І цяжка плакала, ждучы.

VI

Ой тры шляхі шырокія
Ды разам зышліся;
На чужыну з Украіны
Браты разышліся.
Пакінулі сваю маці,
Той жонку пакінуў,
А той—сястру, а найменшы—
Мілую дзяўчыну.

Пасадзіла тады маці
Тры ясені ў полі,
А нявестка пасадзіла
Стромкую таполю.
Тры явары пасадзіла
Сястра пры даліне...
А дзяўчына маладая—
Чырвань-цвет каліну.
Не прыжылі тры ясені,
Таполя ўсыхала;
Паўсыхалі тры явары,
Каліна завяла.
Тры браты не вяртаюцца,
Плача горка маці,
Плача жонка з дзетачкамі
У сцюдзёнай хаце.
Сястра плача—йдзе шукаці
Братоў на чужыне...
Для заручанай дзяўчыны
Робяць дамавіну.
Тры браты не вяртаюцца,
Па свеце блукаюць,
А тры шляхі шырокія
Цернам зарастаюць.

У каземаце
(1847)

*Пераклаў З. БЯДУЛЯ.*

*М. Клімкові*

# НА ВІЛЕНСКІМ ШЛЯХУ

*Драматычны абразок з дзіцячых год Т. Г. ШЭЎЧЭНКі.*

Светлай памяці
вялікага песняра-рэволюцыянер
прысвячае

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

ПАН ГАРБУЭ—дваранін-аднадворац, уласнік карчмы на Віленскім шляху на Случчыне, гадоў за 40.
ПАНІ ВОНЖ—уласніца суседняй вёскі, гадоў за 45.
НАСТА—прыгонная кабета, служыць у карчме, гадоў 26, але на выгляд значна старэй.
ІВАН—прыгонны селянін, гадоў 40, худы, хворы.
АЛЕНКА—яго дачка, 15 год.
ТАРАС ГРЫГОРАВІЧ ШЭЎЧЭНКА—хлапец 15 год. Каранасты, крэпкі, з непакорнай чупрынай, задумлівы. Апрануты напалову казачком, напалову звычайным вясковым хлапцом.
ДЗЕД СЯМЁН—стары чумак, кабзар.
ВЯСКОВЫЯ ЖАНЧЫНЫ.

Хор вясковых жанчын і чумацкі хор за сцэнай.

Час дзеі—1829 год.

---

На сцэне відаць рог вялікай карчмы з ганкам, у глыбіні сцэны адчыненыя дзверы ў стадолу, направа плот, за плотам вокны хаты Івана. Вечар. Праз раскрытыя вокны карчмы чутна песня і відаць постаці жанчын, якія мыюць карчму. Адна з жанчын запявае, астатнія хорам падхватваюць.

Жанчыны *(пяюць)*.

Ой ты, поле, поле, шырокае поле!
Ой ты, доля, доля, удовіна доля!
Парасло ты, поле, палыну кустамі,
Заплыла ты, доля, горкімі слязамі.
Сусед жыта сее, сее поўнай жменяй,
А я сею слёзы на свае каменне.
Людзі просяць бога, хай жыты ўзродзяць,
А я прашу бога, хай слёзы не ўсходзяць.
Не ўрадзіла жыта на суседняй ніве,
А ўрадзілі слёзы ўдоўкі нешчаслівай.

Ой вы, леты, леты, маладыя леты,
Адцвілі, апалі, марным пустацветам.

Праз нейкі час з карчмы выходзіць некалькі жанчын, з імі выходзіць Н а с т а.

Н а с т а.

Ну, дзякуй, бабы, вам, што памаглі,
адна-б я тут да заўтра кукавала.

П е р ш а я ж а н ч ы н а.

Няма за што.

Д р у г а я ж а н ч ы н а.

Спрабуй не памагчы.
Гарбуз заесць.

Т р э ц я я ж а н ч ы н а.

Забраў сяло у рукі.

Д р у г а я ж а н ч ы н а.

Хоць пан—не пан, а пана переважыць
грашмі і лютасцю...

П е р ш а я ж а н ч ы н а *(да другой)*.

Стрымай язык.
*(Да Насты)*. Бывай, Настуля. Пойдзем адпачыць...
За дзень не чуеш рук.

Н а с т а *(абыякава)*.

Бывайце. Дзякуй.

Жанчыны пайшлі ў сяло. Наста засталася адна. З свайго двара выходзіць, абапіраючыся на кіёк, Іван.

Н а с т а.

Ізноў брыдзеш? А ірада няма?

І в а н.

Няма яшчэ? Ці будзе толк, скажы мне,
з маёй хадзьбы?

Н а с т а.

Які ў чорта толк?
Каб свет гарэў, пан, пэўна, пеў бы песні
і з прысаку чырвонцы выграбаў.

І в а н.

Ты за мяне замоў хоць слова, Наста.

Н а с т а.

Дарэмна, дзед. Дый сэрца у мяне
з тае пары, як камень зачарствела,

калі сынка майго Гарбуз у свет
малога збыў. Як цень, як здань блукаю
што ноч я трэці год...

Іван.

А можа ўтапіў?

Наста *(з жахам)*.

Дзед, не кажы так, сэрца, дзед, не кратай...

Іван.

Я толькі к слову, Наста...

Наста.

Усю раку
прайшла я ў тую восень. Захварэла,
вада была як лёд...

Іван.

А што Гарбуз?
Што кажа ён?

Наста.

Калі старацца буду
ён верне мне праз год майго сынка.

Іван.

І верыш ты?

Наста.

І веру, і не веру.
Дарэмна дзед мне сэрца растрывожыў...
А Гарбузовай ласкі не прасі ты,
Гарбуз павук. Ён пані грошы даў
і вас узяў за процант на паслугі,
каб сокі высмактаць.
Ды вунь, паўзе...
Сыйду з вачэй, каб разам нас не бачыў.

(Пайшла ў карчму).

Іван.

Авечкам гора там, дзе воўк пастух.

(Уваходзіць Гарбуз. Іван устае і кланяецца).

Гарбуз.

Што скажаш мне, Іван? Сягоння не араў?

Іван.

Няма на кім, ды і нядзеля сёння.

Гарбуз.

А вол што? здох?

Іван.

Дзень трэці не ўстае.

Гарбуз.

А я пры чым? Па угавору з паняй
маю зямлю павінен абараць?

Іван.

Свая ляжыць аблогай, пан ласкавы.

Гарбуз.

Сваёй зямлі ў мужыка няма.

Іван.

Няма, панок, вось толькі за пазногцем.
Я паніну араць не пачынаў.

Гарбуз.

А я прычым? Я сто рублёў заставіў
за вашу Вонжу. На сабе ары.
Ці на дачцы?

Іван.

Дачка—дзіця малое,
пятнаццаць год.

Гарбуз.

Пакліч яе сюды.

Іван *(спалохана)*.

Навошта, пан?

Гарбуз.

Каб дурань запытаўся.

Іван *(ідучы ў сваю хату)*.

Бяда бядзе ступае след у след,
на чорта-ж бог стварыў гаротны свет.

Гарбуз *(адзін)*.

Пятнаццаць год... згадзіцца у гаспадзе.

(Неўзаметку выходзіць з карчмы Наста).

Абрыдла Наста мне...

Наста.

Сынка аддай
майго і я пайду адсюль...

Гарбуз.

Завёз яго да бацькі ў салдаты.

Наста.

Да бацькі? да чыйго?

Гарбуз.

Да Янука.
Твайго.

Наста.

Адкуль ты ведаеш?

Гарбуз.

Ха-ха-ха.
У гарачцы усё да ніткі расказала:
І ноч... і лес... і як мяне кляла,
Што я салдатчыну твайму падстроіў.

Наста.

Не чалавек—змяя.

Гарбуз.

Сама—змяя,
пагрэцца выпаўзла на сонца.
Такім як ты, марозна і ў Пятроўку.

Наста.

Каля змяі змяёю станеш сам.
А сына мне аддай. Нікуды не завёз,
не ездзіў ты.

Гарбуз.

Ну, завезлі другія.
Не бачыла ў гарачцы парадзіха.
Аюсь у хлеў. Вось вілы, гной бяры.

(Выходзіць з сваёй хаты Аленка).

Аленка.

Мяне пан зваў?

Гарбуз (*разглядаючы*).

Ты сёння на зары
купалася вось там...

Аленка (*спалохана*).

А што? Там нельга?

Наста.

Падгледзеў, чорт.

(Алена зразумела і засаромілася).

Гарбуз *(грозна да Насты)*.

Аюсь у хлеў, кажу!

Наста узяўшы вілы пайшла ў стадолу, але час ад часу падыходзіць да дзвярэй і прыслухоўваецца).

*(У бок)*. Нішто сабе... Дзяўчына, як пупушка.
*(Алене)* Ці хочаш жыць па-людску?

Аленка.

Як то пан?

Гарбуз.

Цукеркі есці, гаспадыняй быць,
бацькоў на старасць лет пакоіць. Вось як.

Аленка.

Не разумею я.

Гарбуз.

Дык зразумей:
Твой бацька пад заклад мне паней дадзен,
рабіць як чорны вол павінен ён,
бо грошыкі звярнуць не можа пані.
Калі скажу, што мне работы з вас
няма на ногаць малы—пані злупіць
усю скуру з плеч—і з бацькі і з цябе.

Аленка.

Дык бацька хвор?

Гарбуз.

А маці?

Аленка.

Не ўстае
каторы месяц, пан.

Гарбуз.

Дык ты не зломак.

Аленка.

Я, што магу, раблю.

Гарбуз.

У карчму ідзі.

Аленка.

Там хопіць Насты.

Гарбуз.

Насту праганю я.

Аленка.

Назад да пані? Дык яе-ж заб'юць.

Гарбуз.

Няхай даб'юць, усёроўна здохне скора.
А мы з табой...

(Працягнуў руку, Аленка адскочыла).

Не укушу, шчанё!

Наста *(з дзвярэй стадолы).*

Паквапіўся... А Насту на дрывотнік?
Зарэжу я, панок, цябе ў пасцелі з ёй.

(Чуваць, як спынілася брычка і выходзіць пані Вонж).

Пані Вонж.

Дзень добры, пан Гарбуз.

(Наста і Аленка нізка кланяюцца пані).

Гарбуз.

Вітаю шчыра
паклонам нізкім пані.

*(Да Насты і Аленкі).*

Хамкі, у хлеў!

Пані Вонж.

Пан патаўсцеў.

Гарбуз.

Які я пан?—Гарбуз.
Што, пані Вонж, мне скажа? У хату зойдзем?

Пані Вонж.

Не, лепей тут. У хаце мужыком
смярдзіць занадта.

Гарбуз *(прабачліва).*

З аднадворцаў мы
дваране-мужыкі.

Пані Вонж.

Пан, не крыўдуйце.
Абразіць вас на мэце я не мела.
Па справе я... Мой Анатоль прыслаў
ліста ізноў...

Гарбуз.

У карты праіграўся?

Пані Вонж *(ганарліва)*.

Як благародства вам бракуе, пан!
У справы нашы не ўтыкайце носа!

Гарбуз *(смірэнна)*.

Што праўда—праўда тое, пані Вонж.
Ўсёй справы мне—пад'еў ды й у хлеў. Але
каб так мой сын, як панін Анатоль
ў пазыкі маці гнаў, а грошы ў чарку...

Пані Вонж *(візгліва)*.

Ён афіцэр!

Гарбуз.

Не паглядзеў бы я
на залаты мундзір, да лаўкі путам
я-б прывязаў і скуру ўсю спусціў.

Пані Вонж *(упіклліва)*.

Вы, дваранін!

Гарбуз *(спакойна)*.

Па царскаму указу—
дваране мы, хоць пані не раўня.

Пані Вонж.

Патрэбны грошы мне... *(Спрабуе ўсміхнуцца)*.

Гарбуз.

І мне патрэбны.
А дзе іх узяць?

Пані Вонж *(спрабуе абвараджыць Гарбуза)*.

Сусед, і вам не сорам?
У бубен людзі б'юць, што пану грошы
шчаслівы змей прынёс.

Гарбуз.

У морду б'юць
няхай сабе завістнікі мае,
язык аб плот, не аб мяне,—хай чэшуць.

Пані Вонж.

Вы не шляхетны.

Гарбуз.

Колькі трэба вам?

Пані Вонж.

Так... дзвесці золатам...

Гарбуз.

Не маю столькі.

Пані Вонж.

А колькі маеце?

Гарбуз *(ухіляючыся ад адказу).*

Я думаў—дробязь...
Убытак мне паслугі пані Вонж.

Пані Вонж.

Убы-ы-так? А Настася як той вол
І дзень і ноч працуе ў каго, пан?

Гарбуз.

На мізінцы спалю яе ўсю працу.

Пані Вонж.

Іван чыё, пан, поле абрабляе?

Гарбуз.

Хацеў сягоння вам абоіх я
назад пасланць. Няхай яны згараць!
З іх працай сам у старцы пойдзеш скора.

Пані Вонж *(хуценька).*

Лянуюцца? Мы можам падагнаць.

Гарбуз.

Такі народ, што шагу не прыбавіць,
хоць іх даўбнёй дзяўбі. Я тых калек
змяніць прашу за проценты старыя,
а больш не дам, прабачце, пані Вонж.

Пані Вонж.

У сына доўг, доўг чэсці афіцэра.
Спрабуйце зразумець мяне, мужлан.

Гарбуз.

Які ўжо ёсць, а грошы больш не дам
і прынясу кантракт прасіць замены.

Пані Вонж.

Мне някім замяняць.

Гарбуз.

А я прычым?

Пані Вонж.

Пачуцці маці зразумейце вы!
Мой Анатоль... Яго з палка прагоняць,
калі я сёння грошы не пашлю.

Гарбуз.

Яно і лепей будзе—кіне карты.

Пані Вонж.

Прыедзе к вам... Ён пусціць пулю ў лоб!

Гарбуз.

У-га! То-ж бачу пастраляных многа,
хоць гаць гаці.

Пані Вонж.

Вы—недавярак, вы...
Мярзотнік!

Гарбуз.

Крыўдзіце мяне дарэмна.
Я спачуваю вам.

Пані Вонж *(хуценька)*.

Ну дайце сто.

Гарбуз *(падумаўшы)*.

Дачку Івана дайце мне, Алену,
на поўнае ўладанне—трыццаць дам.

Пані Вонж.

Сто пяцьдзесят.

(Аленка пачула са стадолы і выбегла ў роспачы. Яна кідаецца на калені перад паняй Вонж).

Аленка.

О пані, залатая, дарагая!
Я ногі вашы буду цалаваць.
Не прадавайце вы мяне, малую,
загіну я...

Пані Вонж.

Сто дваццаць, пан Гарбуз!

Гарбуз.

Хай будзе сорак, ні капейкі болей.

Аленка.

Вы маці, успомніце сваіх дзяцей.

Пані Вонж.

Устань, хамка! Пакруціся! Пан Гарбуз,
не дзеўка,—золата. Сто дваццаць мала.

Аленка.

Ой, татка, татачка, ратуй дачку!

(Пабегла ў свой двор).

Гарбуз.

Хай пяцьдзесят і ні капейкі болей.

Пані Вонж *(схапіла яго за плечы).*

Сто дзесяць, пан Гарбуз...

(Перад карчмой спыняецца чумацкі воз. На возе дзед Сямён і малады Шэўчэнка).

Дзед Сямён.

Вось і прыехалі, Тарасе, на папас.
Сівыя, стой! Карчма. Дзень добры ў гаспадарку.
Ці можна стаць?

Гарбуз.

А многа вас?

Дзед Сямён.

Яшчэ пяток,
пад'едуць хутка.

Гарбуз.

Можна. Пойдзем у хату, пані.

(Пані Вонж і Гарбуз пайшлі ў карчму).

Дзед Сямён.

Злязай, Тарас! *(Распрагае валоў).*

Тарас.

А дзе-ж мы зараз, дзед? Далёка?

Дзед Сямён.

На Беларусі, брат, пад Слуцкам, ля карчмы —
і нос свярбіць...

Тарас.

Гарэлку чуе?

Дзед Сямён.

Мабыць, чуе.

Тарас *(з хітрынкай).*

Казацкі нос... Каб ён таксама грошы чуў...

Дзед Сямён.

На грошы глух. За грошы бог і чорт спрачаўся.
Бог кажа: «Чорт, ты багацей мяне жывеш
і менш клапот: табе ні поп, ні дзяк не скруціць».
А чорт яму: «Давай мяняцца, бацька-бог,
будуй карчму, а я царкву». Ну й ладна.

Будуе бог карчму, а чорт бярвенне крадзе
на царкаў у яго... Не слухаеш, Тарас?

Тарас (*які заглядзеўся на акаляючае яго*).

Як у Кірылаўцы ўсё тут: і яр, і вербы,
і вішні. Толькі хаты не такія, дзед.

Дзед Сямён.

За тое ў хатах тут і там народ жыве
аднолькавісенька: жыве і плача, сынку.

Тарас.

Ад панства?

Дзед Сямён.

І пан, і поп, і пекла, усё тут ёсць.

Тарас.

А каб далей паехаць, дзед, мо' набрылі-б
зямлю, куды паны дабрацца не паспелі.

Дзед Сямён.

Няма такой зямлі. Казакі аж за мора
плылі не раз, не бачылі такой зямлі.

Тарас.

А можа ёсць зямля такая, дзе народ
паноў прагнаў?

Дзед Сямён.

А можа й ёсць.

Тарас.

Павінна быць ці будзе,
іначай-бы зямля ніколі не цвіла,
памеркла-б, дзед, ад слёз, тугі і гора.

(З сваёй хаты выходзіць Іван з Аленкай).

Іван.

Што ён надумаў, гад? О гора, маё гора!

Дзед Сямён.

Дзень добры, брат. Куды так паспяшаеш?
Ці ад бяды бяжыш, ці гора даганяеш?

Іван.

Дзе пані, чалавек?

Дзед Сямён.

А што? паклікала? Тады сапраўды гора,
бо на бяседу нас з табой не пазаве.

Іван.

Дзе пані, чалавек?

Тарас.

Пайшла з панком у хату.

(Іван пайшоў у карчму).

Дзед Сямён.

Знаць, дапяклі панкі: пабег без галавы...
Чаго, красуня, плачаш?

Тарас *(не адводзячы вачэй ад Алены).*

Вочы,
як васількі ў расе... каб так намаляваць!
І гора ў іх, як мора.

Дзед Сямён.

Як завуць?

Аленка *(праз слёзы).*

Алена.

Дзед Сямён.

Пакрыўдзіў хто, Алена?

Аленка.

Пані прадае.

Тарас.

У-у, ірады!

Дзед Сямён.

Ім чалавек, што скот...
Хоць сядзь ды плач, хоць стоячы крычы.

Тарас.

Аленка, уцякай! Як жыў я у дзяка
да нас у Кірылаўку ад пана, што з Вільшаны,
дзяўчына ўцякла...

Аленка.

Няма куды. Сто верст
адсюль купіла пані нас і прывязла.

Тарас.

Бяжы ў свет, сястра, да нас на Украіну.

Дзед Сямён.

Ну што яна—казак? Загіне дзяўчанё...

Тарас.

Дык што-ж рабіць, дзядуля? Так і гінуць?

Дзед Сямён.

Што можам мы зрабіць, Тарас? Каб сіла й вілы дык аднаго панка падняць, як жабу, можна цішком. А тут—карчма... Загінеш сам, як мыш.

Тарас.

Вазьмём яе з сабой у Вільню. Ў воз схаваем.

Дзед Сямён.

А ў Вільні што? Вільшанскі пан за гэтых лепш?

Тарас.

Паны, паны! Чаму я не асілак?

Дзед Сямён.

Эх, ўнуча, ўнуча!.. Была калісьці сіла,
год шэсцьдзесят таму... устаў народ на пана,
ўстаў Чыгірын, Умань, Кірылаўка, Лысянка,
па вуліцах крыві шляхоцкай беглі рэкі,
на полі вараннё падняцца не магло
ад жыру: два гады паноў дзяўбло у волю.
Але... забыўся пан, забыўся і народ.

Тарас.

Народу успомніць трэба!..

Дзед Сямён *(бярэ кобзу)*.

Хіба песняй, ўнук.

Тарас

Не песняй, дзед Сямён, а крыкам, гвалтам
Каб людзі збегліся, як на пажарны звон.

Дзед Сямён.

За звон магутней песня; звон у цэркаў кліча,
а сам у ёй не быў, таму яму не верацъ.
А песня у душы у кожнага бывае.

(Перабірае кобзу—упоўголаса напявае):

Ой была на Украіне
Гадзіна ліхая,
Сабіралася па сёлах
Чорных ляхаў зграя.

Цэркві божыя палілі,
Людцаў бедных білі,
Руйнавалі, мардавалі,
У стаўках тапілі.

То не грае сіне мора,
Не вецер гуляе
Гайдамакаў бацька кліча,
Арлоў сазывае.

«Сыны мае, арлы мае,
Свет шырокі—воля!
Вы ідзіце гайдамакі
Пашукайце долі!»

І сышліся гайдамакі
Нажы асвяцілі,
Перарэзалі ўсю шляхту,
Карчмароў пабілі.

Наста *(выходзіць з стадолы і прыслухоўваецца).*

Не пець стары, а плакаць трэба тут,
як дзяўчанё вось гэтае малое.

Дзед Сямён.

Я й плачу, жынка, песняй сваёй плачу.

Наста.

Што з плачу, дзед? Раўла і я з маленства
штогод мацней, а сёння—раз астатні.

Дзед Сямён.

Крый бог, цябе, дачка.

Наста.

Няхай яго накрые *(ківае галавою на карчму)*
зямлёй навечна, як сынка Івася.

Тарас.

Твайго, ад пана? Бедная пакрытка! *(К дзеду).*
Сказаў ты «пекла тут»—і праўда пекла!

Дзед Сямён.

І пан, як чорт. Чаго шалее ён?

Наста.

Ад грошай ўсё. З вялікімі грашамі
якісьці пан прыбрыў на бунт склікаць
паноў тутэйшых, а Гарбуз падгледзеў,
убіўся ў дружбу, грошы ўзяў на схоў,
панка спаіў і ў хлеве тут засіліў,
а кніжачкі яго жандарам здаў.

Дзед Сямён.

Чаму-ж жыве карчмой?

Наста.

Адводзіць вочы людзям.

(Выходзіць з карчмы пані Вонж і Гарбуз, у руках яго папера, за імі выходзіць без шапкі Іван).

Гарбуз.

Паеду з пані я: пячатку трэба
на подпіс ваш паставіць, а тады
і грошы ў рукі дам вам, пані Вонж.

Іван.

Змілуйся пані мацярынскім сэрцам...
Адна ў мяне дачка... Прасі, Алена.

Алена.

Пашлі на працу, пані! Самай цяжкай
не пашкадуй, не аддавай яму ў няволю.
На здзекі... Я жыцця рашуся.

Пані Вонж.

Пасмей мне толькі! Бачыш?—Бацька твой.
Спяку яго я на агні павольным,
калі праз смерць сваю убытак зробіш мне.

Дзед Сямён *(нібы ў бок)*.

А кажуць, бог павінен быць у сэрцы
у кожнага, аж брэшуць, частку ён мінуў.

Пані Вонж.

Як пан гаворыць—хам маўчыць. Ты хто?

Дзед Сямён.

Я чалавек, якому бог язык прывесіў,
а цар даў пана—Энгельгардтам зваць,
у Вільні ён вялікім генералам.

Пані Вонж.

Скажы яму, што пані Вонж абразіў
яго халоп. *(Да Гарбуза)*. Мой Анатоль у Вільні,
ён знае Энгельгардта, напішу...

Гарбуз.

Ці не яму ваш сын прайграў у карты
маю пазыку, пані Вонж?

Пані Вонж.

Маўчыце!
*(К дзеду Сямёну)*. Ну? скажаш, хам?

Тарас.

Калі дазволіць пані...
*(Нібы блытаецца ў фаміліі)*.
Гадзюка ці то... Вуж... Вужака, я скажу
як дзіцянё распустку прадалі,
як паліце людзей, як маці афіцэра
за грошы абнялася з карчмаром....

Пані Вонж.

Маўчы, халопскі сын. Паедзем, пан Гарбуз.
Ты, Наста, заўтра ў двор!
*(З пагрозай)*. Служыць няўмела пану—
паслужыш мне! *(Да Івана)*. А ты...

Калі праз ноч не будзе узарана поле,
пад бізунамі здохнеш, пёс стары.

(Хутка выходзіць, за ёй Гарбуз).

Наста.

У двор? На смерць... Каб знала, што памёр,
Іваська, ты...

Тарас.

І гэта справядлівасць?
Ты ж бачыш, неба,—і вісіш пустое,
Як полаг у дзяка. Дзядусю, дзед!
Валы прысталі? Не? Я сам за дзядзьку
ўначы пайду араць. Папросім чумакоў...
Яе у воз... Не плач, не плач, Аленка.

(Чуваць песня наязджаючага чумацкага абоза).

«Літа орэл, літа сызый
Папід нэбэсамы
Гул Максым, гул бацько
Стэпамы—лісамы.
Ой літае орэл сызый,
А за ным орлята;
Гул Максым, гул бацько,
А за ным хлоп'ята.
Запарожці ці хлоп'ята,
Сыны ёго, дзіты,
Паміркуе, загадае
Чы быты, чы пыты».

(У часе песні—павольна гасне святло. Наступіла ноч—і калі ўзышоў месяц і пасвятлела—відаць цьмяныя абрысы карчмы, двара, на дварэ воз. На вазу сядзяць Аленка і Тарас. Аленка туліцца к Тарасу, Тарас расказвае. Здалёку чуваць панукание валоў: гэта абознікі аруць поле Івана).

Тарас.

Дрыжыш ты ўся, як ліст таполі ў полі,
вазьмі армяк, прыкрыйся. Слухай далей:
Мне дзед казаў пра тытара Данілу
і ляха Вонжа, цёзку вашай пані.
У тытара была дачка—Аксана—
красуня, свет якой не знаў. Любіла
яна Ярэму казака. Ды ляху,
вужацы той таксама пала ў вочы.
Араву Вонж сабраў—забіў Данілу,
Аксану сілай ўзяў і кінуў у падвал.

Алена

Ярэма знаў?

Тарас.

Ён быў у гайдамаках,
пачуў, прышоў, двор панскі падпаліў,

і праз агонь і дым сваю Аксану
ён вынес на руках з падвалаў ляха.

Алена

Няма ў мяне Ярэмы.

Тарас.

Вер мне, будзе.

Алена

Тараска мой, не знаеш ты, як лют
наш пан Гарбуз. Аднойчы я ўначы
ішла дамоў (была на поле позна)
і раптам бачу—пан адзін стаіць
зубамі скрыгае і іскры з воч...
Мне страшна, зараз ён мяне пакліча,
а я у вір...

Голас Гарбуза

Алена.

Алена

*(хаваецца за Тараса).*

Ой, Тарас!

Тарас.

Хавайся у воз. Не дам цябе, Алена.

(Алена хаваецца ў воз. Тарас яе накрывае).

Гарбуз

*(выходзіць з карчмы).*

Дзе чортава шчанё. Пасцелі не паслала.

Тарас.

Не зломак сам паслаць.

Гарбуз.

Падзякуй богу,
што лог твае сябры аруць, а то-б я
намяў табе хахол.

Тарас.

Крані, спрабуй.

Гарбуз.

Кінь палку... ты! Алена дзе? пад возам?

Тарас.

Няма яе, а к возу, пан, не лезь.

Гарбуз.

Я пагляджу.

(Тарас размахвае палкай. Гарбуз абходзіць воз і спрабуе вырваць кол з плота).

Тарас.

Дзядуля, дзед, сюды!

Дзед Сямён.

Здалося, унучак.
Каб пан, ды лез у воз чужы, ды ноччу?

Гарбуз.

А мо Алена там, я бачыў,—тут
круцілася.

Дзед Сямён.

Алена ў лог панесла
Вячэру чумакам.

Гарбуз.

Чэрці!

(Пайшоў за стадолу. Алена садвіцца на возе. З цемры вынырае Наста).

Наста.

Схавацъ на ноч—паслуга не вяліка,
настане дзень.

Тарас.

Як маеш што,—парай,
а сэрца не грызі.

Наста.

Яе на волю
ты выкупі.

Дзед Сямён.

Мы самі у няволі.

Наста.

Ты скарб найдзі. Зарыў-жа недзе пан
гаршчок з грашмі.

Дзед Сямён.

А ты не падглядзела?

Наста.

Каб падглядзела, усё ўзяла-б
І на тым месцы кінула вяроўку,
Каб пан павесіўся...

(Знікла ў цемры).

Тарас.

А праўда, дзед,
каб скарб знайсці. Я часта пастухом
у Кірылаўцы сядзеў над рэчкай
і марыў скарб знайсці, што казакі
зарылі колісь, выкупіць на волю
сястру Ярыну, брата і цябе.

Дзед Сямён.

Глыбока, унучак, волю закапалі
панкі, глыбока.

Тарас.

Скарб знайсці... а як?
Ці ёсць той скарб?

Дзед Сямён.

Дарэмна думаць кінь.
Калі-б і быў той скарб—дык Гарбузу дарога
адна к яму, а нам іх цьма, а зараз—дзень...

Алена

Ды й скарб зачараваў ён. Іскры з воч
я помню, як цяпер.

Тарас.

А з чым пан быў?

Алена

З лапатай.

Тарас.

Дзе?

Алена

Вось тут за клуняй, тут...

Тарас

*(хапае вілы і з размаху ўсаджвае ў зямлю).*

Глыбей, глыбей! лапату, дзед, давай!

Дзед Сямён.

Калі і ёсць, дык пад карчом вось гэтым...

(Адцягваюць корч. Тарас ізноў усаджвае вілы).

Тарас.

*(праз хвіліну).*

Ты чуеш, дзед? Уперліся зубцы
у дрэва нейкае. Давай лапату.

(Ліхаманкава працуе. З цемры вынырае постаць Насты).

Тарас.

Тут скрынка, дзед. Аленка, ты на волі!
Зайшлося сэрца, дзед!

Аленка.

Тараска, любы, брат!..

Тарас.

*(адчыняе скрынку. Усе ў жаху адхіляюцца ад яе).*

Мярцвец... дзіця малое.

Наста.

*(падае на скрынку).*

Мой Івасік!

(З-за клуні шпарка выходзіць Гарбуз.)

Гарбуз.

Што робіце, хам'ё? Згубілі што?

Наста

*(узнімаецца).*

Стой, пан. Дзіця нявіннае мае
Ты задушыў. Яно было
Яшчэ няхрышчаным. Хрышчу я, маці,
яго тваёй крывёй...

Тарас.

... На імя Мсціцель.

(Наста хапае вілы і ўсаджвае іх у Гарбуза).

Дзед.

Амінь.

Тарас.

Каб так усіх паноў!..

Дзед.

Амінь яшчэ раз, унучак.

10—28/1—1939 г.
Менск.

---

*Янка Казека*

## АПОВЕСЦЬ ЗМІТРАКА БЯДУЛІ „САЛАВЕЙ“

### 1

Беларуская літаратура налічвае мала мастацкіх твораў, у якіх адлюстроўваецца эпоха паншчыны. Праўда, у свой час Вінцэнт Дунін-Марцынкевіч пісаў больш за ўсё аб прыгоне, аб жыцці паноў і сялян у прыгонніцкім грамадстве (паэмы «Гапон», «Шчароўскія дажынкі», лібрэта оперы «Сялянка» і інш.). Але ў гэтых творах мала гістарычнай праўды аб прыгоне: па іх нельга даведацца, у якім вялікім горы і бяспраўі жылі працоўныя сяляне, як яны пакутвалі пад панскім бізуном і як безупынна змагаліся за волю і долю. Узаемаадносіны паноў і сялян уяўляліся Дуніну-Марцінкевічу ў святле ідэй дваранскага гуманізма і дабрачыннасці надзвычайна ідылічнымі. Вось чаму ў творах пісьменніка паказваюцца добрыя, справядлівыя, жаласлівыя паны, якія клапоцяцца аб сялянах, як аб родных дзецях. А сялян Дунін-Марцынкевіч уяўляў ціхімі і паслухмянымі, пакорнымі. Ён ствараў вобразы патрыярхальных сялян, якія любяць «сваіх» паноў, увесь час хваляць бога, што паслаў ім «паноў залаценькіх». Крыху пазней паэт Францішак Багушэвіч—прадстаўнік буржуазнага рэалізма ў беларускай літаратуры—у сваіх вершах і паэмах ужо пратэставаў супроць паншчыны. У вершах «Дурны мужык, як варона», «Быў у чысцы», «Бог няроўна дзеліць», «Думка», у паэме «Кепска будзе» паэт адлюстраваў паднявольнае бяспраўнае становішча сялян, страшэнную сацыяльную няроўнасць, якая панавала як у прыгонніцкім грамадстве, так і пасля адмены прыгоннага права.

Толькі Янка Купала і Змітрок Бядуля звярнуліся да тэмы прыгону, непасрэдна зыходзячы з светапогляду працоўнага народа. Янка Купала ў паэмах «Курган», «Бандароўна» і «Магіла ільва» ўваскрасіў жахлівую эпоху паншчыны. Паэт паказаў вялікі сацыяльны і нацыянальны ўціск, пакуты і рабаванні, якія зносіў у тую пару зняволены беларускі народ. Ён адлюстраваў бязмежную нянавісць народа да ўсяго панскага роду, гераічную барацьбу працоўных супроць сваіх прыгнятальнікаў. Адвечную мару народа аб волі і долі Янка Купала паэтычна, па-мастацку ўвасобіў у вобраз прыгожай дзяўчыны Бандароўны і старога дзеда гусляра,—гэтых магутных вольналюбівых, пратэстуючых, благародных людзей.

Яшчэ паўней і глыбей адлюстраваў паншчыну на Беларусі Змітрок Бядуля ў аповесці «Салавей» (1926-27 гг.).

У творчасці Змітрака Бядулі тэма паншчыны, тэма жыцця і барацьбы працоўных у часы прыгону займае шырокае месца. Апроч аповесці і п'есы «Салавей» пісьменнік напісаў пра паншчыну рад рэалістычных навел, як «Без споведзі» (змешчана ў зборніку імпрэсій «Абразкі»), «На зачарованых гонях» і інш.

Змітрок Бядуля на працягу многіх год не растаецца з сваёй улюбёнай тэмай. Ён дасканала ведае паншчыну, жыццё і быт працоўнага сялянства ў эпоху прыгоннага ладу. Першае ўражанне аб паншчыне пісьменнік атрымаў яшчэ ў 10-гадовым узросце, слухаючы апавяданні 100-гадовага дзеда Мірона Сабалевіча, у мінулым прыгоннага селяніна польскага пана Мыслінскага, які валодаў зямельнымі абшарамі ў ваколіцах мястэчка Пасадзец—радзімы Змітрака Бядулі. Беларускі казачнік Мірон Сабалевіч—«непісьменны летапісец ваколіцы, стары творца пагаворак і філасофскіх пасловіц», як называе яго Змітрок Бядуля ў сваіх успамінах «Пакаленне за пакаленнем» *)—апавядаў яму розныя былі з часоў паншчыны, расказваў пра гаротнае жыццё сялян, пра здзекі і свавольствы старога лютага пана, «які сваімі рукамі скалечыў нямала народа», пра старую пані, якая любіла катоў і жорстка распраўлялася з сялянамі. Ды і сам Змітрок Бядуля меў багата ўражанняў з жыцця сялян да рэвалюцыі. Ён бачыў, як гаравалі парабкі ў маёнтку паноў Мыслінскіх, як парабак Язэп Чорнабароды—сын Мірона Сабалевіча—ад цямна да цямна абліваўся потам на панскіх загонах. На вачах у Змітрака Бядулі сяляне расправіліся з ненавісным панскім псаром Сымонам Найдай, ад якога зазналі многа бяды. Усё гэта паслужыла пісьменніку багатым матэрыялам для аповесці «Салавей». Вывучаючы фальклор, матэрыялы этнографаў аб быце сялян у часы прыгону, пісьменнік пазнаёміўся з гісторыяй прыгонных тэатраў на Беларусі. Дзед Мірон, Чорнабароды Язэп, паны Мыслінскія, псар Сымон Найда і іншыя сталі правобразамі герояў аповесці.

Не выпадкова пісьменнік абраў такі кампазіцыйны прыём пабудовы твора, пры якім у аснове сюжэта ляжыць апавяданне жывога сведкі паншчыны—старога вартаўніка соўгаса. Вуснамі дзеда расказваецца гісторыя жыцця, пакут і барацьбы прыгоннага артыста Сымона Салаўя, былі-эпізоды далёкіх часоў, з якіх і складаецца сюжэт аповесці. Каб лепш увесці чытача ў змрочную эпоху прыгоннага ладу, пісьменнік прадпасылае пачатку разгортвання сюжэта некалькі раздзелаў, у якіх падае партрэты старой панны Вікторыі, панны Канстанцыі і пана Міханевіча. Гэтыя партрэты ўкліньваюцца ў паказ нашай сонечнай рэчаіснасці, як прыкрыя абломкі даўно перажытага свету.

2

«Салавей»—адзін з самых папулярных твораў беларускай савецкай літаратуры. Аповесць заслужана карыстаецца ў чытача вялікім поспехам і любоўю. Чытаючы яе, працоўныя савецкай краіны знаёмяцца з жудасным жыццём беларускага народа ў часы паншчыны. У высокамастацкіх вобразах пісьменнік уваскрасіў змрочную пару,

*) Газета „ЛіМ“ № 58—59, 1937 г.

жалі на беларускай зямлі гаспадарылі паны-магнаты і польская шляхта, чынілі свае здзекі—расправу над народам. Пісьменнік адчыняе заслону гадоў, што аддзяляюць нас ад XVIII стагоддзя, пераносячыся ў канкрэтную гістарычную абстаноўку прыгоннага ладу. Беларускі быт той пары дзівосна правільна адлюстраваўся ў аповесці—творы багатай паэтычнай фантазіі, жывога выбражэння, у якім гарманічна спалучылася апісанне праўдзівых гістарычных падзей з аўтарскім вымыслам.

Страшэнныя карціны паншчыны, гора, бяспраўя, поўнай няволі і безабароннасці сялян, жудаснай эксплаатацыі іх працы панамі-прыгоннікамі ажываюць пад пяром аўтара. Глыбока і рэалістычна адлюстроўваў Змітрок Бядуля прыгон, малюючы згоны сялян на панскае поле, іх цяжкую паднявольную працу пад бізуном прыганятых. Пісьменнік апавядае пра жахлівы лёс сялян вёскі Вашаміршчына. Прывядзем карціну з аповесці, рысуючую сялянскае гора.

«Больш паўсотні кабет, маладых і старых, жнуць панскае поле.

Мігацяць сярпы мядзянкамі-змейкамі, бялеюцца хусткі і спіны жнеек. Бабы і дзяўчаты гнуцца да самай глебы—тварам да зямлі, спінамі да сонца.

На шырокім прасторы светлажоўтага поля чуваць шорханне.

— Жых-жах, жых-жах,—гутараць сярпы з цвёрдымі сцяблямі.

Каласы нахіляюцца, пільна прыслухоўваюцца да глухога шуму. Туліцца цісніцца ў пяшчоце галоўка да галоўкі, а жняя душыць закарузлай, патрэсканай мазалістай рукой цэлае племя жытніх сцяблоў.

Каля жней шмыгаюць прыганятыя з бізунамі ў руках.

Конна гарцуе цівун між мендлікамі на іржані. Грозна крычыць.

На вялікія дваровыя драбіны мужыкі кладуць снапы. Трэба весці на панскае гумно».

Варта было жняі хоць на момант разагнуцца, як бізун прыганятага пачынаў ляскаць па яе спіне. Сяляне былі ўласнасцю, звычайнымі рэчамі ў руках паноў-прыгоннікаў. Паны чынілі над імі, што хацелі: люта катавалі, здавалі ў рэкруты, абменьвалі на сабак і коней, аддавалі ў падарунак другім панам. Яны зневажалі, прыгняталі чалавечую годнасць селяніна, адносіліся да яго горш, чым да быдла. Абшарнік Вашамірскі, аб якім апавядае пісьменнік, за каня купіў сабе ў суседняга пана Весялоўскага фурмана Тодара. Аркестр і капельмайстра для свайго тэатра пан адкупіў у пана Ваяводскага за дзве тройкі стаеннікаў і дзесятак сабак. Шляхціцу Вольскаму ў награду за тое, што дапаможа набыць лепшых у ваколіцы коней, пан Вашамірскі абяцае даць некалькі актораў з уласнай студыі. І шляхціц з асалодай думае: «Выбяру для сябе аднаго музыканта і дзвух балярын».

Гора, бяспраўнае, прыніжанае становішча сялян, іх трагічны лёс пры паншчыне глыбока адлюстраваліся ў творы. Праз шматлікія эпізоды пісьменнік шырока разгортвае паказ страшэннага сацыяльнага і нацыянальнага ўціску народа, прыгнёту яго фізічных і інтэлектуальных сіл. Паншчына паўстае на старонках кнігі ў выглядзе жахлівай драпежнай істоты, якая трымае ў палоне, пад уладай крывавага бізуна, і прыніжаную асобу чалавека, і яго пачуцці, і розум,

і здольнасці. Гэта няўмольная істота скоўвала путамі няволі і духоўны свет народа. Жывое, мастацкі дасканалае ўвасабленне чорная істота-паншчына атрымала ў вобразах пана Вашамірскага, пані Вашамірскай, ксяндза Марцэвіча, шляхціца Вольскага—«купца польскага», доктара багасловіі і філасофіі ксяндза Курачковіча, панскага войта, цівуноў і гайдукоў.

Змітрок Бядуля стварыў тыповыя вобразы паноў-прыгоннікаў і іх служак. Пісьменнік паказаў, якія здзекі і катаванні яны ўтваралі над сялянамі, як люта распраўляліся з тымі, хто пярэчыў панскай волі і прыхаці, як душылі кожны пробліск свядомай непакорнасці і пратэсту ў сялян. Мноства эпізодаў характарызуюць лютасць, самадурства паноў Вашамірскіх і іх служак. Старой кабеце, у якой міжвольна вырваліся словы абурэння супроць паншчыны, цівун загадаў пакласці за пазуху застрэленую варону. Сялянка цэлы дзень працавала, трымаючы за пазухай акрываўленую варону. Яна павінна была моўчкі зносіць гэтую страшэнную абразу і пагарду, бо пан мог закатаваць да смерці. Прыбітага горам селяніна Каспара за тое, што наважыўся прасіць у час генеральнай рэпетыцыі дазволіць дачцы Марынцы наведаць паміраючую маці, пан аддаў на расправу войту. Войт і гайдук Макар у марозную ноч прывязалі голага Каспара да дрэва ў панскім парку. Самыя дзікія пакаранні ўстанаўляў пан Вашамірскі. Драпежная паншчына даводзіла сялян да адчаю, самагубстваў і вар'яцтваў. Ахвярамі паншчыны становіцца прыгожая дзяўчына Зоська і таленавітая артыстка Марылька. Праз гэтыя вобразы пісьменнік паказаў трагедыю чалавечай асобы пад прыгонам. Зоська не перанесла здзекаў і пагарды, стала на шлях благароднай барацьбы за права кахання, вольнага ад улады паноў, на шлях помсты паншчыне, але трагічна загінула. Жорстка расправіліся з ёю. Войт прывязаў Зоську да аглаблі і хутка пагнаў каня. Зоська выбілася з сіл, страціла прытомнасць і загінула ў лесе. Звар'яцела і Марылька. Малюючы лёс Марылькі, пісьменнік паказаў паншчыну, як чорную сілу, якая прыгнятае розум і свядомасць чалавека. Пан Вашамірскі, яго ненавісны палац давялі Марыльку да вар'яцтва. У стане вар'яцтва Марылька была да таго часу, пакуль паўстаўшыя сяляне не знішчылі панскага палаца і самога пана. У тую ноч, калі гарэў маёнтак пана, Марылька стаяла на пагорку і любавалася заравам пажару, да яе вярнулася прытомнасць і ранейшая свядомасць.

«Пажар быў перад ёю як на далоні. Галавешкі насіліся птушкамі аж да яе.

Марылька была ў адной кашулі.

— Сціхні, пажар, сціхні... Я, матка боская, табе кажу...

Раптам яна пачала церці вочы, нібы толькі што ад сну прабудзілася.

— Гэта-ж гарыць маёнтак пана Вашамірскага,—прашаптала яна.

Шчаслівая ўсмешка мільганула на яе твары.

Прытомнымі вачыма яна зірнула вакол. Стаяла на гэтым месцы і любавалася на пажар аж да самай раніцы, калі на ўсходзе неба пачало бляднець.

Пачаў накрапліваць дождж».

— Ой, чаго я тут стаю ў адной кашулі,—усхапілася Марылька.— Людзі ўгледзяць, сорамна.

Яна пабегла дахаты».

Гэты эпізод мае сімвалічны характар. Праз яго аўтар паказаў вызваленне розуму чалавека з-пад улады дэспатычнай паншчыны. Прасвятленне розуму ў Марылькі пачалося якраз у той момант, калі знішчалася ненавіснае гняздо Вашамірскіх.

Змітрок Бядуля адлюстраваў распад прыгоннай сістэмы працы, прыгоннага ладу, устоі якога крышыліся безупыннымі сялянскімі паўстаннямі. Маральны, бытавы, сямейны распад у асяроддзі паноў-прыгоннікаў як не трэба лепш характарызуе загніванне прыгонніцтва. Пан Вашамірскі і пані Вашамірская—лютыя, нікчэмныя, разбэшчаныя, маральна і інтэлектуальна спустошаныя істоты. Пусты панскі гонар—адзіная іхная духоўная якасць. Яны, не задумваючыся, на розныя забавы і прыхаці растрачваюць набыткі, створаныя крывёю і потам сялян. Хоць панскі маёнтак ідзе к заняпаду, хоць у пана няма грошай правесці зіму ў Варшаве, але ён жыве ў пыху і роскашы, як усе паны магнаты, імкнецца зарэкамендаваць сябе ў асяроддзі ваколічнай шляхты прыхільнікам мастацтва, апякуном еўрапейскай культуры. Каб запоўніць свае пустое існаванне, пан шукаў рознастайных забаў. У Парыжы пан знаходзіў іх у рэстаранах, у сувязях з прадажнымі жанчынамі. Ва ўласным маёнтку гэтых забаў не было. Таму пан наладжвае тэатральную студыю. Гэта забава легла на плечы сялян вялікім цяжарам: на тэатр пан павялічыў чыншы і падаткі. Не здарма-ж сяляне палохалі дзяцей генеральнай рэпетыцыяй («енеральнай парапіцай», як казалі яны). У студыю пан адабраў самых адароных і прыгожых сялянскіх дзяўчат, адарваўшы іх ад дому, ад сям'і, ад прывычных заняткаў. У імя забавы пан і яго верны прыслужнік ксёндз Марцэвіч кожны дзень учынялі экзекуцыі над студыйцамі, прымушаючы іх забыць сям'ю, сваё імя, мову, адрачыся ад кахання і наогул ад усяго чалавечага.

Адносіны пана да мастацтва і мастака характарызуюць упадніцтва, паразітызм прыгоннікаў. Пан захапляецца ўпадніцкім мастацтвам, далёкім ад сапраўднага жыцця. З вуснаў яго не выходзяць словы: «Мастацтва вышэй за жыццё». Пан хоча паказаць, што ён эстэт, што ён шчыра служыць мастацтву, «чыстаму, як неба». На самай-жа справе мастацтва было недаступным розуму пана. Прасычаны жыццём, спустошаны духоўна і інтэлектуальна, пан страціў магчымасць разумець хараство мастацтва, захапляцца прыгожым. Яму проста прыемна было слыць мецэнатам, думаць, што дзякуючы тэатру «слава аб ім пусціць пагалоскі аж да Варшавы». Пан захапляўся незвычайнай прыгажосцю артысткі Марылькі, якую лічыў прыгажэйшай за найвялікшы ідэал жаночага хараства—Венеру, і ў гэты-ж час, гаворачы яго ўласнымі словамі, прыстасаваў яе да свайго здароўя, як рабіў гэта з кожнай прыгожай сялянскай дзяўчынай. Кожны эпізод аповесці падкрэслівае паразітызм паноў. У Вашамірскіх няма ніякіх поглядаў, інтарэсаў, імкненняў у жыцці. Тэатр, як і ўсякая забава, хутка апрыкрыў пану, ды і клопатаў з ім было многа. Французская гравюра, выяўляючая табун дзікіх коней, што носяцца ўскач па высокім кавылі, навяла пана на думку замяніць

тэатр на добрых стаеннікаў. Замест тэатра пан будуе стайню, а артыстаў, якія раней стваралі яму «чыстае, як неба, мастацтва», пан паслаў на стайню конюхамі. У сялян пан адабраў лугі, каб мець сена для коней. На крывавай сялянскай працы, на горы народным будаваў пан Вашамірскі свой дабрабыт, роскаш.

Не менш дэспатычна адносіцца да сялян і маці паніча—пані Вашамірская. Сваю жорсткасць да прыгонных яна апраўдвае фанатычнай верай у бога, для якога, быццам-бы, і існуе на свеце, а таксама любоўю да катоў—самых шляхотных божых стварэнняў, па думцы пані. Вобраз пані Вашамірскай яшчэ больш выпукляе духоўную пустату жыцця паноў. Выжыўшая з розуму на старасці год ад бяздзелля пані моцна палюбіла катоў, аддае ім усе свае клопаты і ўвагу. Клопаты аб катах замянялі для пані ўсе разумовыя інтарэсы. Фанатычка, яна верыць, што бог накіраваў яе на святы шлях. Пані нікому не дазваляе крыўдзіць катоў, а для гэтага сама жорстка распраўляецца з сялянамі. Людзей яна лічыць грэшнымі істотамі, недастойнымі яе ўвагі. Гэта ханжа імкнецца пераканаць сына і ксяндза Марцэвіча, што няма на свеце прыгажэйшага мастацтва, чым кашачыя марцоўскія спевы. Пры падачы вобразаў пана Вашамірскага і пані Вашамірскай пісьменнік карыстаецца вострым народным гумарам, а падчас і трапным гратэскам. З вялікай нянавісцю піша ён вобразы паноў і іх прыслужнікаў. Змітрок Бядуля правільна раскрывае ілжывую сутнасць рэлігіі, якая цалкам была на службе ў паноў прыгоннікаў, ахоўвала іх інтарэсы, атручваючы свядомасць сялян, пропаведдзю цярпення, пакорнасці богу і пану. Ксёндз Марцэвіч і ксёндз Курачковіч—істоты хітрыя, лісліўыя, двулічныя, крыважэрныя. У сваіх казаннях ксёндз Курачковіч даводзіў, што непаслушэнства, супраціўленне пану—самы цяжкі грэх перад богам. З'яўляючыся «драматургам» у студыі, ксёндз Марцэвіч шчыра выконваў волю пана. Экзекуцыі над артыстамі за кепскае вымаўленне польскіх слоў утвараліся пад наглядам ксяндза па яго рэцэпту. Драпежнік у ксяндзоўскай сутане, ён у часе экзекуцыі набожна падымаў вочы ўгору, гаварыў цэлыя казанні аб пакутах Езуса, суцяшаючы катуемых артыстак словамі: «Пакуты цела даюць гаенне духу». Ксёндз выхоўваў у студыйцаў пакорлівасць свайму пану, таму пан Вашамірскі не мог абыйсціся без яго. Пісьменнік саркастычна зазначае, што нават на панскай стайні ксяндзу знайшоўся занятак: ён стаў конскім летапісцам і збіральнікам паэзіі аб конскім харастве. Ілжывасць рэлігіі выкрываецца мноствам фактаў і дэталяў. Ксёндз Курачковіч у мэтах нажывы выкарыстоўвае звар'яцелую Марыльку, выдаючы яе ў касцёле «Кроў Езуса» за матку боскую, якая зыйшла на зямлю паглядзець на пакуты людскія.

У аповесці паказана, якая вялікая бездань ляжыць паміж панамі і сялянамі. Ідэя непрымірымасці соцыяльных класавых поглядаў і інтарэсаў паміж сялянамі і панамі праводзіцца ў творы выразна і яскрава. Сялянства малюецца як маральна здаровая, духоўна багатая, жыццёсцвярджаючая сіла. Усе вобразы сялян нясуць свяшчэнную нянавісць, абурэнне на паноў, пратэст супроць прыгнятальнікаў. І старая маці Зоські, і Каспар, і Зоська, і Марылька, і Сымон—усе яны ненавідзяць прыгонны лад, бязмежна любяць волю, не мі-

рацца з цяжкім жыццём і прыгнётам. Гэтыя вобразы ўвасабляюць фізічную і маральную прыгожасць народа. Паказ росту класавай самасвядомасці працоўнага сялянства ў часы паншчыны—асноўнае ў аповесці. Цёмная і забітая сялянка, маці Зоські, не маючы сіл зносіць далей цяжар няволі, хоць несвядома, але выказвае сваё незадавальненне, праклінае паноў. Яна гаворыць: «Пану цівуну варон страляць, а нам спіны гнуць». Да пратэсту супроць паноў падняўся і Каспар. Ён пракляў панскі тэатр, матку боскую, самога пана, за што цяжка паплаціўся. Да ўсведамлення неабходнасці барацьбы з паншчынай прыходзіць і Зоська. Гутарка старога Каспара з дзедам Марцінам сведчыць аб вялікім жаданні сялян адпомсціць панам за векавыя крыўды і пакуты. У аповесці паказана, як сяляне ўвесь час змагаліся з панамі. Іх спрадвечная нянавісць да прыгняталънікаў вылівалася ў стыхійныя паўстанні. Пра адно з шматлікіх сялянскіх паўстанняў, знішчыўшае маёнтак пана Вашамірскага, Бядуля і апавядае ў аповесці «Салавей».

3

Непасрэдна з тэмы адлюстравання цяжкага жыцця і барацьбы беларускага сялянства ў часы прыгону вынікае тэма лёсу народнага мастацтва, лёсу таленавітага мастака з народа.

Народ—невычэрпальная крыніца талентаў. Лёс народнага мастацтва і мастака ў прыгонным і капіталістычным грамадстве быў жахлівым, пакутлівым. Пануючыя класы прыгняталі, душылі таленты ў народзе. Колькі гора, здзекаў, пагарды і прыніжэнняў зносілі мастакі, вышаўшыя з народа. А колькі іх гінула, не знайшоўшы выяўлення сваіх здольнасцей, або не здолеўшы знесці цяжар жыцця. Мноства гістарычных дакументаў сведчыць аб жудасным лёсе народнага самадзейнага мастацтва ў часы паншчыны. Паншчына губіла таленты-самародкі. Паны выкарыстоўвалі для пацехі і забаў найбольш адароных сялян. Спецыялізацыя мастака цалкам вызначалася густам і жаданнем пана. Цікавую афішу прыгоннага тэатра ў маёнтку паноў Юрасаўскіх (Болхаўскі павет) прыводзіць гісторык рускага тэатра В. Всеваладскі (Герңгрос) у сваёй кнізе «История русского театра». У маі месяцы 1828 года паны Юрасаўскія склікалі да сябе гасцей, паведамляючы ў афішы праграму прадстаўленняў ва ўласным тэатры. Прывядзем урывак з афішы:

«За сим крепостной Петра Денисевича Юрасовского Тришка Барков на глазах у всех проделает следующие удивительные штуки:

В дудку, пустым ртом соловьем засвищет, заиграет быстро на свирели, забрешет по-собачьи, кошкой замяукает, медведем заревет, коровой и телком замычит, курицей закудахчет, петухом запоет и заквохчет, как ребенок заплачет, как подшибленная собака завизжит, голодным волком завоет, словно голубь заворкует и совой кричать приметца» *).

Незвычайныя здольнасці прыгоннага селяніна паны-прыгоннікі

*) В. Всеваладскі (Герңгрос) „История русского театра", т. I. 1929 г.

ператварылі ў сродак забавы. А ці не такі-ж лёс пасціг і Сымона Салаўя?

Тэма прыгнёту мастацтва і народнага мастака пры прыгоне здаўна прыкоўвала ўвагу пісьменнікаў, блізкіх к дэмакратыі. Многія мастацкія творы малююць трагедыю мастака ў прыгонным грамадстве. Пісьменнік-рэволюцыянер А. І. Герцэн у аповесці «Сорока-варовка» расказаў сумную гісторыю таленавітай артысткі прыгоннага тэатра Анэты, якая, не знайшоўшы ў сабе сіл перамагчы волю пана, пакончыла жыццё самагубствам.

Гэту тэму з рэалістычных пазіцый распрацоўвае Змітрок Бядуля. Ён паказаў, што ў нетрах беларускага народа тояцца вялікія, здаровыя творчыя сілы, здольнасці і дараванні, але ім немагчыма было выявіцца, расці пры паншчыне. Выключныя мастацкія здольнасці Сымона, Марылькі, скрыпача Антона Мурашкі душыліся панам Вашамірскім, асуджаны былі на гібенне. Працоўныя змагаліся за права будаваць сваё мастацтва, незалежнае ад волі паноў. Гэта была барацьба народа за сваё вызваленне з-пад ярма соцыяльнага і духоўнага рабства. Менавіта таму галоўным героем сваёй аповесці Змітрок Бядуля абраў мастака Сымона, каб паказаць, як працоўныя змагаліся за волю, якія вольналюбівыя імкненні поўнілі іх сэрцы. Выключна адароны, Сымон змалку навучыўся пераймаць усе гукі прыроды. Светлыя імкненні, жаданні, мары напаўнялі яго сэрца і розум, у ім рос вялікі талент-самародак. Лепш за ўсё ён умеў падрабляць трэлі салаўя. Вось як пісьменнік характарызуе Сымонку-мастака:

«Звычайнае яго не вабіла, мабыць, для таго, што гэта ён бачыў і чуў многа у панскім двары. Яму хацелася быць такім, якім свет (яго ваколіца) нікога яшчэ не бачыў».

Сымонка рана ўзненавідзеў несправядлівасць у жыцці, няволю, пана Вашамірскага. У сэрцы яго рос гнеў на паноў. Яшчэ малым хлапчуком ён марыў сабраць усе гукі прыроды ў сваю жменю, каб пазбавіць пана голасу,—можа-б тады не было каму загадваць катаваць сялян. Ён рана становіцца барацьбітом за інтарэсы сялян, заступнікам за ўсіх пакрыўджаных, выкарыстоўваючы свае мастацкія здольнасці. Увесь талент, усе здольнасці Сымон аддае народу. Ён помсціць цівуну за знявагу над зосьчынай маткай.

Благародства душы, чыстата сумлення і чалавечага гонару, палкая любоў да волі і народа, нянавісць да паноў і іх служак, непакорнасць, энергічнасць і самаадданасць—асноўныя якасці Сымона. Сымон супроцьпастаўляецца пану Вашамірскаму.

Для панскай забавы Сымона забралі ў палац, адарваўшы ад роднай вёскі, ад каханай Зоські. Яго назвалі новым імем Салавей, і ён павінен быў спяваць на балах салаўём. Сымону цяжка жыць у няволі, усведамляць, што ён стаў рэччу для забаў, накшталт дзедаўскага кубка, якім пацяшаўся пан, частуючы сваіх гасцей. Асабістыя горкія крыўды на пана, здзекі панскіх гайдукоў над Каспаром выклікалі ў яго сэрцы яшчэ большы гнеў, абурылі Сымона. Сымон цвёрда парашыў змагацца з прыгонным ладам. У Сымона вырастала мужнасць, вялікі чалавечы гонар. Панская няволя ўсё больш

і больш станавілася нязноснай для яго, ім неадступна завалодала адна думка:

«Нядобра жыць так на свеце.

Нядобра быць забавай у пана.

Добра спяваць салаўём тады, калі самому хочацца, а не па загаду пана.

Чым больш ён думаў аб тым, што добра і што нядобра, тым больш ён быў абураны на пана Вашамірскага. У яго душы рос і крэп чалавечы гонар, той гонар, якога не аддасі ні за якія грошы, ні за які дабрабыт, ні за якія панскія падарункі».

Ці-ж не выказаны ў гэтых думках Сымона вольналюбівыя мары ўсяго працоўнага сялянства. Сымон горды і непакорны. Вырасшы, акрэпшы чалавечы гонар, гнеў і нянавісць на паноў загартавалі волю Сымона, штурхнулі яго на шлях барацьбы з прыгнятальнікамі. На бале ён не скарыўся пану, адмовіўся спяваць. «Не хачу быць панскім салаўём»,—горда сказаў Сымон.

Сымон уцёк у лес, каб жыць воляй, каб адпомсціць пану Вашамірскаму за здзекі над сялянамі, за Зоську, за свае прыніжэнні, за прыгнёт здольнасцей і талентаў сялян. Ён стаў мужным атаманам, благародным барацьбітом за інтарэсы шматпакутнага сялянства. Пісьменнік паказаў, як моцна любяць сяляне сваіх важакоў-атаманаў. Сяляне не зносілі жахлівай эксплаатацыі, уцякалі ў лясы, арганізоўваючыся ў партызанскія атрады. Векавая нянавісць іх да пана Вашамірскага вылілася ў стыхійнае паўстанне. Пад кіраўніцтвам Язэпа Чорнабародага і Сымона сяляне знішчылі, пусцілі з дымам усё гняздо Вашамірскіх, забілі самога пана і яго служак.

Вобраз Сымона падаецца пісьменнікам у плане гераічнай рамантызацыі.

Некаторыя крытыкі не зразумелі сапраўднага значэння і ідэйнай накіраванасці аповесці «Салавей». У артыкуле «Паслякастрычніцкая творчасць Змітрака Бядулі» *) Алесь Кучар сцвярджае, што далёкае мінулае нашага народа асвятляецца пісьменнікам з пункту погляду буржуазнага нацыяналізма, што аповесць не дапамагае ў нашым сёнешнім змаганні. Гэта сцверджанне ў корані супярэчыць ідэі аповесці—ідэі непрымірымасці класавых інтарэсаў паноў і сялян. Ці-ж мог пісьменнік, стоячы на пазіцыях буржуазнага нацыяналізма так глыбока і рэалістычна адлюстраваць жыццё і быт, барацьбу беларускага працоўнага сялянства пры паншчыне? Алесь Кучар лічыць нацыяналістычным і вобраз Сымона Салаўя. Ён піша: «Калі па-сапраўднаму прыгледзецца да фігуры Салаўя, дык мы пабачым, што анархічны бунтар Салавей па сутнасці помсціць за загубленую сваю каханку Зосю, а галоўным чынам за права мастацтва быць незалежным ад улады не толькі пана, а каго-б толькі не было незалежным ад усякай улады. Іменна гэта ідэалістычнае разуменне сутнасці мастака і мастацтва, незалежнага ад улады, якое прапаведвалася беларускай буржуазнай нацыяналістычнай літаратурай, знайшло сваё адлюстраванне ў аповесці «Салавей». Змітрок Бядуля

*) „Полымя рэволюцыі „№ 2, 1934 г.

прызнае за Салаўём права на мастацтва «незалежнае», якое ідзе з самой прыроды і павінна належыць прыродзе».

На самай-жа справе Сымон змагаецца за свабоду народнага мастацтва ад улады паноў, ад прыгнёту яго эксплаататарамі. Сымон змагаецца за мастацтва, якое было кроўна звязана з народам, рэальным жыццём, выражала яго інтарэсы, служыла-б справе барацьбы народа з прыгнятальнікамі.

Аповесць «Салавей»—рэалістычны твор. Багацце народнай мовы, мастацкая дасканаласць ставяць яе ў адзін рад з лепшымі творамі беларускай савецкай прозы.



АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 76. Дом Пісьменніка. Тэлефон 2292.**

## ЗМЕСТ

